Якуб Ермаловіч

# Сіняя птушка



# МАЛАДЫ СТАРШЫНЯ

## 1

Блізнюк прыйшоў на работу раней звычайнага, каб сказаць дырэктару, што яго, Блізнюка, выклікаюць у райком партыі.

Дырэктар, як заўсёды, быў ужо ў гэты ранні час за рабочым сталом.

— Добры дзень, Антон Антонавіч.

— Добрага здароўя,— падняў ён брытую галаву.— Сядай, Блізнюк.— Паказаў на крэслы, якія стаялі ўздоўж сталоў.— Рана ты нешта сягоння.

— Сядаць няма дужа калі. У райком выклікаюць. Трэба ехаць. Пайду на шашу.

Шаша асфальтаваным каснікам ляжала праз самую сядзібу саўгаса.

— На шашу... Быццам у нас няма сваіх машын. Пасядзі. «Казёл» пойдзе ў банк і падрулюе цябе пад самы райком.

— Самі паедзеце?

— Не, не паеду. Няма чаго. Зося-касірка паедзе. Во прыйдзе, чэкі падпішу, і паедзеце. А чаму ты пытаеш?

— Я думаў, можа, абаранілі б мяне там?

— Ад чаго? — усміхнуўся Антон Антонавіч.

— Ад каго ці ад чаго — не ведаю. Нешта ж выклікаюць.

— Не дапамагу, Блізнюк. Спрабаваў. Паслухаюць, думаеш?

— Дык вы ведаеце?

— Ведаю. Чаму не ведаю.

— Дык скажыце, што там такое, не буду думаць і хваляваццa. Да абароны падрыхтуюся.

— Рашылі — і не пераменяць. Усё.

— Што?

— Сватаць будуць. Ды, можна сказаць, ужо і аддалі.

— Без маёй згоды?

— Начальства вышэй за нас сядзіць і далей

бачыць. Ты згодзен, што калі чалавек вышэй сядзіць, дык далей бачыць?

— А то як жа.

— Ну дык і маўчы. Паедзеш. Не-э-э, ты толькі не падумай, Блізнюк, што я цябе аддаю, неўзлюбіў за што-небудзь, як гэта іншы раз бывае. З майго боку — не. Наадварот, я дужа не хацеў, каб цябе забіралі.

— Дык вы хоць скажыце куды?

— На павышэнне. Куды ж яшчэ могуць забраць?

— Ва ўпраўленне? Не паеду.

— Не ва ўпраўленне. Я сам не люблю такой работы. Што гэта за работа? Аграном павінен з зямлёй справу мець, не з паперкамі. Старшынёй калгаса рэкамендуюць цябе, Блізнюк. Во, брат, якое дзела. Не чакаў?

Блізнюк некаторы час маўчаў, пазіраючы ў акно, праз якое былі відаць на тым баку вуліцы асветленыя мяккім вераснёўскім сонцам зусім яшчэ зялёныя дрэвы скверыка.

Ён садзіў гэты скверык разам з работнікамі канторы вечарамі пасля работы, у выхадныя дні, на так званых нядзельніках.

Калі гэта было? Нядаўна — і даўно. Пяць гадоў таму назад.

Дрэўцы паспелі набраць крону. У лесе ім не хапала ні святла, ні прастору. Тут сонца, паветра, месца хапае.

Перад скверыкам была Дошка гонару з фатаграфіямі перадавікоў гаспадаркі. Побач — вітрыны з газетамі.

Абарвалася гаворка, і Блізнюк не ведаў, у якім плане працягваць яе. Верагодна гэта ці не, што яму могуць прапанаваць пост старшыні калгаса?

Антон Антонавіч, не дачакаўшыся, калі зноў загаворыць Блізнюк, нанава пачаў гаворку пра вышыню:

— Бывала, малым узлезеш на азярод і рад! Далёка відаць кругом. А ты кажаш: вышыня. Вышыня, брат, гарызонт адкрывае. Іншы меле: тое не так, гэтае не гэтак. Ён хоча, каб пра аднаго

яго думалі і аднаму яму ладзілі. А ты падымі яго на ступеньку вышэй, і ён другую запяе песню. Крытыкаваць заўсёды лягчэй, чым самому рабіць. Я разумею райком. Ім трэба добрыя кіраўнікі. А з калена не выламіш. Яны і забіраюць цябе, каб заткнуць табой дзірку.— Антон Антонавіч усміхнуўся.— Я гавару ў добрым сэнсе «дзірку». Чалавек ідзе на пенсію. Адпрацаваў сваё, як я. Я таксама скора саступлю з дарогі. Трэба ж некім замяніць нас? Вось і забіраюць цябе на замену. Адбываецца, так сказаць, натуральная замена аднаго пакалення другім. Як ні маладзіся, а смерць цябе дастане.

— Ну што вы, Антон Антонавіч! — не сказаў, а выкрыкнуў Блізнюк, быццам ратуючы яшчэ зусім здаровага чалавека ад смерці.

— Я не плачу, Блізнюк, не перасцерагай мяне. Вуды я яшчэ не зматваю. Але...— Антон Антонавіч развёў рукамі.

Блізнюк убачыў у акно Зосю. Невысокая, у плашчы, без хусткі. Хада лёгкая. Не верылася, што сын яе, якога яна выгадавала ўдавой, служыў ужо ў арміі.

— Толькі глядзі там.

— Што глядзець, Антон Антонавіч? Я нешта вас не разумею. Не здавацца? Я не думаю...

— Гы, як маленькі. Дзе ты не здасіся. Здасіся. Я табе сказаў ясна: старшынёй калгаса будзеш. І яшчэ ясней магу сказаць: у Ягадцы, замест Бародзіча. Ён ідзе на пенсію.

Блізнюк крутнуў галавой, усё яшчэ не верачы ў тое, што гаварыў яму Антон Антонавіч.

— Слухай, я сам не люблю, калі чалавека забіраюць. Толькі ён агойтаецца, а яго — на новае месца. Тады зноў «перакідваюць». Так і прывыкне другі, каб яго ўсё жыццё забіралі. Якая тут можа быць работа? Я, брат, вот ты слухай,— Антон Антонавіч пачаў загінаць пальцы.— Тут радзіўся і тут у камсамол уступаў. Праўда, піянерам не быў, піянераў тады яшчэ не было. Тут у школу хадзіў. Тут працаваў крамнікам. Тут калектывізацыю праводзіў і раскулачваў. Тут брыгадзірам быў у калгасе, старшынёй сельсаве-

та. Тут партызаніў. Пасля вайны ўжо: старшынёй калгаса, дырэктарам МТС, потым ужо — дырэктарам гэтага саўгаса. Я ў раёне кожнага чалавека ведаю, кожны куст, кожную паваротку дарогі. Я зямлю ведаю, дзе яна якая, сенажаць. Мне тут лёгка. Разумееш? Ужо ў гадах тэхнікум завочна канчаў, адсюль сесіі здаваць ездзіў. Уяўляю, каб мяне перавялі куды-небудзь далёка. Што я там! Гадоў бы пяць хадзіў як баран, пакуль бы трохі разабраўся, што да чаго і адкуль сонца ўзыходзіць.

Прыйшла Зося.

— Добры дзень, Пятроўна. Давай твае тайбалы, а то Блізнюк не можа дачакацца, калі нас пакіне. З ночы мяне штурмуе, каб хутчэй ехаць.

— У Беражкі?

— Ну.

— А што там такое?

— Партфель новы.

— Магазіны закрыты яшчэ.

— Эх, галава твая бабская, даруй мне, хоць і вучоная. Не гэты партфель. Не разумееш? Забіраюць ад нас Блізнюка.

— Не слухайце, Пятроўна, Антон Антонавіч жартуе,— адказаў Блізнюк, калі Зося запытальна глянула на яго.

— Знайсці-то агранома я знайду,— гаварыў тым часам Антон Антонавіч, падпісваючы чэк.— Толькі які ён будзе...

Зноў нічога не зразумела Зося, паглядаючы то на Блізнюка, то на Антона Антонавіча.

— Разбярэшся пасля,— сказаў Антон Антонавіч, падаючы ёй падпісаны чэк.

Пад акном спыніўся крыты брызентам «газік».

— Ну, Блізнюк,— Антон Антонавіч выйшаў з-за стала і падаў яму руку.— Шчасліва табе. Шчасліва...

## 2

Ягадка як вёска Блізнюку спадабалася. Мала таго што на шашы, каля рэчкі, лясы вакол. Ва ўсёй яе забудове, у хатах, у вуліцах, у прысадах,

садках і агародах, было штосьці грунтоўнае, сталае, моцнае. Калі чалавек будаваўся, дык, відаць было, будаваўся надоўга. Хаты на каменных, залітых цэментам падмурках. Дахі шыферныя, гонтавыя або з добрай шалёўкі. Вокны з адмысловымі ліштвамі, высокія, пафарбаваныя. Вароты — брамы двайныя.

Вуліца, што ўпіралася ў шашу, была выбрукавана каменнем. Выбрукавана была і плошча ў цэнтры вёскі.

Вёска мела, калі параўноўваць яе з некаторымі іншымі, якія ведае Блізнюк, даволі прыстойны выгляд.

Людзі? Людзі ёсць людзі. З чалавекам трэба папрацаваць. Кветка і тая раскрываецца спакваля, калі добра ўгрэецца, адчуе сонечную шчырасць і ласку...

Ну, а калі чалавек майструе сабе жытло не на дзень і не на два, а на ўсё жыццё, ужо весялей глядзець на яго.

Ужо на першым сходзе калгаснікаў, на якім Блізнюка выбіралі старшынёй калгаса, ён зразумеў, што людзі тут сур'ёзныя, патрабавальныя. Начальнік раённага сельгасупраўлення Гадомскі, седзячы ў прэзідыуме побач з Блізнюком, сказаў яму паціху:

— Бач, як глыбока бачаць? Я табе казаў: народ тут дай божа. Ды ладна, запісвай, што гавораць...

Блізнюк зноў узяўся запісваць пытанні, што адрасаваліся калгаснікамі прэзідыуму. Было ясна і Гадомскаму, і Блізнюку, і, безумоўна, тым, хто задаваў іх, што разбірацца ў іх, гэтых пытаннях, цяпер ужо будзе не Бародзіч, а Блізнюк, новы старшыня, малады. Болей яму пытанняў, болей! Хай бярэ воз з ходу. І хай ведае, які гэта нялёгкі воз!

Чаму ў калгасе паляць вясной салому, а не раздаюць калгаснікам? Чаму засталося няскошаным Паддуб'е? Навошта выпрасталі рэчку, так асушылі балота і луг, што ў калодзежах пачала знікаць вада? Чаму за млынам не зрабілі дамбу, як абяцалі? Чаму няма парадку на лесапілцы і,

калі чалавеку прыйдзецца распілаваць які цурбан або распусціць калоду на дошкі, трэба ногі адхадзіць і час вунь які патраціць? Чаму не хапае ў калгасе коней і няма на чым калгаснікам гароды сеяць, хоць трактар на сваю сялібу заварочвай або матацыкл замест каня прыстасоўвай? Ды і на тых коней, якія ёсць, недастае калёсаў, хамутоў, саней. Дуг і то няма... Чаму «віцінар» Дончык, калі ў якога калгасніка захварэе карова ці свіння, не хоча ў двор зайсці, каб паглядзець, не тое што каб лячыць, як хадзіла па дварах і лячыла Клубава, якая была ў калгасе дагэтуль на месцы Дончыка?

Чаму? Чаму? Чаму? Колькі было яшчэ гэтых «чаму?». Рука замлела ў Блізнюка, пакуль запісваў іх усе. І не проста пытанні, на якія можна даць адказ тут жа, як даюць адказы на якой-небудзь канферэнцыі. За кожным пытаннем — людзі і іх учынкі. За некаторымі — праблемы.

Хутчэй гэта быў наказ новаму старшыні, чым пытанні. «Мы працуем, і ты глядзі, каб жылі пальдску» — так зразумеў Блізнюк сэнс усіх гэтых пытанняў.

На кватэры, павячэраўшы, спытаў у гаспадара — калгаснага каваля Карпа:

— Вы часам не ў курсе, што там на лесапілцы?

— Чаму не ў курсе? У курсе. Усе ў курсе,— гаварыў трошкі ў нос гаспадар.— Там верхаводам Даніла, хоць старшым лічыцца Раман. А Данілу колькі ні дай, дык мала. Шклянкі з яго мала. І паўлітра мала.

— П'яніца,— зразумеў Блізнюк.

— П'яніца? — перапытаў гаспадар.— Во яна ведае,— паказаў рукою на гаспадыню, якая вячэрала разам з мужчынамі.— Чорт яго ведае, п'яніца ён ці сквапнюга. Ого, свайго не прап'е. Капейкі не аддасць на гарэлку. Гаспадарка ў яго, двор, пабудовы — дай божа. Сам здаровы — як мядзведзь. Цурбаны яму гэтыя на лесапілцы — што салома.

— Цікава,— пакруціў галавой Блізнюк.

— І я кажу, чорт яго ведае, што за чалавек.

Да работы ён мастак. Не спозніцца, не прагуляе. Пілы наставіць, наточа, навядзе. Дошка ў яго выходзіць, як фабрычная. Не сшыленая па канцах, не крывая. Яго работу ўсе любяць. Але прывык, каб з кожнага завозчыка — хабар. Хабар і хабар. І яшчэ каб закусі добрай нёс. Каўбасы, паляндвіцы, вяндліны.

— Раздурэў. Нікога не баіцца,— заключыў Блізнюк.

— Канечне, не баіцца,— згадзіўся гаспадар.— Праўда, спрабавалі лавіць яго, прыціскаць, ды кінулі. У яго тады лесапілка стаіць і стаіць. То пас на шматкі парвецца, то зуб'е ў пілах паляціць. Асколак, кажа, у калодзе быў...

— Асколак? — не зразумеў Блізнюк.

— У нас тут, як немцы адступалі, быў самы бой,— тлумачыў гаспадар.— Асколкі ў дрэвах, кулі пазасядалі, пазарасталі і цяпер часта трапляюць то на лязо тапара, то на зубы пілы. Ну вот, кажу, дык лесапілка ў яго стаіць.

— Што ён адзін такі разумны на свеце? Няма кім замяніць?

— Замяніць? Можна. Навука тут невялікая. Пілу натачыць, паставіць. Праўда, пуп трэба мець такі-сякі, каб палена падняць і кінуць. Калі так, то многа каго замяняць трэба. Я, напрыклад, кую. Даўно ўжо кую, і стары ўжо, на пенсіі,— нам, кавалям, пенсія з пяцідзесяці гадоў. А замены сабе нешта і не бачу. Няма каля мяне такога чалавека, якому б я мог перадаць кузню і не баяцца, што ён пачне рабіць з жалеза адзін «пшык».

Блізнюк уважліва паглядзеў на гаспадара. Так, ён быў стары ўжо, спрацаваны. Сівая галава, твар худы, на падбародку, які калісьці, відаць, быў поўны і акруглены, зборкамі звісала пакрытая пнюшкамі сівізны скура.

Блізнюк нічога не адказаў на гэта гаспадару, бо яшчэ не ведаў ні людзей, ні гаспадаркі, куды ён прыехаў.

Гаспадыня тым часам пачала прыбіраць са стала.

— Няма замены,— працягваў сваю гаворку

гаспадар, цяпер ужо паклаўшы рукі на стол, на прыгожую, у чырвоныя кветы, цырату.— Дадуць малатабойца, пакруціцца каля мяне год-два і пайшоў. Куды? Свет вялікі, ідзі, як вочы бачаць, і ўсюды цябе возьмуць, усюды ты трэба. Раней сыны сталі б на маё месца. Падвучыліся б каля бацькі і, глядзіш, кавалі былі б. Ганна, пакажы-тка картачкі нашых хлопцаў. Тры ў мяне іх. Павывучыліся. Інжынеры!

Гаспадыня паклала на стол чырвоны альбом з фотаздымкамі.

— Во, во і во,— паказаў гаспадар на сыноў.

Фотаздымкі былі вялікія, як паштоўкі.

— Дзе яны цяпер, хлопцы вашы? — запытаў Блізнюк.

— Дзе? — Гаспадар зрабіў паўзу.— Адзін у Дубне, другі ў Чаўнах, а трэці аж у Брацку. Во! Каб і хацеў бацька ці маці праведаць, як яны там жывуць, дык бог ведае, як туды ехаць.

— Ехаць проста. На самалёт, на поезд сеў і паехаў,— сказаў Блізнюк.

— Не гаварыце, гэта не Мінск. За дзень не з'ездзіш. Потым: яе пасадзіш на самалёт? — Гаспадар павёў тварам у бок жонкі.— Я, можа, яшчэ б і сеў, дык жа часу на паездку колькі трэба. А тут работа, гаспадарка. Не прывыклі мы, старыя, ездзіць. Дзе нарадзіліся, там і жывём. Добра нам і тут.

Гаспадар зноў пачаў нечага гартаць альбом.

— А гэта во мая дачка,— і ён паклаў перад Блізнюком яшчэ адзін фотаздымак.— Фізмат скончыла. Настаўніца.

— І яна не дома? — пацікавіўся Блізнюк.

— Дзе ж яна дома... Няма, як бачыце.

— Далёка?

Гаспадар махнуў рукой кудысьці ўбок:

— На Каўказе былі. У Хабараўску былі. На Сахаліне былі. І ў Польшчы былі. І ў Германіі былі... Ён сам ваенны. Асецін па нацыянальнасці. Трое дзяцей ужо. Добры. Прыедуць да нас, дык ён як свой. Вот вам і асецін. Я думаў, яны дужа запальчывыя...

— Усе з вышэйшай адукацыяй? Я кажу, дзе-

ці вашы? — запытаў Блізнюк, калі гаспадар загарнуў альбом.

— Ага, усе з вышэйшай. Хату во якую пабудаваў, а жыць у ёй і няма каму. Сельсавет забярэ, як памром са старой,— і гаспадар засмяяўся.— Вот і падмяняйце мяне, кім хочаце.

— На вас жа нічога не казалі на сходзе.

— А што яны скажуць? Што? Гарэлкі не п'ю. Кую і кую. Не толькі калгасу кую, а і калгаснікам. Каму качаргу зраблю, каму завесы, каму крукі. Серп назублю. У гаспадарцы ўсё трэба. Але ж я не за паўлітра раблю. І грошы сабе ў кішэню не кладу. Усё пускаю цераз нарад у калгасную касу. А мне — што выходзіць па закону. Зарплата. Кузня калгасная. Вугаль калгасны. Кавадла, малаткі, электраэнергія, жалеза — усё калгаснае. А яны, во, на лесапілцы?..— Гаспадар падняўся і паказаў рукой у той бок, дзе была лесапілка.— Добра, будзем класціся спаць,— глянуў на гадзіннік — ішла дванаццатая.

Блізнюк рашыў выйсці перад сном на свежае паветра.

Ноч была ціхая, цёплая. У небе міргалі зоркі. Чамусьці ўспомніліся свая кватэра, сын, жонка, хатняя ўладкаванасць і звыклы рэжым жыцця...

Ужо ў пасцелі, калі выключылі святло, не мог Блізнюк утрымацца, каб не запытаць у гаспадара:

— Прабачце, вы пачалі пра лесапілку і не ўсё сказалі. Хаця б вось пра нарады.

— А-а-а, ведаю. Помню. Прывязе, скажам, чалавек машыну ці трактар цурбаноў. Яны абмералі, вылічылі па кубатурніку. Напрыклад, чатыры кубаметры ў яго выйшла. На тры выпісваюць нарад, чацвёрты — без нарада пілуюць. А раз без нарада, дык плоціць чалавек не ў касу, а ўжо ім. Мудра, а?

Назаўтра ўранні, ідучы на работу ў кантору ўжо ў чыне старшыні праўлення калгаса, забег на лесапілку — яна была недалёчка ад канторы, на агульным двары, дзе размяшчаліся гаражы, майстэрні, кузня і ўся тэхніка.

Лесапілка ўжо спявала сваімі піламі, беручы

то ніжэйшыя, то вышэйшыя ноты ў залежнасці ад таўшчыні ці цвёрдасці дрэва.

Блізнюк спыніўся ў шырокіх дзвярах, пазіраючы, як чацвёра мужчын працавалі на дзвюх круглых пілах. Шыбнуўшы са станка апошнюю з бруса дошку, старшы на лесапілцы Раман Шусцік падышоў да сцяны і націснуў на выключальнік. Пілы спыніліся.

— Рашылі паглядзець?

— Ага, гляну,— адказаў Блізнюк і абвёў поглядам прасторны каркасны будынак, абшыты дошкамі. На сценах яго віселі кордавыя шырокія і вузкія пасы, пілы — круглыя, розных дыяметраў і пілы — падоўжныя з крывымі зубамі ў адзін бок, ад гатара.

— Квітанцыю паказаць? — запытаў Шусцік і ступіў да палічкі, дзе ляжаў кубатурнік і такія-сякія паперы.

— Не трэба,— сказаў Блізнюк.

— Нагаварылі вам учора на нас? — голас Шусціка быў грудны, глухаваты, вочы — сінія. На скуранай шапцы — пыл ад пілавіння.

— Нічога не нагаварылі. Вы ж самі чулі, калі былі на сходзе.

— А за вуглом не дабавілі?

— Што вы? Я яшчэ нікога тут не ведаю.

— Затое вас усе ўжо ведаюць. І будуць падлізвацца і плявузгаць абы-што адзін на аднаго. Гляньце,— выпучыўшы наперад шырокі жывот, таксама ў брызентавым фартуху, павярнуўся да Блізнюка Даніла, які верхаводзіць тут, калі верыць таму, што пачуў ад гаспадара Блізнюк.— Гляньце,— паказаў на тоўстыя цурбаны, якіх поўны двор было.— Панасі іх дзень! А калі нам хто чарку паставіць, дык за нашу працу. Завознік павінен пакласці свой лес на эстакаду, во сюды, каб я з эстакады каціў яго на станок. А яго лес вунь дзе... «Памажыце,— кажа,— хлопцы». Ну і паможам... Затое лесапілка ў нас — як дакладная механіка. Пішчыць і пішчыць. Калі б трэба было, дык і ўночы пішчала б. Вы папытайце ў Бародзіча, колькі мы перапілавалі лесу на ёй.

Трэці мужчына быў таксама ў фартуху, зна-

чыць, штатны, як і першыя два, Шусцік з Данілам. Чацвёрты быў без фартуха.

— Вам пілуюць? — звярнуўся да яго Блізнюк.

— Мне.

— Дзе ваша торба?

Мужчына без фартуха разгубіўся і пачырванеў, хоць і не малады ўжо быў, гадоў за сорак.

— Не палохайцеся. Я пажартаваў. Я не маю права трэсці чужыя торбы.— Усміхнуўся і сказаў: — Уключайце матор,— і пайшоў у кантору, дзе яго, напэўна, чакаў Бародзіч, каб перадаць пячатку, а з ёй і ўсе правы старшыні калгаса.

## 3

Неўзабаве і з кватэрай уладкаваўся Блізнюк няблага. Некалькі пажыў у маласямейнага чалавека, а тады вызвалілася адна палавіна ў невялікім двухкватэрным доміку, і Блізнюк пераехаў туды. Пакінуў яе ранейшы брыгадзір, перайшоўшы на работу ў меліярацыйнае ўпраўленне і атрымаў там кватэру, а новы брыгадзір быў мясцовы, меў сваю пракавечную сядзібу і хату на ёй. Так што пашанцавала маладому старшыні. Калі б не выпадак, хто ведае, колькі давялося б чакаць, ва ўсякім разе, к гэтай зіме нічога б і не было.

Адразу Блізнюк прывёз жонку з сынам, а таксама маёмасць, жыўнасць. На двары якраз была дашчаная пунька для кабана, а ў гэтай пуньцы — баковачка, адгароджаная драцяной сеткай, для курэй.

Бульбу высыпаў у яму пад падлогай. Хоць яма была абцэментаваная, але суседзі сказалі, што вясной у яе набягае поўна вады і бульбу трэба выцягваць наверх, іначай падцячэ.

Другая нязручнасць кватэры — печ і грубка, якія трэба паліць дрывамі. А дроў у Блізнюка не было ні палкі, бо той дом, у якім ён жыў, меў цэнтральнае ацяпленне. Яму падказалі, што за дзесяць кіламетраў на захад па шашы — торфабрыкетны завод, узяць брыкету лёгка. Але адным

брыкетам не абыдзешся, дровы трэба хоць на распалку, і іх неабходна здабыць перад самай зімой, ды не сыр'ё, а сухія, што было зрабіць не так проста.

I газавай пліты не было. У гаргазе на пліты і газавыя балоны чарга, прыйшлося праўдай і няпраўдай абыходзіць яе, каб стварыць жонцы хоць частку таго камфорту, які яна мела ў ранейшай кватэры, у «Камунары».

Па плошчы нічога сабе: кухня, зал, дзве спальні, хоць былі яны да смяхоцця маленькія, як у японцаў.

І яшчэ адна нязручнасць, а правільней, непажаданая рэч, можа, часовая, а можа, і не: жонцы не было работы. Маючы дыплом дашкольнай выхавацельніцы, у «Камунары» яна і працавала па спецыяльнасці. А ў Ягадцы сад-яслі быў укамплектаваны поўнасцю. Праўда, у райана сказалі, што з новага года нехта павінен пайсці на пенсію. Хто — Ядвіга Максімаўна (так звалі Блізнюкову жонку) ведала. Гэта была даволі яшчэ прыгожая, з вельмі выразнымі губамі жанчына, жонка аднаго настаўніка, поўная, налітая жыццём і прывабнасцю, і Ядвіга Максімаўна пабойвалася: наўрад ці, нягледзячы на гады, пойдзе тая на пенсію. Такія выпадкі бываюць даволі часта: трызніць чалавек пенсіяй, а прыйдзе час — ні ў хамут. Здарыцца і тут такое, тады перарвецца яе, Ядвігі Максімаўны, працоўны стаж, і ператворыцца яна ў звычайную хатнюю гаспадыню, стане толькі Юрку ды мужа глядзець, а астатняе... Палохала такая перспектыва. Не хатняя работа, не. Работы яна не баялася і спраўлялася з ёй лёгка, не горш і не марудней, чым гаспадыні-«прафесіяналкі». Палохала, што ў яе тады страшэнна звузіцца жыццёвы інтэрас, і хочаш — не хочаш трэба будзе самой ісці ў «прафесіяналкі».

Там Юрка хадзіў з маткай у дзіцячы сад, тут пакуль што — не. Дома, з мамай. А назаляе! У магазін і то схадзіць нельга: яго з сабой цягні.

Нібы чмель у ясны летні дзень, прыемна гуў тэлевізар. Блакітнымі водбліскамі свяціўся экран, і на ім гарэзліва скакалі туды-сюды зайцы,

ваўкі, леапарды, мядзведзі. Ніхто нікога не еў, ніхто нікога не баяўся.

У хату ўвайшоў бацька.

Сын кінуўся да яго. Цэлы дзень не бачыў!

Маці таксама паднялася з крэсла, сустракаючы гаспадара.

Распрануўшыся, Блізнюк сеў на крэсла к канцу стала, палажыў перад сабой тоўстую кніжку.

— Што гэта?

— Бачыш жа што: кніжка.

— Купіў? — І ўзяла ў рукі яе, чытаючы назву.— А мамачка мая: «Сельская гаспадарка СССР. Статыстычны зборнік». Навошта ён табе?

— Ведаеш, што такое статыстыка? Самая тонкая і дакладная навука.

— Статыстыка — навука? Зводкі розныя?

— О-о-о, мілая мая, ды якая навука!

— Не думала, яй-права. Фізіка, хімія — навукі! А каб сказалі, статыстыка — навука, не паверыла б.

— Дык вось разбярыся. Статыстыка мовай лічбаў, самых упартых фактаў, гаворыць, хто мы былі, хто мы ёсць, адкуль і куды і пры дапамозе чаго ідзём. Статыстыку трэба ведаць як сваіх пяць пальцаў.

Мультфільм кончыўся, і на экран выплыў лысы, у акулярах лектар.

— Выключы,— сказаў Блізнюк жонцы.

— Ты ў Беражках быў?

— У Беражках.

— Як там?

— Усё добра. Гатуй вячэру, а я пачытаю тым часам.

Як бацька ўглыбіўся ў чытанне, Юрка паглядзеў-паглядзеў яму ў твар і пайшоў на кухню да мацеры, дзе будуць гарэць газавыя камфоркі сінімі агеньчыкамі, а на іх паставяць кастрюлькі, і з іх спачатку пойдзе лёгенькая пара, а потым яны забулькаюць. Маці будзе чыкаць нажом на дошчачцы цыбулю, ад якой шчыплюцца вочы, грымець пасудай, мяшаць лыжкай у каструлі і яшчэ што-небудзь рабіць, але не ўтуліцца ў адзін

прадмет і не замрэ на ім, як бацька замёр над кніжкай.

...Лічбы, лічбы... Залатыя лічбы. Яны расказвалі пра вельмі многае.

Та-а-к. Трэба шмат ведаць, каб кіраваць гаспадаркай. Ведаць, колькі на якую машыну выдзяляць гектараў, колькі машына можа вырабіць за дзень і за колькі дзён можна пасеяць і за колькі ўбраць. І колькі трэба на гектар арганічных і мінеральных угнаенняў і колькі ёсць гэтых угнаенняў.

Блізнюк і раней займаўся рознымі падлікамі, будучы галоўным аграномам у «Камунары», але тады ў яго была меншая адказнасць: над ім яшчэ быў дырэктар саўгаса.

Вось так бывае з чалавекам. Жыве, жыве, не адзін год, усё, як быццам, праверана, узважана, а тады нешта возьме перад ім і адкрыецца. Абсалютна новае і значнае, аб чым да гэтага і не падазраваў.

А можа, таму, што пачытаў гэты статыстычны зборнік, нейкую частачку яго,— прыйшло такое праясненне?

— Бацька, есці,— пачуўся з кухні голас жонкі.

— Іду,— адказаў.

## 4

Першым чынам Блізнюк рашыў навучыцца вадзіць машыну. Шафёр быў. Але што шафёр. Ён на акладзе, праца з дзевяці да шасці, гадзіна перапынку на абед. Пакуль ён прыйдзе, змажа, пачысціць, завядзе.

Тут трэба не парадныя выезды, не цырыманіялы. Тут трэба ў любы час дня і ночы, раніцай, задоўга да дзевяці, увечары, пасля шасці і сямі, сесці і паехаць. Хаця радыус гаспадаркі не такі і вялікі, дзесяць — дванаццаць кіламетраў — усё роўна пешшу не аббегаеш. Дзве-тры гадзіны будзеш ісці, гадзіну адпачываць, а што трэба — не ўбачыш і не зробіш. Раз у гаспадарцы ёсць машына, дык трэба і скарыстаць яе на карысць гас-

падаркі. Шафёр не каля боку, трэба самому навучыцца ездзіць.

Спачатку з шафёрам Цапком туды-сюды пакруціўся, а тады — сам. Выганіць пасля шасці з гаража, як Цапок пойдзе дамоў, і давай на тэрыторыі вялікага двара выпрабоўваць вёрткага «казла». Кіне ўперад з усяго ходу, шкуматне тармазамі, аж зад падскочыць, вертане ўправа, вертане ўлева, заднім ходам праедзе, накіруе адно кола на якую-небудзь перашкоду — на палена, на жалязяку. Дарога не ўсюды роўная, не асфальт. Пнюшкі на аб'ездах, каменні, кадаўб'е — ведама, вёска. Трэба зараней рыхтавацца да такіх «сюрпрызаў».

А пасля і раніцай ездзіў адзін.

Ды аўтаінспектар Забаўскі не даваў ходу. Пагражаў загнаць машыну ў міліцыю з усімі адсюль вынікамі.

— Душа, я ж не еду на вялікія дарогі. І ў горад не еду. Зразумей.

Але Забаўскі меў у грудзях не сэрца, а камень. Цвярдзіў — здай на правы шафёра.

— Здам. Вучу.

— Добра. Вучы і здай. А пакуль не здасі, Блізнюк, за рулём каб не бачыў. У цябе шафёр ёсць.

— Шафёр ■ дзевяці да шасці. А мне трэба і ўранні і ўвечары куды скокнуць. У брыгады, на ферму, на поле. Паглядзець, як жыта сеюць, бульбу капаюць.

— Можа, да баб куды ездзіш, дык хочаш, каб без сведак, шафёра не бярэш? Жанаты?

— Жанаты. І сын ёсць.

— Я не жартую, Блізнюк, праўда. Папярэджваю. У нас, брат, закон. Мы — міліцыя. Ведаеш?

Сустрэча адбылася на шашы, на якую Блізнюк выскачыў, наведаўшы брыгаду ў Баравіне.

Яна была кіламетраў за восем ад цэнтральнай сялібы калгаса, кіламетры тры па шашы, астатняе — лесам, налева з шашы. Блізнюку хацелася папрысутнічаць на ферме ў час ранішняга даення кароў, і ён з цёмным яшчэ выехаў туды, спадзею-

чыся, што да пачатку работы канторы калгаса вернецца.

Здаць на шафёрскія правы было не так лёгка. Навучыцца ездзіць на машыне куды прасцей. Папершае, трэба было вызубрыць дарожныя знакі, добра ведаць матэрыяльную душу машыны і без затрымкі адказаць на ўсе сем пытанняў картачкі, якую ты выцягнеш на экзаменах. А разводка? Хто не спатыкаўся на ёй? Наставяць на макет якой-небудзь вуліцы ці плошчы лялькавых машын — легкавых, грузавых, аўтобусаў, трамваяў, тралейбусаў, матацыклаў — развядзі.

Што павінна пайсці першым, што — апошнім. Што пад прыкрыццём першага, што — апошняга.

Адзін раз пагарэў іменна на гэтай няшчаснай разводцы. Маёр, які прымаў экзамен, чарнавокі гад — ніякай літасці,— муштраваў як школьніка.

Наступны раз пагарэў на яздзе, хоць быў упэўнены, што на яздзе не пагарыць, бо добра адчуваў і вадзіў машыну. І пагарэў. І як пагарэў: той самы маёр, які сядзеў побач, сказаў, калі ехалі па гораду: «Стой». Пакорны свайму экзаменатару, Блізнюк затармазіў і роўненька звярнуў направа. Маёр паказаў на знак «Стаянка забаронена». Блізнюка кінула ў пот, і ён зразумеў, што праваліў здачу і на гэты раз.

Калі б ехаў адзін, і знак бы гэты ўбачыў, і не спыніўся б пад ім. А тут падумаў, можа, маёру што трэба тут? Проста зрабіў чалавеку ласку, выканаўшы яго просьбу.

Трэці раз ехаў у Мінск да таго ж маёра з нейкай унутранай ліхаманкай. А раптам яшчэ штонебудзь? А гэтых «што-небудзь» магло быць нават не дзесяткі, а сотні. Тым больш, ведаў Блізнюк, што некаторым наогул не выдавалі правоў, лічачы іх няздольнымі вадзіць машыну. Маёр паўтараў: «Людзей рэзаць я вам не дазволю».

І ўсё ж такі здаў. За трэцім разам здаў.

І маёр здаўся добрым і чалавечным, і ўбачыў Блізнюк у яго вачах цёплыя іскрынкі, а на тоўстых, ужо немаладых губах шчырую дзіцячую ўсмешку.

«У вас памяць добрая. А ёсць такія: ты яго сотню разоў пытай адно і тое ж, а ён ні бум-бум»,— адкрыўся ён Блізнюку.

Ад радасці павёў Цапка ў рэстаран, добра паабедалі, і сам сто пяцьдзесят грамаў пяцізорачнага каньяку выпіў.

Цапку не прапаноўваў. Цапок будзе за рулём.

Дарогай так хацелася пусціць куляй па шашы самому «казла». Ад радасці, што здаў? Ад каньяку?

І ведаў: нельга. Выпіў. Колькі ні выпіў, а выпіў.

Шаша то ачышчалася ад машын, была, як хапіць вокам, голая, то зноў запаўнялася імі, гружанымі лесам, дошкамі, скрынкамі, мяшкамі, качанамі капусты, бульбай, бочкамі, шынным ці арматурным жалезам, маставымі жалезабетоннымі канструкцыямі.

Таксісты абганялі ўсё і ўсіх, лёгка, як мухі ў паветры, снавалі ў адзін і другі канец шашы, ніколькі не збаўляючы хуткасці, і Цапок даваў ім дарогу, трымаючыся толькі правага боку, не спакушаючыся на хуткасць. Абганяў ён толькі ціхія грузавікі і трактары, якія былі, як правіла, з гружанымі прычэпамі.

Насустрач беглі з двух бакоў дарогі прысады — амаль голыя ўжо асеннія бярозы, ахоўныя, ад снежных заносаў, яловыя заслоны, падстрыжаныя пад шнур.

Праз прасветы прысад відаць была рунь на палях, часамі завідная, ранняя, а часамі пляшывая, бедная, умацуецца яна яшчэ да зімы ці не ўмацуецца — цяжка сказаць, гледзячы калі зіма пачнецца.

Сваё жыта ў тым саўгасе, дзе ён быў галоўным аграномам і які пакінуў, Блізнюк пасеяў рана — у жніўні і верасні. І вось не бачыў, якая рунь там цяпер. Трэба будзе сесці за руль і з'ездзіць.

Тут, у Ягадцы, Блізнюк не сеяў жыта, паспелі пасеяць да яго прыезду, але цікава, дзе рунь лепшая. Хаця рунь — гэта яшчэ не ўраджай, але добрая рунь — пачатак хлебаробскай радасці. Па ёй таксама можна вызначыць гаспадарлівасць і

аграномаў, і механізатараў, і самога дырэктара саўгаса або старшыні калгаса.

Там-сям на палях відаць былі торпы саломы, некаторыя зусім недалёка ад шашы, і відаць было, добра яны ці нядобра былі завершаны.

На лажках і сенажацях, ужо, можна сказаць, счарнелых ад капытоў і асенняй скрухі, пасвілася жывёла. Такой жа пярэстай масці, як і ў Ягадцы, як і ў тым саўгасе, дзе працаваў да Ягадкі: белыя, у чорных або бурых рабках, каровы.

«Што яна тут з'есць?» — падумаў Блізнюк.

Раней, Блізнюк гэта помніць, жывёлу ўвосень гналі ў лес, на нізінную травяную мякаць, і не падкармлівалі, можна сказаць, да самай зімы. Цяпер у лес статак не ганяюць, адводзяць спецыяльныя выпасы і падкармліваюць усё лета, не гаворачы пра восень. Падкормка жывёлы патрабуе вялікай земляробчай культуры, высокіх ураджаяў.

Блізнюк ведаў, што некаторыя кіраўнікі гаспадарак ахвотна робяць упор на жывёлагадоўлю, не надта дбаючы аб паляводстве. Канечне, калі мець пад рукамі ўсе кармы, у тым ліку фуражнае збожжа, можна хутка дабіцца і добрых надояў, і выйсці ў перадавікі па мясу. Можна за адно лета паставіць вялікае пагалоўе.

А пад вясну падняць сквіл на ўвесь раён, на ўсю вобласць: «Ратуйце, у мяне гіне ад бяскорміцы жывёла!» Маўляў, не разлічылі, перавыдаткавалі, зіма зацягнулася і — сотні іншых прычын. Выцадзіць у спіртзаводзе ўсю барду, забярэ занараджаны на ўвесь раён камбікорм, дабярэцца да дзяржаўных складаў з цюкаваным сенам. Едзе ў пазычку да суседніх гаспадарак.

Блізнюк лічыў і лічыць такіх кіраўнікоў не тое што кар'ерыстамі ці выскачкамі, а проста несур'ёзнымі людзьмі, гультаямі і абібокамі, якія не хочуць думаць.

«Што яна тут з'есць, гэтая жывёліна?»

Ты ёй створы моцную кармавую базу з перспектывай на некалькі гадоў. З запасам, ■ разлікам на любую зіму, хай нават вельмі зацяжную. А база гэтая павінна стварацца ў полі. Лепшыя

людзі павінны працаваць не на фермах, а ў паляводстве. Даць карове гатовы корм, падаіць, папасвіць і дурань зможа. Першакрыніца дастатку — паляводства. Конь, уведзены ў аглоблі перадам, не павязе воз.

— Бародзіч меў правы? — звярнуўся Блізнюк да шафёра, калі шаша ўткнулася ў лес свайго раёна. Здавалася, ужо былі дома.

Цапок адказаў кіўком галавы, не адрываючы вачэй ад доўгай і вузкай стужкі асфальту.

— Сам ён калі-небудзь вадзіў машыну? — паглядзеў Блізнюк на худы профіль Цапка.

— Рэдка.

— Чаму?

Спачатку Блізнюку здалося, што Цапок ледзьледзь павёў галавой управа, як бы выказаўшы гэтым няпэўную думку. «Хто яго ведае». А потым, калі «казёл» грымнуў праз невялікі масток на субалаціне, адказаў, павярнуўшыся вузкім тварам да Блізнюка:

— Казаў, што слаба бачыць стаў.

Блізнюк не стаў больш непакоіць Цапка размовай, разумеючы, што ў час язды шафёру гаварыць не лёгка, бо трэба раздвойваць увагу паміж дарогай і субяседнікам.

Цікава, што думае пра яго, Блізнюка, Цапок? Задаволены ён ці не задаволены, што Блізнюк атрымае правы вадзіцеля? Бародзіч ужо дрэнна бачыў, а Блізнюк малады, і зрок у яго зусім нармальны.

Наколькі Блізнюк змог распазнаць за свой невялікі перыяд працы Цапка — чалавек ён сур'ёзны. І ў сям'і (у яго была жонка і двое дзяцей), і на рабоце, і ў грамадзянскім жыцці. Стаж вялікі, з вайны. Працаваў на грузавых машынах і на бензавозе.

Пакрыўдзіцца ён, калі адправіць яго на грузавую машыну, ці не пакрыўдзіцца?

А якое гэта ўрэшце мае значэнне? Гаспадарка павінна весціся ў разліку на грамадскую выгоду. Баец не мае права крыўдзіцца на камандзіра, што той павёў яго ў бой.

## 5

Сваю зямлю ў саўгасе «Камунар» Блізнюк ведаў. Была карта глебы, і быў пяцігадовы вопыт.

Зямлю гэтага калгаса ён ведае толькі па спраздачах. Які ўраджай, колькі чаго сеялі, колькі якіх угнаенняў клалі. Ці вазілі на поле торф. Які быў гэты торф, сухі ці кіслы.

«Цяжкі раён. Нейкі нягеглы»,— падумаў Блізнюк пра свой раён.

І сапраўды, калі па вобласці ў сярэднім ураджай 17 цэнтнераў з гектара, то ў Беражкоўскім раёне — 13. Словам, самы нізкі ў вобласці. Быццам тут ні навукі, ні тэхнікі. Адно, што Беражкі размясціліся на прыгожым беразе шырокай рэчкі. І лясы побач — сасновыя, змешаныя, а зачастую і чыста бярозавыя або кляновыя гаі. Мясціны тут вельмі маляўнічыя, нічога не скажаш.

Рэчка і лясы толькі і пацягнулі Блізнюка сюды. Чорт яго ведае, жыве ў чалавечай крыві жыўчык першабытнага дзікунства.

Пры размеркаванні можна было ў другое месца паехаць, у больш урадлівае, так сказаць. Паехаў у гэты раён.

Праўда, гаспадарка, у якую трапіў, была не з горшых. Дырэктар Бурак умудраўся трымацца на ўзроўні абласных паказчыкаў як па ўраджайнасці, так і па малаку і мясу. 17 цэнтнераў зерня давалі з гектара. У раёне адна толькі гаспадарка ішла ўперадзе «Камунара» — калгас «Ленінец».

Антон Антонавіч Бурак толькі ківаў голенай галавой і гаварыў свайму галоўнаму аграному:

— Не дагнаць нам іх, Сцёпа, не-э-э. Ўт людзі пайшлі! 28 цэнтнераў з гектара! Падумаць толькі. Такую вышыню ўзялі!

І не зразумець было, радуецца Бурак за іх 28 цэнтнераў, як ён гаварыў, з гектара, ці толькі зайздросціць іх славе.

— І дзе сакрэт? Землі ж у іх...— здзіўляўся Антон Антонавіч.

Так, землі ў «ленінцаў» былі звычайныя, як і ў «Камунары», як і ў цяперашняй Блізнюковай Ягадцы.

«Ленінскі» старшыня апранаўся проста — у вынашанае, але акуратнае вайсковае, балазе быў адстаўны капітан ці маёр, ездзіў у пашарпаным, ужо збялелым «козліку», твар ад сонца — як казан. Варта глянуць на яго, і скажаш: «Чалавек поля, зямлі». Ад славы ўсяляк ухіляўся і не выхваляўся сваімі гаспадарчымі дасягненнямі. На раённых нарадах і сходах садзіўся дзе-небудзь ззаду, у кутку, не любіў, калі клікалі ў прэзідыум.

Не, што і гаварыць, сціпла сябе паводзіў Гвідон Іванавіч Рэвут. Іншы б ап'янеў ад шчасця, а ён — быццам і не трэба было яно яму, гэтае шчасце.

Ды не аб ім гаворка, не аб Гвідоне Іванавічу. Блізнюк проста ўспомніў, што самы высокі ўраджай у раёне іменна ў «Ленінцы», дзе старшынёй Гвідон Іванавіч Рэвут.

Ягадка была недзе на сярэдзіне: 15 цэнтнераў з гектара. На два цэнтнеры ніжэй сярэднеабласнога і на два вышэй сярэднераённага. Для свайго раёна быццам і нічога, а калі падацца на людзей, скажам, у вобласць,— сорамна.

Хаця віны тут Блізнюковай няма, але ва ўсякім чалавеку, мусіць, ад нараджэння, жыве радасць і гонар за ўсё добрае, хай нават чужое, і сорам і засмучэнне за дрэннае, таксама хай нават чужое. Канечне, уліп ён, Блізнюк, ладна. Узяўся кіраваць гаспадаркай, у якой трэба ой як многа папрацаваць!

Можа, і жыццё ўсё. І ці даб'ешся чаго значнага!

Ураджаі адразу пасля вайны, як ведае Блізнюк з розных справаздач і статыстыкі, былі нізкія: 6—7 цэнтнераў з гектара. У «Камунары» за 25 год паднялі на 10 цэнтнераў, у «Саюзе» на 7—8.

Блізнюку 27 год, ураджаяў тых далёкіх і цяжкіх год не памятае, ведае аб іх толькі па літаратуры. Казалі, хлеба не хапала. Калі ён будзе падымаць ураджай так, як падымалі яго дагэтуль у раёне, за тры гады на цэнтнер з гектара, то к канцу свайго працоўнага жыцця ён дасць у Ягад-

цы 26 цэнтнераў з гектара, гэта значыць, лічы, дагоніць Гвідона Іванавіча.

Нікуды не варта. Як жа Рэвут даў такі ўраджай? Чаму другія не далі?

Ураджаі зараз, мяркуючы па друку, пайшлі за дваццаць і нават за трыццаць цэнтнераў. Паскачы, Ягадка, дагані.

Ёсць і за сорак. Але гэта пакуль што на асобных участках. Можна сказаць, як эксперымент. Ягадцы перакуліцца б за дваццаць. Галоўнае, вера нарадзілася б у людзей, рэальны стымул падымаць урадлівасць поля.

Пакуль што нічога пэўнага для ажыццяўлення такой мары ў Блізнюка няма. Ёсць толькі жаданне нешта зрабіць.

Блізнюк, моцна думаючы над праблемамі ўраджайнасці сваёй гаспадаркі, зноў і зноў успамінаў Антона Антонавіча, які лічыў у сваёй рабоце вялікім козырам тое, што ён мясцовы. Вось так бы, як ён, бачыць наскрозь усіх сваіх людзей і ўсю сваю гаспадарку з яе зямлёй, як рэнтгенолаг бачыць чалавека, якога ён прасвечвае, было б сёння для Блізнюка вялікім шчасцем. А пакуль што ён сляпы, чужы тут, і ўся надзея, як кажуць, на кадры.

Барадзіч жа працаваў з імі? Вось з імі трэба будзе параіцца.

Праўда, раіцца трэба з усімі людзьмі, не з адным Барадзічам і не з аднымі спецыялістамі.

Адзін час моцна думаў Блізнюк пра селекцыю. Прачытаў артыкул на гэтую тэму ў часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі» і як бы памаладзеў. Не тое што каб адкрыў для сябе Амерыку. Не. Тэарэтычна, як і ўсякі аграном, ён разумеў значэнне новых гатункаў насення для гаспадаркі. Справа ў тым, што артыкул навёў яго на вельмі ясную думку: весці гаспадарку з улікам сучасных дасягненняў селекцыі. Сёння не абыякава, якім насеннем засеяць поле, якім карыстацца гатункам бульбы — заазерскай, «тэмпам», разварушкай ці старой чырвонай «дзяржучкай».

У артыкуле, дарэчы, называліся найбольш перспектыўныя гатункі каласавых і бульбы.

Селекцыя... Не губляць з ёй сувязі ні на адзін дзень.

Гаспадарка — той самы жывы арганізм, у якім усе органы павінны быць здаровымі і працаваць безадказна, суладна з дзесяткамі астатніх органаў. Калі ж хоць адзін орган выб'ецца з рытму,— арганізм хворы.

Пасля доўгага роздуму, ваганняў і сумненняў заключыў сам сабе: аддай сябе ўсяго, калі хочаш, каб гаспадарка пайшла ўгору. Як Рэвут. Глядзі на яе не збоку і не зверху, а як бы з сярэдзіны, вачыма самой гаспадаркі. Жыві яе патрэбамі.

У нядзелю, пазней, чым звычайна, устаўшы, жонка сказала:

— Можа б, у магазін схадзіў?

— Чаму не. Цяжка?

Блізнюк узяў жончыну сумку і пайшоў у цэнтр вёскі, дзе было на плошчы некалькі, як кажуць, гандлёвых кропак.

На вуліцы была ўжо груда, і ісці было прыемна і лёгка. З дзяцінства Блізнюк любіў ісці па грудзе.

На плошчы стаяла кучка мужчын, размаўляючы паміж сабой, і такая ж кучка, можа, трошкі меншая, стаяла ў краме, з боку ад чаргі, нічога не купляючы.

Блізнюк стаў паўз прылавак у чаргу (яна была не надта вялікая, звычайная), адначасова разглядаючы, што было на паліцах крамы, і ўспамінаючы, што яму трэба купіць.

Міжволі прыслухаўся да размовы мужчын.

Адзін з іх гаварыў:

— Што вы тут будзеце сеяць?

— Ячмень.

— Тут ячмень парасце?

— Пацягаў трактар гэты самы, што гной развозіць і раскідае. Тады пасеялі ўдабрэння сівалезага такога. Тады вадой міячнай з машыны, што як бочка, палілі. Як парос ячмень, во гэткі.— Мужчына паказаў рукой вышыню ячменю ад падлогі.— Трыццаць цэнтнераў гектар даў. Такі ячмень парос, а? А мы думалі...

Блізнюк угледзеўся ў мужчыну. Арліны нос, чорныя вочы, твар не надта ў зморшчынах, хоць на скроні і патыліцу з-пад камандзірскай вайсковай шапкі звісалі шэрыя ад сівізны валасы. Ватоўка на ім была новая, з хлясцікам і каўняром, доўгая, амаль закрывала кішэні шэрага галіфэ. На нагах не новыя гумавыя, з высокімі і шырокімі халявамі, боты, якія пабачылі за лета ўсё: і ваду, і гразь, і траву, і лясное сухое галлё...

Блізнюк палажыў у сумку бохан хлеба, два батоны і пачак вафляў.

— Усё? — спытала прадаўшчыца.

— Усё,— адказаў Блізнюк.

І ў гэты час, калі прадаўшчыца на костачках лічыльнікаў складала кошт яго пакупак, пабліскваючы залатым пярсцёнкам, ён паспеў зірнуць на таго самага чалавека, які расказваў пра ячмень, і спахапіўся, што купіў не ўсё.

— Прыплюсуйце бутэльку гэтага,— і паказаў пальцам на бутэльку рому.

Выходзячы з магазіна, зноў глянуў на цікавага незнаёмца. Адкуль ён, хто?

Падысці і запытаць — няёмка. Не сціпла.

А можа, і можна было б? Не, нельга.

Выйшаўшы з магазіна, пастаяў крыху на высокім ганку.

Мужчыны на двор не выходзілі, тыя, што стаялі на вуліцы, таксама не разыходзіліся.

Дзе табе яны разыдуцца? Сёння нядзеля, і яны будуць святкаваць яе. У іх такія сустрэчы як самы лепшы адпачынак. Нагаворацца, тады прыйдзе час паспытаць рому...

Дома ўжо было гатова снеданне.

Чарка ліпка-цягучага зялёнага рому так падняла настрой, што яму захацелася музыкі. Ён паставіў на прайгравальнік пласцінку з песнямі Русланавай. Падабаліся Блізнюку яе песні. Шмат у іх было шчырасці, і яны кранал.

Блізнюк яшчэ выпіў чарку рому. Ужо без закускі.

— Ты што? — глянула на яго жонка.

— Хай, Ядзя, і ў мяне будзе сёння нядзеля.

— А так ты на пуп бярэш?

— Не бяру, але, можа, яшчэ і хужэй.

— Дужа. Бачу, што ўцякаюць ад такой работы.

— Дурненькая ты, жоначка. Праўда, Юрка, дурная мама?

Юрка трымаў у руках абкусаную вафліну.

— Мама не дулная. Ты сам дулны.

— Правільна, сынок. Шкадуй сваю маму.

— Завіце мяне сёння як хочаце. А мне добра... Я ў магазіне, Ядзя, сустрэў чалавека. Ведаеш!..

## 6

Галоўны аграном калгаса «Саюз» Кісель Павел Платонавіч быў старэйшы за Блізнюка на дваццаць шэсць гадоў. Даўно асеў, ажаніўся ў Ягадцы, меў сваю хату, двор, стопку і пуню ў ім, садок на сотках, як называюць у Ягадцы агарод. Дзеці параслі і паляцелі з дому, як ляцяць птушкі з свайго гнязда. І паляцелі не як-небудзь, не на скруху бацькам, а добра, дачка — скончыла педагагічны інстытут, сын — політэхнічны. Дачка выйшла замуж, а сын ажаніўся.

Дачка што выйшла замуж — добра, а як ажаніўся сын, і бацька і маці супіліся. У дзеўках заседжвацца нельга, бо ссівелых дзевак не бяруць, хлопец жа можа і пачакаць, паглядзець ды падумаць, каб не апячыся, рана ажаніўшыся, ды яшчэ на якой трасцы.

Але добра. Хай будзе так, як склалася. Горкага не бачылі Кісялі ад сваіх дзяцей і каб не ўбачыць. Канечне, памагалі дзецям грашыма, калі вучыліся. Было б горка, каб не паступілі ды дрэнна вучыліся. А так і паступілі і вучыліся добра. А грошы — вада, былі і няма. Ці яны б на кніжцы ляжалі, ці ў дзела пайшлі. У дзела яшчэ лепш. Ведаеш, што дзеці твае запучаны і перад імі ніякае сумленне цябе не грызе.

Цяпер Кісялям жыць і бяды ніякай, абы толькі хвароба з-за вугла не падкралася і вайны не было.

О-о-о, вайна! На сухі лес хай яе нячыстая сіла

нясе. Кісялі яе бачылі, перажылі: і пагаладалі, і накалеліся, і страху набраліся. Дык добра яшчэ, што былі партызаны і было куды падацца.

Цяпер многае забылася. Маладыя нічога не ведаюць, і часта ніякага спачування тым, што перанеслі вайну, у іх няма.

Такі паварот справы Паўлу Платонавічу не падабаўся, і ён хутчэй душой, чым розумам, зрабіў вывад, што ім, ягадцам, на месца Бародзіча, добрага і цёртага жыццём старшыні, могуць падперці няйначай як якога-небудзь малакасоса з дыпломам. Баяўся гэтага Кісель. Вельмі баяўся!

З Бародзічам можна было працаваць. Мужык хоць куды. Што мог — Кісель рабіў, а што нельга зрабіць — ніхто не зробіць, ці ты малады, ці стары, вучоны ці дурань.

Словам, спецыяльна на рабоце гадзіны свае не выседжваў.

І цяпер Кісель прыходзіў з работы дадому пасля пяці вечара, інакш кажучы, раней часу. Але ж новы старшыня, бог ведае, што падумаць можа... Канечне, можна сказаць, што быў у полі, на зернясховішчы, у такой і такой брыгадзе. Ды на маньках не пражывеш, калі-небудзь абавязкова пападзешся, і будзе вялікая непрыемнасць. Тады прыйдзецца чырванець старому лысаму чалавеку перад малакасосам.

Увосень дзень малы, цямнела рана. Дома ў пуні ўжо раве кабан, хвалюецца, не разумеючы, чаму так позна не нясуць яму есці. Рыкае дзе-небудзь нядоеная карова, даўно прыйшоўшы з паствы (добра яшчэ, што суседзі ўпусцяць у двор і зачыняць веснічкі).

Кісялёва жонка ў гэты час на рабоце. У яе дзіўны рабочы рэжым: з адзінаццаці да чатырох і з шасці да васьмі. Яна працуе ў сельсавецкай бібліятэцы.

Але і сам Павел Антонавіч, і жонка прывыклі да такога рэжыму. Ён нават зручны ў некаторых адносінах. Уранні жонка шчыруе па гаспадарцы, паліць у печы, карову доіць, тады мые, чысціць у хаце, увечары — сам Павел Антонавіч займаецца гаспадаркай.

Вось і сёння: у шэсць гадзін прыйшоў з работы. Пакарміў кабана. Падаіў карову, працадзіў малако ў гладыш. Спаласнуў у каструльцы ў чыстай вадзе цадзілку і павесіў над духам на шасток сохнуць. Напаліў у чыстай палавіне грубку-ляжанку, уключыў тэлевізар і паглядае то на экран, то ў грубку, як там гарaць дровы, ці хутка іх трэба будзе пашураваць качаргой. Здаецца, дробязь: грубка. А недагледзь, як паліш, неба нагрэеш, а яе — не. Так і ва ўсякай рабоце: узяўся — не адыходзь.

Пакуль у грубцы пагарэла і згарнуў жар, прыйшла жонка. Невысокая, круглатварая, з бачнай сівізной у валасах, яна, ужо распрануўшыся, увайшла ў чыстую палавіну хаты, дзе, як заўсёды, быў Кісель.

— Пагарэла? — спытала яна нізкім голасам, глянуўшы ў грубку.

— Пагарэла,— адказаў Кісель.

— Трэба малака пагрэць.

— Як у цябе там? — папытаў Кісель, калі жонка ўставіла ў грубку чыгунок з малаком.

— Што ў мяне? Добра, як і заўсёды.

— У цябе добра, я ведаю. Выдаў кніжку, запісаў і чакай, пакуль яшчэ хто прыйдзе. Ты і на раённай Дошцы гонару, табе і павага. А мне чаму няма яе? Менш раблю за цябе?

— Мала што! Работа такая.

— Во, іменна: работа такая. Год робіш, круцішся ва ўсе бакі як апантаны, а тут табе засушыла, дождж не прайшоў, і работу тваю як карова языком злізала. Цяжкая работа — сельская гаспадарка.

— Не кажу, што лёгкая.

— Цяжкая. Ведаеш, каб ад аднаго цябе залежыла, дык націснуў бы ўжо, як кажуць, на ўсе педалі. Быць не можа, каб чалавек не зрабіў таго, што можна зрабіць. Але ж тут ты не адзін. Тут тысячы прычын і кампанентаў.

— Што, можа, новы прыкурыць дае?

— Як? Адкуль ты ўзяла? Не-э-э.

— Расплакаўся ты нешта.

— Я не расплакаўся. Я табе кажу, што адна

работа не падобна на другую. А ў нас гэтага не могуць і не хочуць зразумець.

— Ну, як новы? — перабіла жонка.

— Новы? — Кісель развёў рукамі.— Нічога не магу сказаць. Дакументацыю вывучае. Ездзіць па брыгадах. Адзін, без шафёра. Маўчыць пакуль што. Прыглядаецца. Разумееш?

— Можа, і правільна робіць, што прыглядаецца.

— Па-твойму, правільна, а па-мойму, няправільна. Што я табе які-небудзь чужы, набеглы? Птушка заморская? Тут усе свае, вядомыя. З вайны, можна сказаць, разам працуем. Што ты прыглядаешся? Вазьмі і скажы, калі што ўбачыў. Адразу, каб чалавек не нерваваўся і не думаў, што... Э-э... І... Хай цябе хто пачне свідраваць вачамі зенкамі. Адразу закруцішся, у патыліцы зазыча табе. «Што такое?» — пачнеш азірацца туды-сюды. А ты гаворыш, правільна. З сваёй званіцы — правільна, а з чужой — няправільна. На чужую званіцу ўзлезь і адтуль паглядзі ўніз.

Малако ў грубцы засквярлося. Ясна, закіпела і пабегла з чыгунка на под.

Гаспадыня хуценька крутнулася на кухню, прынесла адтуль невялічкія вілачкі, якімі бяруць чыгункі, і дастала яго з грубкі, паставіўшы тут жа, перад грубкай, на падлогу, каб трохі ачахла і чад пайшоў у комін, а не падняўся па ўсёй хаце.

За вячэрай жонка гаварыла Кісялю:

— Мы рыхтуем канферэнцыю па кнізе «Партызанскі край». Можа, выступіш?

— Па-першае, хто гэта «мы»? «Мы, Мікалай Вторы», як цары пісалі?

— Чаму, як цары? Я і школьная бібліятэкарка, Ліда. Ну, і чытачы.

— Ясна. Так бы і сказала. А то: мы. Вялікая кніжка?

— Забыўся? Мы ж чыталі яе з табой.

— Ой, даўно было. Я і не помню ўжо, што там і як.

— Прагледзіш. Слухай, табе можна зусім пра кніжку не гаварыць. Герояў мы ўсіх ужо разда-

лі. Ты выступіш як партызан. І Бародзіча думаем папрасіць, хай і ён выступіць. Таксама як партызан.

— Бародзіча?

— Ага.

— Ну, як партызан, правільна. З Бародзічам мы былі ў адным атрадзе. А дзе будзе канферэнцыя — у школе ці ў клубе?

— Можа, у школе, а можа, у клубе. А як лепш па-твойму?

— У школе толькі вучні, а ў клубе з людзей той-сёй прыйшоў бы. У клубе лепш, канечне. Я так думаю.

— Зробім у клубе.

— Канечне. Старшыню запросім, хай паслухае, хто мы такія. Сам жа пораху не нюхаў. І бліноў з кавэрак не еў.

— А твае елі?

— Ды і мае, можна сказаць, такія. Думаеш, лепшыя? Але пра сваіх не гавораць. Мы — пра чужых.

— Дык дагаварыліся?

— Выступіць?

— Ну.

— Добра, выступім. Я і Бародзіч. От з ім было працаваць, яй-права.

— А чаму на пенсію адправілі?

— Усё знашваецца. Нават жалеза і тое ржавее, сціраецца — паддаецца, як кажуць, карозіі. Чалавеку хочацца хоць перад смерцю трошачкі адпачыць. Пасядзець трошачкі. Разумееш? Успомні, якое мы гора перацярпелі. Што мы елі, дзе спалі? А нервы?..

— Не памінай, а то...

— А на канферэнцыі?

— Там раскажы. Дзеці павінны ведаць. А я ж ведаю. Разам з табой была!

Прыезд у калгас замест Бародзіча новага старшыні нечым крануў Кісяля. Ці таму, што гады прайшлі і не заўважыў, калі яны прайшлі? Ці таму, што стыль работы трэба будзе мяняць, падтасоўваючыся пад новага чалавека, прытым маладзейшага за сябе. А як вядома, малады ста-

рому можа патрапіць, а стары маладому — ніколі. У маладых навінкі, у старых вопыт. А вопыт сведчыць, што некаторыя навінкі нараджаюцца сівымі і толькі дзякуючы рэкламе прымаюцца як навінкі. Скажы праўду — кансерватар, прымі — душой пакрывіш, а крывіць душой стары чалавек не можа.

І яшчэ: дыплом у Кісяля маленькі, усяго за тэхнікум. Бародзічу хапала, у яго ў самога быў не большы, гэтаму ж можа не хапіць, скажа: «Падавайся завочна вучыцца». А калі ўжо падавацца, калі во-во стукне пяцьдзесят два: галава лысая. Па галаве, што яна лысая, чорт бы яе бяры. Ды жыцця таго колькі ўжо застаецца?

Але якія б думкі ні лезлі ў галаву, благія ці добрыя, а трэба было працаваць. Час настаў патрабавальны, вялікі. Людзі сталі жыць, жыць. Каб вопратка была добрая. Каб добры быў хлеб. Абы чаго не купляюць. Узяўся за зямлю, апрацоўвай яе так, каб яна радзіла. Каб не сорамна было прайсці, праехаць улетку дарогай, абапал якой расце збажына.

А быў час, калі было сорамна. Самога сябе сорамна. Не было адзінай, шчыльнай, як шчотка, узнёслай, як сцяна, жытнёвай або ячменнай пастаці. Пляшывае, з астраўкамі такой-сякой збажыны поле. Здавалася, чалавек цураўся зямлі, яна — яго. І не хацелася ім сустракацца вачыма, вочы не схаваюць ні крыўды, ні ўдзячнасці.

Ужо месяц сядзеў Кісель за складаннем плана падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, хоць яшчэ не завершаны быў год, які ішоў,— пераворвалі і грунтоўна закапцоўвалі на зіму бульбу, выворвалі і ўбіралі буракі і моркву, падымалі са сцелішчаў і парадкавалі льняную трасту, каб у надыходзячы момант, калі там пачнуць прымаць, адправіць на льнозавод. Стары паляводчы год яшчэ не пакідаў турбаваць людзей, а ўжо рыхтавалася месца новаму, і падрыхтоўку гэтую першы пачаў аграном Кісель. Колькі гектараў чаго пасеяць і дзе. Колькі вывезці жывёльнага гною, тарфяной крошкі, колькі і якіх набыць і вывезці мінеральных угнаенняў, вапны. Дзе скарыстаць гэтыя міне-

ральныя ўгнаенні, па колькі цэнтнераў на гектар. А графік вывазкі з улікам колькасці машын, трактараў і коней. А запас часу на выпадак дрэннага надвор'я ці непаладак з тэхнікай? А насенне? Яго ачыстка, абмен на больш ураджайныя гатункі, пратручванне? Вялікі план, сотні задум. І ўсё трэба ўлічыць. Зямлю трэба апрацоўваць па-гаспадарску, каб яна давала тое, што можа даць, калі да яе з любоўю і ўвагай аднесціся.

Стыль у кіраўніцтве стаў іншы. Раней было так: дай слова з трыбуны, што зробіш, і ты ўжо добры. Не зрабіў — папрасіся, спашліся на прычыны, і даравалі. Зараз не даруюць. І слоў пустых не любяць. На абяцанках не паедзеш. А раней ехалі. Многія ехалі.

План павінен быць навукова абгрунтаваны з усіх бакоў. Хіба толькі надвор'е... Так, надвор'е не абгрунтуеш. Пойдзе дождж ці не пойдзе? Пакуль што ніхто яго не начаруе і не адменіць.

## 7

Першага снежня. Зіма, хай снегу і няма, але снежань — зімовы месяц і ва ўсім — зіма: у колеры неба, у аголеных дрэвах садоў і прысад, у нейкім дзіўным ціўканні сініц, якія налятаюць з лесу ў вёску і аглядаюць кожнае бервяно, кожную частаколіну.

Даўно адляцелі ў вырай журавы і забыліся іх развітальныя галасы ў асеннім небе.

Жывёлу паставілі ў хлявы. Мала чаго цяпер дабудзе яна на пастве, гані — не гані, адна кружаніна ў полі з ёй.

На руні пасуцца адны зайцы — палявыя шаракі, даўгавухія, цыбатыя, сытыя і цёплыя. Яны нагульваюць свой тлушч іменна ўвосень, на руні, і ўсю зіму самка жывіць ім свой плод, каб у сакавіку, часамі яшчэ ў люты холад, нарадзіць зайчанят.

Блізнюк даўно звыкся з тэрмометрам. У «Камунары» вісеў ён у яго на слупку з ценявога боку, і тут, у Ягадцы, укапаў у двары слупок і па-

весіў той самы тэрмометр, які прывёз з «Камунара».
Уранні гляне, удзень, як прыйдзе на абед, гляне, увечары гляне.
Сёння ўранні глянуў — о-о-о! Мінус восем.
Пад нагамі бубнела. Бубнела, калі хто ехаў на калёсах. Бубнела зямля пад коламі машын, гулка адклікаючыся на ўсякае дакрананне да яе.
Блізнюк, ідучы ў кантору калгаса, рашыў: запісваць тэмпературу паветра ў сшытак, чаго да гэтага не рабіў. Чаму не рабіў? Не рабіў, і ўсё.
Разабраўшыся ў канторы з цякучкай, якая, звычайна, наплывае зранку, пазваніў у школу.
У трубцы пачуўся малады, трошкі порсткі голас:
— Дырэктар школы вас слухае.
— Блізнюк вас турбуе, старшыня калгаса.
— Добра. Я рад вас слухаць і, калі спатрэбіцца, паслужыць, чым магу.
— Служыць мне не трэба, а вось зайсці да вас і пагаварыць з вамі гэтак, ведаеце, грунтоўна трэба было.
— Ну, дык што перашкаджае? Чаргі ў прыёмнай няма. Ні запісвацца, ні чакаць не трэба. А хочаце, я да вас прыйду.
— Не. У мяне машына. І школу тым часам пагляджу. Як яна там стаіць у вас.
— Калі ласка.
Ягадка была вёска вялікая. Спачатку ехаў Блізнюк адной вуліцай, пясчанай, тады выехаў на другую, у канцы якой стаяла школа. Адчуў, як «козлік», натыкаючыся на мёрзлыя шчыпакі, пачаў падкідаць яго на сядзенні.
«Гэтую вуліцу трэба абавязкова паднімаць насыпам і брукаваць»,— падумаў Блізнюк.
Паставіўшы машыну каля штыкетніка школьнага двара, некаторы час разглядаў будынак школы. Ён быў доўгі, як здалося Блізнюку, занадта доўгі, пад бляшаным дахам, з вялікімі зялёнымі вокнамі, праз якія добра відаць былі вучні ў класах.
Неўзабаве выйшаў дырэктар, аж на вуліцу. Ён быў у капелюшы, у зялёным дэмісезонным

паліто, праз адвароты якога Блізнюк убачыў цёмна-сіні капронавы гальштук, на фоне белай манішкі нейлонавай сарочкі.

Парукаўшыся з Блізнюком, Лізура павярнуўся да фасада будынка школы, на які той уважліва глядзеў.

— Вывучаеце?

— Проста гляджу. Чаму такі доўгі будынак?

— Прыбудоўвалі. Бачыце, той, левы, канец прыбудавалі. І прыбудоўка большая, чым сам будынак. Атрымалася, як добры дварняга на выжлячых ножках.

— І я гляджу: няма прапорцыі.

— Не я рабіў. Да мяне рабілі. Даўно ўжо. Я толькі перакрыў. Два гады назад. Можна было, канечне, новы корпус асобна пабудаваць. А стары стаяў бы асобна. У іх быў бы розны век, розныя стылі.

— Дык чаму не зрабілі так?

— Тут, брат, дзіва ды надзіва. Пабудаваць новае нельга, а прыбудоўваць — хоць да Масквы цягні. Праўда, дзіўна, а? Тыя самыя грошы, той самы матэрыял, а нельга. Чаму так?

Блізнюк паціснуў плячыма:

— Не сустракаўся я з такімі з'явамі.

— А нам даводзіцца. Бачыце, што выйшла: новую будыніну падганялі над старую. Класы прасторныя, займацца можна. Але навошта маладой дзяўчыне апранаць вопратку бабулькі? Маскарад? Ад каго і чаго хавацца?

Блізнюку не час было займацца філасофіяй, ён прыехаў у школу па справе, пагутарыць толькі па аднаму пытанню з дырэктарам, а не наогул, і ён сказаў аб гэтым яму.

— Добра, будзем гаварыць. Толькі я пакажу вам сваю гаспадарку. А, між іншым, куды вам спяшацца, Сцяпан Ягоравіч! Бульбу выкапалі? Выкапалі. Не замарозіў мароз? Не замарозіў. Трыццаць гектараў школа вам выкапала. Таму, лічу, ад нас не павінны адварочвацца. Прыехалі — паглядзіце, пасядзіце.

І Лізура пачаў паказваць Блізнюку тое, што зроблена ім пасля старых дырэктараў.

— Гляньце: добра? Добра.

Яны стаялі перад вялікім мураваным абеліскам воінам, якія вучыліся калісьці ў Ягадскай школе. Іх прозвішчы былі на абеліску.

— Прыгожа і добра,— згадзіўся Блізнюк.

— А выхаваўчае значэнне? — глядзеў у твар Блізнюку Лізура.

— Зразумела. Іначай бы вы яго не рабілі.

— Вывеску змяніў. Была такая...

Блізнюк чытаў з залатымі літарамі на шкле шыльду школы.

— Перакрыў, перафарбаваў, грубкі пераклаў, падлогу пераслажыў.

Тады паказаў пуню, у якой стаяў конь і ў загарадцы побач з ім — дзве свінні.

— Пахаладнее — заб'ём. Дзяцей кормім. Кожны вучань на чацвёртым перапынку атрымлівае абед. Танны — капейкі каштуе. Повара трымаем. Кулінарную школу канчала. Смачна гатуе. Можаце паабедаць у нас.

Адчыніў дзверы дашчанай будыніны, у якой былі дровы.

— Я пабудаваў. Раней моклі пад даждом. Што гэта было за паліва?

Паказаў Лізура Блізнюку таксама гараж для машыны, фізкультурную пляцоўку з усімі яе прыладамі, тры цяпліцы пад белай плёнкай, сапраўдныя цяпліцы, зробленыя па ўсіх правілах, як у спецыялізаваных гаспадарках. Блізнюку яны спадабаліся, ён нават хмыкнуў зайздросна, не грэх бы мець у калгасе такія.

Пасля агледзін панадворка Лізура павёў Блізнюка ў свой кабінет для размовы, дзеля якой Блізнюк прыехаў.

Кабінет быў маленькі, на дзіва маленькі, баковачка, не кабінет. Параўноўваць з вялізным кабінетам Блізнюка нельга было нават прыблізна, як ніхто ніколі не параўноўвае ката з канём або вераб'я з пеўнем.

І ў кабінеце не было нічога такога, што кідалася б у вочы. Пісьмовы стол на тумбах, кніжная шафа, нізенькая, зашклёная, тэлефон на стале, невялічкі сейф.

Лізура распрануўся, павесіў на вешалку-стаяк паліто і капялюш. Блізнюк не распранаўся, сказаўшы, што расседжвацца не мае намеру, толькі зняў сваю чорную драпавую кепку і павесіў на тупы шпянёк побач з Лізуравым капелюшом.

Лізура паставіў яму крэсла, а сам сеў за стол на сваё дырэктарскае месца.

Лізура быў чарнявы, з жывымі чорнымі вачыма, якія, як здалося Блізнюку, рабілі шмат лішніх рухаў. Скура на яго твары была смуглявая, чыстая, ніякай прыкметы таго, што на ёй могуць расці барада або вусы — так чыста была паголена. Падбародак адвісаў.

Праўда, не вельмі, але бясспрэчна, што было ў ім нешта лішняе.

Блізнюк, маючы прывычку адразу гаварыць, чаго ён хоча, і на гэты раз выкладыў свае меркаванні ці просьбу, не чакаючы, пакуль Лізура скажа: «Як? Што? Я вас слухаю».

— Мы складалі ў калгасе план падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Ну, і далей трошкі глянулі, што ў нас ёсць і чаго не хапае. Ведаеце, у што мы ўпромся? У трактарыстаў. А трактарысты цяпер, як вядома,— гэта ўсё: і хлеб, і малако, і мяса, і сала, і, калі хочаце, нашы з вамі касцюмы. А? Чаму б вам, школе, не рыхтаваць трактарыстаў? Пытанне, так сказаць, не асабіста маёй ці вашай рэпутацыі, а дзяржаўнай важнасці.

Блізнюк глядзеў на Лізуру, імкнучыся сустрэцца з ім поглядам.

Лізура глянуў Блізнюку ў вочы, але на вельмі кароткі момант.

Блізнюк паспеў толькі заўважыць, што вочы ў яго колеру крэменя з пучкамі праменьчыкаў у зрэнках.

Спачатку ён узяў чысты ліст паперы, якая ляжала на стале невялікім стосікам, і пачаў вадзіць па ёй шарыкавай ручкай абы-якія лініі.

— Ведаеце, з трактарыстамі не так проста, як на першы погляд здаецца. Быў час, калі наша школа рыхтавала шафёраў трэцяга класа і швачак. Потым прафесійнае навучанне ў школах — я маю на ўвазе старэйшыя класы — знялі. Мы

ўзялі для хлопчыкаў практыкум на аўтамашыне. Дзяўчынкі зноў шылі. А зараз арганізаваны на ўвесь раён у Беражках вучэбна-вытворчы камбінат, і нашы старшакласнікі раз у тыдзень ездзяць туды.

— Якія спецыяльнасці дае гэты камбінат?

— У парадку прафарыентацыі там ёсць такія спецыяльнасці: швачкі, медсёстры, сакратары-машыністкі, токары па металу, шафёры, спецыялісты сельгасмашын...

Блізнюк падпёр далонню бараду, аблакаціўшыся на стол, падумаў і ўздыхнуў:

— Раз у тыдзень возім дзяцей у Беражкі, каб паказаць ім сельгасмашыны. У нас што, сваіх няма?

Лізура ўсміхнуўся, паказаўшы дробныя белыя зубы.

— Сцяпан Ягоравіч, не ўсе едуць глядзець, як вы кажаце. У дзяўчынак — свае спецыяльнасці.

— Якія? — перабіў Лізуру Блізнюк.

— Зараз скажу.— Лізура дастаў з шуфлядкі стала тоўсты сшытак і разгарнуў яго.— Скажу. Усіх дзяўчынак з дзевятых і дзесятых класаў 70. Такія, значыць, спецыяльнасці, як медсёстры і сакратары-машыністкі, лімітаваныя. Нам далі пяць тых і тых. Астатнія — швачкі.

— Швачкі. Дык вы ж і дома іх рыхтавалі. Цікава. Даяркі, свінаркі нам не трэба. Агародніцы — таксама... А хлопцы? Што там запісана ў вас?

— Запісана,— адняў Лізура палец ад паперы.— Усіх таксама 70. Токары — 40, шафёры — 30, спецыялістаў па сельгасмашынах — нуль.

— Пачакайце.— Блізнюк дастаў з бакавой кішэні блакнот.— Запішам. Сельгасмашыны няма каму вывучаць. Трактарыстаў завязём з-за мяжы... Вы згодны са мной? — Блізнюк паклаў блакнот назад у кішэню і дапытліва глядзеў на Лізуру.

— Не наша воля, Сцяпан Ягоравіч. Ды калі сказаць праўду, дык гэта яшчэ не спецыяльнасці.

Проста, як я ўжо сказаў, прафесіянальная арыентацыя.

Блізнюк нейкі час маўчаў, потым узрушана сказаў:

— Добрая арыентацыя! Вы арыентуеце сваіх вучняў, таварыш дырэктар, не на сельскую гаспадарку. Была ў вас вучнёўская вытворчая брыгада? Што вашы вучні робяць летам?

Лізура хаваў свае вочы ад Блізнюка. Міргне туды-сюды, а каб адкрыць іх Блізнюку, дык не — нібы нечага саромеўся.

— Правільна, не было вытворчай брыгады.

— А чаму? Бо арыентавалі дзяцей не туды, куды трэба было. Мне цяпер ясна. Не на сельскую гаспадарку, не на зямлю арыентавалі, а на нешта іншае... Напішу я на вас, таварыш дырэктар. Далей так нельга. Хто ж, урэшце, нас з вамі будзе хлебам карміць? Сельгасмашыны — нуль... Гэта нумар!

— Калі ласка. Пісаць у нас нікому не забаронена. Наадварот, некаторыя віды пісання нават заахвочваюцца. З цягам часу прэмію можаце атрымаць...— І Лізура заўсміхаўся, падкрэсліваючы гэтым, што ён жартуе і няма чаго крыўдзіцца ад гэтых яго слоў.

— Прэмію за добрую работу школы я пакідаю вам,— у адказ яму заўсміхаўся Блізнюк,— а напісаць напішу, каб вы не баяліся крышку бліжэй пасунуцца да жыцця і не выдавалі нікому не патрэбную бутафорыю за ўзор работы па выхаванню...

— Так, я ведаю, што ў законе аб школе напісана. Яна павінна рыхтаваць моладзь для працы, для жыцця. Але слова «жыццё» нельга разумець вузка, як...— Лізура запнуўся.

— Хочаце сказаць, як я? Так я вас зразумеў?

— Калі ясна, каментарыяў не даюць. Навошта? — Лізура зноў пачаў вадзіць шарыкавай ручкай па белай паперы.

— Калі гуляць у цацкі, якія ў вас у школе ў пашане, і лічыць гэта за працу, тады праўда на вашым баку. Як у ідэаліста Берклі.

— Ну вы, Сцяпан Ягоравіч,— Лізура адваліў-

ся на нізкую спінку крэсла і пачаў счышчаць пальцамі рук якіясь смяцінкі з рукавоў пінжака.

Ён цяпер глядзеў на Блізнюка зусім іначай, бо не чакаў, па праўдзе кажучы, такой рэзкай крытыкі ў вочы.

— Калі мы адвернем сёння сялянскіх дзяцей ад зямлі, на якой яны жывуць, ад той працы, якая іх корміць...

— Сцяпан Ягоравіч, нам зацвердзілі такі план. Пры чым тут я? Зразумейце.

Лізура палажыў правы кулак на грудзі, нізка нахіліўся над сталом і глядзеў на Блізнюка, быццам выпрошваючы ў яго даравання.

— Як ні пры чым? Колькі дзяцей у школе?

— Чатырыста адзінаццаць чалавек.

— О, чатырыста адзінаццаць чалавек вы адвярнулі ад сельскай гаспадаркі. Дзяўчынак вучыце шыць на швейных машынках. А агратэхніка? А механізацыя сельскай гаспадаркі? А саадоўніцтва? Гародніцтва? У другіх школах, напрыклад, адкуль я прыехаў, вывучаюць асновы сельскай гаспадаркі. А вы што — гарадская школа?

— Не ведаю, я такі план прыняў і не хачу яго ламаць. Склалася традыцыя. А традыцыя — гэта ўжо псіхіка.

— У вас? Не традыцыя, а інерцыя. А гэта — кансерватызм.

Лізура не чакаў такой размовы з новым старшынёй калгаса, таму праводзіў яго з свайго кабінета на вуліцу да машыны без таго настрою, з якім сустракаў.

«Не сам, яму нехта падказаў, каб я вывучаў у школе трактар і яшчэ што хочаце»,— падумаў Лізура, калі гул «казла» заціх у сутонні вуліцы.

## 8

Блізнюка ўсё непакоіў чалавек, які расказваў у магазіне пра ўраджай ячменю ў трыццаць цэнтнераў з гектара. Што за чалавек? Адкуль ён? Хто? Яй-права, вось так заўсёды бывае: вораг чалавека — паспешлівасць. «Цьфу! — плюнуў у

думках Блізнюк.— I куды спяшаўся? Дамоў. А ты прыгледзься да людзей, паслухай, пра што яны гавораць. Яны ж такі людзі і нешта на сваім вяку чулі, нешта бачылі, нешта рабілі і нешта ведаюць, чаму не грэх павучыцца любому. А ты купіў на хапок тое-сёе і пабег хутчэй дадому, балазе там жонка з сынам ёсць, быццам на іх увесь свет трымаецца. А ў іх што: няма дзяцей ці жонак, што яны стаяць у магазіне ці каля яго, аб нечым размаўляючы? Ёсць. Народ любіць гурт. У гурце чалавек выяўляе сябе і пазнае другога.

— Ты не спіш нешта,— шаптала амаль у самае вуха, лежачы каля яго ў пасцелі, жонка.

— Ведаеш...— і Блізнюк лёг на бок, павярнуўшыся тварам да яе.— Я быў у магазіне. Учора... Не, сягоння, як хадзіў хлеб купляць.

— Цішэй, а то Юрка прачнецца.

— Нічога, я ціха. Чалавека там бачыў...

I расказаў жонцы, якога чалавека, што чалавек той гаварыў.

— Ну і што? — здзівілася жонка.

— Чаму я не папытаў, адкуль ён?

— Навошта ён табе?

— Як навошта? Такі ўраджай атрымалі!

— Ты ж сам аграном. Што табе пытаць у каго?

— Мала што аграном. Дактароў шмат, а аперацыю на сэрцы не кожны зробіць.

Юрка, мусіць, усё ж такі пачуў гаворку бацькі з маткаю, хоць і гаварылі яны шэптам, нешта замармытаў і заварушыўся ў сваім дзіцячым ложку-загародцы.

— Казала, разбудзіш.

Блізнюк змоўк.

Назаўтра ўранні, разлічыўшыся ў канторы з цякучкай, сеў у «казла» і паехаў у магазін, дзе ўчора купляў хлеб.

Магазін быў пусты.

Павітаўся з прадаўшчыцай, маладой, высокай, але як бы чуць трошкі гарбаватай Галяй.

— Вам што? — ветліва ўсміхнулася яна.

— Мне нічога. Я так зайшоў.

— У проведы?

— Не. У мяне да вас будзе толькі адно невялікае пытанне.

— Давайце.

— Учора ў вас у магазіне быў чалавек.

І Блізнюк апісаў яго.

— Х-хы,— хмыкнула па-дзіцячаму шчыра Галя.— Васіль каранецкі.

— Прозвішча яго такое?

— Не прозвішча. Ён з Каранца сам. А прозвішча яго Баравік.

У магазін зайшло некалькі пажылых жанчын, і прадаўшчыца пачала рахавацца з імі, даючы каму што і беручы ад іх грошы.

У Блізнюка ўсё як быццам праяснілася. Васіль Баравік з Каранца.

У абедзенны перапынак ён пасадзіў побач з сабой Кіселя, і якіх мінут праз пятнаццаць яны былі ў Каранцы. Ехалі лесам, тады праз цэнтр суседняга саўгаса, зноў лесам, цераз масток невялічкай ракі і — Каранец.

Не вёска, а вёсачка ў лесе. Хат дзесяць, не болей.

— Дванаццаць,— удакладніў Кісель.— Тут была наша застава, разведка, сувязныя. Баравік быў адзін з іх.

Блізнюк сцішыў ход машыны, а Кісель паказаў кароткім пальцам, дзе спыніцца.

Вылезшы з машыны, Блізнюк глядзеў то ў адзін бок пасёлка, то ў другі. Хаты добрыя, пяцісценкі, з высокімі дахамі, на кожным з якіх па два каміны.

— Моцна,— сказаў ён сам сабе.

— А што там: немцы тут не былі. Жывуць людзі,— растлумачыў Кісель.

На вуліцу выйшаў гаспадар двара, насупраць якога спынілася машына. З учарашняга адзення на ім была толькі вайсковая шапка з дзябёлым стаячым аколышам. На нагах — старыя валёнкі, падшытыя кордам, на плячах вынашаная паддзёўка з пляшывым каўняром. Ён усміхаўся і ішоў з рукой да Кісяля. Тады падаў руку і Блізнюку.

— У сваты да цябе, Карнеевіч. Прымаеш? —

загарэліся вочы Кісяля. Перад ім быў свой, стары знаёмы сябар. Зрадніла іх вайна навечна.

— Прымаць прымаю, але да каго? — Баравік паглядзеў на Кісяля, тады на старшыню.

— Як да каго? — звонка перапытаў Кісель.

— Ну, дачок у мяне няма. А сыны даўно пажаніліся. Ты ж павінен ведаць, Платонавіч?

— Дык я і ведаю,— пацвердзіў Кісель.— Толькі мы не да сыноў і не да дзевак тваіх, а да цябе самога.

— Як да мяне самога, тады калі ласка,— схіліў галаву Баравік.

— Старшыня наш нешта ў цябе ўлюбіўся, вязі мяне, кажа, да яго.

Баравік глянуў на Блізнюка і смыкнуў плечуком.

— Прыбяру толькі тапор,— сказаў Баравік, калі ўвайшлі ў двор, і накіраваўся пад павець. Там стаяла калодка, на ёй ляжаў тапор, а на зямлі — недасечаны корч.

— Дроў, брат, у цябе! — дзівіўся Кісель, абводзячы вачыма вёрсты бярозавага аблетніку.

— А што: у лесе жывём, ды каб дроў не было. Я гэта во скокнуў у лес, корч прынёс. Я яго летам яшчэ прыпас. На падпалку добра.

— Са стрэльбай ці без стрэльбы ходзіш у лес?

— Калі са стрэльбай.

— Ну і?..

— Бывае.

— І ладнае?

— Як ладнае? Ластя біць нельга. І казу не можна. Дзіка таксама не б'ём. Заяц, ліса, вавёрка. Трапляецца і куніца. Летась аж дзве забіў.

— За іх добра плоцяць.

— Добра.

— А на работу ў саўгас ты ўжо не ходзіш?

— Чаму не хаджу? Хаджу. Праўда, зімой не кожны дзень. Нам, пенсіянерам, не заўсёды хапае яе, хаця б маладым даць зарабіць, а ўлетку — толькі роб.

У хаце Блізнюку спадабалася. Дзве палавіны, прасторныя, чыстыя. Фіранкі, шафы, дарожкі, фатаграфіі ў рамках пад шклом на сценах. На

покуце партрэт Леніна ў самай сучаснай аправе.

У пярэдняй палавіне гаспадар распрануў гасцей і павешаў паліто і шапкі на вешалку.

Здзеў валёнкі і ў вязаных шкарпэтках пайшоў за печ.

Госці па прыкладу гаспадара таксама паздзявалі абутак — Блізнюк цёплыя чаравікі, Кісель — боты.

Гаспадар, выйшаўшы з-за печы ў рудым галіфэ і тапках на нагах, кінуў і ім пад ногі кожнаму па хатніх тапках.

— Хадзіце сюды,— запрасіў у большую палавіну хаты. Паказаў, дзе сесці — на мяккую канапу з невысокай спінкай.

Тут ім, паспеўшы прыхахуліцца, пакланілася гаспадыня, жанчына ў гадах, поўная. Васіль сказаў ёй штосьці паціху, і яна выйшла ў пярэднюю палавіну хаты, прычыніўшы за сабой філёнку.

Пакуль мужчыны гаварылі пра тое, пра сёе, у пярэдняй палавіне засіпела, засквярлося, і пах смажаніны пранік праз шчыліны дзвярэй у вялікую палавіну.

— Я паставіў газ на кухні. Некаторыя ставяць у сенечках, але зімой нязручна: сцюдзёна за кожным разам выходзіць на холад.

— Та-а-к,— цягнуў час Кісель, абводзячы вачыма столь і сцены хаты.— Дык кажаш, у цябе адны сыны. Дзе яны?

— Адзін настаўнік, у Гарадцы гісторыю прападае, Магілёўскі інстытут кончыў. Другі — ваенны, маёр, у Хабараўску аж. Ну, а трэці — на балоце, інжынер, торф дабывае. Усе жанатыя. Улетку прыязджаюць. Гэта яны тапак мне навезлі.— Васіль глянуў на свае ногі і сеў на крэсла каля стала, так, каб тварам быць да гасцей.

— Ссяляць не будуць вас?

— Чаго нас ссяляць? Што мы кантрабандай якой тут займаемся, ці што? Працуем, і на ўсіх работах першыя. Я вам скажу, Павел Платонавіч, і вам... Не ведаю, як вас па бацьку.

— Сцяпан Ягоравіч.

— Дык вот і вам скажу, Сцяпан Ягоравіч.

Калі б наша брыгада была габарытная, нашаму брыгадзіру Героя даўно б далі. Э-э-э, у нас як лета, усе на рабоце: і старыя, і маладыя, і госці, якія да нас прыязджаюць. У нас нічога не перастаяла, не пераспела, не асыпалася, не пагніло, не зазімавала. Калі б у нас болей зямлі, нашаму брыгадзіру цаны не было б. На ўвесь раён... Што на ўвесь раён? На ўсю Беларусь грымеў бы. А так ён і зарплату няпоўную палучае. Паўстаўкі. А можа, і меней. Не ведаю. Мы зробім, а яно ўсё пойдзе ў агульны калгасны кацёл — капка ў моры.

— Таму цяпер і ссяляюць у кучу такія вёскі. Не выгадна,— развёў рукамі Кісель.

— Ва ўсіх адносінах нерэнтабельныя малыя вёскі,— нарэшце ўмяшаўся Блізнюк.

— Можа, якія і нерэнтабельныя — дзе гультаі або людзей сваіх няма, прыязджай да іх, абрабляй,— а мы рэнтабельныя. Нас не ссяляюць, я ўжо гэта добра ўведаў.

— У вас школа ёсць?

— Не.

— А магазін?

— Мы тут ходзім,— паказаў Баравік рукой, куды яны ходзяць у магазін.

— Не выгадна, не выгадна, не спорай, Карневіч. Даўней людзі ваўкамі жылі. Цяпер не тое. Людзей трэба аб'ядзіняць, згадзіся з намі, а не раз'ядноўваць,— гаварыў Кісель.

Пакуль мужчыны нязломна спрачаліся, гаспадыня паспела паставіць на стол абед.

— Хадзіце,— сказала яна, адчыніўшы дзверы.

Пасадзіўшы Блізнюка і Кісяля за сталом побач, ад сцяны, Баравік сеў насупраць, на крэсле.

— Сваёй няма? — паказаў Кісель пальцам на бутэльку, якая стаяла на стале, элегантная, наскрозь празрыстая.

— А гэта чыя? Чужая? На нашым стале — значыць наша,— пажартаваў Баравік.

— Я маю на ўвазе саматужную. А гэта ж, бачу, казённая.

— Не робім, не. Даўно не робім. Самі мы яе

з бабай,— гаспадар глянуў на жонку, якая сядзела на зэдліку насупраць печы,— не п'ём. А калі хто трапіцца, у мяне гэтай пляшка знойдзецца. На яе глянуць падабней. І госць не будзе прынюхвацца ды думаць: «Чорт яго ведае, што ён мне тут паставіў?»

А наліўшы чаркі, жонку да стала паклікаў:

— Ідзі сабе паспытай, Марына.

Гаспадыня дакранулася па чарзе да ўсіх трох чарак сваёй чаркай, адпіла глыток са сваёй. Мужчыны пачалі закусваць, паляпваючы відэльцамі аб посуд, а яна вярнулася да печы, нешта ўклала сабе ў рот і села на зэдлік. Так, вельмі стары звычай: гаспадыня не павінна садзіцца за стол, калі ў гаспадара госці і ён іх частуе.

За абедам Баравік зноў вярнуўся да гаворкі пра ссяленне малых вёсак у кучу, да вялікіх.

— Я б нікога не ссяляў. Не чапаў бы нікога. Дзе хто жыве, хай і дажывае.

— Як дажывае? Акінуць людзей? Як яны і не людзі? Ведаеш, чаму Сталыпін на хутары народ разганяў?

— Пра хутары я не гавару.

— Як? Тое самае.

— Не тое самае. Хутар — гэта аднаасобнік. Тут — кагал. Забылі, як у вайну жылі і карміліся партызаны ў малых глухіх вёсках? У вялікіх ён паставіў гарнізоны.

— Вайны больш не будзе.

— Мы хочам, каб яе больш не было. А як будзе? Калі пойдзе дождж, і прыйдзе да чалавека смерць, і пачнецца вайна — ніхто не ведае.

— Цяпер ведаюць. Усё ведаюць: і калі пойдзе дождж, і калі чалавек памрэ — добры доктар скажа, і...

— Няпраўда. Я гэтаму ані не веру. Ні прагнозам пагоды, ні дактарам.

— Дарэмна.

— Ну, я ўжо такі памру.

— Бывае, што і памыляюцца. Часта,— заўважыў Блізнюк.

Баравік перастаў есці, махнуў адной рукой, тады другой, як бы чаруючы перад Кісялём.

— Вось прыклад. Мае хлопцы вучоныя. Я часта іх кніжкі чытаў. Як Напалеон перайшоў рускую граніцу? Цар Аляксандр ні д'ябла не ведаў. У Талстога дакладна, во так во,— Баравік павадзіў туды-сюды перад сабой рукой,— апісана. Так я кажу? — Ён уважліва глядзеў у вочы Блізнюку, чакаючы адказу, і Блізнюк не мог не адказаць. Усяго рамана «Вайна і мір» Блізнюк не чытаў, але як Напалеон крывіў у сваіх пісьмах перад Аляксандрам душой, называючы яго братам, і як перайшоў рускую граніцу, памятае, і так памятае — як бачыць перад сабой.

— Так, так. Правільна гаворыце,— пацвердзіў Блізнюк і нават некалькі разоў кіўнуў Баравіку галавой, каб Кісель бачыў, што ён, Блізнюк, згодзен з Баравіком.

— І будавацца ў вялікіх вёсках не гэтак трэба, як будуюцца. Што ў вашай Ягадцы? Па адной дарозе хаты пайшлі. Па другой пайшлі. Там павярнулі, а там скрывіліся. Адну назвалі Качаргой, другую — Прылёпаўкай. А? — Баравік глядзеў на Кісяля.— Ты сплануй месца. Ды пабудуй адзін дом, як у горадзе, кватэр на сто. А тады другі на сто. Не? Так. Вада ў хаце. Паліву эканомія. Я адзін за год колькі лесу спалю. А чаму? Якія нашы печы? Усё ў комін ідзе, неба грэем. Тры, чатыры хаты — Ягадка ваша ўлезла. А то ссяляюць: труху возяць з месца на месца. Працы — па горла, а карысці — слёзы.

Кісель думаў.

— Будзе час, а пакуль што, мусіць, рана. Грошы вялікія трэба,— і Кісель узрадавана глянуў на Баравіка, задаволены тым, што знайшоў тлумачэнне таму, чаму рана.

Гаспадыня паставіла на стол фарфоравыя кублі, чайнік з чаем, палажыўшы наперад дошчачку з ручкай, каб не пасупілася цырата, і талерку мёду ў сотах.

## 9

Блізнюк, Кісель і Баравік ехалі на поле глядзець тое месца, дзе парос добры ячмень — трыццаць цэнтнераў з гектара.

— Можа, стрэльбу возьмем? — сказаў Кісель Баравіку, апранаючы сваё чорнае, ужо вынашашае асенняе паліто і шапку-вушанку. Ён глянуў на Баравіка, як глядзяць дзеці на старэйшых, і Баравік зразумеў, што той хоча пастраляць.

— Добра, вазьму,— усміхнуўся Баравік, ужо апрануты ў паддзёўку, у якой сустракаў Кісяля з Блізнюком, і пайшоў за печ, дзе была яго стрэльба і паляўнічая сумка.

— О-о, брат! Бескуркоўка,— зайздросна глядзеў на двухстволку Кісель.

Гэтае «о-о», бескуркоўка ці з куркамі да Блізнюка не даходзіла. Ён не займаўся ні паляваннем, ні рыбацтвам, ніколі нават не думаў пра падобны занятак і лічыў яго прыкметай ужо немаладых гадоў у чалавеку або чыста экзатычным дзівацтвам. Але ён ніколі не чапаў людзей з двухстволкамі, не выказваў ім сваіх думак пра іх занятак, як не чапаюць дзяцей, калі яны займаюцца сваімі гульнямі.

— Даўно я страляў, Карнеевіч, яй-права,— ласа глядзеў Кісель то на стрэльбу, то ў вочы яе гаспадару, смыкаючы, як хлапчук, угору то адным плечуком, то другім, закладаючы ўказальны палец за шалік на шыі, нібы шалік давіў яго.

— Чаму? Купіў бы стрэльбу і хадзіў сабе ў лес. Грошай няма?

— Эт, купіў... Купіць можна. Чаму б не купіў. Тут дзела, Карнеевіч, не ў грашах. Калі на паляванне хадзіць? Як вавёрка ў калясе. Работа такая.

— У вас у аднаго работа? Усе робяць. Мой адзін — настаўнік, і то стрэльбу мае і ў лес ходзіць. А выхадныя дні? Святы?

— Выхадныя мае не ладам. Як у мяне выхадны — у жонкі рабочы. Атрымліваецца, быццам я і без выхаднога.

— Ахвоты ў вас да лесу, Платонавіч, няма, дык вы абы-што збіраеце.

— Гультай заўсёды апраўдаецца,— засмяяўся Блізнюк. Але так, каб Кісель зразумеў, што ён жартуе.

— І я кажу,— Баравік ускінуў стрэльбу на плячо.

Баравік сеў побач з Блізнюком і паказваў, куды ехаць.

Машына ціха і плаўна пакацілася па мёрзлай зямлі, па грудзе, там-сям валюхаючыся або пераплываючы цераз перашкоды, і было падобна, нібы нехта асцярожна нясе яе.

— Самі ўжо ездзіце? — папытаў Баравік, адчуваючы, як паслухмяна ідзе машына.

Блізнюк кіўнуў галавой.

— А Цапок дзе?

— На бензавозе,— адказаў ён, не спускаючы вачэй з дарогі.

Ехаць доўга не прыйшлося. Каранецкае поле, добрым часам гаворачы, з рукаўку. Упёрліся ў сцяну лесу і сталі. Павылазілі з машыны.

— Во тут быў той ячмень,— паказаў рукой Баравік праз лес.

— Жыта пасеялі,— канстатаваў Блізнюк.

— Жыта,— пацвердзіў Баравік.

Рунь мёрзлымі жвалкамі ляжала на збялелай ад марозу зямлі. Добрае будзе жыта ці не, цяпер, бадай, і не скажаш, хаця ўсходы былі неблагія.

Адсюль, ад лесу, Блізнюк глядзеў на ўсё поле —якое яно? Ёсць перакаты, узгоркі ці няма? Роўнае. Як далонь. Няма ні ўзгоркаў, ні перакатаў. Гэта — зямля.

Рэчка, якая цякла праз самую вёску, не ўтварала ўпадзіны, не падмываючы і не бурачы берагоў.

А лес? Правільна, тут і павінен быць такі лес: пераважна чарналессе, па якому былі раскіданы сосны і елкі. Уся зямля тут неблагая.

— Як? — спытаў Блізнюк у Кісяля, кіўнуўшы на поле.

— Я вам скажу, зямля тут не з горшых.

— Пробу ўзяць...— сказаў як бы сам сабе Блізнюк.

— Узяць можна. Але навошта яна нам? Мы ж тут сеяць не будзем.— Кісель глядзеў Блізнюку ў вочы, імкнучыся ўгадаць яго настрой і ў нейкай ступені перадаць яму свой.— Ураджай у трыц-

цаць цэнтнераў, тым больш на асобнай дзялянцы, цяпер ні тэарэтычна, ні практычна не навіна.

— Та-а-к, ясна,— згадзіўся Блізнюк, паправіўшы кепку.— Але ўсё-такі вопыт.

— І вопыту цяпер не купіць. Мала мы яго на семінарах бачым?

Кісель быццам меў рацыю, і Блізнюк не пярэчыў яму.

— Хаця б у тым самым «Ленінцы», у Гвідона Іванавіча, дзе на круг атрымалі па дваццаць восем. А? — працягваў Кісель.— Вялікі груз. Каб падняць, сіла адпаведная трэба, Сцяпан Ягоравіч.

«Дзе ж тая сіла? Тэхнікі не хапае. Людзей,— думаў Блізнюк.— Можа, падымем не на поўную сілу?..»

— Давай, Карнеевіч, паспрабуем стрэліць,— звярнуўся Кісель да Баравіка, працягнуўшы руку, каб узяць у яго стрэльбу.— Не крывы ствол? — жартаваў ён.— Пайшлі, Ягоравіч. Паглядзім, хто ў нас лепшы снайпер,— і накіраваўся ў лес, каля якога стаялі.

Пакуль Кісель выбіраў, адкуль і ў якую цэль страляць, падышлі Блізнюк з Баравіком.

— Вунь у тую сасну побач з сухім сукам,— паказаў ён пальцам.— А чым, шротам? Куляй? — глядзеў Кісель на гаспадара стрэльбы.

Баравік паляпаў далонню па брызентавай сумцы:

— Што табе даваць, шрот ці кулю?

— Мусіць, кулю. Шрот рассеецца, і не ўбачыш, папаў ці не папаў.

— А кучнасць? Відаць, калі ў цэнтр пападзеш.

— Добра, давай шрот, калі кулю шкадуеш. Куля хай будзе табе на дзіка.

— Так ужо і на дзіка. На́ кулю, калі думаеш, што шкадую. Толькі не пападзеш. Шраціна хоць адна папала б. А куляй не пападзеш. На!

Некалькі разоў прыцэльваўся — зноў апускаў стрэльбу.

— А звер бы чакаў, пакуль ты прыцэлішся,— смяяўся Баравік.

— Тут жа не паляванне. Стральба [illegible] касць.

— Добра, мецць, мецць, куды сказаў. Я [illegible]омніў той сук. Побач з імі павінен уляпіць,— жартам працягваў сваю гаворку Баравік.

І калі Кісель бабахнуў, вопрамеццю вырваўся недзе адсюль, з-пад носа, заяц шарак і памчаўся, віляючы белым хвосцікам, на чыстае поле. Ясна, пажыраваўшы на руні, ён спакойна адпачываў на ўзлессі. Што тут хадзілі, гаварылі — для зайца не навіна. У падобных выпадках ён не выдае сябе, хоць чуе гаворку і нават бачыць сваіх патэнцыяльных ворагаў.

— Ну што: забіў? Я казаў, што не пападзеш,— зарагатаў Баравік.

— Нячыстая сіла,— дзівіўся Кісель.— Каб веданне, што ён тут, я ж бы ў яго страляў.

— Куляй?

— А што там. Прарэзаў бы наскрозь.

— Так і прарэзаў бы. Пабачым, як ты сасну прарэзаў.— І Баравік накіраваўся да дрэва, у якое страляў Кісель.

— Пастой, дзе ж заяц? — Кісель выскачыў са стрэльбай на ўскраек лесу, адкуль добра было відаць усё поле.

— Солі на хвост уссып.

— А?

— Кажу, солі на хвост уссып,— крычаў Кісялю Баравік.

Нарэшце падышлі да Баравіка Кісель з Блізнюком.

— Ну, што: папаў? Сасна ж не бегла, на месцы стаяла, а ў зайца ж трэба на бягу папасці. Э-эх, Платонавіч! Я думаў, ты хоць трохі страляеш...

— Слухай,— крануў за плячо Кісель Баравіка,— а я спачатку падумаў быў, што ты мне халасты патрон даў.

— Ну-у-у, халасты! — павёў угору тварам Баравік, аж добра выпнуўся на шыі яго вялікі кадык.— Махляваць буду? Навошта мне?

— Ваш брат маніць любіць.

— Гы, наш брат. З нашым братам усякае зда-

раецца, а вы на печы лежыцё і думаеце, што вам маняць.

— Маняць, брат. Ой, як маняць,— не сказаў, а нібы праспяваў Кісель і адвярнуў твар убок.

— Страляйце,— сказаў Баравік Блізнюку.

З таго самага месца і ў тую самую сасну, як Кісель, цэліўся Блізнюк.

Але ён цэліўся не доўга. Прылажыў стрэльбу да пляча, злавіў вокам мушку і адразу націснуў на спускавы кручок.

— Ёсць, ёсць. Не дрэнна,— гаварыў Баравік, калі ўсе ўтрох стаялі ўжо каля сасны.

— Трошкі ўлева пацягнула, як і мяне. Левакі мы з табой, Сцёпа, а?

— Ён папаў, а ты не папаў. Чаго ж ты падстрайваешся?

— Мала што: вока маладзейшае, вастрэйшае. Гады, брат...

— Стары мне знайшоўся. Колькі табе?

— За Ягоравіча дык разы ў два старэйшы. Пяцьдзесят два гады мне.

— А мне семдзесят два. Без акуляраў чытаю і... глядзі, як уляплю.

Баравік у момант заклаў у стрэльбу патрон, здаецца, не данёсшы прыклад да пляча, бабахнуў і папаў у самы сук дрэва, крыху правей за Блізнюкову прабоіну.

— Добрая рэакцыя,— не мог не захапіцца дакладнасцю стрэлу Блізнюк.

— Якая рэакцыя, Ягоравіч? Іх род пракавечны. Яго бацька паляўнічы, сто сем гадоў жыў. Так, Карнеевіч?

— Жыў бацька,— не без гонару пацвердзіў Баравік.

— Мне пяцьдзесят два, а галава голая, як калена. А ён? — кіўнуў на Кісяля.— Чупрына, як у цыгана.

Так, праўда: з выгляду Баравіка можна было прыняць за чалавека гадоў сарака пяці. І постаць у яго была не старэчая, і скура на твары, асабліва калі паголіцца, кроў з малаком.

Калі ехалі дамоў, на дварэ сутонілася, і хутка Блізнюк вымушан быў уключыць фары машыны.

— Якім жа насеннем яны сеялі? — гаварыў ён Кісялю, які сеў з ім побач пасля таго, як высадзілі ў Каранцы Баравіка.

— Насеннем? Ведаю. «Рубін».

— «Рубін»? — пачаў думаць Блізнюк, ці ведае ён што-небудзь пра гэтае насенне.

Сказаць ці не сказаць Кісялю, што нічога не ведае?

— Дзе яны яго ўзялі?

— Э-э, тут, брат...— Кісель махнуў рукой.— Мы яго там не возьмем.

— Чаму не возьмем?

— Пад Мінскам ёсць гаспадарка Інстытута селекцыі. А дырэктарам гэтага інстытута працуе родны брат Валовіка, во іх,— Кісель выцягнуў уперад бараду,— дырэктара. Брат не дасць брату?

— Родны брат Валовіка?

Блізнюк матнуў машыну ўбок, аб'язджаючы нейкі корч, якога ўдзень, здаецца, тут і не было.

— Валовікаў брат. Кандыдат нашых з вамі навук. Таксама Валовік. Гатунак толькі што вывелі. Яшчэ, можна сказаць, не апрабіраваны ў масавай сяўбе.

Праехалі цэнтр суседняга саўгаса, выехалі на дарогу, якая вяла ў свой калгас, моўчкі. Дарога тут таксама была праз лес, але прамая, як нацягнутая струна, і шырокая. Лёгка было размінацца з сустрэчнымі.

Кісель ужо не паехаў у кантору — чаго? Ноч,— і Блізнюк высадзіў яго на плошчы.

Паставіўшы «казла» ў гараж, Блізнюк рашыў усё ж зайсці ў кантору, хоць работнікаў там, можа, і не было ўжо.

Так, не было. Падмятала падлогу, сцірала мокрай анучай сталы і пот на шыбах тэхнічка Вольга Бараноўская, жанчына ўжо немаладая, але стараная, акуратная.

Блізнюк зайшоў у свой кабінет, сеў не распранаючыся на сваё з цыратавым сядзеннем крэсла і пачаў як бы ўсведамляць, дзе ён зараз быў і якая карысць з таго.

І рука яго сама сабой пацягнулася да тэлефоннай кніжкі.

Ён гартаў яе, шукаючы рубрыку «Саўгасы» — Баравіцу. Саўгас, праз цэнтр якога ён толькі што зараз праехаў. Набраў нумар, і — адразу ж:

— Валовік слухае.

— Калега?

— А вы хто?

— Блізнюк, сусед ваш.

— Добры сусед, кажуць, раднейшы за роднага брата.

— А мы зараз праверым,— узрадаваўся Блізнюк, што ў галаве мільганула нейкая цудоўная думка.

— На чым? Можа, я папаўся? Вот словы! Хужэй за сліну. Сліну, калі пусціў, можна выцерці, а словы?

— Правільна, ні рукой, ні насоўкай — нічым не вытраш. Даў слова — стрымай.

— Я, мусіць, не даваў яшчэ вам слова?

— Якога?

— Ніякага.

— А што сусед раднейшы за брата?

— Э-э-э, памілуйце: гэта калі добры сусед.

— Лічыце мяне добрым суседам. Будзем добрымі суседзямі. Я сягоння ездзіў па тэрыторыі вашага саўгаса і нюхаў сляды, дзе рос ваш «рубін». Што вы мне адкажаце на гэта?

— Што адкажу? Ездзіце сабе на здароўе. Толькі зайцоў на жыце маім машыны не страляйце. Вы ў Каранцы былі?

— У Каранцы. З аграномам сваім Кісялём.

— Дарэмна.

— Чаму?

— Ехалі б прама да мяне.

— І толк быў бы?

— А чаму? Дам. Я маю, можна сказаць, дзяржаўнае заданне: апрабіраваць гатунак у сваёй і ў суседніх гаспадарках.

— Ой...— Блізнюк не ведаў ініцыялаў Валовіка, і было хоць за руку сябе ўкусі.

— Чаго вы там ойкаеце? Не ўшчыкнуў хто за бок?

— Гэта я не ведаю, як аддзякаваць.

— Навошта? Вы ж не жабрак. Я — вам, вы —

мне. Чаго не бывае ў суседстве! Ды і абавязак наш: калі што добрае — падзяліся.

Пасля тэлефоннай размовы з Валовікам Блізнюк доўга яшчэ сядзеў за сталом у сваім кабінеце. Спачатку нешта сам сабе думаў, асэнсоўваючы дзень і яго фінал. Ды і мінулую ноч, і мінулы дзень з чаго, прынамсі, усё і пачалося. Потым душа супакоілася, як супакойваецца і пачынае засынаць дзіця, якога чамусьці было не ўкалыхаць. Як патрэбен дзіцяці сон, так патрэбен на нейкі час душы спакой.

Блізнюк выключыў святло, замкнуў кабінет і пайшоў дамоў, дзе яго чакалі ўжо, канечне, жонка і сын Юрка.

Ва ўсіх вокнах вялікай вёскі гарэла электрычнае святло, на вуліцах на слупах — таксама.

У небе мігалі зоркі. Поле абступаў чорнай сцяной лес, ціхі, у прадчуванні зімы.

## 10

Уночы выпаў снег. Не вельмі вялікі. За дзень машыны так прытапталі яго, што дарогі і вуліцы зноў зрабіліся чорныя.

Блізнюк ішоў у клуб на канферэнцыю чытачоў і слухаў, як пад падэшвамі чаравікаў ледзь чутна парыпваў снег. Трошкі браў мароз за кончыкі вушэй.

У клубе ўжо сабралася шмат людзей. Сесці не было дзе.

Ён спыніўся ля ўвахода і паглядзеў на сцэну. Там быў стол, засланы чырвоным настольнікам, на стале — графін з вадой. Лявей стала стаяла вузенькая тумбачка-кафедра, з-за якой будуць выступаць аратары.

— Сцяпан Ягоравіч, хадземце наперад, там для вас месца ёсць,— стала перад ім і загаварыла Наталля Мартынаўна, жонка Кісяля, арганізатарка вечара.

Блізнюк пайшоў між радоў за Наталляй Мартынаўнай, не спадзеючыся на якое-небудзь іншае месца.

У першым радзе сядзелі побач Кісель і Баро-

дзіч. Нехта ўстаў, яны рассунуліся і вызвалілі Блізнюку паміж сабой месца.

З Кісялём бачыўся на рабоце. Бародзічу падаў руку.

— Ведаеце, цесна ў нас. Клуб малы, дык, калі які вечар ці кіно, людзі за гадзіну раней бягуць, каб заняць месца,— гаварыў Кісель, дыхаючы ў самы твар Блізнюку.

Блізнюк і сам бачыў, што цесны клуб. І столь занадта ж нізенькая, не падобна было, што гэта клуб. І калідорчык з увахода — дашчаныя малыя сенечкі, у якіх размінуцца цяжка.

— Чаму не пабудавалі большы? — сказаў Кісялю Блізнюк, абводзячы вачыма сцэну, невялічкую, без куліс.

— Чаму не пабудавалі? Хай скажа Ігнат Барысавіч, чаму не пабудаваў. Ён тут пракавечным начальнікам быў,— усміхнуўся Кісель, пазіраючы на Бародзіча.

— Сцяпан Ягоравіч, можа, распрануцца хочаце? — запытала Наталля Мартынаўна.— Давайце ваша паліто.

І паліто і кепку Блізнюкову яна панесла цераз сцэну ў баковачку.

«А-а-а,— падумаў Блізнюк,— там у іх і закулісная, і раздзявалка».

Толькі зараз ён убачыў, што і Кісель, і Бародзіч сядзелі ў пінжаках, у белых манішках, у гальштуках і — з ордэнамі і медалямі на грудзях.

— Чаму не пабудаваў, кажаш? — адказаў Бародзіч Кісялю.— Ведаў, што прыйдуць маладыя і, калі захочуць, пабудуюць. Мне ўжо нашто клуб? Я ўжо ў яго не хаджу. Будуйце. Што вы, зломкі? Самая сіла,— жартаваў Ігнат Барысавіч.

— Хто, я — сіла?

— Не ты, дык Блізнюк. У жыцці раз будуюцца. Збудуе чалавек хату і зжыве ў ёй век. Сыны сваю будуюць. Правільна, гэты клуб я збудаваў. А вы цяпер — свой.

— Я, Ігнат Барысавіч?

— А што там ты. І ты яшчэ пацягнуць можаш, калі табе, як таму наравістаму каню, добра, дзе трэба, пугай памацаць.

Усе ўтрох засмяяліся.

У гэты час спыніўся калі іх і загаварыў дырэктар школы Лізура.

— Што, таварышы начальства? Пачынаць трэба. Пара,— ён глянуў на гадзіннік,— і народу поўна.

— Во, зразу відаць, што добры арганізатар. Не паспеў прыйсці — пачынайце. А мы сядзім, як грыбы, чакаем. Мяне і за плечы пачынае нешта браць ад седні,— жартаўліва сказаў Барадзіч.

— Не па майму адрасу, Антон Антонавіч, не туды. Наш час — нашы грошы. Навошта іх кідаць на вецер? Пачынаем, Наталля Мартынаўна, пачынаем,— гаварыў ён ужо арганізатарцы вечара, якая, здавалася, толькі і чакала дырэктара школы і тут жа, заўважыўшы яго, вырасла перад ім.

Лізура падняўся на сцэну і пайшоў цераз яе, у капелюшы, у паліто, у баковачку, каб распрануцца.

Наталля Мартынаўна адкрыла вечар і пасадзіла за стол запрошаных у прэзідыум.

З уступным словам аб кніжцы выступіў выкладчык літаратуры Буры Васіль Іванавіч.

У клубе адразу зрабілася ціха.

Васіль Іванавіч меў цудоўную якасць: хоць і не хочаш, а будзеш слухаць яго.

З ахвотай слухаў Васіля Іванавіча і Блізнюк, чалавек новы.

Блізнюк пачаў углядацца ў яго. Ніякай паперкі на кафедры. Васіль Іванавіч палажыў на яе складзеныя рукі, а пагляд яго быў скіраваны на людзей, здавалася, на самыя далёкія рады. Твар быў немалады, з маршчынамі, але досыць прыемны, як бы асветлены ўнутранай усмешкай.

Усё ў чалавеку было простае і натуральнае, нічога не кідалася ў вочы. Шэранькі касцюм, амаль шэры гальштук. Русыя валасы былі трошкі нібы пакамечаныя, відаць, не слухалі расчоскі, але і не адпушчаныя, каб закрывалі вушы і шыю.

«Літаратуру ён адмыслова ведае. І, відаць, любіць»,— заключыў Блізнюк, калі Буры сеў на сваё месца за сталом.

— Ваш настаўнік? — загаварыў Блізнюк з Лізурам, пакуль не далі слова новаму аратару.
— Ага,— матнуў галавой Лізура.
— Добры выкладчык?
— Ну-у-у! Такі ўжо стаж у яго.
— Толькі стаж? Не. Другому стаж як свінні сядло. Здольны. Я б сказаў, таленавіты выкладчык.
— Завучам быў.
— Падыходзіць. А чаму цяпер не завуч?
— Не захацеў.
— Не верыцца. Актыўны такі.
— Актыўны.
— Я мяркую па выступленню. Так мне, ва ўсякім разе, здаецца.
Лізура, заўважыў Блізнюк, заміргаў вачыма і пачаў глядзець на залу, нібы баючыся ў гэты час сустрэцца поглядам з Блізнюком.
Наталля Мартынаўна дала слова аднаму з вучняў дзесятага класа. Потым — дзевяцікласніку.
Яны клалі перад сабой спісаныя лісткі паперы, але імкнуліся не заглядаць у іх і толькі зрэдку кідалі кароткі позірк. Праўда, спяшаліся, іншы раз блыталіся, але папраўляліся, выходзілі на патрэбную дарожку і не без гонару завяршалі бег па ёй.
Адзін з іх закончыў выступленне так:
— У кнізе таксама расказваецца пра партызанскую барацьбу з фашызмам і ў нашым раёне. Але пра гэта лепш за ўсё раскажуць жывыя сведкі і ўдзельнікі яе, нашы слаўныя партызаны таварыш Бародзіч і таварыш Кісель.
Першым выступаў Бародзіч. Ён быў скупы на словы, ды словы яго былі вельмі трапныя, клаліся ў цэль, як кулі снайпера. Ціха ён гаварыў, стрымана. Не мёд пілі партызаны, канечне. На фронце быў тыл і фронт, у партызанах — з усіх чатырох бакоў фронт. Не гаворачы пра камфорт быгавы, адсутнічаў баявы камфорт. О-о-о, калі б было ўволю зброі, патронаў, мін, узрыўчаткі!
— Цяпер не верыцца, якія цяжкія гады перажыла наша краіна і мы разам з ёю. Беражыце заваяванае — нашу Савецкую ўладу, наш савецкі

лад жыцця! — заклікаў Бародзіч, канчаючы выступленне.

Сказанае было адрасавана ў першую чаргу моладзі.

Значыць, у Ягадцы быў нямецкі гарнізон і партызаны два разы яго выбівалі? Партызаны перамаглі — гарнізона болей у Ягадцы не было, даведаўся з выступлення Бародзіча Блізнюк.

Выступленне Кіселя не надта спадабалася Блізнюку. Кісель занадта крычаў, спяшаўся, гаварыў агульна, і дабавіць да таго, што Блізнюк ведаў пра партызан, з выступлення Кісяля нічога нельга было. Ну, быў у партызанах. Ну, ваяваў у роце, у якой Бародзіч быў палітруком. Нічога свайго, нічога канкрэтнага. Ясна, Кісель не прадумаў сваё выступленне, не прапусціў яго праз душу.

І ўсё ж добра, што выступілі на канферэнцыі і Бародзіч і Кісель. Вучням гэта трэба.

Вучням... Чаму толькі вучням? Блізнюк і сам нарадзіўся пасля вайны, жахаў яе не бачыў, не шкодзіць паслухаць старога салдата.

— Вы не напісалі яшчэ?

— Што?

— У Саўмін,— гаварыў Лізура Блізнюку, калі канферэнцыя па кнізе закончылася і яны сядзелі побач у зале перад сцэнай, чакаючы мастацкай часткі вечара.

— А-а-а, у Савет Міністраў? — зразумеў Блізнюк Лізуру.— Напісаў, а як жа. Тады неяк сеў і напісаў.

— Чэснае?

— Якое ж яшчэ можа быць вам чэснае? Напісаў, кажу.

— А чаму не ў Міністэрства асветы? Адразу ў Саўмін.

— Э-э-э, навошта мне ваша міністэрства. У вас сваё міністэрства, у нас — сваё. Пачнуць чубіцца. Савет Міністраў вышэй. Ён і рашыць. Чакаю адказу.

— Я разумею вас. Міністэрства, думаеце, пусціць па сваіх каналах — аблана, райана, затармозяць, замарозяць, і пачынай спачатку.

— Канечне. Усякую скаргу трэба пісаць у самыя кампетэнтныя органы. Там не глядзяць па баках і рашаюць пытанне так, як трэба.

— Так, Сцяпан Ягоравіч, нашы інтарэсы вам...

— А яны што: разыходзяцца нашы і вашы інтарэсы?

— Выходзіць,— ляпнуў сябе даланёй па калене Лізура.

— Наадварот. Інтарэсы ў нас адны. Вы хочаце мець школу адарванай ад жыцця, ад выхавання? Чысценькай хочаце мець школу?

— Чаму? Не. Мы вучым і выхоўваем. Школ чыстай граматы ў нас няма.

— Што, гутаркі з вучнямі праводзіце, даклады ім чытаеце. Мне толькі незразумела, хто іх будзе карміць? Хто будзе працаваць за іх? Верхаглядства!

Пачаліся выступленні на сцэне. Вучні дэкламавалі вершы, паказвалі групавы танец, спявалі невялічкім хорам. Былі і спевакі-салісты. Займала не тое, з чым яны выступалі, а тое, як выступалі. Займалі дзіцячая непасрэднасць і жаданне паказаць усе свае здольнасці.

Калі адна дзяўчынка праспявала песню «Рускае поле» і, пакланіўшыся гледачам, пакінула сцэну, Лізура сказаў Блізнюку:

— Ну, гэта не выхоўвае? Любоў да поля.

— Мне якраз не падабаецца гэтая песня. Я яе ніколі не любіў.

— Што вы, Сцяпан Ягоравіч. Яе выконваюць такія артысты!

— Не мае значэння, хто яе выконвае. Занадта салодкая яна. Шмат беспадстаўнага замілавання да поля, хай хоць на ім будзе адзін пусты каласок. Сібарыцтва, разумееце. Полю трэба гаспадар, праца, добры ўраджай, а не... ну, як вам сказаць? Падроблена ўсё. Як фальшывыя грошы. Поле не так трэба любіць.

Лізура нічога не паспеў сказаць Блізнюку: на сцэне пачынаўся новы нумар.

## 11

Ураннi было мiнус дванаццаць, мароз — што называецца, зiмовы. Праўда, снег больш не iшоў, ды снежань толькi называецца снежнем, у большасцi ж ён бывае бясснежны.

Блiзнюк пасадзiў у «казла» Кiсяля, i праматалiся ў iм, можна сказаць, цэлы дзень, калi лiчыць снежаньскi дзень днём.

Яны пабылi значны час на балоце, адкуль машыны i трактары вазiлi тарфакрошку на ўгнаенне.

Адзiн пагрузчык не паспяваў насыпаць кузавы машын i трактарныя прычэпы — выстрайвалася чарга, падобная на доўгую калону тэхнiкi, якой перагарадзiлi дарогу.

Ясна, трэба быў другi пагрузчык, але яго не было.

Брыгадзiр будаўнiча-мантажнага ўпраўлення мелiярацыi, якi загадваў здабычай i рэалiзацыяй тарфакрошкi, смыкнуў плячыма i ўсмiхнуўся:

— Хто яго ведае. Як калi дык няма чаго рабiць i аднаму, а гэта — чарга.

— Ваш пагрузчык?

— Наш пагрузчык,— адказаў брыгадзiр. Быў ён у кажуху, у валёнках i ватных штанах, у вушанцы з завязанымi назад вушамi. Малады, чырванатвары.

— Вы i за пагрузку нам налiчваеце?

— А як жа. I за торф, i за пагрузку. А каму возiм сваiм транспартам, i за дастаўку бяром. Гаспадарчы разлiк, таварыш начальнiк. Не ведалi?

— Ды гэта ясна. Я не аб гэтым. Я думаю, калi б мы ўзялi свой пагрузчык, ды самi грузiлi на свае машыны i трактары, тэхнiка не прастойвала б. Ты разумееш, што такое прастой для тэхнiкi?

— Што ёй зiмой дужа рабiць?

— Што рабiць? Бач, чарга. Значыць, ёсць работа.

— Мiлы мой, я шосты год раздаю гэтую крошку i ведаю, што да вясны мятлой падмятуць. Ку-

ды вы гоніце? У перадавыя хочаце выскачыць? — Брыгадзір ад душы засмяяўся.

— Ты, Валодзя, нас не пад'ялдыкавай,— умяшаўся, усміхаючыся, Кісель.— А чым дрэнна, як ты кажаш, у перадавыя выскачыць? — Тады да Блізнюка: — Васіля Карнеевіча Баравіка сынок. З Каранца.

— А я што? Бачыце, колькі за лета наставіў? — Брыгадзір паказаў рукой на вялікую плошчу асушанага балота, застаўленага доўгімі пірамідальнымі кучамі сухой тарфакрошкі.— Ураджай!

— Ды гэта ясна,— махнуў рукой Блізнюк.— Толькі я не дужа разумею, які ў вас тут улік. Аднаму столькі каўшоў у кузаў ці прычэп шугане, другому менш.

— Машына-ГАЗ, машына-ЗІС, машына-самазвал. Розныя кузавы? У нас на іх стандарт. На кожную. І на трактарны прычэп. А дакладнасці хочаце? Дык тут жа не аптэка і не лякарства, а тарфакрошка, зямля, братцы мае.

— Добра, добра, Валодзя,— заключыў Блізнюк.— Мы будзем прыганяць уласны пагрузчык і загружаць свой транспарт самі. Машынам стаяць некалі. У іх работы шмат. Паехалі, Павел Антонавіч.

— З'ездзілі на сваё, ягадскае, поле паглядзець, куды ссыпаецца тарфакрошка, перамешваецца ці не перамешваецца з гноем.

Потым аб'ехалі ўсе брыгады, якія былі ў вёсках: Ямніца, Вяззе, Ялоўка, Баравіна, Журавок, Рудня.

Шмат было куч без гною, з адной тарфакрошкі.

Брыгадзіры тлумачылі: гной не паспелі вывезці, яго больш марудна вазіць, чым тарфакрошку, а з тарфакрошкай чакаць нельга, пакуль не расхапілі больш увішныя калгасы і саўгасы. Або: гной у кароўніку яшчэ не ўмацаваўся, іначай кажучы — не зрабіўся яшчэ гноем. А гной — гэта ёсць гной, не зроўніш яго ні з тарфакрошкай, ні нават з мінеральнымі ўгнаеннямі.

Праблемы, праблемы, праблемы. Зрабіць у

кожнай брыгадзе вялікія ямы — гнаясховішчы каля жывёльных ферм можна. Валіць туды кожны дзень, ачышчаючы стойлы жывёлы, гной, перасыпаць яго тарфакрошкай, дабаўляючы таксама такія-сякія тукі,— не навіна. У самой Ягадцы такая яма-сховішча ёсць. А як тады, вясной, падняць ва ўсім калгасе такі груз і перамясціць у поле? Колькі часу і тэхнікі на гэта спатрэбіцца? Двайная пагрузка, двайная выгрузка. Тэрміны сяўбы не будуць чакаць.

І яшчэ: як ні ўкручвай ці саломай, ці тарфакрошкай вывезены на поле зімой гной, ён усё роўна нешта аддасць у паветра са шматлікіх сваіх, так патрэбных расліне, спажыўных рэчываў.

Баліць усё роўна: ці саву аб пень, ці пнём па саве.

Баліць таму, хто думае, як лепш улагодзіць зямлю, каб яна давала добры ўраджай.

Ехалі два чалавекі ў «газіку» па зімоваму полю, па зімовых лясных дарогах, хоць зімы той, акрамя груды пад коламі, кот наплакаў. Снежны покрыў быў тонкі і рэдзенькі, як марля. З-пад яго вытыкаліся гурбачкі зямлі, сцалелая травіна, розныя былінкі, відаць былі пустыя цёмныя ямачкі. У лесе яшчэ менш яго было: цёмныя фарбы дамінавалі над белымі. І тым не менш гэта была зіма, снежань, той час, калі ў гаспадарках бярэцца разгон, гаворачы мовай газет, на назапашванне ўгнаенняў.

Валюхаўся з боку на бок «газік» і валюхаўся не вельмі хутка, быццам у яго была адна мэта: як мага больш пабыць у чыстым полі або на ўзлессях.

Яны сядзелі побач, Блізнюк за рулём, Кісель — каля яго. Блізнюк быў у куртцы з футравым каўняром, Кісель — у чорным кажуху. Абодва ў вушанках.

— Ведаеце што, Павел Платонавіч, я і забыўся вам сказаць,— загаварыў пасля працяглага маўчання Блізнюк.— Рыхтуецца набор аграномаў на трохмесячныя курсы.

— Ну,— абазваўся Кісель.

— Нашаму калгасу таксама даюць адно мес-

ца. Агранома свайго мы маем права паслаць. Разумееце?

Спачатку Кісель і не думаў, што гаворка ідзе іменна пра яго, нібы і не быў аграномам, а тады, зразумеўшы, што да чаго, разгубіўся на некаторы час і нават быў пачырванеў.

Цераз дарогу махнуў сыты вушасты шарак.

— Фу ты! — плюнуў сабе пад ногі Кісель.

— Верыце? — глянуў на яго Блізнюк.

— Нясе ж во яго чорт. Пад калёсы мог трапіць,— крыкліва пачаў гаварыць Кісель.

Блізнюк заўважыў у ім гэтую перамену. На курсы не хоча ехаць? Няўжо?

Кісель адчуў, што сэрца ў яго б'ецца не так, як б'ецца заўсёды. Хваляванне, канечне, яно з'яўляецца прычынай. Недзе яшчэ тады, увосень, як толькі пасаду старшыні заняў Блізнюк, Кісель зразумеў, што пад яго пачнуць падкопвацца. Слова «падкопвацца», можа, і не зусім да месца, але неяк іначай, чым Бародзіч, будзе глядзець на яго новы старшыня.

«Што Бародзіч! Бародзіч сталы чалавек, разам, можна сказаць, вошы кармілі ў партызанскіх зямлянках. І гаспадарку потым не блага вялі. У раённых зводках заўсёды былі пад верхам, рэдка калі ўнізе.

Можа, бачылі не так далёка? Што ж, не кожнаму дадзена такое... Адукацыі не хапае? Магчыма. Цяпер вось аспірантуру канчаюць хлопцы, кандытатамі сельскагаспадарчых навук парабіліліся. Эксперыменты ставяць. Нам, старым, цяжка за імі гнацца, ногі не тыя, вока слабейшае.

Вось і пасылае на курсы. Добра. Паеду. Тры месяцы — гэта дробязь. Трохі падвучуся. На пуп там дужа бяруць».

— Сцяпан Ягоравіч, а калі ехаць на гэтыя курсы?

— З першага чысла.

Блізнюк глянуў на Кісяля і хуценька перавёў погляд зноў на ветравое шкло. Трэба было ўз'язджаць на шашу. На ёй немалы рух, і шафёру трэба быць пільным.

Блізнюк прыладкаваўся да хваста магутнага

лесавоза, нагружанага доўгімі хлыстамі выносістай сасны, і не абганяў яго, хоць лесавоз ехаў ціха. А што там, хай плыве гэты сухапутны карабель, пагойдваючы верхаўём драўніны, якое звісала з прычэпа амаль да самага асфальту. Нават можна палюбавацца, які груз валачэ ён на сваіх плячах. Вялікі груз, на вока і не вызначыш. А ехаць — ехаць ужо недалёка.

Праехалі поле, роўную лугавіну, гады два назад вызваленую меліяратарамі ад куп'я, кустоўніку і розных непатрэбных выгарын, перакаціліся цераз масток, пад якім жыла, не замярзаючы нават зімой, невялікая Клявіца, і звярнулі налева, дзе стаяў дарожны слуп ■ бляхай, на якой было напісана: «Ягадка».

## 12

Дома ўсё было як дома. Пад абажурам святла стол, крэслы, этажэрка з кнігамі, тэлевізар, які пакуль што маўчаў і нічога не паказваў. Юрка на падлозе гуляў з цацкай-аўтамашынай — заводзіў яе, а тады пускаў самакатам, пакуль не сыходзіў завод і машына не спынялася, упёршыся ў што-небудзь.

Жонка... Дзе жонка? Не відаць чамусьці. Выйшла на двор?

— Юрка, дзе мама?

Юрка прыўстаў з падлогі, узяўся рукамі за калені і адказаў бацьку ў здзіўленні:

— Во не ведае. На печы.

— Адкуль жа мне ведаць, сынок? Толькі ў хату зайшоў.

— Паглядзі, калі не ведаеш. Там яна,— і паказаў на печ.— Галава ў мамы баліць.

Блізнюк глянуў. Так, жонка была на печы. Ляжала на чарэні, падлажыўшы пад галаву складзеныя кубарыкам рукі.

Блізнюк падышоў да печы:

— На голым ляжыш. Падаслала б што-небудзь. Падушку пад галаву ўзяла б. Тэмпературу мерала?

Жонка маўчала. Што ні гаварыў ёй Блізнюк, не адказвала.

Потым з печы пачулася ўсхліпванне.

— Ядзя, ты што? Чаго маўчыш? Калі дужа што-небудзь баліць, пайду «хуткую» выклікаць. З раёна. Што ў цябе баліць?

Жонка села на печы:

— Не буду нічога варыць табе, мыць. Вары сам вячэру. Забяру заўтра Юрку і паеду назад у «Камунар».

Не хворая, не. Звычайны жаночы капрыз. Пэўна, з-за нейкай дробязі, як звычайна бывае з жанчынамі.

Канечне, каб яна была з калгаснікаў, ды з вялікай сям'і... А то адна дачка ў бацькі і маткай — інтэлігентка. Жыццё для яе — гэта язда па асфальце на легкавой машыне...

— Паедзеш, кажаш, назад у «Камунар». Чаго? Кватэра наша там ужо занята. Што ты там будзеш рабіць?

Жонка злезла з печы, у пакамечаным плацці, раскудлачаная, з азызлым ад плачу тварам.

— Рабіць буду, што рабіла. Пайду ў сад на сваё месца.

Блізнюк здагадаўся: нешта з работай не атрымліваецца.

Паківаў галавой і ўспомніў. Збываецца туманны намёк дырэктара школы Лізуры. Тады Блізнюк не прыдаў значэння таму, што пачуў ад Лізуры. Здавалася: эт, так нешта, неістотнае, бяздаснае. А адрас ёсць, вось ён, яго жонка, якой няма ўжо ў Ягадскім дзіцячым садзе работы, бо тая выхавацельніца, якая павінна была пайсці на пенсію, рашыла яшчэ папрацаваць.

— Ну, дык ты што, Ядвіга Максімаўна? Работы няма? Прыйшоў канец тваёй службовай кар'еры? І працоўны стаж твой перарвецца, і...— пачаў жартам пад'язджаць Блізнюк да жонкі.

Яна села на крэсла:

— Паеду на сваё старое месца. Ты рабі сваю кар'еру тут, а мой працоўны стаж будзе працягвацца там. От тут табе твой і райком, і райана. Ашукалі дурня. Ну, што я тут буду рабіць?

Яна зноў пачала выціраць слёзы.

— Не хвалюйся, маладзіца, не плач. Слёзы не помач, падумаць трэба. Давай разам падумаем.

Жонка не хацела думаць. Работы няма, а яе не прыдумаеш. У «Камунары» была добрая кватэра. Быў добры дзіцячы сад. Добрая была работа і ў яго, і ў яе. Чаго паехалі? Начальнікам пабыць захацелася? Начальства доўга не трымаецца. Рана ці позна здымаюць. Здымуць, і тады туляйся, шукай, дзе і да чаго прыхінуцца.

— Калі быць толькі начальнікам, дык, канечне, доўга не пратрымаешся. Я паехаў сюды не начальнікам быць, а працаваць. І ты павінна працаваць.

— Даяркай?

— А што: сорамна?

— Ты конюхам ідзі.

— Пачакай. Я на рабоце. А тваю работу лічу дзіцячай. Век дзяцей забаўляць. Нянька. Пойдзеш у школу. Мне Лізура казаў, што месца табе дае.

— Тэхнічкай?

— Не. Можна сказаць, па спецыяльнасці. Будзеш весці групу падоўжанага дня. Малыя дзеці, пачатковыя класы. Адзаймаюцца з настаўнікам, тады ты павядзеш іх у школьную сталовую, паабедаеце і станеш рыхтаваць з імі ўрокі на наступны дзень. Амаль як у дзіцячым садзе.

Жонка павесялела. Вочы яе зрабіліся святлейшымі, твар быццам засвяціўся. Толькі... Ці сур'ёзна гаворыць муж? Можа, проста супакойвае.

— Заўтра пазваню дырэктару і скажу табе канкрэтна. З адной умовай: паступіш на завочнае аддзяленне біяфака. Біёлагам прыйдзеш у школу. Будзеш выхоўваць у дзяцей любоў да зямлі. Доследы розныя ставіць. Але глыбокія, каб і калгасу была карысць. Не магу дараваць Лізуру: адвярнуў школу ад зямлі. Кар'ерыст! Бутафорыя ў школе і на школьным участку.

— Я — завочна? — здзівілася жонка, быццам сказанае — фантазія, якую ніколі не здзейсніць.

— Не бабуля, няма чаго лынды біць у сваім садзе. Толькі паверыць трэба ў сябе і паднату-

жыцца. А што людзі не ідуць на пенсію, то на здароўе, хай працуюць, радавацца трэба.

Назаўтра Ядвіга Максімаўна з'ездзіла ў раяна. Блізнюк казаў: «Не едзь». Паехала. Карысць была? Ніякай. «Абяцала,— сказалі.— А не пайшла, што мы ёй зробім? Прымусіць не маем права».

Аднак, вярнуўшыся дамоў, не плакала. Дарога, відаць, і сустрэчы з новымі людзьмі памагаюць трымацца.

Увечары Блізнюк пацвердзіў свае ўчарашняе слова.

— Здавай у санстанцыю Юркавы аналізы, завядзеш яго ў сад, а сама з першага на работу.

Жонка глыбока ўздыхнула. Пачынаецца новае ў яе жыцці. А можа, нават новае жыццё, зусім не падобнае на тое, якім яна жыла дагэтуль? Папершае, школа не сад, хоць яна не на выкладчыцкую работу ідзе, а на выхаваўчую. Па-другое, паступіць на завочную вучобу... Хіба гэта так проста? Трэба здаць уступныя экзамены, а гэта — праца, праца, праца. Тады сама вучоба — цэлых пяць год! Пісьмовыя работы, экзамены, залікі, сесія зімовая, сесія летняя...

«Не бабуля». Не бабуля, вядома. Дваццаць чатыры толькі. Вучыцца, канечне, яшчэ не позна.

— Твой бацька завочна канчаў? — запытаў Блізнюк.

Так, бацька яе канчаў інстытут завочна. Зараз выкладае гісторыю ў старэйшых класах. Маці, скончыўшы педвучылішча, не вучылася далей, працуе ў пачатковых класах. Не цягне нешта вышэй і яе, Ядвігу Максімаўну. Па матцы пайшла? Дык маці хоць па гаспадарцы не лянуецца працаваць. А ў яе, у Ядвігі Максімаўны, ой не ляжыць сэрца да гаспадаркі. Не любіць яна курэй, свіней. Капаць бульбу не любіць. І самой кухні — варыць есці — не любіць.

«Чаму я не па бацьку?» — думала яна сама сабе.

Хату сам пабудаваў, абгарадзіўся. Завочна інстытут скончыў. Ядвіга была малая, не памятае, як ён вучыўся. Але пасля ўжо інстытута,

маючы ў кішэні дыплом, ён мінуткі не згуляў. То чытае, то піша, то робіць выразкі з газет і складае па розных папках...

— Я і забыўся: бацька твой кнігу выпусціў.

«Ну, чаго ён чэпіцца да мяне з гэтым бацькам? Хоча, каб і я кніжкі выпускала? Многа ты іх сам навыпускаў?»

І выказала апошнія словы ўслых.

— Эх, Ядзька,— узрадаваўся Блізнюк, што жонка ўрэшце загаварыла.— Наша з табой шчэ ўсё ўперадзе. Папрацуем, пабачым, прыгледзімся. Кніжку выпусціць — многа праз сябе трэба прапусціць. Можа, калі і мы што выпусцім. Не святыя гаршкі лепяць, а ганчары, звычайныя, як мы з табой, людзі. Пачакай, як гэта яна называецца?

— Хто?

— Бацькава кніжка.

— Што табе да яе назвы? Як называецца, так і называецца. Да сваіх, што напішаш, падбірай назвы.

— Не трэба так, Ядзя, не трэба. Я толькі хацеў табе сказаць: «Бачыш, які працавіты твой бацька?» А ты во ні села ні пала — і размякла. Ты ж маладая яшчэ. Які прыклад возьме з цябе сын?

## 13

Кінуць трактар і пайсці абы куды, на абы якую работу? Нікуды не варта. Тое самае, што кінуць зброю ў самы разгар бою і даць драпака, ратуючы сваю галаву. А дысцыпліна? А парадак? А сумленне чалавека? Дзе гэта ўсё?

Але факт ёсць факт: механізатары адмаўляюцца ад сваёй прафесіі. А прычына, відаць, была, і, канечне, даволі ўважлівая, бо не стане чалавек вось так сабе, дзеля гульні, мяняць прафесію.

Паспрабуй вывучыцца на трактарыста. Год, самае малое, трэба. Тут табе і дасканалае авалоданне машынамі розных узораў, і правілы ваджэння, і ўменне зрабіць бягучы рамонт, і... Колькі яшчэ ўсяго! А ў дадатак трэба ж і прычапную тэхніку ведаць. І раптам нехта плюе яму ў душу і на яго

працу. Яго зняважылі, моцна пакрыўдзілі. А нічога няма цяжэйшага за знявагу.

Блізнюк быў перакананы, што трактарыст век павінен заставацца трактарыстам, як настаўнік застаецца настаўнікам, доктар — доктарам, інжынер — інжынерам. А як жа інакш? Прафесія даецца на ўсё жыццё, і чалавек павінен ганарыцца ёй, увесь час удасканальваць яе.

Іншая справа — вырас чалавек, з трактарыста зрабіўся інжынерам. На здароўе! Кіруй тэхнікай у вялікіх маштабах.

Бародзіч, Бародзіч... Ігнат Барысавіч! Гэта ж пры ім усё і пачалося.

З'ездзіць да яго, пагаварыць, высветліць, у чым прычына ўцёку трактарыстаў на іншыя работы?

Ён што? Ён сваё адслужыў. Можа сказаць: «Выкручваўся ж я неяк? І поле не пуставала». І можа сказаць: «Былі яшчэ больш вузкія месцы, чым трактарысты».

Блізнюк разумеў, што ў кожнага кіраўніка, як і ў кожнага чалавека, свой погляд на рэчы.

Не, лепш за ўсё пагаварыць з самімі трактарыстамі, якія адвярнуліся ад сваіх машын...

Надвячоркам ускочыў у «казла» і паехаў па вёсцы шукаць аднаго з іх — Малашкевіча Алеся. Стаж у таго быў вялікі, і хвалілі яго як трактарыста.

Па тым, як выглядае хата, двор, адразу заключыў, што Малашкевіч чалавек сур'ёзны, працавіты. Блізнюк за час свайго жыцця ў чужых прывык да думкі: «Хочаш ведаць, што за чалавек, паглядзі на яго хату». У гультая то канька на даху не будзе, хоць дах можа быць шыферны або чарапічны, то ў шчыце дошка па нейкіх прычынах адарвецца і гаспадар не можа знайсці вольную хвілінку, каб прыбіць яе, то яшчэ што... У Алеся ж хата была хоць на выстаўку выстаўляй. Дах (хай на ім ляжаў снег) роўненькі, як пад шнур, ні ўпадзіны на ім, ні ўспучын. Шчыт у елачку, з прыгожым невялічкім акенцам. Не адны вуглы, а ўсе сцены абшаляваны, абшыўка пафарбавана ў прыемны для вока колер. Вокны

вялікія, у светла-зялёнай ліштве, не зіма, а лета на дварэ.

Веснічкі ў двор лёгка адчыніліся, калі Блізнюк ўзяўся за іх клямку, не скрыпнулі, не бразнулі.

Гаспадар быў дома, і Блізнюк узрадаваўся, што застаў яго, не давядзецца шукаць другі раз. Ён паставіў Блізнюку невялічкі зэдлік:

— Сядайце, калі ласка. А можа, туды пройдзем? — Малашкевіч паказаў на зачыненыя філёнкавыя дзверы ў наступную палавіну хаты.

Блізнюк паглядзеў на свае чаравікі і адказаў:

— Не. Я доўга не затрымаюся. Добра і тут будзе.

Ён сеў на зялёны зэдлік, палажыў на калені шапку.

— Давайце на вешалку.

Малашкевіч узяў у Блізнюка шапку і павесіў. Ён быў высокі, гарбаваты ў плячах, вузкатвары, у безрукаўцы, надзетай на салдацкую гімнасцёрку.

— Ваявалі? — запытаў Блізнюк, убачыўшы на чалавеку вайсковае адзенне.

— Ваяваў. Яўропу прайшоў. У артылерыі быў. На цягачах, на машынах,— і ўсміхнуўся, ад чаго шэрыя невялічкія вочы яго звузіліся, засвяціліся цеплынёй.

Блізнюк чамусьці адразу адчуў сябе як бы больш вольна.

— Толькі гэта не мая гімнасцёрка, не тая, у якой я ваяваў. Сын адслужыў армію. З яго плячэй. Адслужыў, значыць, туды-сюды павярнуўся — і паехаў. А што тут, калі разабрацца, сядзець маладому?

Блізнюк улавіў у голасе гаспадара пагарду да вясковага жыцця, хоць той пражыў век у вёсцы і, як відаць па яго будынках, не збіраецца пакідаць яе. Няма чаго маладому рабіць у вёсцы. Чаму? Хто павінен расціць хлеб, зямлю апрацоўваць?

— Куды паехаў? — пацікавіўся Блізнюк.

— У мяне ў Маскве сястра. Дык і дачка там старэйшая, і сын (у мяне іх толькі двое) каля яго.

А работы ў Маскве...— гаспадар падняў руку і махнуў ёю,— абы рабіў. Я вам кажу, абы рукі. Не тое што ў нас.

«Што, у нас работы няма? — падумаў Блізнюк.— Няпраўда».

Нічога не папішаш, так гаспадар лічыць.

— Вы самі тутэйшыя?

— І бацькі, і дзяды, і прадзеды — з веку ўсе тутэйшыя.

— Кажаце, з веку тутэйшыя,— паглядзеў яму ў вочы Блізнюк.— Навошта тады сына адправілі? Ці яму тут блага было б, каля бацькоў? Радзіма ўсё-такі. І нам бы не лішні быў. Ой, як нам трактарыстаў не хапае! Не разумею: чаго кідацца ў свет? Усюды трэба працаваць. Добра, дзе нас няма.

Гаспадар шырока заўсміхаўся, адняў рукі з белага настольніка і пачаў змятаць нябачную смяцінку:

— Даўней яно так і было. Калі нарадзіўся ў Ягадцы, у Ягадцы і памрэ. А цяпер скуляшылася ўсё, перамалолася. Не хочуць людзі дома сядзець, хоць іх рэж. І вы ж во не дома, а? — гаспадар глядзеў Блізнюку ў вочы, нібы злавіўшы яго ў чужых яблыках.

— Не дома, ясна. Але ж у мяне работа такая — служба. Проста паслалі, як у арміі.

— Аднаго паслалі, другі сам паехаў, і пайшлі чалавек цераз чалавека, як у той чахардзе. Вы думаеце, я рад, што мае дзеці не дома? Убачыш мелькам раз у год і зноў цэлы год, думай, як яны там, што? У дачкі дзяўчынка. Не хочацца мне, думаеце, з унучкай падурэць? Не зусім добра выходзіць, калі праўду вам сказаць, старшыня.

«Міграцыя, міграцыя... Перамяшчэнне,— думаў Блізнюк.— Аўтобусы, самалёты... Транспарту хапае. А трактарыстаў, каб паставіць у дзве змены на машыну, няма».

— Вы кажаце, чаго ехаць маладым. Мая дачка не дужа даўно ў Маскве жыве — кватэру палучыла. А ў нас?

Што ў нас? Блізнюк нічога не мог адказаць на гэтае пытанне. Кватэры ў вёсцы пакуль што

атрымліваюць толькі спецыялісты сельскай гаспадаркі — аграномы, інжынеры, планавікі. І то не ўсе. Адразу ўсім не пабудуеш.

— У нас? У сваіх жывуць,— аджартаваўся Блізнюк.

— У сваіх добра. У сваёй хаце, кажуць, і вуглы памагаюць,— засмяяўся гаспадар.— І ў мяне хата,— ён абвёў столь вачыма.— Добра, калі чалавек сам умее ўсё рабіць. Я сам усё раблю. А яны, цяперашняя моладзь? Вучацца, вучацца да дваццаці гадоў, а рабіць нічога не ўмеюць. І не хочуць, трэба сказаць. Ім дай гатовае. І машына каб усё рабіла. Калекі, можна сказаць. От яны едуць у горад, гатовых кватэр шукаць. Няпраўда, можа? А мы сваё аджылі. Мы ўжо не будзем ім дамы ўзводзіць...

Песімізм гаспадара не спадабаўся Блізнюку. Ён лічыў, што чалавек павінен верыць у жыццё да самага скону і рабіць усё, працаваць з гэтай верай.

— Чаго аджылі? Вы яшчэ... Вы ж не хворы? — сказаў ён Малашкевічу, каб хутчэй выказаць яму тое, з чым прыехаў да яго.

— Чаго гэта я хворы! Здаровы.

— А вы кажаце аджылі. Я прыехаў да вас, каб вы на трактар ішлі. Так сказаць, па сваёй спецыяльнасці. Вы нам так патрэбны! Во! — Блізнюк паласнуў рукой па горле.

Малашкевіч усміхнуўся, адваліўшыся плячыма да падаконніка.

— Патрэбны, кажаце? Пяць год жыву, можна сказаць, як аднаасобнік, і ніхто мне не сказаў, што я каму патрэбен.

— Ну, вы ж на работу ходзіце.

— Якая гэта работа!.. Калі ё, калі і няма.

— Я разумею вас. Вам каб штатныя.

— Я і быў штатны. З трыццаць дзевятага на трактары. Так што стажу ў мяне на пенсію хапае.

— І ўсё ж такі: чаму вы кінулі трактар?

— А я не адзін такі, многія пакідалі. Будзеце вы такім, якім быў Барадзіч, і ў вас пакідаюць. З чалавекам трэба акуратна абыходзіцца, калі ён працуе.

— Ведаю.

— Дык і не пытайце, калі ведаеце, вот.— Гаспадар пачаў глядзець у акно на вуліцу. Потым зноў загаварыў горача, і крыўдай.

— Сена — ні грамачкі. Саломы — ні кулака. А мы мужыкі. У нас — гарод. Гной трэба. Дзе я на старане адкашу, калі павінен на трактары норму даваць і даваць? Машыну пастаўлю, а сам касу на плечы і ў лес пабягу, каб дзе крошку травы адбіць? Хто на обшчых работах, той пабяжыць і адкосіць. А я не пабягу, у мяне ў руках руль, я павінен круціць яго і круціць. А карове на зіму сто пудоў корму трэба.

— Можа, не было ў іх, не выходзіла? Як гэта? Я таксама мужык, і ў майго бацькі карова ёсць. Без каровы мужыку нельга. Неяк трэба было меркавацца. Памяркуемся, кажу. Я што, не разумею?

— Кажаце: можа, сена не было? Вы ў людзей пытайце. Паддуб'е зазімавала някошанае. Першы ўкос, кажу, зазімаваў. А з другога ўкосу колькі б было сена? І гэтак кожны год. Не там, дык там зазімуе. Салому вясной паляць. Падпаляць тарпу і любуюцца, як яна гарыць. На ўвесь раён дымам нясе. Бачыце, яны поле ачышчаюць... У нас не стэп, дзе ў саломе нужды няма і яе паляць, у нас Беларусь. Цьфу, к чортавай матары з такімі галовамі. Я вам кажу, душа баліць, як паглядзіш.

Блізнюк не ведаў, што ў Ягадцы лішкі саломы спальвалі. Так, можна спальваць, калі яна лішняя і замінае апрацоўваць поле. А калі людзі маюць у ёй патрэбу?

Тым часам гаспадар працягваў:

— Мы не рвачы, разбіраемся, што можна, а чаго нельга. Жывём, чорт яго ведае, як якія аднаасобнікі. Сумленне трэба мець.

«Пра чыё сумленне гаворыць ён? Сваё ці чужое? — падумаў Блізнюк.— Калі пра сваё, тады добра. Пра сваё, мусіць».

— Дык дагаварыліся, Алесь Сазонавіч? Як: можна спадзявацца?

— Не ведаю, што і сказаць вам. Я ж кажу: стажу ў мяне на пенсію хапае. Маладых трэба

рыхтаваць. Условія ім даць. Цяпер без трактара хлеба не наробіш.

— Маладыя маладымі, але зракацца старых... Яны ж наш прыклад. Вы згодны са мной?

Замест адказу Малашкевіч лагодна ўсміхнуўся. Зусім як свайму дзіцяці. Што было ў гэтай усмешцы?

Дома ўвесь вечар Блізнюк быў сам не свой. Нечым быў дзень не завершаны. Чым? Чаго не хапала? Якойсьці дробязі, нязначнай, з камарыны нос. Якой? Ён ведаў, што недзе нешта такое павінна быць, што супакоіла б яго. А дзе яно: у галаве, у кнігах? Ён хадзіў, хадзіў па кватэры, капаўся ў этажэрцы, потым апускаў рукі і глыбока задумваўся.

Жонка не магла не заўважыць яго пакут, папытала:

— Скажы мне, што ты згубіў?

— Згубіў, згубіў...— незадаволена хмыкнуў Блізнюк.

— Юрка, ты нічога бацькавага не браў?

Устаючы з падлогі, Юрка разбурыў складзенае з кубікаў сваё збудаванне і ледзь не заплакаў.

— Не чапай яго. Што ён мог маё браць?

І асвятлілася ў галаве Блізнюка тое, што яго непакоіла, чаго ён шукаў.

Тоўсты агульны сшытак з рознымі запісамі, выпіскамі і пытаннямі ляжаў у самай ніжняй секцыі этажэркі. Яго вёў Блізнюк у «Камунары», калі кіраваў там палітвучобай саўгаснага актыву.

Дастаўшы з-пад стоса кніг гэты сшытак, Блізнюк сеў да стала і памаленечку пачаў гартаць яго, прабягаючы вачыма кожную старонку.

І раптам, як дзіця, узрадаваўся. «Вось яно, вось».

Ён чытаў: «У цяперашні час у вытворчасці мяса і малака яшчэ немалую ролю іграе асабістая дапаможная гаспадарка. Аднак не ўсюды гэта ў належнай меры ўлічваецца. Аддаючы галоўную ўвагу павелічэнню грамадскай вытворчасці, трэба аказаць неабходную дапамогу калгаснікам і работнікам саўгасаў у набыцці імі жывёлы і птушкі, у забеспячэнні кармамі».

«Вось і ўсё. Гэтага і не хапала»,— усміхнуўся сам сабе Блізнюк і павярнуўся бокам да стала.

У кватэры было светла, чыста, сын на падлозе гуляў з кубікамі, а за другім канцом стала жонка чытала чарговую мастацкую кніжку.

Думкі рынуліся ўперад, згуртавана, смела, уладна. «Так, вярнуць, вярнуць усіх старых трактарыстаў на машыны, хай робяць хлеб, а не туляюцца па абы-якіх дробных работах. Механізатар! Паспрабуй сёння без яго весці гаспадарку.

Прывязу архітэктара, хай складзе праект, і пачнём Ягадку не так забудоўваць, як яна да гэтага будавалася. Вясковец дае хлеб, малако, мяса. Ён павінен жыць лепш, у лепшых умовах, карміцца лепш, чым любы гараджанін. Чаму гэта гараджаніну ключы ад гатовай кватэры, а вяскоўцу, вобразна гаворачы...

У скацінніках ніводнага гнаясховішча. Жыжа прападае, гной, вывезены дачасна, выветрываецца. Які яго працэнт пападае ў глебу? Паспрабуй падлічыць. Ва ўсім прымітыў».

І тым не менш Блізнюк прадэкламаваў уголас:

...размаха шаги саженьи!

Жонка адарвала вочы ад кніжкі і сказала, усміхаючыся:

— Юрка, чуеш? Нямы загаварыў.

— Нічога не зробіш, бывае, што і нямому трэба пагаварыць,— адказаў Блізнюк, кладучы сшытак на этажэрку,— з самім сабой.

## 14

Кантора, як і заўсёды ў гэты час, была ўжо амаль пустая. Тэхнічка Вольга Бараноўская венікам і мокрай анучай наводзіла чысціню, а каля яе стаяла сакратарка Бэла Іванаўна.

— Сцяпан Ягоравіч,— сказала Бэла Іванаўна.— Званіў Гадомскі, каб вы заўтра нікуды не адлучаліся. Нешта наблыталі, казаў, і крычаў, але я не разабралася і засталася сказаць вам, каб вы ведалі, што ён заўтра прыедзе.

Блізнюк пастаяў у парозе канторы, не жадаючы перашкаджаць рабоце тэхнічкі, адказаў:

— Дзякуй, што папярэдзілі. Буду спаць спакойна, ведаючы, якая на заўтра работа.

— Ага, казаў, што прыедзе,— пацвердзіла ўжо сказанае Бэла Іванаўна.

— Што ж мы маглі наблытаць? — запытаў не ў сакратаркі, а як бы ў самога сябе Сцяпан Ягоравіч, апусціўшы вочы ў падлогу, нібы можна было за якую хвіліну ўспомніць усю сваю работу за час знаходжання ў Ягадцы і ўбачыць недахопы ў гэтай рабоце.

— Не ведаю. Мусіць, з каровамі нешта.

Бэла Іванаўна схіліла набок галаву.

— Добра, не будзем варажыць, пападаючы пальцам у неба. Пойдзем вячэраць, адпачываць, спаць. Начальству заўсёды здаецца, што мы тое-сёе робім не так, як бы яму хацелася.

Сапраўды, назаўтра гадзін у дзесяць Гадомскі быў ужо ў кабінеце Блізнюка.

У шапцы-вушанцы, у чорным кажуху амаль не да калена, валёнках з галёшамі, ён прайшоў ад дзвярэй да стала Блізнюка неяк занадта ціха, нават не шкрэбнуўшы галёшам аб падлогу, і падаў цераз стол Сцяпану Ягоравічу руку.

Блізнюк устаў, рукаючыся са сваім непасрэдным начальнікам — загадчыкам сельгасупраўлення райвыканкома.

— Добры дзень, Мікіта Раманавіч,— паглядзеў на яго з павагай, без якой-небудзь баязлівасці, ■ ледзь прыкметнай рыскай радасці на твары.

Гадомскі зняў шапку (валасы ў яго былі густыя, з добрым дамешкам сівізны), абвёў вачыма столь кабінета, сцены, сталы і крэслы і сеў на адно з іх, паправіўшы так, каб быць тварам да Блізнюка.

Блізнюк сабе сеў.

— Ну, як? — запытаў ён.

— Як? — перапытаў Блізнюк, не ведаючы, на што канкрэтна адказваць і, у прыватнасці, што цікавіць Гадомскага.— Жывём патроху. Робім тое-сёе.

— Трэба, мусіць, распрануцца. У вас тут, бачу, цёпла.

Гадомскі павесіў на адзін з ражкоў стаячай вешалкі побач з Блізнюковай пыжыкавай шапкай сваю трусіную, кажух, здзеў галёшы з валёнак.

Тады вярнуўся на сваё месца:

— Ігнат Барысавіч сядзеў тут. Любіў, каб цёпла. Як ён там?

— Жыве,— няпэўна адказаў Блізнюк.

— Бачыцеся калі?

— А як жа, бачымся.

— Памагае што-небудзь вам?

— А чым ён паможа? Самім трэба ўсё рабіць. Не маленькія.

— Я не кажу... Але, бывае, людзі незнаёмыя. А ён жа тут пракавечны. На курсы паедзе хто?

— Сам Кісель.

— Добра, калі сам. Аграном ён вопытны. Толькі... Чаму ж гэта жонка яго мне нешта гаварыла?

— Што?

— «Бародзіч не паслаў бы»,— сказала.

Блізнюк пачаў думаць, што тут да чаго, але Гадомскі перапыніў яго думкі:

— Гной, тарфакрошку возіце?

— І гной возім, і тарфакрошку, і мінеральныя ўгнаенні стараемся выбраць, каб хто не перахапіў. Толькі...— Блізнюк смыкнуў плечуком.

— Не хапае чаго? — зразумеў Гадомскі.

— Мікіта Раманавіч,— Блізнюк сашчапіў рукі на стале.— Я як пагляджу, дык, мусіць, за век мне не зрабіць таго, што трэба і што зрабіць хочацца.

— Хочацца...— усміхнуўся Гадомскі.— А калі гаварыць канкрэтна?

— Канкрэтна? Клуб бачылі наш? Цяпер кароўнікі будуюць лепшыя. А людзям трэба культура, не старыя часы. Вось і разбягаюцца яны. Хто ў Маскву, хто ў Мінск. Адток людзей у горад.

— З-за клуба, думаеш? Не клубам адным пахне. Клуб будуй. Вазьміся і будуй. Трэба, канечне.

Бародзіч, слоў няма, на культуру не глядзеў. Мы не гэта перажылі, і калі ёсць кавалак хлеба, за каўнер не капае, нам ужо і добра. Бародзіч зямлю любіў і не апошні быў у раёне. Мудраваць, Блізнюк, не трэба. Трэба паглядзець, як бацькі жылі, дзяды нашы. Як ім даваўся хлеб?

— Школьная ісціна, вядома,— Блізнюк махнуў перад сабой рукой, што значыла: «Ведаем».

— Школьная ісціна,— перадражніў Гадомскі Блізнюка.— Я сам настаўнік. Школа вучыць чытаць, пісаць. А гісторыю зразумець не так проста. Яе трэба гарбом сваім адчуць.

Блізнюк на момант разгубіўся. Як адстаяць свой погляд на перспектыву гаспадаркі? Ён адчуваў, што погляд яго правільны, гаспадарку трэба развіваць, абапіраючыся на дасягненні сучаснай навукі, тэхнікі, культуры, а не трымацца за старасвеччыну, а тут яго збіваюць, не лічацца з ім і яшчэ ў нечым упікаюць.

— Не, Мікіта Раманавіч. Я не згодзен з вамі.— Ён адсунуў убок па шкле паперыну і ўставіўся вачыма ў Гадомскага: «Прымаю ваш выклік, адказваю».— Гэта няважна, што мы не ваявалі. Можа, не галадалі. Можа, яшчэ чаго не перажылі.

— Э, няважна! Рана вы агрубелі. Чужая кроў для вас — няважна? Эгаісты!

Гадомскі сціснуў кулак і ледзь не стукнуў ім па стале.

— Мікіта Раманавіч, пачакайце, вы — дарэмна. Вы не зразумелі мяне. Я не выказаў сваёй думкі, я толькі пачаў, а вы ўхапіліся за адно слова...

— За слова? Не за слова. Вы ферму на мяса здалі, план наш зламалі... Рэвалюцыянер тут знайшоўся мне...

Гадомскі глядзеў цяпер на Блізнюка як на малога, які, гарэзячы, разбіў шыбу, а на дварэ мароз, і ты ламі галаву, як і чым зашкліць акно.

«А-а-а, вось чаму ўспыліў Мікіта Раманавіч,— думаў Блізнюк,— ферму здалі».

Якую ферму? Ферма фермай засталася. Толькі навялі такі-сякі парадак на ёй, як наводзіць

парадак пчаляр у вуллі, вымятаючы з яго перад зімаваннем сям'і ўсякае смецце. З месяц таму назад Блізнюк сабраў усіх спецыялістаў, брыгадзіраў, даярак і даглядчыкаў жывёлы, і калектыўна падумалі, параіліся, якіх кароў не варта пакідаць на зіму. Стар'е-дуб'е, пяршачак, не перспектыўных на раздой, проста не малочных па сваёй прыродзе выбракавалі і здалі «Заготжывёле» на мяса.

— Мікіта Раманавіч, ферма наша ў нас, ніхто яе нікуды не здаваў. Яна памаладзела, папрыгажэла. Можаце ў гэтым пераканацца: сходзім і паглядзім.

Блізнюк павесялеў, пасмялеў, раз пытанне датычыцца толькі фермы. З фермай абыдзецца ўсё добра. Трэба трымаць кароў, а не хвасты, або «галовы», як кажуць. А што гэта за «галава» — бог з ёй, абы яна «пагалоўя» не зніжала. Некаторая паўтары тысячы літраў дасць малака ў год. А трэба, каб давала тры. А то і ўсіх пяць тысяч. О, гэта карова! Праўда, тут мае значэнне пароднасць. Але кармы, кармы... Ці пародную, ці непародную карову не ўтрымаеш без кармоў. У «Саюзе» няма іх пакуль што. Колькі год (Блізнюк падняў кантарскі архіў) — жыта па жыту, жыта па жыту. Збожжавыя па збожжавых. Севазварот зламалі, ён быў толькі на паперы. Трэба першым чынам наладзіць севазварот. Даць месца аднагадовым і шматгадовым травам. Канюшына, цімафееўка — які каштоўны корм!

Блізнюк і выказаў сваю думку Гадомскаму.

— Манілаўшчына! Думаць пра будучыню і не рабіць таго, што трэба сёння? Ты падумай: ты зрэзаў 50 галоў планавага пагалоўя! А калі ўсе гаспадаркі па раёну зрэжуць? А іх 25. А? Ды нас жа, такіх кіраўнікоў, пад суд толькі аддаць. Мы кантрактуем у калгаснікаў (свайго, грамадскага, прыплоду мала), каб павялічыць пагалоўе, а ён рэжа. На бюро захацеў? — Гадомскі пачаў пільна ўглядацца ў твар Блізнюка, глядзець яму ў вочы, каб пасароміць яго, перамагчы. Узнёслы настрой у Блізнюка ў дадзены момант Гадомскаму быў нялюбы. Куды там: ідзе гаворка пра неда-

тыкальнасць планавага паgалоўя, а ён кепікі строіць, яго ферма, ці бачыце, памаладзела. Станаві такога кіраўніком, станаві! Быў аграном як аграном, а паставілі старшынёй — чорт ведае што зрабілася.

— Не, без бюро тут не абысціся. Хай райком рашае. Я што магу зрабіць? Гэта сур'ёзнае дзела, Блізнюк. Ты не ўхмыляйся,— Гадомскі пакруціў галавой, каб зразумеў Блізнюк, што ён, Гадомскі, не жартуе.

Блізнюк не ўхмыляўся. Блізнюк проста не адчуваў за сабой ніякай віны, каб яго разбіралі на бюро райкома, таму і не хацеў рабіць выгляд перад Гадомскім, што аступіўся і просіць прабачэння.

— А за што мяне райком можа разбіраць? Агульнарэспубліканская норма жывёлы на гектар ворнай зямлі ў мяне вытрымана, я яе не знізіў,— сказаў Блізнюк.— А як павяду гаспадарку далей,— на гэта ж я старшыня. Не спадабаюся — здымуць. Не святы, я гэта разумею. Здалі кароўлам'ё — зрабілі правільна. Мы свой план вытрымаем. Па мясу, па малаку.

— Па мясу вы ўжо вытрымалі. Перавытрымалі, можна сказаць. Не за свой кошт. За чужы.

Гадомскі падняў угору перад сабой указальны палец і паківаў ім у паветры.

— Як за чужы? — не разумеў Блізнюк.

— А так, за чужы. Бародзіч ферму нажываў, а не вы.

Гадомскі называў Блізнюка на «ты», а тут чамусьці перайшоў на «вы»?

— А-а-а, во вы пра што,— усміхнуўся Блізнюк.— Калі ён памешчык, дык яго. Нічога супраць не маю, хай будзе яго.

У спакойнай плыні гаворкі Блізнюка, у яго ледзь улоўным гумары Гадомскі пачынаў бачыць непавагу да старэйшых. Да планаў райсельгасупраўлення, якія яно спускае калгасам і саўгасам.

Сельгасупраўленне ведае гаспадаркі. «Саюз», напрыклад, можа пратрымаць кароў вышэй рэспубліканскай пагектарнай нормы. Яму і план да-

ваўся трошкі больш, чым, скажам, якой-небудзь Лысусе, дзе зямля — пяскі, а паша ўлетку — бор. Трэба ж, каб раён неяк выходзіў з небяспечнай зоны? Трэба. Канечне, за лік лепшых, моцных гаспадарак.

— Ты толькі сваю гаспадарку бачыш,— пачаў зноў на «ты» з Блізнюком Гадомскі.— А да другіх няма дзела? А? Так я цябе разумею?

Блізнюк смыкнуў плечуком.

— Вядома. Кожны кіраўнік пра сваё прадпрыемства думае. Не спіць, калі яно ў яго не ладзіцца.

— А насення «рубіну» ты не прасіў у Валовіка?

«Ведае,— падумаў Блізнюк.— Адкуль?»

— Ну, прасіў. І прывёз ужо. Звычайны абмен, узаемавыручка. Так і быць павінна.

— Адкалібраваў?

— Яно зерне ў зерне, і калібраваць не трэба. Калібраванае.

— Я ведаю вас, маладых. Жыллёвае будаўніцтва ў вёсцы вам дай. Жывёлагадоўчыя комплексы дай, дзе ўсё да драбніц механізавана, дзе замест штата даярак у сто чалавек будзе дватры аператары з манікюрам. Манекены ці манекеншчыцы.— Гадомскі шчыра рассмяяўся. Тады зноў сур'ёзна: — Будзе, як нас з вамі не будзе. Не, ты, можа, яшчэ і будзеш. Мяне то ўжо не будзе. Ты малады. Сядзі і націскай пальцам на пуплікі. Кіраваць будзе лёгка. Э-э, брат. Вот вы пішчом лезеце да гэтых пуплікаў. А ты дай, дай на гэтых плошчах, што ёсць, пры сучаснай механізацыі прадукцыю. У гумовых ботах, па гразі, па каравяку, у пыле і дыме, у гары, у мазуце, каб рукі смылелі, каб спіны не разагнуць было, дай. Во работа і мужнасць! Не люблю людзей, якія толькі і глядзяць, дзе пуплік націснуць. Будуць і пуплікі. Дык жа трэба час. Вялікія грошы трэба. Часамі адзін пуплік каштуе... Э-э-э, ды што вам казаць. Малакасосы. Вайну бачылі ці галадалі? У вас, на ягадскай зямлі, толькі і гадаваць кароў. Такія пашы, сенакосы. А зямля? А ён пагалоўе зразае. Бачыце, яму хочацца. Мала ка-

му што хочацца! Людзі на легкавых машынах ездзяць, а я во пешшу хаджу. І — нічога, жыву. Няма ў мяне сваёй легкавой машыны. І яхты няма,— Гадомскі развёў рукамі.— Добра, ідзі надзень боты, пойдзем на кароўнік. Я не магу глядзець, калі вось гэткі інтэлігентны ідзе на ферму або на поле ў шкарпэтках. Канечне, яму толькі пуплікі нацiскаць. Я пасяджу тут, ідзі. Толькі хутка.

Блізнюк быў у чаравіках на тоўстай гумавай падэшве, не ў шкарпэтках.

Неўзабаве ён вярнуўся ў кірзачах з высокімі халявамі.

— Ёсць боты. А я думаў, няма. Можа, калі-небудзь і будзеш земляробам, раз боты маеш,— сказаў Гадомскі, устаючы з крэсла ўжо апранутым.

На дварэ была зіма. Снег ляжаў, хаця і не вялікі. Злёгку марозіла.

— Зіма сёлета павінна быць добрая: піліпаўскі снег ёсць. Ты ведаеш, што такое піліпаўка?

— Чаму, ведаю.

— А я думаў, малады, не ведаеш.

Вось тут, на дварэ, не ў хаце, Блізнюк і хацеў сказаць Гадомскаму: «Сённяшні дзень трэба мераць не ўчарашнім, а заўтрашнім днём».

— Другі радуецца: зіма лёгкая. А я кажу: калі зіма лёгкая, лета будзе цяжкім. Лугі адтопіць, засуха можа прыхапіць. Калі снег во,— Гадомскі чыркануў рукой па кажусе на ўзроўні пояса,— ды мароз, ды мяцеліца, гурбы ў лютым, чакай лета ўраджайнага.

Блізнюк узяўся за ручку дзверцаў «газіка», які стаяў непадалёку ад канторы.

— Не, не,— запратэставаў Гадомскі.— Не трэба. Пойдзем.

Ферма была наводшыбе, ад канторы добры кіламетр ды яшчэ з гакам.

— Што гэта ты з Кісялём не паладзіў, а? Такі ён чалавек, гараваны, заслужаны... Глядзі, хлопец, каб не апёкся. На каго ж ты тады абапрэшся, калі сваіх спецыялістаў, увесь мясцовы актыў ад сябе адштурхнеш? Я не ведаю.

Нешта ў душы ў Блізнюка дрогнула. Гэтага ён не чакаў. Што за нагаворы? Каму што ад яго, Блізнюка, трэба?

— Мікіта Раманавіч, стойце, спыніцеся на мінутку. Скажыце мне, толькі шчыра: хто вам казаў, што не паладзіў?

Гадомскі спыніўся. Трусіная шапка закрывала яму ўвесь лоб. З-пад яе глядзелі на Блізнюка неспагадлівыя чужыя вочы.

— Што, помсціць будзеш?

— Мікіта Раманавіч, дык няпраўда. Наадварот, я з ім раюся, усё разам робім, ездзім разам. І па насенне да Валовіка разам ездзілі. Я хачу, каб галоўны аграном быў маёй правай рукой. Каб ён быў ва ўсіх адносінах на вышыні. Я раіўся з ім, каго на курсы пашлём. Ён сказаў: «Я сам паеду». Мяне цікавіць: як узнікае паклёп? Я тут чалавек новы, не ведаю людзей, веру ўсім. Можа, каго трэба абыходзіць бокам? Скажыце мне праўду.

— Добра. Вось табе праўда. Як вы выбракоўвалі і здавалі кароў, што гаварыў Кісель? — Гадомскі глядзеў у вочы Блізнюку ўпэўнена, што выстаўляе перад ім факт.

Блізнюк некаторы час думаў, успамінаючы нараду і выказванні на ёй канкрэтных людзей. Кісель не выступаў на ёй з асобнай прамовай, але падтрымліваў ідэю, яго рэплікі: «Так, так, правільна». Блізнюк памятае. Гэта і сказаў Блізнюк Гадомскаму.

— Двуісны, значыць,— зрабіў вывад Блізнюк.— Інтрыган, даносчык. Страшны чалавек.

— Кісель? О, не, брат. Бач, куды ты сігануў. Кісель патрыёт.— І Гадомскі крануўся.— Прыйшоў і далажыў, як сапраўдны камуніст, калі ўбачыў не тое, што павінна быць.

— Чаму ён мне нічога не сказаў, не выступіў на нарадзе? Двурушнік. Закулісную інтрыгу плятуць толькі двурушнікі. Я яго месца не заняў і не прасіўся ў начальства. Вы ж самі мяне і паставілі.

— Не гарачыся, Блізнюк. Ты, бачу я, надта гарачы. Можа, чалавек пасля ўсвядоміў сваю і ва-

шу — усіх вас, разам узятых,— памылку. Захацелася нейкім чынам выправіць яе.

— Даносам? Цьфу! — усердзіўся Блізнюк.— Так нараджаюцца здраднікі.

— Ну, ну, ты. Як у цябе гэта ўсё лёгка выходзіць: здраднік. Кісель ваяваў. А Лізура хто? Чаму ты на яго данос настрачыў?

— Я? На Лізуру? Які данос?

— Які данос? Не ведаеш? Ды каб жа куды — у Савет Міністраў. Вунь усё Міністэрства асветы на ногі паднялі. Не мог ты гэтае пытанне на месцы рашыць? Цераз райвыканком, цераз райком партыі?

Блізнюку адразу зрабілася горача ў твары. Не ад страху, што яго злавілі на нейкім злачынстве. Не. Кроў хлынула яму ў твар ад нечаканай радасці. Па яго пісьму ў Савет Міністраў рэспублікі прымаюцца меры. Школа будзе пераведзена па працоўнаму навучанню на сельскагаспадарчы профіль. Добра! Нейкая частка яе выхаванцаў пойдзе на сельскую гаспадарку. Хай не ўсе, нейкая частка. Трактарыстамі, жывёлаводамі, гароднікамі. Каму патрэбны былі тыя швачкі, якіх у школе рыхтавалі?

«Добра, добра,— думаў сам сабе Блізнюк, парыпваючы кірзакамі побач з Гадомскім і ўжо не слухаючы, што той гаварыў.— Каб толькі не знялі з работы з-за гэтых самых браковых кароў, якіх здаў на мяса. Добра! Не можа быць! Праўда ёсць праўда. Не здымуць!»

Неўзабаве, адразу за пагоркам, паказалася вадакачка, плоскія доўгія кароўнікі з цагляным шуллем. Трошкі ўбаку стагі сена.

— Цяпер, Лізура казаў, жонку тваю на работу не возьме. Усё. Канец.

— Не возьме? Вы ў курсе? — перапытаў Блізнюк.

Цікава, адкуль Гадомскі ведае, куды хацеў Блізнюк уладкаваць сваю жонку на работу? «Асвятлілі з усіх бакоў, глядзяць па ўсіх каналах»,— падумаў пра сябе Блізнюк.

— Я ў курсе, так. Не возьме. Дзверы майго кабінета і дзверы райана — насупраць, цераз ка-

лідор. Там ужо сядзіць інспектар Міністэрства асветы і рыецца ў паперах усіх школ. Ты думаў, калі ты напісаў пра адну школу, дык яны будуць займацца толькі адной, тваёй школай? Не, брат. Нічога ты, хлопчык, не разумееш. Жаўтаротае птушаня.— Гадомскі брыдліва глянуў на Блізнюка.— Усе школы раёна. Які профіль працоўнага навучання, якая прафарыентацыя, стан усёй выхаваўчай работы. Тут, брат, такая калатніна... Усё пералапацяць. Хопіць работы і райкому, і райвыканкому. Можа, яшчэ выклічуць туды.— Гадомскі матнуў галавой угору.— Адным словам, нарабіў ты.

Блізнюк спачатку сумеўся: такі вэрхал па яго паперцы? Прызнацца, чакаў меншага: каб ягадскую школу павярнулі тварам да калгаса. І больш нічога.

Ну, а калі пытанне, закранутае ў паперцы, важнае, то хай і рашаецца на прынцыповай вышыні.

Гадомскаму адказаў:

— Правільна. Усе школы трэба павярнуць да сельскай гаспадаркі. Зрабіць іх, так сказаць, філіяламі калгасаў, саўгасаў. Каб яны рыхтавалі не швачак і не сакратароў-машыністак, а земляробаў. Здабываць хлеб — гэта тое першароднае, без чаго чалавек не жыў, не жыве і жыць не будзе. Гэта важней, чым нават здабываць каменны вугаль. Вы не згодны са мной?

— Я не згодзен? Ён думае пра хлеб, а я не думаю. Я без цябе ведаю, што каменны вугаль не ўкусіш, а хлеб кожнаму патрэбен. І пра кадры для сельскай гаспадаркі не менш цябе клапачуся. І бачу, што адток людзей з вёскі ў горад з гадамі не змяншаецца. Пласцінку трэба, Блізнюк, мяняць. Не тую залажыў. Ты малады яшчэ, падумай пра сябе. Пра школы, пра кадры ёсць каму думаць без нас з табой. Многа на сябе бярэш, саколік. Глядзі, каб не падарваўся.

На некаторы час Гадомскі змоўк, і Блізнюк чуў, як ён соп (ці ад вялікай узрушанасці, ці ад старэчай адышкі).

Блізнюку раптам успомнілася нядаўняя раз-

мова з настаўнікам Бурым. Яны ехалі на «газіку» ў вёску Ямніцу на так званы дзень брыгады. Блізнюк павінен быў пагаварыць на сходзе пра гаспадарчыя справы, а Буры — зрабіць даклад на палітычную тэму.

— Васіль Іванавіч, чаму вы не захацелі быць завучам?

— Не захацеў? — крыху здзівіўся Буры.— Не тое слова. Я не паладзіў з дырэктарам. А перамагае ў такіх выпадках большы начальнік.

— У чым вы не паладзілі?

— У вельмі прынцыповым пытанні. Я хацеў, каб працоўнае навучанне складаў сельскагаспадарчы профіль. Сельгасмашыны, жывёлагадоўля, глебазнаўства. Мы — вёска, земляробы. А ён трымаўся за стары план. Швачкі і іншая мура. Я хацеў выхоўваць дзяцей праз працу ў калгасе, а ён праз розную бутафорыю.

Блізнюк падумаў: «Змыкаюцца. Дарма, што Лізура малады, а Гадомскі — стары. Як тое, што я і Буры — не аднагодкі, а нашы погляды супадаюць».

І што ні гаварыў далей Гадомскі, Блізнюк не слухаў.

Гадомскі тым часам працягваў:

— Шафёра звольніў. Сам за рулём ездзіш. Наватар. Знайшоў на чым эканомію наводзіць. А ці ведаеш ты, што табе, можа, не паложана аднаму, без шафёра, на машыне ездзіць? У дырэктара павінен быць шафёр. Усё, баста. Шафёр — за рулём, ты — на сядзенні. Можа, праз якую мінуту другі павінен на тваё месца ў машыне сесці? Думаў ты калі-небудзь пра гэта ці не думаў? Маўчыш, а?

## 15

Блізнюк прыйшоў на работу задоўга да дзевяці. Не паспеў распрануцца і агледзецца ў кабінеце, як зазваніў тэлефон.

Хто б так рана? Выключны выпадак: звоніць хтосьці да дзевяці.

— Я слухаю,— сказаў у трубку Блізнюк.

— Добры дзень, Блізнюк. Як ты там?

Чый гэта голас? Знаёмы, але чый? Па тэлефоне можна не пазнаць чалавека, лёгка можна зблытаць з другім чалавекам.

— Прабачце, але...— адказаў Блізнюк.

— Не пазнаеш? Я і бачу, што не пазнаеш. Бурак табе звоніць. Начальніка свайго былога не пазнаеш. Што ж, сам стаў начальнікам. Нармальна.

— Антон Антонавіч,— расцягнуў гэтыя словы Блізнюк.— Дзякую, дзякую.

— За што? — язка запытаў Бурак.

— Як за што? За тое, што ўспомнілі. А я думаю: хто б так рана да мяне?

— Нічога, Блізнюк, мацуйся. Я быў у раёне. Гаварыў з першым. Страшнага няма. Гадомскаму трэба зводка пагалоўя. Прырост пагалоўя. Разумееш? Надоі не так, а пагалоўе... А ў астатнім як?

— У астатнім? Проза, Антон Антонавіч.

— Што ты нешта кажаш? Не разбіраю.

— Я кажу: звычайная проза, Антон Антонавіч. Про-за. Цяпер чуеце?

— Проза. Ха-ха-ха,— пачуў Блізнюк у трубцы.— А як ты думаў? Проза і павінна быць. У мяне ўвесь век проза. Ды толькі без нашай прозы ніякая паэзія не пражыве. Яй-богу, лоўка ты прыдумаў: проза.

— Я не прыдумаў. Так яно неяк сказалася. Так выходзіць, Антон Антонавіч.

— Жонка як?

— Сядзіць дома. Работы ёй пакуль што няма. Абяцалі ў школу ўзяць на «прадлёнку» — не ўзялі.

— Ды я ўсё ведаю. Пачакай трошкі.

Блізнюк маўчаў.

— Ты чуеш?

— Чую.

— Кажу: пачакай трошкі.

У бязлюдным пакоі тонка звінела некаторы час пакладзеная на апарат трубка.

«Добра было ў «Камунары». Жылі з жонкай на ўсім гатовым, душа ў душу, як дзеці. Усё, няма дзяцінства, і яно не вернецца. А які быў

Бурак! Разумны, справядлівы. І яго эпоха, мусіць, аджывае свой век. Пазваніў. Шкадуе мяне»,— і Блізнюк адчуў, як да горла падступае тугі камяк.

## 16

Ідзе пасяджэнне праўлення калгаса. Блізнюк старанна рыхтаваўся да яго, накідаў такія-сякія тэзісы і цяпер выступае.

Пачаў з табельшчыка.

— Так, таварышы, табельшчыка Дражніка з работы мы прагналі. З канторскай. Хай ідзе на паляводства або ў жывёлагадоўчую брыгаду. Работы хопіць, і людзі патрэбны.

Што ён рабіў? Звычайныя прыпіскі. Чалавек зрабіў на тры рублі, а ён яму ставіць пяць. Два рублі дзеліць на дваіх. Сабе рубель, і таму, каму прыпісаў, рубель. Добра: дармавыя грошыкі. На іх можна выпіць. Купіць матацыкл і з цягам часу «Жыгулі». Пабудаваць у горадзе кааператыўную кватэру. Не сабе, дык сыну.

А паспрабуй удакладніць, колькі ён украў? Ніякая рэвізія, ніякая экспертыза не ўстановіць. Па дакументах парадак. Грошы выплацілі, а прадукцыі няма. Хто ўкраў прадукцыю? Сабекошт яе ўгору. Хлабысь па рэнтабельнасці!

Далей. Гаворыць мне брыгадзір Карэцкі: «Капусту нехта, Сцяпан Ягоравіч, пачынае мацаць. Там качан выразаны, там выразаны. А дзе дык і лапік». Я кішэнны свой светлячок — сюды, і пайшлі мы прыцемкам на тарфянік, дзе капуста расла. Зашамацелі, чуем. Мы бліжэй. Не ўцякаюць. Ані, як дома, у сваім агародзе. Я асвяціў іх ліхтарыкам. Тады яны сумеліся. Зразумелі, што іх злавілі. І хто б, вы думаеце, быў? Паверыць нельга. Жонка настаўніка і іх сусед. Нож вось такі. Мяшок у яго. У яе — посцілка. Пытаю ў яе: «Дзе ваш муж? Як гэта ён адправіў вас, уночы з чужым мужчынам?» — «Мы,— кажа,— свае». І смяецца, нічагуткі сабе. Быццам ніхто іх нідзе не злавіў і не кралі нічога яны. Я разумею, былі часы, калі над чалавекам звісаў галодны адчай. Перад ім было адно: або — або. А ў наш

час? У настаўніка няма капеек на капусту? Або пасадзіць нельга дома гэтай капусты? Чуў: не надта расце яна на агародах. Мала — пасадзім яшчэ гектараў дзесятак. Купляйце, колькі каму трэба. Палоць нам яе памагайце, даглядаць... Ну, несур'ёзнасць, і ўсё тут табе. Я чытаў: за мяжой у магазінах самаабслугоўвання мільянершаў лавілі. І што яны крадуць? Кансерву якую-небудзь возьме. Іншую дробязь. Дык што яны, галодныя? Так, сквапнасць. У яго мільёны, а яму хочацца яшчэ больш. Дык там жа капіталізм. А ў нас? Слабавата мы ўплываем на людзей,— так, каб чалавек заўсёды адчуваў на сабе вока нашай маралі.

Цяпер пра культуру. Як мне думаецца, у гэтай справе мы здорава адстаём. Пабудавалі пасля вайны нахапок такую-сякую стадоліну — клубам назвалі. Ну і што там цяпер у клубе? Кіно гоняць — і вось вам уся забаўка. Адна страва кішкі чалавеку пераядае... Цяпер нам трэба Дом культуры. Каб акрамя залы для кіно (каму трэба кіно, хай глядзіць) было яшчэ з добры пяток пакояў. Каб чалавек зайшоў у клуб і проста мог паглядзець, пагаварыць з людзьмі. Паслухаць, што другія гавораць. О-о-о, гурт чалавека ачышчае. Выганяе з яго, як кажуць духоўнікі, усякую скверну. Ну, а ў шашкі чаму не пагуляць, у шахматы? Часопіс чаму не пагартаць? П'есу чаму не паставіць? Трэба, каб драмгурток быў. Чаму не арганізаваць свой хор? Свой духавы аркестр? Свой музычны ансамбль? Чалавек часамі хоча ў мастацтве паспрабаваць свае сілы. Чаму не даць яму такую магчымасць? Хай спрабуе.

Я ўжо хадайнічаю наконт Дома культуры. Толькі хачу будаваць яго за бюджэтныя сродкі па лініі райвыканкома. На свае сродкі ў нас дзірак шмат. Заказаў архітэктара. Прыедзе, хай паходзіць, паглядзіць, дзе, што, як у нас тут будаваць.

Калі глянуць на сацыяльны бок людской сілы нашага калгаса, дык вельмі кідаецца ў вочы адно: можна сказаць, няма моладзі. Дзе яна? Што: перасталі людзі жаніцца?

Днямі я прачытаў кніжку. Проста карысную, скажу, кніжку. Нарысы пра калгасы і саўгасы розных паясоў Саюза. Адзін старшыня аднаго сібірскага калгаса, напрыклад, расказвае, што праблемы цякучасці рабочай сілы ў іх даўно не існуе. Моладзь сяла ахвотна застаецца дома і добра, з душой працуе ў калгасе, як іх бацькі. Праўда, калгас дае кватэры або дапамагае, калі гэтага хоча маладая сям'я, будавацца. На кожную карову, якая знаходзіцца ва ўласным карыстанні калгасніка, калгас адпускае тры тоны грубых кармоў. Сена, саломы. Ну? Ён пойдзе з пасцілкай у поле да калгаснай тарпы салому красці? Не.

А ў нас ходзяць. Ведаю, што ходзяць. Не казаў бы, каб сам не сутыкнуўся лоб у лоб з чалавекам, які нёс такую салому. «Ай, дробязь, старшыня,— ношка саломы. Вялікага кабана забіў. Застаўся адзін трохмесячны парсючок. Трэба ж, каб яму гайно было»,— расказвае чалавек. Дробязь? Канечне, дробязь, калі мець на ўвазе толькі ношку саломы. Зімой парасяці трэба гайно. Іначай змерзне.

А хвост дык пэўна адмарозіць.

Мы вінаваты. Не забяспечваем. Не даём. Лянуемся нават падлічыць, што ў нас ёсць і на колькі хопіць. Частку раскрадуць, а астатняе вясной спалім.

Адзін украдзе, а другі сумеецца. У гэтага яшчэ большая злосць. На нас і на такое няскладнае жыццё. Туды-сюды разваліклі, згаечылі, а яму, сумленнаму, няма.

Калі чалавек старанна працуе, да яго трэба павагу мець! Мы не маем права не паважаць яго і не забяспечыць тым, што неабходна яму для жыцця.

У наступным, мне думаецца, усіх кароў, якія знаходзяцца ва ўласным карыстанні калгаснікаў, возьмем на свой баланс у забеспячэнні сенам і саломай. Каб чалавек не пакідаў нашай работы і не бег у лес ці куды адбіць ношку-другую якой-кольвечы травы. За салому будзем браць плату, паколькі мы ўлажылі ў яе пэўную працу нашых людзей і тэхнікі, сена будзем даваць рэзкамі, на

корані. Адзінокім жанчынам, у якіх няма каму касіць, дапаможам скасіць і прывезці.

Лепшы сродак барацьбы з ветравой і воднай эрозіяй глебы — гэта расліннасць. Толькі яна сваімі карэннямі можа спыніць разбурэнне грунту. У апошні час у нашым жыцці назіраецца, я б сказаў, эрозія вёскі. Адслужыў армію і паехаў. Скончыла школу — і бывайце. Калі сыны не будуць пускаць сваіх карэнняў у глебу, якая карміла іх бацькоў, вялікі недарод спасцігне сельскую гаспадарку. І тады мы спахопімся, і трэба будзе шмат часу, каб вярнуць згубленае. Я кажу, мы павінны стварыць вясковаму жыхару самыя нармальныя ўмовы жыцця. А то ходзіць чалавек па траве і саломе, а ў яго ні таго, ні другога.

Цяпер узяць нашага ветэрынарнага ўрача таварыша Дончыка. Калі мне сказалі, я не паверыў. Як гэта можа быць, каб чалавек, які скончыў вышэйшую навучальную ўстанову, аказаўся такі абмежаваны? Скажу шчыра, я б такога ветэрынара не трымаў у сваёй гаспадарцы. Як яго цярпеў Бародзіч? Пчолы. Э, дарэмна... Я не папракаю вас імі. Разводзьце сябе на здароўе. І мёд прадавайце. Дзяржаве лепш, калі на рынку шмат усякіх прадуктаў. Асабліва такіх, як мёд, які ў апошні час, можна сказаць, на вагу золата. Ну, а самі мушкі, дык яны нам грэчку апыляюць, пустацвету будзе менш. І вывозьце сабе сваю пасеку летам куды вам выгадней. У кожнага чалавека можа быць сваё хобі. Я не супраць вашага хобі, таварыш Дончык. Але... У чалавека захварэла карова. Што? І сабака? Хай і сабака. Карова ў аднаго гаспадара, сабака ў другога. Вы ўсё роўна павінны лячыць. І карову, і сабаку, і свінню, і казу — усіх жывёл, якія маюцца на тэрыторыі дадзенага калгаса, калгасныя яны ці не калгасныя, вы павінны лячыць. А ў вас так. Гэта калгасная жывёла. Іду, гляджу і лячу. Гэта жывёла, якая знаходзіцца ў прыватным карыстанні. Не іду, не гляджу і не лячу. Дык у чым справа? Чаго вы тады такі глухі, калі вас просяць? А калі з гэтай каровы ці сабакі пачатак страшнай інфекцыі? Хто павінен яе выявіць і патушыць?

Пра таварыша Кісяля. Гаварыць за вуглом непрыстойна. Гаварыць трэба ў вочы. Пляткарства псуе людзей, крытыка ў вочы лечыць і згуртоўвае.

Кажу яму наконт курсаў. «Трэба? Паеду. А як жа, цяпер шмат новага». Чалавек разумее, што супраць скажаш? А тады за вуглом: «Барадзіч не паслаў бы».

Усе помняць, як мы выбракоўвалі кароў. Сабралі брыгадзіраў жывёлагадоўлі, пастухоў, некаторых даярак. Параіліся, перабралі па мянушках кожную карову. І таварыш Кісель сядзеў на той нашай нарадзе. І згаджаўся, і ніякіх пярэчанняў не было з яго боку. Тут ясна, гаспадарка павінна быць рэнтабельнай. Калі ёсць карова, дык яна павінна даваць малако. Не заапарк, дзе жывёлу кормяць за «так».

Другім днём таварыш Кісель едзе ў Беражкі і, жадаючы выслужыцца перад загадчыкам упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома таварышам Гадомскім, такога наплёў, што іначай, як дурнямі, не назавеш кожнага з нас.

Пра коней трэба пагаварыць. У самой Ягадцы, у цэнтры калгаса, на трыста двароў восем каняк. Я не памыліўся, калі сказаў «каняк». Не коні гэта, а канякі. Ну, дадайце да іх сельпоўскага каня, школьнага і два леснікоўскіх. Я добра бачыў, як было нашым канякам, калі капалі бульбу. У кожнага агарод. Кожнаму хочацца выкапаць у пару, а не тады, калі пачнуцца замаразкі. Уяўляю, што будзе, калі пачнецца сяўба. Можа, пусціць трактары на асабістыя агароды? Не ведаю. Толькі пакуль што чалавек аддае перавагу каню на сваім агародзе. Нават дзеля апрацоўкі прысядзібных участкаў мы павінны трымаць больш коней, чым трымаем. Навошта гэтыя вясенне-асеннія марафоны з агародамі? Не шкадуем сваіх людзей і без патрэбы псуём ім нервы. Наш чалавек, і мы павінны пра яго паклапаціцца. Ёсць калгасы, саўгасы, дзе на прысядзібныя ўчасткі даюць неабходныя ўгнаенні, памагаюць калгаснікам атрымліваць з сваіх агародаў ура-

джаі сучасныя. Пакуль ёсць прысядзібныя ўчасткі, трэба, каб былі і коні.

А на нашых калгасных работах што, няма чаго рабіць каню? Па вушы работы. Толькі паспявай. І колькі мы губляем людзей — пенсіянеры, пенсіянеркі, падлеткі,— якія ахвотна працуюць на конях! А няма коней, няма гэтым людзям і работы.

Трэба арганізаваць вытворчасць саней. Проста: ніякага металу, адно дрэва. Трэба перакантруяваць калёсы: каб колы былі гумавыя, на падшыпніках. Каб конь вёз не дваццаць пудоў, а тону, а то і паўтары.

Няпраўда, што конь сябе аджыў і што трымаць яго нерэнтабельна. Конь сябе акупіць. І таго, хто працуе на ім, пракорміць з ліхвой. Іншая справа, калі коні зіму і сярэдзіну лета гуляюць. То няма каму запрэгчы, то няма ў што запрэгчы. «Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс». У такіх гаспадарках, дзе няма ні калёс, ні атос, і кабылка непатрэбна — хай нясе яе воўк.

І яшчэ адно пытанне. Носяць, кажуць, даяркі малако з фермы ў грэлках. Звярніце ўвагу: у грэлках! Думаю, пад'еду к канцу дойкі, пагаворым. Еду, а яны ўжо ідуць дамоў. Было гэта не тут, у Ягадцы, а ў Ямніцы. Я спыняюся, вылажу з машыны, а яны, бачу, нешта не дужа хочуць са мной затрымлівацца. «Што,— кажу,— бабкі, малако ў грэлачках дамоў несяце?» Яны туды-сюды, няёмка ім, бачу, дастаюць з-за пазух грэлкі і кладуць у машыну. Я завёз іх на ферму і аддаў брыгадзіру Лубнікавай.

У чым справа? Пачынаем высвятляць. Дробязь — грэлка малака. Але ж гэта ўжо перад намі несуны. Нясун сёння возьме на капейку, а заўтра, калі дазволяць абставіны, бак з малаком на плечы ўзваліць.

Ну, карова ў аднаго запусцілася, трэба чалавеку літр малака. Дык красці? Выпішы афіцыйна, вазьмі з сабой бітончык — культурненька, акуратненька — і нясі. Дык хавацца з грэлкай, каб малако тое гумай смярдзела. Не, нікуды гэта не варта.

Не ведаю, расказвалі пра аднаго старшыню калгаса, як ён залез на вышкі, каб паглядзець адтуль, ці п'юць даяркі малако ў час дойкі, і зваліўся адтуль, напужаў і кароў і даярак. Я супраць несуноў. Але хай садоўнік есць яблыкі, колькі хочацца, пчаляр — мёд, агароднік — гуркі. А даяркі хай п'юць малако. Не набгом з вядра ў час дойкі. Падаілі, прыйшлі ў свой пакой, працадзілі, кубачкам напіліся сырадойчыку. На здароўе ім. Хай даяркі будуць ружовашчокія. Каб людзі гаварылі: «Пайду ў даяркі. Сырадой буду піць». Даяркі п'юць сырадой. Прыгожа!

Так, рэчку меліяратары выпрасталі, і на дне канала, які яны зрабілі з рэчкі, бяжыць тонкае шкельца вады. Раней была яна ракой жыцця. Была ў ёй рыба, ракі, жылі бабры, тады-сяды бачылі выдру. Рабіла пакручастыя захады ўправа, улева, луг паспяваў набракнуць яе вадой, і зямля на ім кісла. Так мне расказвалі. Слоў няма, агарод атрымаўся добры. Але ж паліваць трэба. Адна палівальная ўстаноўка — чатырнаццаць тысяч рублёў. А ці адна яна трэба на ўвесь луг?

А дамбу трэба ўсё ж такі зрабіць. Уніз па плыні, недзе пад лесам. Хоць на метр падняць ваду. Тарфянікі памякчэюць, і калодзежы ў вёсцы папаўнеюць.

## 17

Настрой у Блізнюка быў цудоўны. Даўно не было ў яго такога. Урэшце тое, чаго хацеў, скідае з сябе шалупінне, вылузваецца. Хіба гэта не перамога? Перамога!

«Ну, што, паважаны Мікіта Раманавіч Гадомскі, які данос напісаў я на Лізуру? Ці данос гэта? Чаго вы баяліся? Сядзець і чакаць, пакуль нехта прыйдзе і зробіць за вас вашу работу? Тады чаго варты той чалавек, якім толькі папіхаюць, а сам ён не мычыць і не целіцца? Ці можна назваць такога чалавека чалавекам? Тым больш калі гаворка ідзе пра кіраўніка. Кіраўнік павінен весці. А куды ён павядзе за сабой людзей, калі сам сляпы? У багну? Дудкі! Людзі не пойдуць.

Ай, Лізура, Лізура. Хто ж цябе прызначаў у

дырэктары і за якія такія «дзелавыя» якасці? За тое, што ўмееш рабіць адпрацаваныя круць-верць і языком лапатаць? Не пойдзе так, не! Я і казаў, думаў так, што не пойдзе, і не пайшло. Як можна вучыць і выхоўваць дзяцей у баку ад вялікай дарогі жыцця? Сумна. І таму, хто выхоўвае, і таму, каго выхоўваюць.

Дарагія мае дзеці! Я дам вам у рукі сельгасмашыны, вы на іх выедзеце на палеткі зямлі... Арыце, сейце! Убірайце! Брыгада? Хай называецца яна вашай вучнёўскай вытворчай брыгадай. Важна, каб толькі вы адчулі пах вясновай зямлі, палюбілі яе, зразумелі, што няма чалавеку жыцця без яе. Яна наша сіла — і магутнасць, і індустрыя, і мастацтва. Я павяду вас на кароўнікі, на свінарнікі. У наш сад, на агарод, што на асушаных тарфяніках, дзе так добра родзіць капуста, морква, кармавыя буракі, бручка.

Правільна, што вынеслі на сесію раённага Савета дэпутатаў працоўных пытанне аб выхаваўчай рабоце і прафарыентацыі ва ўсіх школах раёна. Хай паслухаюць не толькі адны дэпутаты райсавета, а і ўсе, хто запрошаны на сесію: дырэктары школ, старшыні сельсаветаў, старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў, адным словам — увесь раённы актыў. Як жа гэта, каб у сельскай школе дзеці не арыентаваць на сельскагаспадарчыя прафесіі? Горад не надта ахвотна аддае нам у вёску сваіх людзей, мы ж гораду — усю моладзь».

...Блізнюку радасна было, што вялікая актавая зала райвыканкома аж трашчала ад народу. Нават стаялі некаторыя ў праходах. Усе выступленні былі прасякнуты клопатамі аб выхаванні ў нашых вучняў пашаны да хлебаробаў і іх працы. Дзеці не бачаць працы бацькоў. Куды гэта? А пра Ягадскую школу інспектар Міністэрства асветы так і сказаў: «Захапіліся знешнім бокам выхавання, яго формай, занядбаўшы змест, сэнс і мэту».

«Ну, вось і ўсё,— з палёгкай уздыхнуў сам сабе Блізнюк, калі сесія закончыла работу і яе ўдзельнікі пачалі падымацца са сваіх месц.— Даўно трэба было так зрабіць».

Падышоў Лізура, падаючы Блізнюку руку.

— Так,— гаварыў ён, пакручваючы галавой,— так. Ну і паклялі вас мае настаўнікі, калі, можна сказаць, цэлы тыдзень калашмаціла інспектура школу.

— А вы сам, Рэм Адамавіч?

— Праўду вам сказаць?

— Хто-хто, а дырэктар павінен быць шчырым і гаварыць толькі праўду.

— У такім разе, кляў. У думках,— і Лізура засмяяўся.

— Яшчэ горш,— сказаў Блізнюк.

— Чаму?

— Таму што нядобрыя думкі родзяць нядобрыя справы.

— Не згодзен. Канечне, усякая справа пачынаецца з думкі. Але не ўсякая думка ператвараецца ў справу. Падумае, падумае чалавек, а тады і выкіне з галавы тое-сёе. Не бывае?

— Чаму, бывае.

— Часцей за ўсё менавіта так і бывае. Мне, напрыклад, сёння так прамылі мазгі, што ўсе мае ранейшыя думкі...

— Ідэйным трэба быць, Рэм Адамавіч. Вось так, мілы мой. А вы што думалі? Усякая работа павінна мець пад сабой моцную ідэю.

— Тады, па-вашаму, я безыдэйны?

— Самі рашайце. На чым трымалася ваша школа? На паветранай падушцы. Пакуль што нас корміць зямля, не паветра.

— Не, пачакайце. Вы ўсё на высокіх вывадах. Я вас зразумеў. Але ж зразумейце і мяне: цяжка было ламаць тое, што ўсталявалася, было іменна такім, а не іншым, да чаго прывыклі настаўнікі, бацькі, вучні.

— Таму я і сказаў вам, што вы безыдэйны. Калі б вы адчувалі пульс часу, патрэбу ў сельскагаспадарчых кадрах...

Нехта палажыў руку на Блізнюкова плячо. Ён павярнуўся.

— Антон Антонавіч! Вітаю вас, вітаю! Во з дырэктарам нашай школы ніяк не можам памірыцца.

Блізнюк рухам твару павёў у бок Лізуры.

— Ну, дык жа памірылі ўжо, здаецца. Мала яшчэ? — Антон Антонавіч мірна і цёпла глянуў у вочы Блізнюка і ў вочы Лізуры, як на дзяцей, якія калісьці нешта паміж сабой не падзялілі. Потым падаў руку Лізуру, сказаўшы: — Будзем знаёмы.

— Рэм Адамавіч Лізура.

— А я гляджу, па зводцы, ты і кароў здаў і надоі ў параўнанні з мінулым годам па твайму калгасу не зменшыліся,— гаварыў Антон Антонавіч Блізнюку.

— А чаго ім змяншацца? — не без гонару адказаў Блізнюк.— Надоі — гэта кармавы рацыён. А мы стараемся трымаць яго на ўзроўні, Антон Антонавіч.

— І Гадомскі як вады ў рот набраў.

Блізнюк махнуў рукой, што значыла: «Бог з ім, з Гадомскім,— даўно было і забываецца».

— Прызнацца, Антон Антонавіч, брыдка на душы ў мяне стала. Сабраў усё разам, наплёў на мяне... Добра, што вы тады пазванілі.

— Гы,— хмыкнуў Антон Антонавіч, злёгку ўсміхнуўшыся.— Настрой, канечне, можна чалавеку разбурыць. Я табе сказаў: па-чакай. Во ўсё і ўладзілася. Як жонка?

Блізнюк глянуў на Лізуру, нібы гаворачы гэтым самым: «У яго вось запытайце».

— Хай прыходзіць на работу,— зрабіў невялікі паклон Лізура Блізнюку.— Мы ж калісьці дамаўляліся з вамі?

Антон Антонавіч паблажліва глянуў у твар Блізнюку, зноў дакрануўся рукой да яго пляча і сказаў:

— Слухай, Блізнюк. Я сам ужо стары, а ніколі не забуду бацькавых слоў: «У жыцці пабудзеш і на кані і пад канём». Помніш, калісьці мы гаварылі з табой пра сонца? Павінна ж яно ўрэшце ўзыходзіць там, дзе трэба? Павінна. Я пайшоў, няма часу. Бывай.— Пакланіўся аднаму і другому і ўліўся ў людскі водаварот.

Блізнюк і Лізура, нічога не гаворачы адзін другому, таксама паціху пайшлі да выхада з ак-

тавай залы, людзей у якой рабілася ўсё менш і менш.

— Я зайду ў райана,— сказаў Лізура на калідоры.

Блізнюк ад нечага рабіць пахадзіў па калідоры вялікага будынка райвыканкома, потым спусціўся з чацвёртага на ніжні паверх, апрануўся каля раздзявалкі і выйшаў на двор. Па баках ладнай пляцоўкі стаяла многа легкавых машын розных форм і марак, у цэнтры пляцоўкі, паўз пешаходкі,— галерэя партрэтаў лепшых людзей раёна. Блізнюк пачаў разглядаць гэтыя партрэты, чытаць подпісы пад імі.

«Кісель Н. М., загадчыца Ягадскай сельскай бібліятэкі». І не пазнаў бы, калі б не подпіс. Наталля Мартынаўна? Кісялёва жонка? Як жа звярэдзіў яе мастак, пераводзячы з фатаграфіі на палатно! Блізнюк спрабаваў адысціся далей, глядзеў на партрэт з розных пазіцый, але падабенства так і не знаходзіў.

«Глупства, не ў падабенстве справа,— падумаў Блізнюк.— Важна, што прозвішча яе ў спісе перадавікоў. Казала яна ці не казала, што Барodзіч не паслаў бы яе мужа на курсы? Не вучыцца, таптацца на месцы, ізаляваўшыся ад свету, як Лізура ізаляваў быў школу? Як яна казала? Якім тонам? Канечне, Гадомскі не выдумаў. Казала. Будзем лічыць, што казала і што Кісель не хацеў ехаць на курсы. Але ж паехаў?»

І яшчэ адна думка паплыла ў галаве Блізнюка, калі ён стаяў каля партрэта Наталлі Мартынаўны: «Няўжо ў калгасе не знайшлося, акрамя бібліятэкаркі, хаця б аднаго чалавека на вытворчасці, які б заняў месца на раённай Дошцы гонару?»

На пляцоўку выйшаў з памяшкання Лізура. Ён быў у варсістай пыжыкавай шапцы, у кароткім зімовым паліто з шэрым каракулем. На добра адпрасаваных штанах выпіналіся ўперад вострыя стрэлкі. Штаны былі светлага колеру, паліто — цёмнага. У хадзе ён насоўваў на рукі скураныя пальчаткі.

— Ну? — сказаў Лізура Блізнюку.

— Зараз паедзем,— адказаў яму Блізнюк і глянуў у той бок пляцоўкі, дзе стаяў яго «казёл».— Пазнаеце? — і паказаў Лізуру на партрэт Наталлі Мартынаўны.

— А чаму? Яна,— развёў рукамі Лізура і зрабіў ледзь прыкметны рэверанс.

— Абсалютна не яна,— пакруціў галавой Блізнюк.

— Ведаеце, гэта ж не фатаграфія, а мастацкі партрэт. Мастак — ён знаходзіць свае рысы ў чалавеку. Ну, як вам сказаць? Характэрныя для характара чалавека, а не яго знешнасці. Для мастака твар, які нічога не выражае,— не твар. Разумееце?

— Я кажу: блін гэта, а не мастацкі партрэт. Фатаграфія была б лепш, чым такі партрэт. Як школа ваша: расфарбавалі пад папугая і думаеце, што прыгожа. Пустая бутафорыя! У чалавеку, ва ўсякай рабоце, першым чынам павінна быць сутнасць.

— Сцяпан Ягоравіч,— ціха, набліжаючыся да яго, каб не прыцягваць увагу людзей, якіх тут шмат хадзіла, пачаў Лізура.— Я па афармленню пабіў усе школы раёна. А што, каб не было ў мяне гэтага афармлення? Яна ж, інспектура розная, першым чынам хапаецца за афармленне. Душу вучня інспектару пакажаш?

— Добра, паехалі. А то мы з вамі да цёмнага тут ні да чаго не дойдзем.

І Блізнюк кранууся да машыны.

— За калені пачынае браць,— гаварыў Лізура, параўняўшыся з Блізнюком.

— Уранні мой тэрмометр паказваў дваццаць адзін.

Хоць надвор'е было хмарнае, мароз, між іншым, не здаваўся.

Ужо ў машыне, зачыніўшы дзверцы, Блізнюк сказаў Лізуру, хоць казаць не збіраўся (характар быў у яго такі — казаць, дык казаць да канца, усё што думаеш, што ляжыць на сэрцы):

— Гуляць у бірулькі, Лізура, не будзем. Лёс нас звёў, мусіць, надоўга і моцна. Ты і я будзем рабіць адну справу. Калі б з кожнага твайго вы-

пуску заставалася ў калгасе хоць тры трактарысты,— як было б добра. А то няма ў нас моладзі, усе механізатары старыя. Ды і тых не хапае. Цябе даўно арыентаваў на сельскагаспадарчы профіль завуч Буры. Чаму ты яго не паслухаў, а, наадварот, зняў з завуча? Чалавек ён разумны, сучасны. Мы ездзілі з ім у Ямніцу брыгадны сход праводзіць. Ён рабіў там даклад. Ведаеш, як людзі яго любяць і слухаюць! Усе падзеі ў нашай краіне і за мяжой ён прапускае цераз сваю душу і тады ўжо іх выкладае аўдыторыі. А душа яго чыстая і светлая. Во з кім трэба было табе працаваць. А ты яго зняў.

— Сцяпан Ягоравіч! Зразумейце мяне: не зняў я яго. Завучаў назначае і здымае райана. Не зняў я яго!

— Я не дурань. Ты яго выжыў. Акружыў сябе бабамі. Адзін завуч баба. Другі завуч баба. Э-э-э, я разумею, Лізура. А ты ведаеш, што сучаснае бабскае засілле ў школах, вобразна кажучы — іх матрыярхат, шкодна адбілася на выхаванні дзяцей, асабліва хлопчыкаў? Не чытаў? Я не педагог, а ведаю. Мужчыну можа выхаваць толькі мужчына.

Лізура засмяяўся сам сабе, а тады глянуў на Блізнюка як на дзівака, які наіўна верыць ўсяму таму, што вычытвае ў газетах або кнігах. Не-э-э, тут ён быў моцны, у чым, у чым, а ў гэтым пытанні Блізнюк да яго не падкапаецца.

— Сцяпан Ягоравіч, калі чыталі вы, дык, мусіць, яшчэ нехта акрамя вас чытаў тое, што чыталі вы.— Лізура гаварыў з усмешкай.— Няўжо вы зрабілі зусім канчатковы вывад, што я апалітычны? Дарэмна. Я чытаю. Любы настаўнік павінен шмат чытаць, дырэктар — тым больш. Пытанне суадносін мужчын і жанчын сярод настаўніцтва праблематычнае, і рашыць яго, як і ўсякую праблему, нельга аўтаматычна. Праблемы паспяваюць не за адзін год і рашаюцца не за адзін год. Тут трэба, каб цяперашняя армія настаўнікаў саступіла дарогу новай арміі, у новых суадносінах мужчынскага і жаночага полу. Вы зайдзіце ў любы наш цяперашні педінстытут. Ад-

ны дзяўчаты! Можа, дзе тры — пяць хлопцаў на прыправу. Ну, і што мы з вамі будзем рашаць тут?

— Пачакай, Лізура, не будзь разумнікам. Да ўсякай праблемы можна аднесціся па-рознаму. Адзін сустракае яе твар у твар, другі — задам, робячы выгляд, што не заўважае. А ты мне філасофію разводзіш — праблемы, праблемы... У праблемах і мы разбіраемся. Вось хоць бы Буры...

На адной непасрэднасці ці інтуіцыі далёка не заедзеш. І калі Буры падаў заяву, мне сказалі свае настаўнікі, з якімі я раіўся, і ў райана: «Хай ідзе. Менш будзе тлумы ў школе».

— Я гляджу, як памагала ваша школа калгасу бульбу капаць: трэба, каб выйшла дзвесце вучняў, а выйдзе дваццаць. І тыя ані нічога не хочуць рабіць. У саміх у вас няма ніякай душы да зямлі. А Буры часамі трывожыў ваша сумленне.

Блізнюк уключыў матор, і машына лёгенька задрыжала.

— А можа, зойдзем перакусім? — Лізура паказаў рукой на рэстаран, які быў, калі выходзіць з райвыканкома, з правага боку пляцоўкі.

— Не. Я абедаю дома,— адказаў Блізнюк, кратаючы з месца машыну.

Толькі яны ціхім ходам сталі выязджаць на шашу, як побач вырасла жанчына.

— Ванда Іванаўна,— сказаў Лізура Блізнюку.

Яна пытала, ці не падвязуць яны яе дамоў.

Блізнюк з'ехаў на ўзбочыну, і Лізура адчыніў дзверцы.

Паліто з моднай норкай, шапка з рудога ліса. Губы нафарбаваны, бровы і вейкі падчорнены, вакол вачэй сіняватыя карандашныя цені. Шчокі ружовыя.

Яе пасадзілі на задняе сядзенне. Сеў каля яе і Лізура, пакінуўшы месца, дзе ён сядзеў дагэтуль, каля Блізнюка.

Машыну вёў Блізнюк ціха, рух па шашы быў вялікі.

— Як? — папытала Ванда Іванаўна.

— Як? — адказаў Лізура.— Сельскагаспадар-

чы профіль. Сцяпан Ягоравіч чалавек настойлівы. Задумаў — скруціў нас у баранаў рог, не чакаючы канца навучальнага года.

— Так, паскачаце вы цяпер. Мінулася кату масленіца.

— Канечне, сельская гаспадарка — галіна не з лёгкіх,— адказаў ёй Лізура.— Нічога не папішаш. Трэба ж некаму падымаць яе. Мы горшыя за людзей, ці што? Што могуць зрабіць людзі, тое зробім і мы. Ва ўсякім чалавеку ад прыроды закладзены незвычайныя магчымасці.

Блізнюк паддаў трохі газу машыне.

Праскочыўшы добры сасновы лес, які цягнуўся кіламетры на два, Блізнюк зусім сцішыў язду, уважліва да нечага прыглядаючыся па адзін бок дарогі, тады — па другі.

Лізура таксама стаў глядзець на адзін, тады на другі бок дарогі, на поле.

Там грымела, рухалася сельскагаспадарчая тэхніка: самазвалы і кузаўныя машыны, трактары з прычэпамі, бульдозер падымаў лычам горы снегу, расчышчаючы часовыя палявыя дарогі. Сярод грознага воінства былі і конныя запрэжкі. Вакол куч тарфакрошкі з гноем працавалі з вілкамі і лапатамі людзі ў вушанках, ватоўках і валёнках.

Гэта было поле калгаса «Ленінец», вядомага не толькі ў раёне, але і далей.

«Так, зіма снежная. І рэкі сталі да Новага года, і снегу паспела наваліць во».

Блізнюк пусціў машыну на ўвесь разгон, абганяючы ўсе ціхаходы, нібы некуды трэба было яму паспець, а ён позніцца.

# СІНЯЯ ПТУШКА

## 1

Рака Бяроза. Яна для мяне адзіная. Не спяшайцеся абвяргаць мяне, выстаўляючы свае высновы. Хлопец пакахаў дзяўчыну, далёка не самую прыгожую на свеце. Але яна для яго адзіная. Каханне такое, нічога не зробіш. Бачыў я Волгу, Енісей, Об. Здзіўляўся і захапляўся іх веліччу. Але яны былі толькі здзіўленнем і захапленнем і не зрабіліся часткаю душы маёй.

Бяроза ў мяне адна, як адна вёска, дзе я нарадзіўся, як адна маці, якая дала мне жыццё. На Бярозе я ўпершыню ўбачыў сапраўдны мост, які злучаў два яе берагі, трымаючыся на высокіх нагах-палях і прапускаючы пад сабой параходы. І па Бярозе на параходзе я ўпершыню ехаў у горад, каб атрымаць адукацыю.

Першая лодка, першы блёўт рыбіны, першыя заходы і ўсходы сонца над шырокім лугам, залітым густой сінню разнатраўя. Першы крыгаход і першы разліў вады ад краю і да краю. Гэта ты, Бяроза, ты.

Мы падняліся ўгору па ёй кіламетраў на сем, а мо і дзесяць на лодцы, прычалілі да берага і вылезлі на яго, выцягнуўшы лодку на пясок, каб не знесла вадой.

Пейзаж тут адменны. Злева луг, як акіян,— травы, травы, насупраць, цераз рэчку, такі ж луг і за ім схаваная ў зяляніне садоў не надта вялікая вёска, а на гэтым беразе, на якім мы сядзім, лес. Дубы, вольхі, арэшнік, сосны. Мне падабаецца такі лес. Такім ён бывае не ўсюды.

Мы нічога з сабой не бралі. Ні вуд, ні іншых прылад, якімі ловяць рыбу. Мы ехалі не на рыбу. Мы ехалі адпачыць на ўлонні прыроды, пабавіць час.

Кузьма Рыгоравіч Лаўнік лясны і рачны чалавек ад нараджэння. Родная вёска яго ў самых лясах аднаго з лясных раёнаў і на беразе вельмі

прывабнай, ціхай і на дзіва каліськці рыбнай рачулкі. Так што рыбак Кузьма Рыгоравіч быў добры. У яго былі і вуды з кручкамі і лёскамі розных калібраў, і спінінг быў, і пляцёнкі з сачкамі былі. І жыў ён у раённым гарадку на вуліцы, якая ішла паўз самую рэчку. Рыбу ён лавіў. Нават зімой часта прасякаў пешняй у лёдзе пельку і апускаў у ваду кручок з насадкай.

Я — не. Я любіў пасядзець улетку на прыродзе, асабліва на рэчцы, каля рыбакоў і з рыбакамі, але ні рыбнай лоўляй, ні паляваннем не займаўся. Гультай? Не. У мяне наконт гэтага свая філасофія. Нават не філасофія. Нешта іншае. Я б сказаў, алергія шкадавання. Не кожны будзе спакойна глядзець, як валяць бензапілой лес. Не кожны здолее працаваць на бойні, дзе забіваюць жывёлу.

Лаўнік таксама паляваннем не займаўся. І стрэльбы не меў, хоць лес любіў, як рэчку, і мог бы тады-сяды папаляваць на драпежніка.

Паляўнічыя і рыбаловы мне падабаліся тым, што яны былі як бы часткай прыроды. Не ўсё і не шмат пра яе ведаючы, яны часамі крыўдзілі яе, але ў тым-сім і саступалі ёй, давалі месца побач з сабой. Што там гаварыць, яны больш аддавалі ёй, чым бралі, нездарма ў народзе заўзятых рыбакоў і паляўнічых лічаць дзівакамі.

— Кажаце, месца не знаходзіце? — чыстым грудным басам гаварыў мой сябар.

— Не знаходжу, Кузьма Рыгоравіч. І не ведаю, навошта выдумалі гэтую пенсію? Працаваў бы чалавек, пакуль памрэ. А так — лішні я. Не ведаю, куды сябе падзець. Нідзе нікому я не патрэбен.

— Так вы думаеце? — працягваў ён, закасваючы па локці рукавы блакітнай сарочкі. Рукі яго былі досыць яшчэ камлістыя, скура на іх была цёмная, густа пакрытая чорнымі валасамі. І валасы на галаве ў яго былі чорныя, густыя, з ледзь прыкметным дамескам сівізны. Вочы карыя, выразныя, ні прытомленасці ў іх, ні старэчай слязы.

— Не, не думаю. Адчуваю ўсёй сваёй істотай,

што пенсія мяне давіць за горла. Калектыву няма, няма патрэбнага чалавечага асяроддзя.

Губы ў Кузьмы Рыгоравіча ледзь перасмыкнуліся.

— А дзеці ў вас ёсць?

— У іх свае ўжо дзеці.

— Дарма. Не разумееце, хто вы для іх? І для сваіх дзяцей, і для ўнукаў.

— Вельмі старажытна, Кузьма Рыгоравіч. Род, племя...

— Няпраўда, паважаны настаўнік. І род, і племя, і сям'я ўмацоўваюць грамадства. Без сям'і, моцнай, не можа быць моцнага грамадства.

Чыстае блакітнае неба, зялёнае мора раслінасці, сярод якой мы знаходзіліся, пах рачной вады і ціхая плынь здаўна знаёмай і роднай рэчкі стрымлівалі мяне ад больш глыбокай дыскусіі з сябрам-калегам, і я адказаў яму:

— Хай будзе па-вашаму, Кузьма Рыгоравіч. Але мне зусім не весела, і я не задаволены сваім становішчам.

— А я вось пятнаццаць год на вашым становішчы. І нічога. Адчуваю сябе нармальна. І фізічна, і, так сказаць, духоўна.

Я і сам бачыў, ведаў, што Кузьма Рыгоравіч здароўем і душой не вывіхнуўся, а заўсёднае знаходжанне на прыродзе, як кажуць, яшчэ больш умацоўвае немаладога ўжо чалавека.

Пятнаццаць год на пенсіі, і хоць бы што. Ніякага страху перад канцом жыцця і ніякай мітусні. На сямі сотках сялібы сваёй ён развёў пышны сад з безліччу шпакоўняў і дуплянак на яблынях, а ў самым цэнтры саду стаяла вальера з драцяной сеткі, а ў ёй жыла, як разумная і назіральная гаспадыня, што любіць ва ўсім чысціню і парадак, ліса. «Дзе вы ўзялі яе?» — папытаў я, маючы на ўвазе лісу. «Гэта ж еду на лодцы, а яна ў рэчцы. Бачу, аслабела і топіцца ўжо. Я за яе і ў лодку. Як яна трапіла ў рэчку?» — «А далей што будзе?» — «Далей? Пабачым. А пакуль што во якая прыгажуня».

Ліса была сапраўды як лялька і, самае галоўнае, вельмі даверліва глядзела на людзей. Так і

хацелася ў адказ на такую даверлівасць зрабіць ёй якую-небудзь ласку. Кажу: «Не люблю, калі трымаюць звяроў ці птушак у няволі».— «І не любіце. А я вось трымаю і рад, што яна ў мяне ёсць. Кармлю, назіраю, вывучаю, пазнаю. Чалавек перастае жыць тады, калі губляе цікавасць да пазнання».

Пазнанне... Вечны эксперымент чалавека ў адносінах да прыроды... Лаўнік мне падабаўся.

Ведаў я яго і як выкладчыка. Не, да яго не вадзілі на ўрокі настаўнікаў, каб паказаць яго выкладчыцкае майстэрства. З трыбун настаўніцкіх канферэнцый яго не хвалілі. Хоць і ніколі не ганілі. Я пазней зразумеў: у вітрыну выстаўляецца тавар не заўсёды самы лепшы.

Кузьма Рыгоравіч быў на дзіва нешматслоўны, што, здавалася б, ніяк не стасавала выкладчыку мовы і літаратуры, у якога язык павінен рухацца як на добра змазаных роліках, а словы ліцца як вада з дахавай трубы. Характарыстыкі герояў — кароткія, але дакладныя, з самымі тыповымі рысамі. Слова — трапнае, адзінае, і ніякіх другіх слоў. Ён не любіў слоў-мякіны, слоў-шалупіння. Радаваўся, калі вучань быў шчыры ў сваіх адказах і выяўляў уласны густ у аналізе літаратурных твораў.

Нейкі час, адразу пасля вайны, калі ў настаўніцкіх кадрах адчуваўся голад, ён быў завучам у адной з школ, дзе часова працаваў і я. Бачу, учасціў ён да мяне на ўрокі. Усе класы абхадзіў, дзе я працаваў. І на мову ідзе, і на літаратуру ідзе. І вось на педсавеце аналіз усіх маіх урокаў: «Якім Яўгенавіч вядзе ўрокі як трэба». Я, ведаеце, на ўсё жыццё запомніў гэтую характарыстыку маіх урокаў, хаця была яна занадта лаканічная. З гэтага часу занадта блізкім зрабіўся мне Кузьма Рыгоравіч. Зязюля хваліць пеўня? Ды не. Мы прывыклі да меркі «добрае-дрэннае», а вось да меркі «як трэба» або «як не трэба» не прывыклі.

На пенсіі Кузьма Рыгоравіч захаваў тую ж жыццёвую раўнавагу, якой ён кіраваўся на рабоце. У ім не згасаў устойлівы стэрэатып жыцця, і гэтаму стэрэатыпу чалавек ніколі не здраджваў.

— Я не лічу пенсію злом,— працягваў Кузьма Рыгоравіч.— Добра пад старасць быць незалежным ад сваіх дзяцей і ад каго б там ні было. Зарабіў пенсію, жыву. Блага, па-вашаму? — Ён некалькі раз міргануў вейкамі.

— Не грошы я маю на ўвазе, Кузьма Рыгоравіч. Грошы — добра. Атрымаў і жыві. Я маю на ўвазе сам перыяд пенсійнага жыцця. Быў, быў чалавек у калектыве, і раптам нічога гэтага няма. Як у бяздонне праваліўся. Якаясь ізаляванасць ад грамадства і яго жыцця.

Кузьма Рыгоравіч усміхнуўся і стаў абводзіць вачыма верхавіны дрэў, пад якімі мы сядзелі. Ліст на іх быў ужо шырокі, наліты зелянінай. Самы прыгожы ліст на дрэвах іменна цяпер, у пачатку чэрвеня. Пырхнуў у гушчэчу лесу шпак, трымаючы ў дзюбе рагатую казяўку.

— Бачыце,— паказваў на яго пальцам Кузьма Рыгоравіч.— Птушынага граю цяпер у лесе няма. Можна сказаць, ціха. Дзяцей выводзяць і гадуюць. Самая вялікая справа робіцца без тлуму. А вы гаворыце: калектыў. Калі разумець калектыў як натоўп, дзе людзі труць адзін аднаму бакі, тады — так, няма ў нас з вамі калектыву. Я разумею калектыў як шырокае сацыяльнае жыццё. Я чытаю газеты, часопісы, кнігі. Гляджу тэлевізар. Хаджу ў кіно. Езджу ў тэатр. На мяне глядзяць людзі: суседзі, прадаўцы, мае былыя вучні і іх дзеці, не гаворачы пра радню і іх шматлікую плойму нашчадкаў. У гэтым сэнс майго жыцця, я сам, мая сацыяльная вага. Паміраючы біялагічна, або, як гавораць, фізічна, чалавек працягвае сваё жыццё вельмі доўга, на працягу некалькіх пакаленняў. Пакуль жывуць усе, хто яго ведаў, і іх дзеці, і нават дзеці іх дзяцей.

У Кузьмы Рыгоравіча ледзь прыкметна смыкнулася скура на шчацэ.

— Канечне, калі ўзяць такіх вялікіх, як Шэкспір, яны жывуць...— пачаў я спакваля будаваць адказ на некалькі дзіўную, як мне здалося, тыраду Кузьмы Рыгоравіча.

Ён зноў усміхнуўся.

— Вялікія...— з іроніяй паўтарыў ён маё сло-

ва.— Усім хочацца быць вялікімі. Падмошчваюцца пад вялікіх. Навошта? Вялікае ў звычайным, у маленькім і з маленькага. Зямля з пясчынак. Талстой жыў звычайным чалавечым жыццём. Рабіў тое, што мог, не азіраўся па баках на вялікае і малое. Вы згодны са мной? — і ён паглядзеў на мяне. Вочы яго як бы трошкі гарэлі.

## 2

Сорак год працы ў школе. Настаўнікам. Выкладчыкам мовы і літаратуры.

Нешта забылася, як забываецца шмат звычайных шэрых дзён. Сцякло рабаціннем рачной вады і не вернецца. Праплыло над галавой воблакамі, то радзейшымі, то гусцейшымі, якія таксама не запамінаюцца.

А нешта і засталося ў памяці. І не толькі ў памяці, а і ў душы. Адно радуе, другое абурае.

Мінулае чалавек вывучае не дзеля таго, каб вярнуцца на яго дарогі. Мінулае трэба ведаць, каб не заблудзіць у сваім руху наперад.

Гэтыя мае нататкі, вядома,— мінулае. Без прэтэнзіі на якое-небудзь абагульненне, тым больш навуковасць. Мінулае аднаго чалавека, педагога-практыка. За спіной у мяне ні спецыяльных акадэмій, ні навукова-даследчых інстытутаў. Шчырасць — вось тое адзінае, чым я буду кіравацца у сваіх нататках. Прафесія настаўніка, як і прафесія каваля, вельмі старая. І вельмі патрэбная, як і прафесія каваля.

Прафесія каваля з развіццём тэхнікі як бы адсунулася на задні план, амаль знікла ў многагалосым шуме і тлуме фабрычных і заводскіх трансмісій. Прафесія настаўніка з развіццём культуры і тэхнікі зрабілася яшчэ больш патрэбнай. Паспрабуйце ўявіць сабе сённяшняга грамадства без настаўніка. Нельга, як нельга ўявіць сабе тэхнічны прагрэс чалавецтва на першапачатковай яго стадыі без звычайнага каваля.

На жаль, часта даводзіцца чуць: «Падумаеш, велічыня: настаўнік».

Скажу прама: не горш за доктара, за інжы-

нера, за юрыста, эканаміста і іншых дыпламаваных спецыяліставў. Я аддаю перавагу хіба толькі талентам. Ды хто не схіліць галавы перад талентам, у якой бы сферы ён ні праявіўся?

Праўда, прафесія настаўніка не з лёгкіх. Вобразна гаворачы, трэба ўсё жыццё ўзыходзіць на гару. Паглыбляць і паглыбляць веданне прадмета, які ты выкладаеш. Трэба любіць свой прадмет да самаахвярнасці. Ганарыцца ім і абараняць ад любых наскокаў. Калі ты філолаг, літаратура, літаратура і літаратура. Часопісы, літаратурныя газеты. Акадэмічныя граматыкі, слоўнікі. Мора кніг. Ведаеш, што іх ніколі не перачытаць за адно жыццё аднаму чалавеку, але імкнешся прачытаць як мага больш, бо яны цябе падымаюць усё вышэй і вышэй і кругагляд твой з кожнай прачытанай кніжкай, як з гары, на якую ты ўзыходзіш, робіцца шырэйшы і шырэйшы.

А майстэрства выкладання? Малады настаўнік вельмі шмат гаворыць. У яго рабоце шмат непатрэбнай мітусні. Ён цяжка дыхае, хутка стамляецца і стамляе, часам заблытвае дзяцей, як дрэнны пастух чараду жывёлы. Прыкра, калі нехта пачынае хваліць такога выкладчыка. Маўляў, стараецца.

Стараннасць без умельства — нішто. Нуль. Майстэрства выкладчыка прыходзіць з гадамі. Цераз глыбокае веданне псіхалогіі таго, каму выкладаеш. Кантакт з класам і з кожным паасобку, хто сядзіць у класе.

Маральнае аблічча, сацыяльная вага настаўніка... Настаўнік павінен быць для вучняў узорам сучаснага чалавека. Не начысціў абутак, не зашпіліў гузікі, напіўся, палаяўся з жонкай — ты ўжо не настаўнік. Аўтарытэт твой у вачах дзяцей прапаў. Не адкрыюцца для цябе іх душы, што ім ні гавары. Не выпінайся: дарэмна. Настаўнік, які апранае настаўніцкі мундзір, калі ідзе ў школу, не настаўнік. Пакінуўшы сцэну і зняўшы грым, акцёр можа быць зусім іншы, чым ён быў на сцэне. Настаўнік жа павінен заставацца настаўнікам усюды і заўсёды: на вуліцы, дома, на вяселлі, у клубе, у кіно, у тэатры, у лесе, куды

ён пайшоў у грыбы або ў ягады, ці проста адпачыць душой.

Так, згодзен: для многіх прафесія настаўніка проста не пад сілу. І калі нехта махае на яе, дык не таму, што яна дрэнная або горшая за другія прафесіі, а таму, што махальшчыку не падняцца да яе. Настаўнікам, я б сказаў, трэба нарадзіцца, пераўвасобіцца ў настаўніка нельга, бо ніхто не распазнае так хутка прытворства, як дзеці. Яны лёгка прымаюць жарт, гумар, а фальшы — не. Ніколі.

Канечне, ёсць сярод настаўнікаў людзі невысокага гарту. Гультаяватыя або проста гультаі. А, як вядома, гультайства любіць гатовае і ніколі нікуды не рвалася і нікога за сабой не клікала, не вяло. Іншыя клапоцяцца толькі аб фасадзе і ўмеюць пахваліцца сваім фасадам. Ім часамі шанцуе. Ёсць чыстыя кар'ерысты, плеткары. У кожнага, як кажуць, сваё хобі. Аднак іх у калектыве рана ці позна ставяць на сваё месца. У рачной вадзе каламуць не можа доўга трымацца. Бягучая вада здольна да самаачышчэння. Адну смяцінку ўбок, другую пад сябе — і пабегла зноў чыстая, як шкло.

Калі я быў яшчэ вучнем, настаўнік для мяне быў... Я хацеў сказаць «як бог». Справа ў тым, што бога ў маёй душы не было з маленства, хоць нарадзіўся я да Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтым я абавязаны добрым сваім бацькам, якія, хоць і былі непісьменнымі, пражылі сваё жыццё атэістамі. Так, я паважаў настаўнікаў. Усіх, без разбору. Ужо за адно тое, што яны настаўнікі. Што яны шмат ведаюць і нясуць свае веды ў народ. І, прызнацца, зайздросціў ім у душы. «О-о-о, стаць бы мне настаўнікам!» Пакуль што гэта была толькі мара, нават фантазія.

Не расчараваўся ў настаўніцкай прафесіі і пасля, калі атрымаў вышэйшую адукацыю і сам стаў працаваць у школе. Толькі пачаў адрозніваць значнае ад дробязнага, сапраўднае ад рознага роду падробак. Ды гэта ўжо ў рамках звычайных чалавечых густаў і сімпатый. Вядома, у калібрах і марках зброі лепш разбіраецца вай-

скавік, чым чалавек, які ў руках не трымаў ніякай зброі.

І нават сёння, зараз, калі ў нашай краіне адных вучоных пераваліла за мільён, схіляю сваю галаву перад настаўнікам і настаўніцтвам. Працуйце і ганарыцеся сваёй прафесіяй, дарагія мае калегі настаўнікі.

## 3

Вёска наша па тым часе была немалая: двароў пад сто. Аднак школы ў ёй не было. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1918 годзе, прыехаў дамоў у матроскай форме адзін з нашых вяскоўцаў Ёзка. Па прозвішчу ніхто нікога не называў. Калі недастаткова было аднаго імя, дадавалася імя бацькі.

— Чый Ёзка?

— Анісаў.

Матрос у вёсцы. Сенсацыя. Кожны стараўся яго пабачыць. Пачуць, што ён гаворыць.

Чорная бесказырка з стужкамі-змейкамі, цяльняшка, шырокія штаны, бушлат у бліскучых гузіках. Не так высокі, як плячысты.

— Цара няма і не будзе. Рэвалюцыя. Свабода! — сказаў.— Школа трэба, таварышы. Адкрыем школу. Еду ў Ігумень, і адкрываем школу.

Такім верыш. Яны зробяць. Рэвалюцыянеры, камуністы. Бальшавікі!

Мы, малыя, дзеці школьнага ўзросту, на сёмым небе. Будзем хадзіць у школу. У нас будзе школа. Так хацелася ўмець чытаць і пісаць! У нас не было думак аб якой-небудзь вучонай прафесіі. Дзе там! Нам хацелася хоць трошкі быць відушчымі.

У нашым валасным цэнтры — немцы. Страшна! Добра, што няма іх у нашай вёсцы.

Радасць была не надта доўгай. Амаль кожны дзень невялікімі групамі яны пачалі наведвацца і да нас. Хадзілі, як старцы, па хатах і збіралі «яйка і шпэк». Старцы са зброяй. Добрыя старцы! Паспрабуй не падарыць ім.

Перакладчыкам у немцаў — сын гандляра з валаснога цэнтра.

Неўзабаве чуем: лавілі матроса, які прыехаў дадому ■ балтыйскага флоту разам з нашым Ёзкам. Уцёк у лазу, але ранілі ў нагу, і ён цяпер недзе ў другой вёсцы, дзе няма немцаў.

Недзе пад самым Ігуменем (цяперашні горад Чэрвень) перахапілі кайзераўцы і нашага матроса Ёзку. Усё, няма надзеі на школу. Не будзе цяпер яе ў нас. Хто яе адкрые нам? Ёзку немцы расстралялі.

Нечакана немцы зніклі з нашай зямлі. Бралі кабаноў, фурманкі. У Германіі рэвалюцыя. Сапраўдная, як і ў нас. Хто гэтыя салдаты: ворагі рэвалюцыі? Няўжо ўсе яны з багатых?

І ў гэтым годзе школу ў нашай вёсцы не адкрылі. Не было каму. Дзе ты, добры наш матрос Ёзка?

Адкрылі ў наступным годзе. Прыслалі настаўніка. Высокі, у ботах, у галіфе, у пінжаку. Чорныя валасы заўсёды добра зачасаныя. Уй, што за характар! Ніколі ён на нас не крычаў, нават не павышаў голасу. Добры, добры быў настаўнік!

А як пісаў! Літара ў літару. Вось так бы навучыцца сабе пісаць.

Мы любілі свайго настаўніка, і ніхто ніколі не парушаў дысцыпліну.

За дзесяць вёрст ад нашай вёскі, у Бярэзані, зімавала белапольская армія. І калі салдаты гэтай арміі часамі паяўляліся дзеля таго каб нарабаваць свіней, авечак, кажухоў, палатна, наш добры настаўнік зараз жа ставіў нас усім класам на малітву. І «маліліся» мы да таго часу, пакуль легіянеры, як называлі тады ў нас белапалякаў, не пакідалі вёску.

Настаўнік ніколі не тлумачыў нам, калі і дзеля чаго мы павінны «маліцца», але па якойсьці глыбокай дзіцячай інтуіцыі мы, дзеці, разумелі, што павінны нешта хаваць ад ворага. І мы хавалі. Хавалі сваю нянавісць да яго, пакуль не маглі ўступіць у адкрытую барацьбу.

Барыс Барысавіч (так звалі нашага настаўніка) ніколі не сердаваў на тых вучняў, якія займаліся па нейкіх прычынах слабей за астатніх. Даўшы заданне ўсяму класу, ён вёў слабейшага

вучня за свой настаўніцкі стол, садзіў яго каля сябе і доўга займаўся з ім, пакуль не выконваў заданне ўвесь клас.

Я сказаў: клас. Уся школа ўяўляла сабой адзін першы клас, бо ўсе дзеці вёскі, незалежна ад узросту, былі непісьменныя і калі адкрылі школу, пайшлі ў яе.

Харчаваўся Барыс Барысавіч, як пастух, па чарзе. Адзін вучань — адзін дзень гаспадар корміць настаўніка, два вучні — два дні корміць.

Пасля сканчэння заняткаў ён ніколі не чакаў, каб вучні разышліся. Ён не цураўся іх, не хаваўся і не ўцякаў ад іх. Разам з імі апранаўся, разам выходзіў на вуліцу і ішоў па ёй аблеплены з усіх бакоў хлопчыкамі ў лапціках, у старых (перашытых з бацькавых) світачках, з палатнянымі торбачкамі цераз плячо. А шапкі ў дзяцей? Ой, шапкі, смех адзін. Дзедавы, бацькавы неданоскі, вялікія, пакамечаныя. Аўчына, заяц і бог ведае што яшчэ, не вызначыш ні паходжання, ні часу, калі шапка шылася.

Настаўнік, у рудай паддзёўцы, ступае па снежнай дарозе вуліцы ціха, так, каб дзецям не цяжка было паспяваць за ім. Вось ён зварочвае у адзін з двароў. Хата, як і ўсе ў вёсцы, невялічкая — два квадратных акенцы на вуліцу, у кожным — чатыры невялічкія шыбы, затынкаваныя белай марознай наледдзю. Усе вучні спыняюцца пасярод вуліцы, адзін аддзяляецца ад іх і ідзе ўслед за настаўнікам.

Хлопчык азірнуўся пры ўваходзе ў двор і ўсміхнуўся дзецям: ён рад, што настаўнік сёння сталуецца ў яго, ну — у яго бацькоў, не ў каго-небудзь іншага.

Дзеці, уцягваючы адубелыя на марозе рукі ў рукавы не надта цёплай сваёй вопраткі, доўга яшчэ стаяць на вуліцы, насупраць хаты, куды пайшоў настаўнік, і ім не хочацца разыходзіцца. Што дома? Каб жыць з настаўнікам. Бачыць яго ўвесь час, чуць яго ціхаваты голас.

Навучыцца чытаць, як ён чытае. Пісаць гэтак, як ён піша.

Я не ведаю, куды падзеўся ад нас у наступ-

ным навучальным годзе Барыс Барысавіч, ці яго перавялі куды, ці ён сам перавёўся ў больш зручнае месца, аднак нам было шкада яго. Помніў і помню яго ўвесь час.

Яшчэ за тры гады пачатковага навучання ў нас перамянілася тры настаўніцы.

Барыс Барысавіч кватараваў у звычайнай сялянскай хаце. За стол садзіўся чытаць ці пісаць толькі тады, калі ён быў вольны — звычайна пасля яды — вячэры, абеду. Кніжкі свае ён трымаў у куфэрку, які прывёз з сабой. Спаў за сталом на лаўцы, галавой у кут, пад самыя абразы. На дзень пасцель з лаўкі прыбіралі.

Новая настаўніца Ніна Сяргееўна Лукашэвіч першым чынам адбіла сабе ў школьным памяшканні бакоўку жыць. Якое там і памяшканне — звычайная недабудаваная сялянская хата,— а тут яшчэ бакоўка. Цесна, цесна зрабілася ў нашай школе. Справа сцяна, злева сцяна, праход паміж партамі — не праціснуцца. Парты самаробныя, нестандартныя. Адна карацейшая, другая даўжэйшая.

— Дзе яна будзе з намі жыць,— гаварылі пра настаўніцу жанчыны.— Мякіну нашу параную нюхаць? Гэта ж вам не Барыс Барысавіч.

Валасы на галаве скручаны ў тугі вузел. У вузлах драцяныя дужкі, над вузлом грэбень. Грудзі поўныя, высокія. Плацце з поясам. На нагах гладкія панчохі, чаравікі на высокіх абцасах. На лобе барадаўка.

Прыйдзеш у школу — сядзі за партай, не варухніся, не кашляні, не шкрэбні, бо за перагародкай — яна. Як уладзіць, каб прыйсці перад самымі занядкамі? Цяжка, бо гадзіннікаў у вёсцы ў той час не было.

Тыя самыя вучні, а парадак у школе стаў зусім іншы.

Выходзячы з бакоўкі на ўрок, яна клала на стол кніжкі, вучнёўскія сшыткі і «лапу» — доўгую, шырокую і тоўстую лінейку. Ёю яна біла вучняў па далонях. Вінаваты, як правіла, выклікаўся на клас.

— Дай руку.

Настаўніца брала дзіцячыя пальцы ў сваю руку, выгінала ўгору далонь і пляскала па ёй з усяе сілы лінейкай. Вучні баяліся «лапы».

Часамі настаўніца аб'яўляла:

— Дзве лапы.— Або: — Тры лапы.

Зразумела, пасля некалькіх «лап» далонь чырванела, успухала, і да яе было не дакрануцца.

Мала «лапы» — на калені. Толькі здаецца, што стаяць на каленях не цяжка. Цяжка. Асабліва, калі пастаіш усе ўрокі. Мала таго што баляць самі калені. А паясніца! Не паварухнуцца.

Не саромелася настаўніца адвесці па-мужчынску руку і заляпіць вучню добрую аплявуху. Так білі калісьці па мордзе бяздушныя гаспадары сваіх непаслухмяных коней.

Яна часта дзіка крычала на вучняў. У яе зрываўся голас, сіпела ў горле. Ірвала вучнёўскія сшыткі на шматкі, то за чарнільную кляксу, то за дрэнна выведзеную літару, за памылкі. А сшыткаў не было, даставаць іх было цяжка, прыватныя гандляры дралі за іх адборным зернем.

Родны наш Барыс Барысавіч, дзе ты? Чаму ты пакінуў нас, і не заступішся за нас, і не пагрэеш нас цеплынёй вялікай сваёй чалавечай ласкі?

Новая настаўніца не хадзіла сталавацца па хатах, як хадзіў сталавацца Барыс Барысавіч. Тры разы на дзень трэба было несці ёй яду ў школу ў бакоўку.

Само пранікненне для нас, дзяцей, у яе бакоўку было страшным. І калі б запытаць, што і як там у пакойчыку, я і цяпер не адказаў бы, бо мулілася ў вачах і нічога не запаміналася.

Былі яшчэ ў нас у пачатковай школе пасля Ніны Сяргееўны дзве настаўніцы. Але яны праходзілі перад намі як слабыя цені Ніны Сяргееўны. Праўда, не такія бязлітасныя і жорсткія. Ставілі на калені, але радзей. «Лапай» толькі палохалі, але калі і давалі, дык не так балюча. І сшыткі часамі рвалі, як Ніна Сяргееўна, толькі не з такой злосцю.

Барыс Барысавіч знік ад нас у невядомым кірунку назаўсёды. Былі настаўнікі, настаўніцы, выкладчыкі-прадметнікі, накшталт: матэматык,

хімік, біёлаг, моваввед, але не было Барыса Барысавіча, сапраўднага настаўніка, з якім хацелася быць разам як мага больш.

З Нінай Сяргееўнай мне давялося сустрэцца праз шмат гадоў. Пенсіянерка, яна жыла ў той вёсцы, дзе я працаваў выкладчыкам мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. Ні той пышлівасці, ні той фанабэрлівасці. На барадаўцы выраслі валасы. Ведама, старасць. Знешне ветлівая, яна размаўляла і паводзіла сябе так, нібы была ў чымсьці перад некім вінаватая. Вельмі бедна апранутая, нібы наўмысля выстаўляла сваю матэрыяльную незабяспечанасць. Жыла адна, маючы хату, двор, агарод. Нашы школьныя цімураўцы вазілі і рэзалі ёй дровы, гарадзілі плот, нават крылі пуню, у якой ляжалі дровы і зімавалі куры. Часамі ў яе адрас ішлі аднекуль пасылкі. Ні дзяцей у яе, ні братоў, ні сясцёр не было. Раматусны муж, якісь невялікі канцылярскі работнік, даўно памёр. А як памерла сама, высветлілася: пасылкі яна выпрошвала ў знаёмых інтэлігентных людзей, часцей за ўсё ў сваіх былых вучняў. Яна стварыла была сабе вялікі запас рознай вопраткі, абутку, круп, цукру, солі. Навошта ўсё гэта ёй было? Наўрад ці адно старэчае дзівацтва было тут вінавата.

Заўсёды пры сустрэчы мне карцела запытаць у яе:

— Ніна Сяргееўна, вы помніце, як?..

Не, я не мог задаць ёй такое пытанне. Нельга крыўдзіць людзей, пакрыўджаных, як у дадзеным выпадку, прыродай.

Я часта думаю: якое вялікае значэнне для чалавека мае яго першы настаўнік! Барыс Барысавіч адкрыў мне музыку слова. Упершыню для мяне яна загучала ў вуснах настаўніка.

Ніякай сцэнічнасці ў яго чытанні не было. Ніякіх эфектных жэстаў, ніякага знешняга пераўвасаблення. Ён чытаў ціха, але як бы прыслухоўваўся да таго, што чытаў. Ці гучыць? А калі гучыць, дык як гучыць? Што нараджае ў душы гэтае гучанне?

І паглядаў на нас. Ці слухаем мы? Як слу-

хаем? Ці даходзіць да нас тое, што ён чытае? Як рэагуем?

Я часта думаў і думаю: вось вам форма чытання! Паспрабуйце знайсці яе.

Ды і сама форма навучання, методыка, як яе называюць. Барыс Барысавіч быў «аднастайны», але псіхолаг, педагог. За свой век я шмат сустракаў настаўнікаў надзвычай актыўных і «разнастайных» у метадах навучання, крыклівых, шматслоўных, мітуслівых, тым не менш пасядзіш у такога настаўніка на ўроку, і — адчуванне такое, быццам нешта згубіў. Час патраціў? Не толькі час, нешта большае.

У тэатральныя інстытуты ў нас ёсць адбор, у педагагічныя — няма. А дарэмна. Педагог павінен быць большым за артыста. Каб быць педагогам, трэба быць дужа, дужа добрым. Дужа чалавечным. Разумець людзей, а дзеці — самыя чулыя людзі. Трэба мець вялікую адукацыю, якую ніяк і ніколі нельга абмежаваць адным дыпломам.

Цяпер мне здаецца... А можа, толькі здаецца? Не, не здаецца. Іменна сустрэча з Барысам Барысавічам паклала пачатак маёй любові да слова. Калі б, скажам, першай маёй настаўніцай была Ніна Сяргееўна, наўрад ці пайшоў бы я ў філалогію. Бадай, і не пайшоў бы. Не было б у мяне ўзору, добрага прыкладу. Чалавеку патрэбен прыклад. Ва ўсім патрэбен добры прыклад.

Я стаў чытаць і прыслухоўвацца да гучання слоў. Я палюбіў літаратуру. Цяпер з гонарам магу сказаць: нішто так не ўзвышае, не падымае на п'едэстал духоўнай годнасці чалавека, як мастацкая літаратура. Толькі яна па-сапраўднаму моцна далучае яго да глыбокага разумення гісторыі.

А само слова? Яно не толькі перадае табе свой сэнс. Сагрэтае тваім цёплым дыханнем, яно пачынае перад табой самараскрывацца, і бачыш ты яго голым, з рознымі балячкамі, рубцамі і нарастамі. Старое ці маладое, дзе і як нарадзілася, ці вялікая радня ў яго. Пісаць словы не цяжка, без адзінай граматычнай памылкі. Толькі трэба пільна прыгледзецца да іх, у іх жа ўсё на паверхні.

У працэсе ўсёй маёй вучобы дзіўнае ў мяне было адчуванне. Я вучыў матэматыку, фізіку, хімію, геаграфію, прыродазнаўства ўсяго толькі як прадметы навучальнага плана, не ведаючы якіх не скончыш школу. Больш таго, матэматыка давалася мне зусім лёгка. Некаторыя з сяброў нават зайздросцілі маім матэматычным здольнасцям і бачылі ўперадзе на маёй дарозе фізмат. Аднак хоць галава мая добра рашала задачы, душа не ляжала да іх. І я пайшоў на філфак. На філфаку не было дысцыплін, якія былі б не па душы.

## 4

Мястэчка, у якім знаходзілася сямігодка, было цудоўнае. Што супраць яго наша вёска! Увосень і увесну непралазная гразь, ні рэчкі, ні хоць бы якога мастка, акрамя дрогкай грэблі цераз забалочаную сенажаць на адной з дарог.

Мястэчка стаяла, па-першае, на беразе вялікай ракі, шырыню якой не кожны плывец можа пераадолець. У ёй было шмат рыбы, нават вадзіліся самы. Сом — рыбіна метра на паўтара, цяжкі. Мы раз бачылі, як адзін рыбак ганарыўся ім, трымаючы перад сабой на руках,— рынак увесь дзівіўся.

А цераз раку быў мост, з пілаваных дошак, з моцнымі ўзбоч парэнчамі, высокі, доўгі. Бубніць, калі едзе фурманка па ім. Цераз шырокі заліўны луг вёў да моста не менш высокі, чым сам мост, з абдзернаванымі бакамі насып. З моста было прыемна глядзець у рэчку і на цёмна-сіні сасновы лес, з якога выходзіў насып. Луг, як глянуць, з таго боку, адкуль цякла рака, луг, як глянуць, у тым баку, куды цякла.

А колькі было экзотыкі, калі пад мостам праходзіў белы, з вокнамі параход, а тады, мінуўшы мост, непадалёку ад прыстані скаланаў наўколле над лугам густым гудком.

Параход прыставаў да спецыяльна збудаванай для яго эстакады. Па ёй снавалі людзі туды і назад. Выходзілі і заходзілі з клумкамі і чама-

данамі пасажыры. Грузчыкі спяшаліся пад цяжарам мяшкоў і скрынак.

Мястэчка прамой сувяззю было звязана з гарадамі. Ці ж гэта не рай?

Непадалёку ад параходнай прыстані стаялі баржы. Яны не так хутка адчальвалі, як параход. Прыстане да берага, дык тыдзень, а то і два будзе стаяць каторая, пакуль яе разгрузяць,— быццам прысмактала яе рачным ілам і не ссунуць людзям яе з мелкаводдзя.

Школа — белы двухпавярховы палац былога графа Патоцкага — над самай рэчкай. Бераг адмураваны каменнем, каб вада не падмывала яго. Алея паўз раку, алеі на ўсёй вялікай тэрыторыі двара. Каштаны, таполі, канадскі лён, нават сібірская лістоўніца была.

На другім паверсе ў вялікім пакоі веранднага тыпу стаяў зусім добры раяль. Якое шчасце было паслухаць яго, калі каторая з дзяўчынак магла ўзяць такі-сякі акорд на клавішах або сыграць хоць якую-кольвечы мелодыю.

Настаўнікі прыгожа апраналіся, былі ветлівыя, шмат чаго ведалі.

Вось толькі адзін... Але аб ім пасля.

Тут жа, у школе, для нас, неместачковых, быў інтэрнат. Былі кухня і сталоўка, дзе мы харчаваліся, уносячы кожны месяц пэўную колькасць прадуктаў.

А вучнёўскі клуб — спецыяльны пакой, адведзены для гэтага. Тут былі ўсё дзіцячыя і юнацкія газеты і часопісы. Вычытанае цікавае адным вучнем рабілася здабыткам усіх паплечнікаў. Перыёдыка. Яна вадзіла і вазіла нас па ўсіх кутках нашай вялікай краіны, нават па ўсіх кантынентах і акіянах усяе планеты.

Тут, у клубе, спасцігалі мы вялікую дысцыпліну гульні ў шашкі і шахматы.

Тут, у клубе, адкрываліся ў перыёдыцы новыя вершы і потым выносіліся дэкламатарамі на суд вучнёўскіх вечароў, на якіх, як правіла, ставіліся, таксама вучнямі, і п'есы, падабраныя з перыядычных выданняў. Так, так, падабраныя самімі вучнямі. У клубе мы былі аддадзены самі сабе.

З намі не было дзяжурнага настаўніка. Быў дзяжурны вучань, які сачыў за парадкам. І ўсё, і больш нікога. Тым не менш, мы не білі, не ламалі, не псавалі, не выходзілі за межы звычайнай агульнай чалавечай маралі. У нас быў свой малады калектыў, які не мог супрацьпаставіць свае інтарэсы інтарэсам усяго савецкага грамадства.

Настаўнікі ставілі п'есы для дарослага насельніцтва мястэчка на сцэне нардома. І нам здавалася, што яны таленавітыя — сапраўдныя артысты. Галоўнае — яны рабілі тое, што патрэбна і цікава было людзям.

Праўда, настаўнікі былі ўсе маладыя і пераважна мужчыны. Сярод выкладчыкаў старэйшых класаў была толькі адна жанчына.

Пасля мястэчка, асабліва на летніх канікулах, я іншымі вачыма пачаў глядзець на сваю вёску. Якія прыгожыя лясы, узлескі, узгоркі, нізіны, лужкі, балотцы! А як прыгожа спявалі птушкі! Якое мноства іх у лясах! Бліжэйшай зрабілася мне наша рэчка, якая працякала на нейкай адлегласці, не праз самую вёску, як гэта звычайна бывае. Па зялёнаму лужку, абхопленаму з двух бакоў лесам, яна, як жывая разумная істота, пятляла ўправа, улева, выбіраючы больш зручнае месца для свайго рэчышча, каб недзе далей зліцца з шыракаплыннай Бярозай, на беразе якой стаяла наша сямігодка. У Бярозе ракаў не было, а ў нашай — толькі лаві, не лянуйся. Можна было даставаць іх рукой з нор, ды яны шчыпаліся сваімі шурпатымі крывымі клюшнямі. Лепш і прасцей за ўсё было лавіць іх на жабу. Узяўшыся за капцюрык, здзярэш з яе, жывой, скуру, уціснеш абдзёртую ў раскол палкі — і ў рэчку. Вусатыя шматногія цёмна-чырвоныя жыхары рачных нор пайшлі на пах жабы. Падводзіш на другой палцы берасцяны падсак, гоп угору, і ракі б'юцца пруткімі, нібы гафрыраванымі, шыямі на траве.

Ды ракаў лавіць часу было не надта. Лавілі прытычкамі, часцей за ўсё ў паўдзёнак, калі беглі змыць з сябе пот, пыл у рахманай Клявіцы. Калгасаў тады яшчэ ў вёсках не было, падле-

так — шчасце для аднаасобнай гаспадаркі: пастушок, канюшок, нянька, замок, падвозчык, падносчык, не касец, дык грабец. Дзяцінства наша праходзіла ў працы. Можа, таму такі смачны быў для нас любы хлеб. Можа, такім родным засталося на ўсё жыццё якоесьці аголенае судакрананне з прыродай.

Родная вёска пачынала бачыцца і адчувацца частачкай таго значнага і вялікага, чым было ў той час для мяне мястэчка, дарагая школа, якая адкрывала нам вочы на свет і шчасце.

Чытанне мастацкай літаратуры рабілася штодзённай патрэбай. Не ведаю, выпадковасць ці што-небудзь іншае было прычынай, што яно пачыналася і ішло з такіх і цераз такіх паэтаў, як Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Блок, Ясенін. Іменна іх кніжкі ўпершыню папалі мне ў рукі, іх паэзія загучала ў маёй душы паэзіяй жыцця.

А можа, выкладчыца рускай мовы і літаратуры Раіса Аляксееўна падвяла нас да гэтых паэтаў, потым адкралася сама ўбок і з замілаваннем назірала, як мы спасцігаем іх? Так, была ў Раісы Аляксееўны такая рыса: не навязваць сваімі густамі, чалавек сам павінен адкрываць свае густы ў сабе.

Як бы трошкі ўспухлы нос, успухлыя губы. Кучаравыя валасы, русыя, але нібы трошкі падсіненыя (у тыя гады не фарбавалі валасоў, не!). Быццам і нічога прыгожага, а любілі мы яе. Іншым даюць мянушкі за акуляры, а яна насіла пенснэ, і яно ёй падыходзіла. Такія белыя, празрыстыя шкляныя кружочкі, і трымаліся на адным носе, нічога не ішло ад іх за вушы. У хадзе яе не было грацыі, Раіса Аляксееўна заўсёды нібы некуды спяшалася, ступала як бы туды-сюды, хаатычна, тым не менш нам падабалася, як яна ідзе, прыемна было сустрэцца з ёй на вуліцы, павітацца.

Літаратуру, звычайна, вучні любяць. Калі не ўсе, дык большасць. Ды і тыя, якія не захапляюцца літаратурай, не ўцякаюць ад яе. Граматыка ж — нуда. Правіла на правіле, і ўсе трэба ведаць на памяць. Верш вучыць лягчэй.

Раіса Аляксееўна ўмела выкладаць не толькі літаратуру, але і граматыку. Не заўважалі ў яе мы гэтай самай граматыкі і ніколі не зубрылі правілаў. Дасць сказ і скажа:

— Прачытай.

Прачытаеш.

— Не спяшайся. Прачытай больш удумліва. Што гэта?

Назоўнік.

— Праскланяй.

Ківае ў такт кожнага склону галавой.

— Правільна.

Прыстаўка, канчатак, корань, суфікс. Аснова слова.

— Чаму тут «с», а тут «з»?

Думаеш: адна і тая ж прыстаўка. Калі яна пішацца з «с», калі — з «з».

— Перад звонкім зычным — «з», перад глухім — «с».

Паказваеш ёй, у якім слове дзе што.

Лёгка, яй-права, лёгка. Усё проста і цікава. Граматыка ў Раісы Аляксееўны была канкрэтнай: рыцца ў словах. Правілы запаміналіся самі. Яны не віселі ў паветры, а жылі ў словах, выцякалі з саміх слоў.

Калі дыктант, у класе цішыня, толькі пёры шархацяць па паперы. Раіса Аляксееўна рытмічна ступае па класе, не стукаючы абцасамі сваіх чаравікаў з высокімі халяўкамі, і гэтак жа рытмічна паўтарае тэкст дыктанта. Ніхто не перапытвае, ніхто не адстае. Раіса Аляксееўна ўмее чытаць і ўмее паўтараць. Запамінаецца тое, што яна чытае. Умее размяркоўваць час і ўмее размяркоўваць голас.

Слова пры дыктанце ў яе гучыць гэтак, як і ў звычайнай гутарцы. Яна не «окае» і не «гокае». Яна не прачытае «большой», а «бальшой». «Зілёнава» прачытае, а ты ведай, як напісаць. І дзе два «п» або два «р» напісаць, не падкажа. Ведай. Сам ведай. І ўспамінаеш, як пішацца якое слова. Яна не лавіла вучняў на іх памылках, зларадна не здзекавалася з іх няведання, не захвальвала лепшых, не адварочвалася ад менш здольных. Ці

заўсёды больш здольныя вучні становяцца ў грамадстве прыкладнымі яго членамі? Калі б... Было б лёгка будаваць чалавечае грамадства.

Скончыўшы дыктаваць тэкст, Раіса Аляксееўна гаварыла:

— Прачытайце.

Сама садзілася на крэсла за настаўніцкі стол, адпачывала. Абводзіла вачыма сцены, столь класнага пакоя, пазірала ў акно, праз якое відаць былі дрэвы, проста думала, апусціўшы галаву над сталом. Яна давала час вучням прачытаць напісанае, не проста прачытаць: абдумаць.

І калі сказала: «Здавайце», значыць вось-вось празвініць званок.

Здаўшы сшыткі, вучні пачыналі задаваць пытанні. А пытанняў было! На некаторыя Раіса Аляксееўна нават не паспявала адказаць. На іх яна яшчэ будзе адказваць на наступным уроку.

А наступны ўрок, як правіла,— разбор дыктанта, правільней — памылак дыктанта. І калі яна паспявала праверыць? Учора пісалі, а сёння ўжо і прыносіць. Ні адна пісьмовая работа ў яе не заляжыцца. Прыносіць сшыткі, правераныя, ужо назаўтра. Іншы настаўнік то яшчэ не праверыць, то забудзецца прынесці, а Раіса Аляксееўна і праверыць не паленуецца і прынесці не забудзецца.

Вучні любяць такіх моваведаў. Агеньчык, запалены пісьмовай работай, яшчэ не патух, ім трэба пакарыстацца. Эфект ад пісьмовай работы, прынесены ў клас праз два тыдні пасля яе напісання, напалавіну, лічы, прапаў. Праз мазгі вучня прайшлі ўжо дзесяткі іншых узбуджальнікаў, адсунуўшы далёка назад тую, цяпер ужо колішнюю работу.

— Сацук, чаму ты так напісаў, скажы?

Вучань устане за партай, патопчацца, паглядзіць у парту, смыкне плечукамі і нават не зусім ясна для самога сябе адказвае:

— Тады?

Бачыце, гэта было «тады». Ён нават добра не памятае, што і як было «тады». Быццам і работу пісаў не ён і памылка не яго.

А можа, ініцыятыву разумовага напружання вучня перахапіў ужо іншы прадметнік? У інертнага настаўніка, які сам не мае цікавасці да свайго прадмета, вучні не вучацца.

У Раісе Аляксееўне жыла прыроджаная моўная актыўнасць. Любая паперынка, вывешаная на сцяне ў школе (вучкомам, піянерважатым і г. д.), прыцягвала яе ўвагу. Прачытае, знойдзе таго, хто яе вывесіў, і скажа, калі ёсць памылка. Насценную газету мы, вучні, выпускалі самі. Але Раіса Аляксееўна абавязкова натрапіць на нас у якім-небудзь з класных пакояў, перабярэ кожную заметку, часцей за ўсё ўсміхнецца, чым абурыцца (мы ніколі не бачылі яе абуранай), падкажа, паправіць. Яна любіла гаварыць:

— Вы разумееце, што такое памылка ў пісаным слове? Гэта — вялікі сорам.

Дзіўна, у нас быў другі філолаг — выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Сказаць, што ён дрэнны,— будзе няпраўда. Ён быў занадта душэўны, добры чалавек, бездакорна валодаў беларускай вуснай мовай, не артыст, не аратар, але шчыра аддаваўся твору, які праходзілі. І нечага ў ім усё ж такі не ставала. Не ставала нечага Паўлу Іванавічу.

Чаго?

Ёсць людзі, якія вельмі шмат ведаюць. Але веды свае аддаюць пры выпадку, нібы яны ў іх — толькі для саміх сябе. Як бібліятэка, якая працуе не заўсёды.

І ёсць людзі іншага складу. Веды ў іх не надта, так, звычайныя. Але яны іх аддаюць і аддаюць, шукаюць, каму б аддаць, запальваюць сваімі ведамі іншых людзей, каб і тыя загараліся жаданнем ведаць. Яны актыўна падтрымліваюць вечны агонь пазнання.

Хоць да моўнай культуры мы ішлі як бы выключна цераз Раісу Аляксееўну, якая выкладала рускую мову, вершы мы пісалі на беларускай мове.

Родная мова? Родная мова адно. А ўплыў Паўла Іванавіча быў? Ці не яго дасканалае валоданне жывым беларускім словам непрыкметна

пранікала ў нашы дзіцячыя душы і там пачынала гучаць музыкай? Я гавару «музыкай» таму, што верш — гэта ж музыка слова.

Я адчуваю пярэчанні: «Вершы. Якія там вершы. Хто ў дзяцінстве не пісаў іх!» І ўсё ж такі я павінен пагаварыць пра вучнёўскія вершы.

У школе ў нас «узнікла» адразу некалькі «паэтаў» і «паэтэс».

Адна з іх гаварыла:

— Я як убачу вузенькі аркушык паперы, адразу цягне мяне напісаць на ім які-небудзь вершык.

І яна пісала, перапісваючы потым іх у тоўсты агульны сшытак.

Адзін «паэт» казаў:

«Калі прайшлі рытміку верша, тыпы вершаскладаня, у мяне ў душы загучала та-та-та, та-та-та, і захацелася напісаць нешта падобнае».

Кожны радок свайго верша ён абавязкова дзяліў алоўкам на стопы, расстаўляючы націскі ў стапах, сочачы, каб у радках, якія звязваліся рыфмай, была аднолькавая колькасць стоп. Чым не класік, а?

Вершы сталі з'яўляцца ў насценнай газеце, і «паэты» набылі агульнашкольную вядомасць.

Дзяцінная гульня? Хай. Слава гульні, калі яна падымае падлетка ці ў фізічных, ці ў разумовых, ці ў эстэтычных адносінах на ступеньку вышэй.

А можа, пісанне вершаў — слабасць? Так, прынамсі, некаторыя лічаць. Магчыма. Але ці не чалавечая слабасць дала нам Пушкіна, Талстога, Шэкспіра? Яна.

Я б хацеў пачаць сваю педагагічную кар'еру ў другі раз, калі б гэта было магчыма, у школе, у якой шмат сваіх «паэтаў». І шкадую, што я працаваў у школе, у якой было мала «паэтаў». У чым справа? Я, мусіць, і не адкажу на гэтае пытанне.

Толькі што мы прачыталі п'есу і пачалі размяркоўваць ролі паміж самадзейнымі артыстамі-вучнямі. Адчыняе дзверы Раіса Аляксееўна.

— Падабаецца п'еса?

Усе ўхваляем.

— Добра, калі ўсім падабаецца.

Яна бярэ часопіс з п'есай і хуценька прабягае яе вачыма, паўтараючы на кожнай старонцы:

— Так, так.— Або: — Добра, добра.

Ёй трэба схапіць «душу» твора.

— Ролі?

— Размеркавалі.

— Добра. Перапішыце,— гэта пра ролі.— Давайце паспрабуем, як яна атрымаецца. Павінна атрымацца.

Яна садзілася дзе-небудзь высока (на стол, на парту), брала ў рукі п'есу і суфліравала. Выхады, месца на сцэне, пастава «акцёра», голас, інтанацыя, міміка...

Доўгая і цяжкая была першая рэпетыцыя. Пасля яе Раіса Аляксееўна гаварыла:

— Цяпер вучыце ролі, рэпеціруйце, адпрацоўвайце самі. Старайцеся — як я вам паказала. Што: сыграць вам?

Яна садзілася за раяль, пакінуты графам Патоцкім разам са сваім палацам у час рэвалюцыі, і іграла нам «Марш Будзённага». У яе іграннi ўдзельнічалі не толькі рукі. У такт музыкі яна пакалыхвала туды-сюды галавой, часамі ўзмахвала ёю, валасы яе ў гэты час яшчэ больш успушваліся. Усёй паставай яна нібы плыла, спрабуючы хвалі музыкі ўправа — улева. І пачынала:

Буденный, наш братишка, с нами весь народ,
Приказ голов не вешать, а смотреть вперед.

Мы падхоплівалі, мы добра ведалі і любілі гэтую песню, і яна грымела не толькі на ўсю школу, а на ўсю ваколіцу.

Так, сапраўды, было чаму радавацца. Цудоўная музыка, цудоўныя сама школа і яе двор, цудоўная рэчка Бяроза, на беразе якой стаяла школа, і цудоўныя луг, і лес за лугам, і цудоўныя параходы хадзілі паўз самую школу, і мястэчка само было прыгожае, ідзеш па яго вуліцах і адчуваеш — добра ступаць чаравікамі па гладзенькіх драўляных тратуарах. А ў школьнай бібліятэцы кніг! Якую ні разгарні — так прыемна пахне, і так цікава чытаць!

Як жа было не пісаць вершы?

## 5

Быў адзін настаўнік у сямігодцы, якога мы дужа баяліся. Выкладчык матэматыкі Лашук. Не любілі? Не. Несімпатыя да настаўніка — гэта яшчэ паўбяды. Бяда, калі настаўніка вучні баяцяшчэ. Знікае ў адзін момант з галавы тое, што ведаў. А як жа прыстасавацца, каб навучыцца ў яго чаму-небудзь? Не прыстасуешся.

Ён быў высокі, няскладны ў сваёй паставе. Твар скуласты, лоб квадратны. Плечукі вострыя. Хада была смешная. Здавалася, нехта па чарзе перастаўляе яму яго крываватыя ногі, а на гэтых нагах едзе ён сам.

Уваходзячы ў клас, ён з моцным грукатам зачыняў за сабой дзверы, нібы яны былі ў нечым вінаватыя, і ён помсціў ім. І калі выходзіў з класа, таксама з усяе сілы грукаў дзвярыма, у нас, у вучняў, аж дух займала.

Шэрымі вузкімі вачыма глядзеў на клас калюча. Глянуць яму ў гэты час у вочы было цяжка. Ды не толькі ў гэты час: заўсёды. Вочы яго як бы гаварылі: «А-а-а, брыда, папаўся?» А вучань і не ведаў, за што яго павінны катаваць. За тое, што ён вучань і не ўсё ведае? Вучні — змоўшчыкі і хаваюць супраць яго, настаўніка, змову? Мы ніколі не бачылі яго ўсмешкі. Наогул ці была яна ў яго?

Каб ён хваліў матэматыку — не, мы не чулі ад яго гэтага. Любіў ці не любіў ён свой прадмет, мы не ведалі. Нам ён нічога не раіў, ніякіх парад не даваў. Адно: задаваў задачы і патрабаваў дакладнага іх рашэння. Самым страшным прадметам для нас была матэматыка. Не таму, што яна не церпіць мнагаслоўя, а таму, што яна пагрозліва і бясслоўна перад намі маўчала.

Задаць пытанне? Каму? Задай пытанне, ён цябе з'есць. Гэтага не ведаеш, гэтага не ведаеш, гэтага не ведаеш. Калі ён што-небудзь растлумачыў вучням, дык лічыў, што яны павінны помніць растлумачанае ўсё жыццё. Для яго матэматычныя правілы — адна, як бы праведзеная пад лі-

нейку дарожка. Ніякіх адгаліненняў. Словам, залаты ланцужок, а не дарожка.

Некаторыя настаўнікі памылкова лічаць, што веды ў мазгах вучня адкладваюцца ў выглядзе прыгожага ланцужка. Не так. Спачатку адкладваюцца звёнкі. Лажацца побач, няшчэпленыя. Потым некаторыя пачынаюць шчапляцца паміж сабой. Па два, па тры. Але гэта яшчэ не ланцужок. Ланцугом яны стануць пазней. Часамі — пасля школы,— такі доўгі інкубацыйны перыяд ланцужка ведання прадмета. Настаўніку-прадметніку адразу хочацца бачыць сістэму ў веданні вучнямі яго прадмета — суцэльны ланцужок, а не звёнкі яго.

Лашук не ставіў у кут вучняў, не выганяў на двор з урокаў, не зневажаў словамі, не драў іх сшыткі. З пункту гледжання агульнай этыкі ён быў карэктны. Але карэктнасць яго была сцюдзёная, надзвычай афіцыйная. У ёй не было чалавечнасці. А дзе ж, як не ў школе, з боку настаўніка, павінен вучань адчуваць чалавечнасць?

У школе была традыцыя: настаўнікі расказваюць пяцікласнікам свае аўтабіяграфіі. Некаторыя за ўрок, некаторыя за паўурока, а, напрыклад, Раіса Аляксееўна два ўрокі расказвала. Не запар, а з працягам у наступны дзень.

Лічыў і лічу гэтую няпраграмную «вольнасць» настаўнікаў карыснай. Вывучэнне біяграфій вялікіх людзей мае вялікае выхаваўчае значэнне. Але дасягнуць вышыні вялікага чалавека не кожны здолее. Патрэбен талент. На таленты прырода не надта шчодрая і раздае іх асцярожна.

А біяграфія чалавека звычайнага, пра якога ні ў адной кніжцы не прачытаеш, тым больш настаўніка, якога ты кожны дзень бачыш і чуеш, можа, пераймаеш яго, хочаш быць, як ён, чым не цікавая? Яна можа стаць узорам для твайго ўласнага жыццёвага шляху. Настаўнік жа не пісьменнік, не Архімед, не Чайкоўскі. Любы, пры жаданні, можа стаць настаўнікам. Чаму не паслухаць, як настаўнікі, колішнія ненастаўнікі, зрабіліся настаўнікамі?

Адзін Лашук не расказаў нам сваёй біяграфіі.

У нас не хапала смеласці выклікаць яго на такую споведзь, а ён, заўсёды каменна-сур'ёзны, не мог сказаць нам: «Слухайце, я раскажу вам сённяшнюю аўтабіяграфію». Мы не чакалі ад яго такога свята. І чакаць не маглі. Ён заставаўся для нас чалавекам на сямі замках. Адкуль ён? Хто яго бацькі? Што скончыў? Як вучыўся? Ці ёсць у яго браты, сёстры? Як хочаш глянуць туды, куды, ведаеш, ніколі не глянеш!

Аднойчы мы пачулі ад старшакласнікаў, што яго бачылі з вядомай нам сямікласніцай. І гэта магло быць праўдай? Няўжо? А нам жа здавалася, што ў яго няма душы.

Усякі настаўнік, калі ён настаўнік, павінен пакінуць нешта сваім вучням на ўспамін. Я маю на ўвазе добрае. Нічога не пакінуў нам Лашук, акрамя так рана адкрытай сумнай высновы: ёсць людзі, якіх лепш за ўсё абысці, якім лепш за ўсё прамаўчаць.

Ужо калі я стаў настаўнікам, даведаўся, што Лашук быў загадчыкам раённага аддзела народнай асветы, скончыў завочна фізмат (тады ў яго быў дыплом за педтэхнікум), дажыў да пенсіі на пасадзе дырэктара адной з маскоўскіх школ. Што ж, няблага: чалавек з галавой.

А можа, для кіраўніка і патрэбен такі бескампрамісны, прынцыповы характар? Можа.

Аднак тадышні дырэктар нашай сямігодкі Вацэвіч Сцяпан Іванавіч быў прыступны і добры, як бацька. Вельмі добра выкладаў фізіку, рабіў сам любы прыбор, а маляваў — мастак, а не фізік. Чарнявы, смуглатвары, з разумнымі ўважлівымі вачыма, з усмешкай, ад якой становіцца на душы добра. Хадзіў хутка, трошкі прыгорблена, але лёгка, як на спружынах.

Сямігодцы дзякуй, настаўнікам, якія ў ёй працавалі, дзякуй. Варта сказаць, што, скончыўшы яе, я ў гэтае ж лета надрукаваў свае вершы ў рэспубліканскім друку. Пра вершы — асобная размова, не ўсе, хто іх піша, становяцца паэтамі, аднак яны патрабуюць пэўнай моўнай культуры, а гэтую, я б сказаў, ужо амаль сталую моўную культуру мне дала сямігодка.

У мяне быў ужо свой густ у паэзіі, у прозе. Я ўжо выбраў сабе прафесію: вучыцца на настаўніка.

0

Я еду. Еду вучыцца на настаўніка. У мяне на руках выклік Мсціслаўскіх двухгадовых педагагічных курсаў: залічан са стыпендыяй.

Папярэдне я шмат думаў, хваляваўся. Куды паслаць дакументы? У які горад? А ці залічаць? Ці дадуць стыпендыю? Уступных экзаменаў у спецыяльныя навучальныя ўстановы тады не было. Прымалі па дакументах.

Але мне мала аднаго залічэння. Мне трэба стыпендыя. Бацькі ў мяне няма. За гаспадара — маладзейшы брат, падлетак. Гаспадарка, можна сказаць, натуральная. Прадаць няма чаго, грашовых прыбыткаў ніадкуль. Мне трэба стыпендыя, бульбы з сабой у далёкі горад не возьмеш, без стыпендыі я не змагу вучыцца.

Я рад. Усё атрымалася, як думалася, як хацелася.

Каму перадаць мне свой грамадскі абавязак распаўсюджвальніка рэспубліканскай газеты «Беларуская вёска»?

— Юрка, табе ўсё аддаю,— гавару аднаму з хлопцаў, маладзейшаму за мяне на два гады.

У вёску, як і пры мне, працягвалі ісці газеты з рэдакцыйнымі друкаванымі наклейкамі іх падпісчыкам.

У гэтую ж газету я тое-сёе пісаў ужо як селькор, у гэтай жа газеце я ўбачыў свой першы надрукаваны верш «Жнівень». Па бездарожжы, праз глухія лясы і неўрадлівыя палі цягнулася мая нітачка сувязі з цэнтрам — сталіцай рэспублікі Мінскам.

Не матэматыка сярдзітага Лашука і не фізіка добрага Вацэвіча пацягнула мяне на штодзённую і сур'ёзную гаворку з народам. Мова. Спачатку я паказаў сваім аднавяскоўцам газету, тады — пачытаў, зацікавіў іх, а потым і сам пачаў тады-сяды праз гэтую ж газету гаварыць з людзьмі ўжо

не адной сваёй вёскі, а ўсёй рэспубліцы. Мова ў мяне зрабілася сродкам выказвання сваіх думак, пачуцця, поглядаў на жыццё, ідэй. У народзе гавораць: «Захочаш ударыць сабаку — палку знойдзеш». Сапраўднае валоданне мовай прыходзіць па-сапраўднаму тады, калі вучань адчуе практычнае значэнне яе. Задача моваведа — запаліць вучняў вялікай грамадскай ідэяй і ў святле гэтай ідэі вывучаць законы мовы. Аднак акадэмічная адзнака за веданне мовы — не вельмі моцны стымул дзеля яе вывучэння.

Зноў вяртаюся да школьных самадзейных «літаратараў». Не толькі тых, што пішуць вершы, але тых, што спрабуюць свае сілы ў розных празаічных жанрах — крытычная заметка, замалёўка, фельетон, жарт спачатку ў насценную газету, а потым у раённую і вышэй. Першыя крокі самастойнага карыстання мовай, як першыя крокі дзіцяці, якое пачынае хадзіць.

Прыемна!

Вакзальная мітусня разнатворчых і разнамасных па вопратцы людзей, паравозныя воклічныя гудкі, само чмыханне разумнай і велічнай машыны — паравоза, калі спыняецца з доўгім ланцугом вагонаў каля перона, успрымаецца як частачка той сімфоніі жыцця, у якое я ўступаю.

Курсы мае змяшчаліся ў памяшканні педагагічнага тэхнікума. Па адных калідорах хадзілі мы, навучэнцы двухгадовых педкурсаў, і студэнты тэхнікума. Агульныя выкладчыкі былі ў іх і ў нас.

А выкладчыкамі нельга было не ганарыцца. Усе з вышэйшай адукацыяй, з вопытам і стажам.

Тут у гэты час загараліся такія зоркі беларускай літаратуры, як Змітрок Астапенка, Аркадзь Куляшоў, Юлі Таўбін, Ганна Сапрыка.

Смейцеся пасля гэтага з пачынаючых паэтаў.

У Мсціслаўлі з іх не смяяліся. З імі віталіся за руку выкладчыкі мовы і літаратуры Макоўскі і Габец. Цікавіліся іх вершамі, давалі ім парады, выказвалі свае меркаванні. Наладжваліся бурныя літаратурныя вечары, актавая зала не ўмяшчала жадаючых пабыць на літаратурным вечары. Літ-

гурткоўцы выступалі са змястоўнымі дакладамі пра развіццё рускай і беларускай літаратур. Маладыя аўтары выступалі з чытаннем сваіх вершаў, прыхільнікі паэзіі — з дэкламацыяй вершаў сваіх любімых паэтаў.

Не, такія вечары не забываюцца.

Пасля літаратурнай часткі — хор. Выконваліся пераважна беларускія народныя песні. Яго кіраўнік, прыхільнік кампазітарскага таленту Чуркіна, шмат сілы аддаваў хору. Ён вельмі ўважліва і старанна падбіраў яго ўдзельнікаў. Ён правяраў на голас усіх, хто прыязджаў вучыцца ў тэхнікум і на двухгадовыя педагагічныя курсы. Хто меў голас, павінен быў спяваць у хоры, жадаў ён сам ці не жадаў, такі быў прынцып у выкладчыка спеваў Сакалоўскага. Спеўкі былі зацяжныя і частыя, кіраўнік старанна і цярпліва пазбаўляў галасы ад рознага роду дыезаў і бемоляў, затое калі галасы станавіліся чыстыя і знойдзена было сугалоссе іх, ён задзіраў угору свой твар з прыжмуранымі вачыма, падымаў рукі, вібрыруючы імі ў паветры, і ўвесь аддаваўся новай, толькі што вывучанай песні. Не толькі мы, навучэнцы, любілі хор. Нават выкладчыкі, слухаючы яго, часамі расчульваліся.

Насценныя газеты змяшчалі шмат вершаў.

Аднойчы мы, навучэнцы педкурсаў, выпусцілі нумар літаратурнай насценнай газеты. Сакратар партыйнай арганізацыі тэхнікума падышоў да яе, прыгледзеўся, пачаў уважліва чытаць.

— Малайцы,— сказаў ён нам.— Выпускайце. Толькі часцей.

Газета наша выходзіла часта і сабрала вакол сябе шмат аўтараў.

Добра выкладаліся мова і літаратура ў нас. Калі я скончыў курсы, мне ў характарыстыцы разам з накіраваннем на работу напісалі: «Можа выкладаць мову і літаратуру ў старэйшых класах сямігадовай школы».

Цяпер мне думаецца, што за такую характарыстыку я павінен дзякаваць вершам, і толькі вершам, якія настроілі мяне на сур'ёзныя і ўдумлівыя адносіны да мовы.

Далейшы мой шлях быў — літаратурны факультэт, дзе ўся філалогія (мова і літаратура) вывучаецца грунтоўна, ва ўсіх аспектах.

## 7

Цяпер пра свой характар.

Дрэнны ў мяне характар. Часамі я сам цярпеў непрыемнасці праз яго. А як жа людзям было, якія сутыкаліся са мной?

Але мяняць што-небудзь у ім я і не думаў. «Так, і толькі так»,— падказвала мне маё сумленне. Асабліва я быў непрымірымы да недахопаў, якія б яны ні былі і дзе б яны ні сустракаліся.

Каб настаўнік не хацеў вучыцца, задавальняючыся тым, што ёсць у яго? Не. Далоў такіх настаўнікаў! Каб даваў урок па чужых распрацоўках, гаворачы перад вучнямі чужым голасам? Не бачу і бачыць не хачу такой методыкі. Настаўнік — гэта перш за ўсё арыгінал, і ўсё, што сыходзіць ад яго, павінна быць толькі арыгінальным. Капіравання і пераймання ў настаўніцкай рабоце не прызнаю.

Іна Іванаўна Карыца была настаўніцай з прэтэнзіяй. Чарнавокая, з прыгожым высокім станам, часамі, калі трэба было, з нябрыдкай беласубай усмешкай. Касметыку ўжывала, але з тонкім пачуццём меры, падкрэсліваючы ёю толькі найбольш характэрныя і без таго даволі прыгожыя рысы свайго твару. Апранацца ўмела з густам, па сучаснай модзе. Але мода на ёй не крычала, бо жанчына ведала мяжу ёй. І ў сэнсе адукаванасці была на вышыні. Чытала метадычную літаратуру, ведала навінкі яе. З мастацкай літаратурай быццам дружыла, чытаючы не адну класіку, а і творы савецкіх пісьменнікаў. У райана былі добрай думкі аб ёй, таму імя яе часта ўпаміналася на раённых настаўніцкіх нарадах, а яе самую можна было бачыць у прэзідыумах такіх нарад. «Валявая настаўніца» — такое часамі можна было пачуць пра яе ад калег-настаўнікаў.

Я рад за такі выраз. «Валявая настаўніца». «Валявы настаўнік». Сапраўды, такое не заўсёды

сустрэнеш. Калі ў настаўніка ёсць воля, і менавіта воля да настаўніцкай работы, гэта радасць.

Часамі даводзілася чуць: «А што там настаўнік. Выкладай гатовае, аксіёмы тысячагадовай даўнасці, і ўсё. Адкрываць і вынаходзіць нічога не трэба». Для таго, хто не ведае настаўніцкай работы, не цікавіцца ёю і не хоча разабрацца ў яе складанасці, так і ёсць. І для настаўнікаў абыякавых, у якіх няма сваёй настаўніцкай волі, свайго настаўніцкага сэрца, так бывае. На самай жа справе настаўнік павінен мець моцную волю, каб кожны дзень, на кожным уроку нешта адкрываць і вынаходзіць. Адкрываць і вынаходзіць для сябе і для дзяцей. У дзецях — характары, у сабе — шляхі іх фарміравання.

Так, Іна Іванаўна мела волю настаўніцы і добра разумела, што патрабуецца ад настаўніка. Калі гаварыць пра ўзаемаадносіны яе і вучняў, дык трэба сказаць, што вучні адчувалі яе. А гэта нешта большае, чым звычайная павага ці тым больш страх перад настаўнікам.

І тым не менш, я зрабіў ёй аднойчы вялікую непрыемнасць. Васьмігодка, у якой працавала Іна Іванаўна, уваходзіла ў наша куставое метадычнае аб'яднанне. Кіраўніком секцыі моваведаў гэтага аб'яднання быў я. Ну і рашылі мы мовазеды, пабываць на ўроках у яе.

Звычайна настаўнікі не вельмі ахвотна згаджаюцца на адкрытыя ўрокі. Ведаеце, трэба якаясьці асаблівая падрыхтоўка да такога ўрока. Адпаведна трэба стварыць настрой у вучняў. Трэба, каб тэма ўрока падышла спрыяльная і цікавая (матэрыял праходзіцца ў строгай паслядоўнасці па праграме). Што там гаварыць, звыклы рытм у рабоце выкладчыка парушаецца адкрытым урокам.

Іна Іванаўна зрабіла выгляд, што яна не вельмі ўзрадавалася адкрытым урокам па мове і літаратуры, але калі гэта так неабходна (усім не абысці гэтай неабходнасці), то яна не будзе супраціўляцца. Мне здалося, што яна нават узрадавалася магчымасці паказаць сябе сваім калегам на ўроку,

а не ў якім-небудзь дакладзе ці кароткім выступленні.

І вось мы ў Котаве, у школе, дзе працуе Іна Іванаўна.

Школа як школа. Усюды чысціня, парадак.

Іна Іванаўна знешне быццам спакойная, і ўсё ж такі, заўважаю, яна хвалюецца. Я ведаю, што, даючы адкрытыя ўрокі, настаўнікі хвалююцца. Ды як тут не хвалявацца? Кожны твой крок, кожнае слова фіксуюцца вельмі прыдзірлівымі і патрабавальнымі калегамі-настаўнікамі. Засякаецца час, падлічваюцца эфектыўныя і неэфектыўныя мінуты. Адкрыты ўрок павінен быць беззаганным. А што такое загана ўрока? Іх не зважыш. Для аднаго яны ёсць, для другога іх няма. Не ўсе аднолькава думаюць, не ва ўсіх аднолькавы зрок. Можа, гэтым і тлумачыцца складанасць работы настаўніка? У бухгалтара — лічбы. Плюс-мінус, і ўсё ясна. А з чаго складаюцца плюсы і мінусы ў рабоце настаўніка?

Мы ідзём у шосты клас на ўрок рускай літаратуры. У тэме ўрока Пушкін. Адзін з яго вершаў.

Выгляд у вучняў святочны. Гальштукі гарэць чырванню, адпрасаваныя.

Мы, настаўнікі, рассаджваемся на крэслах, якія стаяць паўз бакавую сцяну.

Іна Іванаўна, палажыўшы класны журнал на стол, чакае, пакуль усталюецца ў класе патрэбная для ўрока цішыня. Глянула ў наш бок, ці добра селі мы, настаўнікі.

— Усе ў класе? — звярнулася яна да вучняў.

Вучні хорам адказалі, што ўсе.

Яна разгарнула журнал на патрэбнай старонцы (там у яе была закладка) і пачала выклікаць вучняў да дошкі адказваць урок.

На апытванне пайшло часу не больш дзесяці мінут. Настаўніца, як было відаць, спяшалася, прадбачачы самае галоўнае ўперадзе.

І вучні ў сваіх адказах спяшаліся. Часамі так спяшаліся, што перастаўлялі ў знаёмых словах склады, накшталт «ла-ма-ко». Ясна, адказы іх прайшлі пэўную рэпетыцыю. Калі ж дэкламавалі

верш, дык дэкламавалі не на выразнасць вымаўлення, пачуцця і думкі, а на адно, нікому не патрэбнае ў паэзіі,— на хуткасць чытання.

Тут жа я пачаў думаць. «Чаго не разумее ў літаратуры настаўніца?»

Пакуль я так думаў, яна пачала тлумачыць новую тэму. На дошцы пачалі з'яўляцца адна за адной невялікія рэпрадукцыі мастацкіх карцін. Настаўніца даставала іх са стала і выстаўляла на агляд вучняў, увешаўшы з цягам часу ўсю дошку. Я пачаў недаўменна шукаць вачыма сустрэчы з вачыма выкладчыцы, і яна адказала разы са два мне цёплым сваім поглядам, відаць, задаволеная тым, што ўрок у яе пайшоў так гладка і нават узнёсла. Яна гаварыла і гаварыла пра жывапіс, быццам ён быў яе стыхіяй, і яна рада была, што трапіла нарэшце ў родную стыхію і адчувае сябе, як рыба ў вадзе.

Я зразумеў, адкуль дымам запахла. У апошнія часы там-сям у настаўніцкіх выданнях пачалі з'яўляцца артыкулы пад рубрыкай «Жывапіс на ўроках літаратуры». Можа, там, дзе ёсць магчымасць і неабходнасць крануцца жывапісу, трэба крануцца. Але не на шкоду літаратуры. Не падмяняць урокі літаратуры ўрокамі пра жывапіс. Жывапіс — свой від мастацтва, літаратура — свой. Ці можна ўсе віды мастацтва грувасціць у адну кучу і вывучаць у такой мешаніне?

Урок перастаў мяне цікавіць. Я проста бачыў перад сабой занятую чымсьці не патрэбным мне маладую жанчыну, апранутую ў прыгожую, малінавага колеру, вязаную кофту, з кружэлкай цёмнай касы на галаве, з кругленькім ружовым падбародкам. Я адключаюся ад урока, так, так. Мне такі ўрок не патрэбен. А ці ўрок гэта?

І калі ўжо да званка заставаліся лічаныя мінуты, у якія ніхто нічога не зрабіў бы, каб ратаваць урок, настаўніца разгарнула кніжку па літаратуры і пачала чытаць верш.

Вучні зашасталі падручнікамі, адшукваючы яго ў сваіх кніжках.

Прачытала яна верш без душы, не з вялікім

бракам, але і не з паэтычнай знаходкай. Душа яе і энергія засталіся ў лекцыі пра жывапіс.

«Вось вам і Пушкін, вось вам і яго верш»,— падумаў я.

— Якія ёсць пытанні? — звярнулася яна да вучняў.— Што каму незразумелае ў вершы?

У вучняў не было пытанняў. Яны ўжо не думалі, знясіленыя лекцыяй пра жывапіс, і чакалі, ці хутка зазвініць званок. Настаўніца не падвяла дзяцей хаця б да якой думкі, звязанай з вершам.

— Шумская, ты прачытай.

Дзяўчынка нідзе не спатыкнулася ў чытанні, чытала гучна, выразна, але зноў жа без паэтычнага адчування верша.

Потым чытаў той самы верш хлопчык. У яго былі збоі ад паспешлівасці.

— Верш на памяць,— сказала настаўніца, глянуўшы адным вокам на свой ручны гадзіннік, і ў гэты час пачуўся званок.

Мы, настаўнікі, падняліся са сваіх месц і пайшлі з класа. Іна Іванаўна парадкавала рэпрадукцыі карцін, развешаныя на дошцы.

Урок быў дрэнны. Урока фактычна не было. Якое тут наватарства? Замест таго каб добра разабраць і прааналізаваць верш, настаўніца патраціла час марна. Верш мае змест, выклікае пэўныя пачуцці і думкі. Мае форму. Мае мастацкія сродкі. Выклікае пэўныя асацыяцыі. Я ведаю з асаблівай практыкі, што для дэталёвага аналізу верша мала бывае аднаго ўрока. Перад вучнямі трэба раскрыць душу паэтычнага твора. Мала глянуць на памяшканне музея. Трэба пабыць у музеі, агледзеўшы з розных бакоў кожны яго экспанат.

Зусім расчараваўся я ў Іне Іванаўне, калі мы пасядзелі яшчэ на адным яе ўроку — уроку мовы ў пятым класе. Яна так кудысьці спяшалася, так падганяла вучняў, што пра якую-небудзь стрыжнёвую думку ўрока і гаварыць нельга. «Куды спяшацца і дзеля чаго?» — думаў я.

Я думаў, так. Мне быў час думаць. А калі было думаць вучням? Яны выконвалі нейкі своеасаблівы навучальны крос.

Правяраючы хатняе заданне на дапісванне ў словах літар, настаўніца цікавілася адным: якую літару вучні ўставілі. Калі ж была ўстаўлена іншая літара, гэта значыць зроблена памылка, чуўся катэгарычны голас:

— Няправільна. Паправіць.

Не паспявалі вучні паправіць у сшытках сваю памылку, як чытаўся новы сказ, трэба было сачыць за новай арфаграмай.

Чаму трэба гэтая літара, а не іншая, які корань, прыстаўка, суфікс... Так, так, унікнуць у этымалогію слова не было часу. Час павінен быў ісці на нейкі новы метад, які ў дадзеным выпадку прымяняла настаўніца, а не на грунтоўнае, свядомае вывучэнне вучнямі мовы.

Новая думка пачала працаваць у маёй галаве. Прынамсі, я думаў пра тое, што выкладчыку акрамя ведання свайго прадмета і методыкі яго выкладання трэба ведаць філасофію. Форма і змест. Іх узаемасувязь. Першапачатковае і вытворнае.

Новы матэрыял настаўніца тлумачыла на гатовым матэрыяле. Табліцы, табліцы з зачырвонелымі літарамі ў кожным слове. Слоў было многа. І табліц было многа, не менш, чым рэпрадукцый карцін жывапісу на ўроку літаратуры. Вывесці нейкае правіла з тых табліц, што вывешваліся на дошцы, вучню было цяжка. Табліцы трэба было доўга чытаць, супастаўляць — параўноўваць, у нечым звужаць, сціскаць, рабіць такі-сякі адбор, нешта трэба было з іх выпісваць і занатоўваць сабе ў сшытак. Працэс нараджэння правіла складаны. Па-мойму, ён звязаны з працэсам нараджэння з-пад рукі вучня самога слова па літарах (у вымаўленні — па гуках). Нараджэнне ж ніколі не бывае паспешлівым. Самае галоўнае ў рабоце настаўніка — навучыць вучня думаць над тым, што ты яму падносіш. Іна Іванаўна не давала вучням думаць, ператвараючы іх у механічных робатаў. У імя «новага» метаду? Ці пахвалілі б мы агранома за яго «наватарства» ў вядзенні сельскай гаспадаркі, калі б яно не павышала, а зніжала ўраджайнасць?

Растлумачыўшы новы матэрыял і напісаўшы з вучнямі некалькі сказаў («замацаванне новага матэрыялу», як гавораць настаўнікі), выкладчыца тут жа ставіць сцяну паміж тым, што было на ўроку, і тым, што будзе. Яна вешае на дошку карціну і гаворыць вучням:

— А цяпер напішам па гэтай карціне сачыненне.

— У якіх сшытках: хатніх ці кантрольных?

— У кантрольных, Аўрамчык. Прачытайце ўважліва карціну. Работа творчая.

Вучні зашасталі сшыткамі.

Творчасці на ўроку не было і не быць не магло. Часу вучням не далі, каб падумаць над тым, што яны бачылі на карціне. І пісаць самім ім не далі. Пад выглядам шліфоўкі вучнёўскіх фармуліровак настаўніца проста прадыктавала з лістка паперы свой загаловак работы і некалькі сваіх сказаў пра карціну.

— Праверым. Таня Шамецька, чытай.

Вучаніца чытала, а вучні сачылі за яе чытаннем па сваіх сшытках.

Празвінеў званок. З часам у настаўніцы быў лад. А з урокам што атрымалася? З творчай работай вучняў? Ці выклікалася гэтая работа ходам урока? Ці былі вучні псіхалагічна падрыхтаваны да яе? Ці «тварылі» яны, пішучы звычайны дыктант? Ды і дыктант быў зусім не звязаны з тэмай урока.

Пры разборы адкрытых урокаў першым слова атрымлівае той, хто іх дае. Іна Іванаўна ахвотна ўзяла гэтае слова. У яе быў добры настрой. Урокамі яна задаволена. Усё, што запланавала, зрабіла. Непрадбачаных зрываў не было. Што яшчэ трэба!

Выкладчыкі-моваведы з іншых школ, як і заўсёды, былі вельмі асцярожныя. Выказвалі свае думкі аб уроках у форме пытанняў. Іна Іванаўна адказвала смела, бадзёра, упэўненая, што яе метадычныя прыёмы грунтуюцца на апошніх дасягненнях методыкі і педагогікі. «Так, я жывапіс ведаю і імкнуся прыцягваць яго да ўрокаў літаратуры. Так, урокі мовы я імкнуся разнастаіць і

амаль на кожным уроку, праходзячы праграму па мове, пішу творчыя работы».

Я не мог гаварыць таго, чаго не было ў маёй галаве і ў маім сэрцы. А таму, спакваля, у рамках педадагічнай карэктнасці, так, каб не надта пакрыўдзіць настаўніцу, але каб яна ўсё ж такі зразумела і адчула недахопы сваіх урокаў, сказаў усё, што думаў.

Іна Іванаўна зрэагавала на маё выступленне арыгінальна. Яна рэзка ўстала з крэсла і пайшла з настаўніцкай. Чакалі мы яе дзве мінуты, пяць, і дзесяць, але яна не вярталася. Дырэктар школы, які таксама прысутнічаў на разборы ўрокаў, пайшоў шукаць яе, а вярнуўшыся, сказаў:

— Не прыйдзе.

— Чаму? — запытаў я.

Ён развёў рукамі, усміхнуўся, а тады адказаў:

— Хто яе ведае. Мусіць, пакрыўдзілася.

Усім нам зрабілася ў нейкай меры няёмка. Чалавек прывык толькі да славы? Выходзіла: усе мы звычайныя, маленькія і не мелі права рабіць ёй заўвагі.

Добра, мы сваё зрабілі. На ўроках пабылі, абмеркавалі іх і можам ехаць дадому. Шаша праходзіла ў ста кроках ад школы, і мы пайшлі да яе, каб сесці на якую-небудзь машыну.

Неўзабаве прыйшоў да нас дырэктар. Мусіць, зразумеў, што непрыстойна не правесці людзей за тэрыторыю школы.

На двары стаяў сакавік, свяціла ціхае сонца. Шаша была ўжо голая. Стаяць на ёй, прапускаючы паўз сябе розныя машыны, было прыемна.

З шашы былі добра відаць асветленыя сонцам вялікія вокны драўлянай школы. Нехта хадзіў па настаўніцкай.

— Яна,— сказаў дырэктар.

Канечне, яна. Я пазнаў яе малінавую кофту.

— Ведаеце,— гаварыў дырэктар,— яна такі абед падрыхтавала. Думала запрасіць усіх вас на абед.

— Купіць мы ў яе павінны былі гэты абед? — пажартаваў я.

— Купіць не купіць, а ва ўсякім разе...

— Заслужыць,— здагадалася адна настаўніца.

Іна Іванаўна, дзе б я потым ні сустракаў яе, не віталася са мной. То абыходзіла бокам, то рабіла вельмі ўдумлівы твар і глядзела сабе пад ногі, то глядзела мне ў вочы як на зусім, зусім незнаёмага. Ну што ж, колькі ні жыві, жыццё падносіць табе ўсё новае і новае, ніколькі не падобнае на тое, што ты ўжо ведаеш і бачыў.

Між іншым, не доўга хадзілі мы па адных сцежках. Я пайшоў на пенсію.

Ёй жа, так гады праз два, далі ганаровае званне заслужанай настаўніцы рэспублікі.

Гаварыў я потым на гэтую тэму з загадчыкам райана.

— Як далі, кажаце? Заслужыла,— адказаў ён.

— У раёне не знайшлося лепшага моваведа?

— А ўявіце сабе, што не знайшлося.

— Я не згодзен.

— А каму патрэбна ваша згода?

Мы сядзім з загадчыкам райана побач. Вязе нас у Мінск на сваёй легкавой машыне адзін настаўнік. У прыродзе прадвесне. Сцяпан Антонавіч палажыў сваю зімовую шапку сабе на калені. Русыя яго валасы гладка прычасаны ўгору. Лоб высокі, адкрыты. Вочы сінія. Ён глядзіць на мяне і ўсміхаецца.

— Ведаю, Сцяпан Антонавіч, што мая згода або нязгода цяпер нікому не трэба. Я пенсіянер, чалавек без грамадскай вагі. Наадварот, утрыманец. Затое я маю, нават перад вамі, адну перавагу. Ні ад каго не залежу, нікому не падпарадкоўваюся і магу выказаць сваю думку да канца не толькі вам — майму былому непасрэднаму начальству, а і таму, што стаіць над вамі. Разумееце?

— Разумею і добра ведаю, што вы не надта хавалі свае думкі і да пенсіі. Па-другое, вы былі ў яе на ўроках?

— І не раз. І не высокай думкі аб іх.

— Мы ведалі і ведаем аб вашым канфлікце з ёю. Не ўпікаем вас за гэта, не ўпікалі і ўпікаць

не будзем. Мы ведам вашы густы. З вашай вышыні, можа, і не ўсё добра на гэтых уроках. Вы бярыце сярэднюю вышыню, так сказаць, сярэдняга настаўніка. І з гэткай, а не сваёй вышыні ацэньвайце яе работу. Цудоўная настаўніца Карыца! Далі ёй заслужаную правільна. На ўроку яна не прысядзе. Крэсла з класа ў яе можна выкідаць. Урок вядзе актыўна. Чытае. Прымяняе новыя метады. Вядзе вялікую грамадскую работу. З кім вы яе зроўніце? Ну, з кім?

Сцяпан Антонавіч пакалаціў перада мной складзенай у коўшык далонню, нібы правяраючы ў мяне на вачах вагу Іны Іванаўны.

— З кім? За такія якасці можна даць заслужанага любому актывісту, нават не настаўніку.

— Вы так думаеце?

— Не я адзін. Гэта, калі хочаце, закон. Заслужаны — не шэрая сярэдзіна, не сярэднеарыфметычнае. Заслужаны настаўнік — гэта, ведаеце, талент. Ён павінен, у першую чаргу, глыбока пранікаць у свой прадмет і вучыць гэтаму пранікненню дзяцей. А што ваша Карыца? У яе няма нават пачуцця мовы. Верхаглядка. Мітусня і жаданне вызначыцца — гэта яшчэ не работа.

Сцяпан Антонавіч некаторы час маўчаў, пазіраючы ўперад па шашы праз ветравое шкло. Машыны ішлі насустрач, машыны абганялі нас. Потым, павярнуўшыся тварам у мой бок і агледаючы ўсяго мяне сінімі сваімі вачыма, загаварыў:

— Вы думаеце, я адзін даю заслужанага? Інспектура, дырэктары ўсіх школ раёна, райком, райвыканком, старшыні сельсаветаў, радавыя настаўнікі... Тут вялікі кангламерат думкі. І думка гэтая выспявае пастулова. Не за адзін год. І калі б хто-небудзь адзін з гэтых людзей сказаў бы «не», думаеце, што паслухалі б? І ваша думка, хоць, можа, у ёй і ёсць частка праўды, засталася б без падтрымкі. Такім чынам, паважаны Якім Яўгенавіч, мы стаім з вамі перад фактам. А факт ёсць факт, жывая рэальнасць. Ну, і, ведаеце, калі мы даём каму-небудзь заслужанага, заўсёды знаходзяцца супернікі, якім так і хочацца сказаць...

— «Чаму не мне?»

— Во-во, іменна «чаму не мне». Вы ўгадалі маю думку.

— Я выключаю сябе з гэтай катэгорыі. Я ўжо, як кажуць, па-за гульнёй. Мне цяпер патрэбна толькі адно: ісціна. Не можаце ж вы западозрыць мяне ў суперніцтве з Карыцай?

Сказаў я і пашкадаваў, што сказаў. Вельмі пашкадаваў. «Можа, можа, можа»,— паўтарала мая думка.

— Як сказаць,— кіўнуў убок галавой Сцяпан Антонавіч.— Іншы западозрыць. Суперніцтва жывучае, як кот.

— Яшчэ ў мяне ёсць адзін аргумент,— сказаў я, абыходзячы дыскусію пра суперніцтва.

— Супраць?

— Вядома. Чаму яе вучні нічым не вызначаюцца па мове ў нашай школе? Да нас з восьмых класаў прыходзяць выпускнікі чатырох школ: Ягадскай, Каранецкай, Лошніцкай і іх, Котаўскай. Самыя падрыхтаваныя дзеці з Каранца. Нічога — з Ягадскай школы. Яе ж вучні, я б сказаў,— такая пасіўнасць... Для мяне гэта загадка. Каб самая лепшая настаўніца ды выпускала баласт. Талент настаўніка хоць у якім вучню ды выкажа сябе. Пачнём пісаць сачыненне, дык яны так і глядзяць, каб дзе што-небудзь злізаць. Разумееце?

— Разумею і не перастаю стаяць на сваім. У кожнай вёсцы складаецца нейкая свая традыцыя адносін дзяцей да вучобы. Дапускаю такую традыцыю і ў Котаве. Раз. Па-другое. З іншых трох школ дзеці ходзяць у вашу школу кожны дзень. Яны не парвалі са сваімі сем'ямі. Атмасфера вучобы ў іх звыклая. Котаўцы ж жывуць у вас у інтэрнаце. А інтэрнат не родная хата. І, потым, рытм вучобы ў вас свой, у іх быў іншы. Дзеці хваравіта пераносяць разрыў з домам і з першай сваёй навучальнай установай.

— Усё гэта так і не так, бо пахне якімсьці аб'ектывізмам. Выгароджваеце вы, Сцяпан Антонавіч, Карыцу. Ствараеце ёй незямны арэол. А яна зямная. І, трэба сказаць, грубая зазнайка.

6 Зак. 2850

Мы ў яе былі ў школе (дзесяць чалавек моваведаў!), і яна ўсім нам паказала... зад.

Залужны засмяяўся.

— Мне дырэктар расказваў.

— Вы гаварылі пра кампаненты, якія ўлічваюцца, калі даюць каму-небудзь заслужанага. Калі гэтых кампанентаў, уявім, сто, дык у яе не хапае аднаго — яна не мовавед. Ва ўсякім разе, вельмі пасрэдны мовавед, не тое што каб даваць ёй высокае званне.

Так мы і не прыйшлі да агульнай думкі з загадчыкам райана Залужным. Ён мяне ні ў чым не пераканаў, я — яго.

Аднак потым я задумаўся. Можа, у мяне сапраўды вельмі высокія патрабаванні да настаўніка? Можа, мае ацэнкі работы настаўніка занадта суб'ектыўныя? Ці не памыляюся менавіта я, а не хто іншы, да каго я стаўлюся з яўным скептыцызмам? Якія ў мяне ёсць падставы, каб мераць людзей іменна сваёй меркай, а не якой-небудзь іншай? Розум і сэрца? Розум і сэрца ёсць у кожнага.

Потым я зноў вяртаўся на свае ранейшыя пазіцыі. Не адступлю, не здраджу, як не адступіў і не здрадзіў сваім перакананнем вялікі Архімед. У мяне ёсць навука філалогія. Я буду кіравацца ёю, і толькі ёю. Я яе люблю, нясу гэтую любоў у сваім сэрцы і павінен перадаваць яе дзецям. Я абаронца яе, радавы воін, салдат.

## 8

Псіхалогія моваведа як спецыяліста стабілізуецца не так хутка. Калі вы сёлета атрымалі дыплом філолага, не радуйцеся, вы яшчэ не мовавед. У вас ёсць толькі права пачаць працаваць моваведам. Моваведам вы можаце стаць пазней, калі возьмеце пяты клас, хай чацвёрты, і зробіце яго выпуск з дзесятага. У другім заходзе вам палягчэе. Вы будзеце менш «буксаваць», у вас будзе менш педагагічных «ям», калі ў чалавека ўзнікае самае трагічнае адчуванне — «не вылезу». Прыкладна праз дзесяць — дванаццаць год да вас

прыходзіць сталасць выкладчыка мовы і літаратуры. Вы ўжо, у асноўным, уяўляеце вучняў ад пачатковага да выпускнога класа. Вы ведаеце, што можна і чаго нельга дамагчыся ад іх. Вы быццам зразумелі, дзе ваша слабае месца, а дзе недаробкі настаўнікаў пачатковых класаў, настаўнікаў-мовазнаўцаў, якія працавалі да вас у гэтым класе, выкладчыка-гісторыка, выкладчыка-хіміка, усіх выкладчыкаў-прадметнікаў. Агульны адукацыйны ўзровень настаўнікаў дадзенай школы яўным чынам уплывае на моўную паспяховасць вучняў.

Вышэй я сказаў, што вам палягчэе. Палягчэе ў сэнсе станаўлення вашай псіхалогіі. А работы вам стане больш — прыбавіцца. Маштабы яе рассунуцца. Праўда, з'явіцца азарт да яе. Вы як быццам пачнеце гарэзіць з ёй: «Ну, хто каго?»

А можаце не стаць моваведам і праз дзесяць год. Не станеце, і ўсё. Бываюць такія выпадкі. Чалавек мардуецца ўсё жыццё з мовай, а баіцца яе, як агню, так і на пенсію пойдзе, не паладзіўшы з ёю. Я ведаю такія прыклады. Чаго-чаго, звычайных знакаў прыпынку не можа спасцігнуць. Ёсць людзі фотагенічныя, ёсць людзі нефотагенічныя. Першыя заўсёды атрымліваюцца на фатаграфіі добра, другія — ніколі.

Работа ў пачатковых класах, да чаго я рыхтаваўся ў сярэдняй педагагічнай установе, мне не спадабалася. Трэба надзвычай нізенька спускацца да дзетак, нібы станавіцца на калені. Хадзіць на каленях нязручна. Вучыць трэба іх усяму: і мове, і арыфметыцы, і гісторыі, і прыродазнаўству і ў той жа час нічаму грунтоўна. Што мне падабалася ў маленькіх дзетках, дык гэта іх шчырасць і непасрэднасць. Я люблю вас, жэўжаняты, і буду вучыць вас недзе ў старэйшых класах. А пакуль вам патрэбен не я, а настаўніца-нянька.

Праз немалы прамежак часу я вярнуўся ў школу ўжо прадметнікам-моваведам.

Мне далі рускую мову ў трох пятых класах. «Падрыхтоўка да ўрока адна, адзін план урока, працуйце»,— сказаў мне завуч.

Асаблівых цяжкасцей у падрыхтоўцы да ўро-

ка я не сустрэў. Моўных і літаратурных ведаў для работы ў пяцікласнікаў у мяне хапала. Больш таго, мне не было дзе са сваімі ведамі разгарнуцца. Вабілі самыя высокія класы. Там, думалася мне, я меў бы большае задавальненне ад працы.

Першыя ўрокі мяне не напалохалі. І павёў я іх як трэба. Завуч пахваліў нават мяне... «Самае галоўнае для настаўніка — кантакт з вучнямі. У вас ён ёсць. І дысцыпліна, парадак на ўроку ёсць. Я пад дзвярамі цэлы ўрок раз прастаяў у вас».

Я ўсміхнуўся. Завуч зразумеў мяне. «Я ведаю, што пад дзвярамі нельга падслухоўваць настаўніка. Але не вы мне патрэбны былі. Я вас у любы час магу паслухаць на ўроку. Мне важна было ўстанавіць, як паводзяць сябе пяцікласнікі на вашым уроку, калі мяне там няма».

«Дабіваецеся чысціні вымаўлення. Плюс вам. Ведаеце, у пачатковых класах нашы настаўніцы не вельмі аддаюць гэтаму ўвагу. А яна не простая, руская арфаэпія. Малінавым звонам звініць, калі ўслухацца».

Ды «яма» мяне чакала не на ўроках, дзе вывучаецца правапіс мовы. Дзён праз дзесяць я правёў ва ўсіх класах па аднаму і таму ж тэксту дыктант. Я чакаў гэтага дня, нібы ён мог адкрыць мне штосьці незвычайнае.

І ён адкрыў... Дыктант вучні правалілі. У адным класе напісалі на станоўчую адзнаку тры вучні, у другім — чатыры і ў трэцім чатыры. Ніякіх кантрастаў, поўная стабільнасць.

Праверку сшыткаў я закончыў, можна сказаць, адным дыхам, не ўстаючы з-за стала, забыўшыся на тое, што трэба было схадзіць на кватэру паабедаць.

Дырэктар школы Макар Пятровіч Бурко прыйшоў у школу на другую змену. Сеў непадалёку ад мяне за сталом настаўніцкай і кінуў вокам на сшыткі.

— Пісаў што? — і нахіліўся блізка да мяне.

Ад яго запахла табакай, і мне чамусьці здалося, што гэта пахнуць яго сівая барада і сівыя ва-

ласы на галаве. Я не куру, і таму ў мяне на табачны дым сваё рэагаванне: я чую нават, як пахне адзежа ў курца.

— Пісаў. Дыктант пісаў,— адказаў я, трохі разгубіўшыся.

— Як? — Макар Пятровіч узяў адзін сшытак і пачаў чытаць дыктант.

Пакуль ён чытаў і разглядаў памылкі, я маўчаў, нарэшце ён падаў мне сшытак, дастаў з кішэні штаноў піпку і пачаў напіхаць яе. А закурыўшы і абдаўшы сябе і мяне дымам, зазначыў:

— Што ты хочаш, пяцікласнікі.

— Макар Пятровіч, дык жа поўны правал. Напісалі па тры чалавекі з класа, а астатнія — на адзінкі,— пачаў я, нібы хто падбадзёрыў мяне.

Дырэктар усміхнуўся і ўзяў у кулак сваю барадку.

— Правал, кажаш! Дойдуць да дзесятага класа — не будзе правалу. Папрацуеш з імі шэсць год — сам убачыш.

Дырэктар пасмактаў піпку, патаптаў у яе зяпло пальцам.

— А ў класны журнал ты гэты дыктант не занось. Што ты будзеш заносіць адны двойкі? Барані бог яшчэ які інспектар нарвецца. Ім толькі дай такі матэрыял. Ім — каб злавіць. Як зловіць на чым-небудзь настаўніка, тады ўжо рад.

Макар Пятровіч зноў зрабіў над сваёй і маёй галавамі дымавую заслону.

— Разбярэш з імі кожную памылачку, хай тады ўвесь дыктант перапішуць, зноў праверыш.

Я часта ўспамінаю дырэктара Макара Пятровіча Бурко. Я вам скажу, вельмі цікавы чалавек. Сын селяніна з маленькай лясной вёскі, ён увесь час заставаўся па духу свайго жыцця селянінам.

Апранаўся вельмі проста. Зімой насіў ватнія штаны, у сухое надвор'е — валёнкі, у адлігу — боты. Любіў паддзёўку, у вялікі мароз — кажух. Улетку — пінжак, галіфэ, хромавыя боты. Рэдка калі яго можна было ўбачыць у штанах навыпуск. Ніколі не завязваў гальштука, не фарсіў белымі сарочкамі.

Ён пераджыў дзве сусветныя вайны, у апошняй увесь час быў у партызанах.

— Нагаладаліся, накарміліся вошай, нацярпеліся, набачылася,— гаварыў ён пра сваё пакаленне.

Так, яго пакаленню было не да прыбіранняў.

Ён быў выключны гаспадар. Каб не цяклі пуні, дзе ляжалі школьныя дровы і стаяў школьны конь. Каб сена каню было. Каб была добрая вупраж, лёгкія і заўсёды намазаныя калёсы. Зімой — сані.

За рамонтам школы, хоць і быў загадчык гаспадаркі, сачыў сам. Яму казалі: «Макар Пятровіч, у вас жа водпуск». А ён: «А што я, на пуп тут бяру?»

Да раённага цэнтра шашой было дзесяць кіламетраў, і ўсе ездзілі туды на спадарожных машынах. Ён жа запрагаў каня і ехаў на ім дзве і больш гадзіны, не па шашы, а якімісь бакавымі дарогамі.

У мароз надзяваў на рукі вялікія, абшытыя брызентам кажушныя рукавіцы. У сані накладаў сена шмат, садзіўся ў іх, як у пярыну.

Часта ездзіў на кані ў родную вёсачку, якая ў вайну была ў партызанскай зоне. А вярнуўшыся, расказваў ад душы, з дзяцінай непасрэднасцю, якая дарога, які лес, каго бачыў з радні, з суседзяў і знаёмых, як яны жывуць.

Да вайны ён працаваў загадчыкам аддзела ў адной рэспубліканскай газеце. І калі яму намякалі на яго былыя пасады, ён, махнуўшы рукой, адказваў: «Кар'ера мне не трэба, а каля сваіх весялей».

Ні на педсаветах, ні на палітзанятках, ні на іншых сходах і пасяджэннях ён не распінаўся ў прамовах, не выварачваў сябе ў іх. Выступленні яго былі кароткія, ясныя і разумныя. Навошта пустаслоўе?

Ён ніколі нікога з настаўнікаў не палохаў, не папярэджваў, не пагражаў ім. Любоў у яго, здаецца, была аднолькавая да ўсіх — чалавечнасць. «Працуюць людзі. Што я магу мець да іх? А што не ўсе роўныя — прырода вінавата. Адзін конь

тону вязе, а другому і паўтоны многа. А называецца конь. І той конь, і другі конь».

Канечне, бачыць людзей рознымі і цярпліва адносіцца да рознай іх работы — трэба мець вола і розум. І не было ў яго, здаецца, сваіх сімпатый і антыпатый. Калі ж якія-небудзь настаўнікі пачыналі чубіцца паміж сабой, ён іх мірыў і стрымліваў: «Што, вайны захацелася? Хай яе нашы дзеці не ведаюць. Нам яна абрыдла». Настаўнікаў ён вельмі і вельмі паважаў і адносіўся да іх, як бацька да сваіх розных па ўзросту і характару дзяцей. Ні аднаго з настаўнікаў сваёй школы ён не вылучаў пад «разнос» для каго б там ні было збоку. «Самі разбярэмся». Або: «Мы самі з ім пагаворым».

Аднойчы прыслалі з райана адносіну сабраць на выхадны настаўнікаў усяго «куста». Прыехаў інспектар райана праводзіць гэты сход. І што? Разгарнуў газету з дакладам на гаспадарча-палітычную тэму, пераказвае яго, зачытвае вытрымкі.

Слухаў, слухаў Макар Пятровіч дакладчыка, падняўся з месца і кажа: «Слухай, Сахончык (яны разам былі ў партызанах, толькі Сахончык гадоў на дзесяць маладзейшы за Макара Пятровіча), за каго ты нас прымаеш? Мы ж настаўнікі, людзі пісьменныя, і каб даклада гэтага не чыталі! Галаву даю на адсек, што ўсе чыталі. Таварышы, усе чыталі? — звярнуўся Макар Пятровіч да настаўнікаў. «Чыталі»,— хорам, як дзеці, адказалі настаўнікі.

«Во, а мы трацім час. Іншая рэч, каб пагаварылі пра мерапрыемствы, якія выцякаюць з даклада. А мерапрыемстваў тут шмат, у ажыццяўленні якіх і мы, настаўнікі, можам і павінны прыняць удзел. А ты, як поп, абы табе адслужыць сваю малітву».

Сход пайшоў прыгажэй, цікавей. Відаць было, што людзі не толькі прачыталі даклад, але паспелі і падумаць над ім. Пачалі выказваць свае думкі пра калгасы, у якіх жылі, пра людзей, якіх добра ведалі, пра вучобу і выхаванне моладзі, пра ўсё сучаснае жыццё на вёсцы. Вось так: проста і з карысцю.

Псіхавацъ Макар Пятровіч ніколі не псіхаваў. Не панікаваў. Не падымаў шуму і тлуму. Не баяўся, што яго школа можа па тых ці іншых паказчыках заняць не першае месца. Увогуле, мне ў той час здавалася, што ён наогул нікога і нічога не баяўся. Ні разу не бачыў яго ў такім стане, каб страшна было з ім загаварыць.

На ўрокі да настаўнікаў ён хадзіў рэдка. Тым не менш ведаў, як працуе той ці іншы настаўнік. На кожнага настаўніка ў яго быў свой псіхалагічны партрэт. Ён маляваў гэты партрэт адным, двума словамі. Часцей за ўсё ў жартаўлівай форме.

«Не паспяваюць? А ты пакінь іх пасля ўрокаў. Хай яны пасядзяць з табой не ўсім класам, а невялічкай кучкай. Аголенымі, так сказаць. Пагавары з імі. Напішы невялічкі дыктант. Ты не гані. Памаленьку. Другому трэба падумаць, тады ён зразумее. Разбяры адно слова, другое. Знайдзі корань. У другім слове знайдзі гэты корань. Растлумач яго значэнне. Снарады над галавой ірвуцца? Блакаду трэба прарываць? Чым вучыць дзяцей, самому трэба ўмець жыць. Трэба бачыць перад сабой ісціну і набліжацца крок за крокам да яе».

Часамі ў мяне ўзнікала недарэчнае пытанне: «А ці кіруе ён школай?»

Так, ён кіраваў. Кіраваў тонка, без рэкламы, без крыку. Кіраваў не абы кіраваць, а душой, сваім жыццём. Ладам сваіх думак. Вялікай любоўю да людзей.

Дзецям ён дараваў іх дзіцячую гарэзлівасць і ўсміхаўся сам сабе, калі які-небудзь настаўнік абураўся недысцыплінаванасцю паасобных вучняў. Калі ж вучань пераступаў мяжу дазволенага...

Быў такі выпадак. Вёрткі, як мыш, нізкаafrослы Паўлік не ведаў, куды падзець сваю непаседлівасць, і аднойчы ў стане сваёй звычайнай узбуджанасці, на вачах у вучняў, памачыўся ў шуфляду класнага стала. Выпадак нельга было ўтаіць, і канапатага Паўліка зараз жа, на першым уроку, выдалі.

У Паўліка не было бацькі, а паводзінамі мат-

кі ён не мог ганарыцца, таму, мусіць, і помсціў ён некаму за свой такі нехлямяжы лёс. Нікому не сказаў ён, што гаварыў з ім у сваім кабінеце дырэктар. Толькі пасля гутаркі з дырэктарам зрабіўся больш адасобленым ад дзяцей, якія, блазнота, яго выдалі.

Макар Пятровіч расказаў толькі гадоў праз некалькі пра размову з Паўлікам вока на вока, калі Паўліка не было ўжо ў школе. Сам ён, Макар Пятровіч, маўчаў. Гаварыла звычайная папруга ад штаноў. «Каб дзе заікнуўся. Ні мацеры не сказаў, ні вучням. Зразумеў, мазлівы кот, што не трэба было гаспадару, у якога жывеш, брудзіць».

Ці былі ў яго свае дзеці? Пяцёра. Двое ад першай жонкі, якая загінула ў вайну на адной з партызанскіх сцежак, і трое ад другой. Бацька ён быў добры...

Але вернемся да дыктанта.

Завуч Яўмен Сазонавіч запытаў у мяне назаўтра:

— Як пісьмовая работа?

Я кароценька ахарактарызаваў яе і паказаў сшыткі.

Яўмен Сазонавіч капаўся ў іх доўга, бадай гадзіны са дзве. Нешта падлічваў, класіфікаваў і запісваў у свой тоўсты сшытак.

Потым папрасіў у мяне зборнік дыктовак для пятых — сёмых класаў.

Ніякіх парушэнняў з майго боку быццам не было.

Яўмен Сазонавіч, як я зрабіў для сябе вывад, быў чалавек нетаропкі, за што ні браўся, рабіў грунтоўна і трывала. Нават почырк у яго быў выключны: літара ў літару. Пяро ў яго ніколі не чаплялася за паперу, чарніла не пакідала хаця б маленькую кляксу. Калі ён напіша што, прыемна глянуць.

Твар у яго быў поўны, мяккі, погляд — чалавечны. Ён прайшоў вялікую школу жыцця і працы. Настаўнічаў яшчэ да рэвалюцыі. Сядзеў у турме пры цару. Ваяваў на франтах грамадзянскай вайны. Канчаў завочна універсітэт ужо ў

досыць немаладым узросце. Біёлаг, але досыць пісьменны чалавек амаль ва ўсіх асновах навук, каб кіраваць педпрацэсам у сярэдняй школе.

Яўмен Сазонавіч гаворыць, а я слухаю.

— У пачатковых класах дыктанты па рускай мове пішуць па складах. «Хо-ро-шо»,— дыктуе настаўніца, а дзеці пішуць. «Напісалі?» — «Напісалі».— «Па-ро-ход. Па-па-па, не па». Яны не прывыклі да такога вымаўлення, якое пачулі ад вас. Бачыце: «синива». Як пачулі, так і напісалі.

Я разумею: розніца вымаўлення і напісання ў рускай мове — цяжкі бар'ер для пяцікласнікаў вясковых беларускіх школ.

— Нормы ацэнак у нас, я б сказаў, не зусім дасканалыя. Для дзесятага класа восем памылак і для пятага восем, каб паставіць тройку. Праўда, там тэкст большы, а тут меншы...

Яўмен Сазонавіч вяртае мне сшыткі з дыктантамі ўсіх трох класаў. Пачуццё ў мяне неакрэсленае. Хоць я не вучыў да гэтага сваіх пяцікласнікаў, тым не менш нейкая скруха легла на маю душу.

У класе, у дзяцінай гамане, я павесялеў.

— Нам так не дыктавалі,— амаль у адзін голас заяўлялі дзеці.

Я гавару:

— Вы забыліся. Вам дыктавалі так, як дыктаваў я. А калі не дыктавалі, дык павінны былі дыктаваць так, як дыктаваў я.

І імкнуся ўскласці адказнасць за дыктант іменна на саміх вучняў. Яны павінны цвёрда і назаўсёды запомніць, што толькі сам вучань адказвае за свае памылкі.

Тыповыя памылкі, характэрныя для большасці вучняў, разбіраем каля дошкі. Пішам слова і аналізуем яго.

Увесь дыктант перапісваем у сшытак яшчэ раз.

Праверыўшы яго, я знайшоў столькі памылак, што палавіне вучняў зноў трэба было ставіць двойкі і нават адзінкі. Такі, мусіць, узрост. Вучань спяшаецца скончыць работу, а пра якасць выканання не вельмі думае. Іншы зусім не думае.

Прывучыць вучня думаць у працэсе работы над тым, што ён робіць, вельмі і вельмі цяжка.

Дырэктар і завуч не назалялі мне сваім кантролем і настаўленнямі. Ды я сам стараўся. Веды ў мяне былі, каб вучыць пяцікласнікаў, часу хапала, і я аддаваў яго сваёй любай рабоце. Іншыя мовазеды скардзіліся на тое, што яны мовазеды, я ж — ніколі. Мне было прыемна займацца з дзецьмі, асабліва на дадатковых занятках, дзе ты не абмежаваны часам і планам урока, дзе ніякіх рэгламентаў, а адны канкрэтныя абставіны.



Канец навучальнага года супадае з велічным і прыгожым росквітам прыроды. На зыходзе май. Сапраўды, ці ёсць у прыродзе больш пекны час? Школьныя алеі, двор, сад — усё патанула ў шыракалістай зеляніне. Таполі, клёны, рабіна, ліпа... У кожным дрэве нешта сваё, непаўторнае. А сонца? А птушыны грай каля шпакоўняў?

Адцвілі сады. Пасаджаны грады на прышкольным участку. І ўжо ўзышла бульба, і яе паскародзілі.

У блакітным небе бездань. Там нікога. Пералётныя птушкі даўно пакінулі яго і разляцеліся па сваіх гняздоўях.

У класах, у настаўніцкай вокны наросхрыст. Паветра, паветра, паветра. Усе хочуць свежага паветра. Яно цяпер незвычайнае. Якіх толькі няма ў ім пахаў! І сасновым борам пахне цяпер паветра. І зарэчным лугам, усыпаным стрэлкамі разнатраўя і колерамі красак. І морам, і далёкімі гарамі пахне... Чалавек не ўсюды можа пабываць, а адчуць зямлю, усю, ад полюса да полюса, калі ласка. Варта толькі адчыніць, дзе ты жывеш або працуеш, усе вокны.

Дырэктар школы кладзе на стол засургучаны канверт з тэкстам дыктанта для сёмага класа, выпускнога класа Каранецкай школы. У Каранецкай школе сёмы клас маланапоўнены, і яго далучылі здаваць экзамены да нашага сёмага класа.

Што ж, хай здаюць з нашым класам. Так рашылі ў раённым аддзеле народнай асветы. Наша школа поўная сярэдняя, Каранецкая — няпоўная. У нашай школе экзаменацыйная камісія больш кваліфікаваная, чым бы яна была ў Каранецкай сямігодцы.

Ды пракантраляваць лягчэй з боку райана. Менш экзаменацыйных кропак.

Я і выкладчыца мовы Каранецкай школы садзімся за стол і ўскрываем пакет. Які тэкст? Што паднесла нам Міністэрства асветы для праверкі пісьменнасці сямікласнікаў па рускай мове? Моваведы баяцца тэкстаў кантрольных работ, што прысылаюцца зверху. Будзьце ўпэўнены, там арфаграма на арфаграме. Уключаецца ўсё, на чым можа спатыкнуцца вучань.

— Чытайце,— гаворыць дырэктар.

— Вы, Галіна Пятроўна,— падсоўваю я невялічкі лісток, на якім не вельмі шмат друкаванага тэксту, выкладчыцы Каранецкай школы. Па-першае, яна за мяне старэйшая, у яе вялікі даваенны педстаж, па-другое, яна лепш за мяне чытае, у яе бездакорнае вымаўленне. Ды і ўся яна сама, нягледзячы на свае гады,— як і не было ў яе гэтых самых гадоў, прыемная.

Яна чытае, а мы — я, дырэктар, настаўнікі — слухаем. Чытае яна запаволена, з перапынкамі, імкнучыся ўсвядоміць і запомніць усе арфаграмы. Адарве вочы ад тэкста, падумае — зноў чытае. А вочы яе былі вялікія, шэрыя, незалежныя. І нешта было ў іх сваё, прыемнае, асабліва калі яна ўсміхалася.

Прачытала і глянула неяк адразу на ўсіх, усміхнуўшыся.

— Як? — глядзеў на яе дырэктар, сабе ўсміхаючыся, хоць, здавалася, і сам добра разумеў, што тэкст, як і заўсёды, насычаны арфаграмамі пад завязачку.

— Як? — паўтарыла Галіна Пятроўна і глянула ў бок адчыненага акна, у якое відаць была ўся зеляніна фасаднага боку школы.— Я, прынамсі, нічога асаблівага ў ім не бачу. Тэкст як тэкст. Насычаны? Ён і павінен быць насычаны.

Бываюць каварныя. Пра гэты я б не сказала. Звычайны.

Усім як бы палягчэла. Той-сёй з настаўнікаў пайшоў на калідор. Ясна, сямікласнікі акружаць яго шчыльным кружком, і ён ім нешта скажа пра дыктанты, хоць помачы ад гэтага наўрад ці будзе.

Я ўзяў тэкст у рукі. Двукроп'і, працяжнікі, нават злучкі і дужкі, нават кропка з коскай і нават шматкроп'е — усё, усё ў ім было. Я падумаў: «Такія знакі прыпынку, як шматкроп'е, як многія іншыя, уключаючы працяжнікі і двукроп'і, асабліва кропка з коскай, залежаць ад аўтара, ад яго рукі, якая іх ставіць. Няўжо тут можа быць якаянебудзь пэўнасць?»

Толькі я хацеў выказаць сваю думку ўслых, каб пачуць у адказ меркаванне Галіны Пятроўны (а я ведаў, што яна належыць да раённай эліты моваведаў), як сказалі:

— Інспектар прыехаў.

У школах так: раз інспектар цераз парог, усе прыватныя размовы і думкі на замок. Будзем і мы афіцыйныя, калі ў нас афіцыйная асоба.

Інспектар быў у хромавых ботах, у рудых штанах-галіфэ, у даўгаватым, не па яго росту, пінжаку (час пасляваенны, апраналі хто што меў або дабываў), без гальштука, з палявой афіцэрскай сумкай, але без шапкі. Вакол вялікай, загарэлай на сонцы лысіны кучаравіўся не вельмі пышны вяночак русявых валасоў.

З усімі, хто быў у настаўніцкай, ён павітаўся за руку, выдаючы сябе за чалавека нястрогага і простага. Дырэктара, калі рукаўся з ім, ляпнуў па плячы, дырэктар яго ляпнуў. Не дзіва, разам былі ў партызанах.

— Як тэксты? Ускрылі?

— Гэта мы паспелі зрабіць, пакуль ты не прыехаў,— смяяўся дырэктар, дастаючы з кішэні штаноў кісет з табакай і піпку.

— Камісія ў поўным складзе? — пачаў інспектар вачыма лічыць настаўнікаў, што былі ў настаўніцкай.— На двор ніхто не пайшоў пасля ўскрыцця пакета?

— А калі каму трэба, дык што, па-твойму, тут?..— жартаваў дырэктар.

— Макар Пятровіч, закон. Не ведаеце хіба?

— Не дуры ты, Сахончык, галавы з сваім законам. Калі каторы не ведае, дык ты перад ім палажы гэты тэкст, ён не спіша.

— Мала што. Разглашаць тэкст нельга. Не паложана.

— Цябе б у сышчыкі якія. Ці ў папы, во. Дарэмна ты пайшоў у нашу сістэму.

— Няма цяпер нічога гэтага ў нас, Макар Пятровіч. Я вам прывяду сотні прыкладаў, калі настаўнікі вучням падказваюць.

— Не прывядзеш.— І Макар Пятровіч падняў над сабой воблака дыму.

— Прывяду,— браў азарт Сахончыка.

— Я кажу, сотню не прывядзеш.

— І сотню прывяду. Во тут у мяне,— ён паляпаў рукой па палявой сумцы,— усё запісана.

— Такую дробязь запісваеш? І не сорамна табе, партызан, блох лавіць? Ды настаўнік жа павінен вучню падказваць. Падказваеш, падказваеш, і, глядзіш,— навучыў.

— Макар Пятровіч, падказкамі? Ніколі.

— Ты мяне паслухай, чалавеча. Вазы на кані ты калі-небудзь вазіў? — Бурко ўзяў левай рукой з рота піпку і ўгледзеўся ў вочы інспектару, хочучы ў нечым сур'ёзным пераканаць яго.

— Го, пытаеце.

— Бывае ўзгорачак ці выбоіна ў каляіне, і конь стаў. Ты чуць трошкі папіхнуў гэты самы воз, конь і пайшоў. Вучань ведае, але ведае не ўсё, што яму трэба ведаць. Нейкае макавае зерне ён згубіў з гэтых ведаў. Нешта ў яго ведах занадта знішчылася і парвалася. Раз, другі раз падкажы яму, і ў наступны раз ён самастойна пойдзе. О-о-о, калі б педагогіка была такая простая, як ты думаеш.

Празвінеў званок.

Яўмен Сазонавіч Шалай, завуч — старшыня экзаменацыйнай камісіі ў сёмым класе, я, Галіна Пятроўна Віткоўская — выкладчыца мовы Каранецкай школы, адзін настаўнік — асістэнт і ін-

спектар Сахончык увайшлі ў клас, дзе ўжо сядзелі за партамі, гатовыя пісаць дыктант, вучні.

На стале быў вялікі букет чаромхі, устаўлены ў ладны слоік з вадой.

Мы з Галінай Пятроўнай пачалі раздаваць вучням лісткі паперы са штампам школы. Астатнія члены камісіі рассаджваліся за сталом.

Хто павінен дыктаваць — я ці Галіна Пятроўна?

— А якая розніца? — развёў рукамі завуч Яўмен Сазонавіч.

Галіна Пятроўна прачытала ўвесь тэкст, спакваля, без хвалявання, з добрым вымаўленнем, не настаўніца, а прымадонна сцэны, якая ўмее ствараць настрой.

Нам, членам камісіі, мне асабіста, і вучням, як я паспеў заўважыць, адразу палягчэла. Ну вось, мы пераступілі якісьці незнаёмы рубеж, і нічога страшнага, усё ясна, і ўсё на сваім месцы. Застаецца толькі ўважліва ўслухоўвацца ў тое, што чытае настаўніца, і пісаць, пісаць памаленьку, каб не калацілася рука і не нарабіць пяром на паперы непатрэбных драпін і не пасадзіць ніводнай кляксы. Пісаць і не адставаць ад суседзяў і не перапытваць настаўніцу, каб яна яшчэ раз паўтарыла.

Навошта перапытваць? Яна чытае раз сказ, тады чытае яго маленькія частачкі, іх зусім лёгка запомніць, тады яшчэ раз паўтарае ўвесь сказ.

Мне зрабілася лёгка. Вучні пішуць без якога б там ні было напружання. Умовы для работы ёсць, і вучні працуюць.

Настаўніца нячутна перамяшчаецца па класе, але яе перамяшчэнне ніхто не заўважае, яна нікому не замінае. Голас яе аднолькава чуваць на ўсіх партах.

І раптам у вялікай і вельмі дасканалай сімфоніі пісання дыктанта мне пачуўся фальшывы гук.

Я памыліўся? Не. Ён паўтарыўся другі і, нарэшце, трэці раз.

Што мне рабіць? Будзе памылка, ясна. Слова гэтае вучні напішуць так, як пачулі ад настаўні-

цы. Слова «смышлёный» яна прачытала чамусьці як «раз'яренный», падкрэслена з двума «н». Я ўлучыў момант, калі Галіна Пятроўна выйшла з прахода паміж партамі на клас, падняўся з крэсла, ступіў крок да яе і шэптам кажу:

— «Смышлёный».

— Дзеці, слова «смышлёный» пішацца з адным «н». Я прачытала яго вам няправільна, зблытаўшы з нейкім другім словам. «Смышлёный, калёный, варёный»... у гэтых словах «н» не падоўжанае,— звярнулася яна да вучняў.

Аднак яна магла затаіць сваё вымаўленне, яно нідзе не зафіксавана, акрамя маіх вушэй, памылка вучняў засталася б іх памылкай, бо руская арфаграфія (напісанне слова) ніколі не супадае з арфаэпіяй, г. зн. з вымаўленнем. Хто б яе ў чым мог абвінаваціць? А? Яна магла сказаць:

— Кіньце вы, я так не вымаўляла.

Праўда была б на яе баку.

У думках я пачынаю аналізаваць псіхалагічны стан настаўніка ў час правядзення дыктанта. Канечне, калі чытанне пераходзіць у механічнае паўтарэнне групы слоў, патрэбнах толькі вучням, самакантроль настаўніка можа паслабляцца, нават у нейкай меры адключацца.

Дэмагогія! На ўсё жыццё слова «смышленый» засталося сядзець не толькі ў маёй памяці, але і ў душы. Здаецца, дробязь, а я не магу забыць яе, хоць па-ранейшаму паважаю Галіну Пятроўну, прыгожую сваёй душой, шчырую, якая любіла вучняў, сваю настаўніцкую прафесію, мову і літаратуру і вельмі шмат чытала.

Ці былі ў мяне, у маёй педагагічнай практыцы, вось такія публічныя «ямкі»? Часта, як і ўсякі настаўнік, хадзіў паўз іх і нават ступаў цераз іх, але ў самую сярэдзіну, на шчасце, не трапляў.

Школа не ВНУ. Вучні вельмі часта задаюць настаўніку пытанні. Адказ павінен быць тут жа, асабліва, як пішацца тое ці іншае слова. Адказваў — і ні разу не памыліўся. Веданне ці шчаслівая выпадковасць? Хто яго ведае. Адно вядома, што ні адзін філолаг не можа помніць правільнае

напісанне ўсіх слоў. Шмат іх занадта, і на гэта існуюць слоўнікі. Але заўсёды насіць з сабой слоўнік не будзеш, а сказаць вучням, каб пачакалі, пакуль я дома ці ў настаўніцкай пагляджу ў слоўнік, як пішацца тое ці іншае слова, значыць адразу згубіць аўтарытэт перад вучнямі. «Які ён настаўнік? — скажуць яны.— Ён нічога не ведае...»

Як бы там ні было, а правяла экзаменацыйны дыктант Галіна Пятроўна добра. Нікога не стаміла. Сама не змардавалася. Ніякіх змен у яе твары, у настроі, у голасе. Часу не хапіла.

— Будзеце правяраць? — сказаў інспектар Сахончык ужо ў настаўніцкай.

— Будзем, Максім Патапавіч,— адказала Галіна Пятроўна.— Толькі пакуру.

Яна дастала з сваёй жаночай сумкі пачак добрых папярос, расчыніла яго і прапанавала нам, мужчынам, членам камісіі, узяць па адной. Мы падзякавалі, але адмовіліся. Ні я, ні інспектар Сахончык, ні Яўмен Сазонавіч, ні асістэнт — член камісіі Бандарчык Мікалай Яўсеевіч не курылі.

— Во, мужчыны называюцца,— пажартавала Галіна Пятроўна.— Тады я выйду, каб не хлупіць вас дымам.

— Што вы, Галіна Пятроўна. Ваш дым нам будзе прыемны,— жартаваў і ўсміхаўся Яўмен Сазонавіч.

— Ведаем цану мужчынскіх слоў,— глянула яна сваімі вялікімі шэрымі вачыма на завуча і пайшла на двор.

Звычайная цёмна-сіняя сукенка з белым каўнерыкам, тонкая, худая шыя, русыя валасы, скручаныя на патыліцы ў вузел, пукаты худы лоб, тонкія, худыя рукі... Што ў ёй, у гэтай жанчыне? І тым не менш, усе лічылі яе мілай і сімпатычнай, ганарыліся сказаным у яе адрас кампліментам.

Правяралі дыктант мы ўдваіх. Я свой клас, яна — свой. Дагаварыліся, пунктуацыю будзем выпраўляць не па тэксту, а зыходзячы з агульных яе правіл.

І вось калі работы былі правераны і камісія ў поўным сваім складзе пачала выстаўляць адзнакі, інспектар Сахончык выказаў нязгоду з нашай праверкай. Завышаем ацэнкі, ліберальнічаем.

— Знакі прыпынку павінны быць пастаўлены па тэксту,— гаварыў ён.— Я дапускаю, што часамі можа быць тое і другое, але ў тэксце найлепшы варыянт пунктуацыі, і яго трэба прытрымлівацца. Аўтар гэтага варыянта — пісьменнік, не вучань, якому ні ў якім разе нельга патураць. Патрабаванні да вучняў павінны быць строгія і адзіныя. На гэта ў нас існуюць нормы адзінак. Вы згодны са мной? Я інспектар, наш, іспектарскі, абавязак сачыць за нормамі ацэнак, да ўсякіх адзнак трэба ставіцца сур'ёзна, па-дзяржаўнаму, а не з пункту гледжання паасобных выкладчыкаў — самастрахоўшчыкаў.

Што ж, інспектар у нечым меў падставу. Мы ж, выкладчыкі мовы, стаялі на сваім. Мы пачалі з Галінай Пятроўнай гартаць кніжкі, зборнікі дыктантаў і адшукваць там такія варыянты сказаў, якія трымалі нашу пазіцыю, паказвалі гэтыя сказы інспектару Сахончыку, чыталі на слых.

— Максім Патапавіч, слухайце.

Галіна Пятроўна чытае сказ.

— Што б вы тут паставілі? — пытае яна.

— Мяне вы не экзаменуйце. Можа, я непісьменны і зусім не ведаю знакаў прыпынку. Што пастаўлю? Я не мовавед. Я ажыццяўляю агульны кантроль над вамі.

Яўмен Сазонавіч пайшоў у дзесяты клас, дзе былі таксама экзамены, і прывёў дырэктара.

Расказалі яму, паказалі спрэчныя работы. Іх і нямнога было, штук пяць.

Дырэктар уважліва прачытаў работы, патрымаў на некаторых месцах іх тоўсты ўказальны, жаўтаваты ад табакі палец і ўсміхнуўся сам сабе.

— Што ты хочаш? — пазіраў ён добрымі сваімі вачыма на Сахончыка.— Яны ж моваведы. А ты? Ты лепш за нас ведаеш мову? І нормы ацэнак ведаем, і, як выпраўляць памылкі, ведаем, і законы ведаем, і сумленне педагагічнае маем. Ці, можа, адзін ты на свеце сумленны?

Макар Пятровіч засмяяўся ўголас і пачаў рыхтаваць піпку для курэння.

— Выстаўляйце адзнакі сюды і сюды,— паказаў ён на дыктанты і на незапоўнены яшчэ пратакол. І да Сахончыка: — Пайшлі. Паглядзім наш двор, гаспадарку. Агарод. Ты ж біолух,— жартам перарабіў ён слова «біёлаг».

Сахончык не пакрыўдзіўся. Наогул, я заўважыў, што б ні сказаў калі на яго Макар Пятровіч, Сахончык не крыўдзіўся. Адносіны паміж імі былі па-сяброўску адкрытыя.

Беручы сваю сумку, каб ісці на двор з дырэктарам, Сахончык сказаў:

— А вам, Галіна Пятроўна, не трэба было падказваць, як пішацца слова «смышленый». Прачыталі — прачыталі. І кропка. Хай пішуць. Так можна любое слова падказаць.

— Не, Максім Патапавіч. Я памылілася вымавіць яго. Я не падказвала. Не магу ж я дапусціць, каб памылку настаўніка паўтаралі вучні. Памылілася я. Бывае так, што і на роўнай дарозе конь спатыкнецца. І чалавек, бывае, памыляецца.

— Пайшлі, пайшлі, Сахончык. Настаўнік не падкажа таго, чаго нельга.

Сахончык быў з тых людзей, якія былі вельмі «законныя» і патрабавальныя. Але законнасць і патрабальнасць іх занадта абстрактныя, не прасмаленыя жыццём. Таму ў выступленнях сваіх, у актах праверкі школы яны, такія, як Сахончык, інспектары, выглядалі вельмі сухімі, калі не сказаць смешнымі. Нездарма Макар Пятровіч з'едліва кпіў з Сахончыка, падкрэсліваючы яго фармалізм у сур'ёзных школьных справах, хоць Сахончык не да канца разумеў гэтыя кпіны разумнага Макара Пятровіча.

## 10

Я любіў пісаць з вучнямі сачыненні. Так званыя творчыя работы. Гэта не дыктант, не пераказ, не ўкладанне, дзе падлетка прыціскаюць у куток і давай гнесці яго.

У сачыненні вучань піша пра тое, што ён бачыў або перажыў, што ён думае і мяркуе пра бачанае або пачутае, як ён глядзіць на працу, на прыроду. Практычна тэматыка сачынення не мае меж, які пласт ні крані — залатая жыла.

З пятага класа, як толькі пачыналася прадметнае выкладанне мовы, я пішу сачыненні. Дыктант — трэніроўка на правапіс, у пераказах і ўкладаннях я не бачыў асаблівага моўнага і выхаваўчага набытку, хоць і іх трэба было пісаць, так як і яны прадугледжаны ў школьным арфаграфічным рэжыме. Што ж да сачыненняў, дык ведаеце... Тут ужо, я б сказаў, пісьменніцтва ў мініяцюры, якое абавязвае і дапамагае глядзець і бачыць, адсейваць і абагульняць, любіць і ненавідзець, адштурхоўваць і хапацца за нешта, апускацца ўніз і падымацца, выратоўваць, даваць прыклад. Проста нельга пералічыць усяго таго добрага, што дае школьнае пісьменніцтва. Хіба не яно піша першую ў жыцці заметку ў насценную газету, складае верш, перадае запіску сябру ці сяброўцы? Мова тут пачынае выступаць ужо не як нагрувашчванне нейкіх, мала каму патрэбных, акрамя, бясспрэчна, саміх выкладчыкаў мовы, правілаў, а як сродак чалавечага самавыказвання, самаадлюстравання. Чалавек не можа жыць толькі ў сабе і дзеля сябе, ён — істота сацыяльная, яму трэба людзі, трэба іх прызнанне, трэба, каб яго, навідавоку мноства людзей, «купілі», а ўзяць за сябе хочацца па самых высокіх чалавечых стаўках. Не раскрыешся — ты і не трэба нікому. Вучань, пішучы сачыненне, пачынае бачыць практычную неабходнасць ведання мовы. Думкі тут твае, тваё пачуццё, у словах, толькі ты пасартуй іх, якое выкінь, якое перастаў, часамі пастаў паміж імі невялічкія плоцікі — знакі прыпынку. Ды і словы... У дыктанце яны калючыя, пратыркнуцца на іх можна. Тут яны свае, кругленькія, ідуць з тваёй душы.

«Мой бацька» або «мая мама». «Мае браты і сёстры». «Сямейныя» тэмы надзвычай лёгкія для пяцікласнікаў. Дзеці жывуць у сваёй сям'і, і веданне яе членаў, я б сказаў, вельмі паўнакроўнае.

Часамі вельмі крытычныя адносіны ў дзяцей да сваіх бацькоў, братоў і сясцёр. Дзеці яшчэ не навучыліся крывіць душой.

Адна пяцікласніца пісала так (я перадаю змест, не словы яе сачынення). Мой тата п'яніца. Ён б'е маму і штурхае мяне, калі я плачу, што ён б'е маму. Часта ён выганяе нас з хаты, і мы з мамай начуем у суседзяў. Свае грошы ён прапівае, а мама сваіх яму не дае. Нам цяжка жыць з ім, і мама кажа, што мы яго кінем. Я не люблю яго.

Я чытаў яе сачыненне дырэктару, мы доўга раіліся і спачувалі дзяўчынцы. У такім раннім узросце згубіць бацьку і не мець ніякай надзеі, што ён знойдзецца. Калі б памёр, была б крыўда на лёс. А тут на што і на каго крыўдзіцца? Ён жывы, а дзіця яго ненавідзіць і не хоча бачыць яго перад сабой.

Мы выклікалі яго ў школу некалькі разоў. Матывуючы тым, што шмат работы (ён працаваў галоўным бухгалтарам саўгаса, чалавек пісьменны), ніяк не ішоў да нас. Але аднойчы ўсё-такі прыехаў на «газіку». Дырэктар паклікаў у кабінет і мяне.

— Пакажыце яго дачкі сачыненне,— сказаў мне дырэктар.

Мы думалі, што ён пашкадуе дзіцяці, нешта адчуе, перажыве і зразумее, бо ці ж ёсць больш глыбокае пачуццё, чым любоў да роднага дзіцяці?

Прачытаў. Паглядзеў на вокладку сшытка, ці яе сшытак. Яе.

Крутнуў галавой і ўсміхнуўся:

— Дык што гэта, Макар Пятровіч? Спецыяльна падроблена?

— Бачыш жа што. Толькі не спецыяльна падроблена. Звычайнае вучнёўскае сачыненне. Можаш паглядзець сачыненні астатніх вучняў на гэтую ж тэму: «Мой бацька». Цяпер уяві, які ты бацька,— спакойна гаварыў Макар Пятровіч, увесь час не спускаючы вачэй з субяседніка.

Адно сачыненне. Другое, трэцяе. Можа, дзесятак. Мы з Макарам Пятровічам маўчым і цярпліва чакаем.

У акно відаць «газік» з брызентавым кузавам. Каля яго стаіць шафёр. Таксама чакае.

— Пачакайце, дык яны ж хваляць сваіх бацькоў.

— Хваляць,— згадзіўся Макар Пятровіч.— Ёсць за што, дык і хваляць. Эх, Валодзя...— уздыхнуў дырэктар і палез у кішэню штаноў па піпку і кісет з табакай.

Зноў крутнуў галавой і ўсміхнуўся бухгалтар:

— Вот падрабілі дык падрабілі. Хітра. Яна б сама так не прыдумала. Ваша работа, Якім Яўгенавіч.

— Чаму мая? Работа вашай дачкі. Вы ж бачыце на вокладцы сшытка яе прозвішча? Людміла Жолуд.

— Сшытак яе. Не сляпы. Почырк яе. А змест вы ёй падсунулі. Не кажыце, вы. Непрыстойна. Натраўляць дзяцей на бацькоў. Непрыстойна. Тэму знайшлі: «Мой бацька». Плюйце, дзеці, на сваіх бацькоў. Дзе ваш патрыятызм? Яй-права,— і зноў усміхнуўся.— Ну, я ёй, жабе, дам.— Устаў і да дзвярэй.

— Стой. Стой. Куды ты? Мы нічога не дагаварыліся. Што «дам»? Не дасі. Толькі паспрабуй. Вярніся,— гаварыў дырэктар.

— Бачыце, машына стаіць. Некалі. Работы во, па горла. А што ў мяне дома, у сям'і... Я не ведаю, як у вас з жонкай. І ведаць не трэба. Навошта мне?

— Не гарачыся, не гарачыся, Валодзя. Ты малады. Паслухай мяне, старога. Даўней старых слухалі. Сядзь, кажу, сядзь. Тут сур'ёзнае дзела. Тут не проста галэ-балэ. У мяне пяцёра, а ў цябе адно, і яно павінна пісаць, што не любіць свайго бацькі? Ты падумай, падумай, я табе кажу. Падумай так, каб пасля не кусаць сябе за локаць. Бо захочаш укусіць, а не ўкусіш, не дастанеш.— Макар Пятровіч пачаў пыхкаць піпкай, якая амаль патухла.

Жолуд не сеў. Махнуў рукой і сказаў:

— Я ведаю: жонка вас папрасіла, і вы напісалі гэты сцэнарый. Я пайшоў. Некалі.

І пайшоў.

З Жолудам потым усяго было. Мяняў (першая яго кінула) жонак і работу, дзяцей больш не меў, кідаўся як угарэлы на поўнач, на поўдзень, на ўсход. Словам, здзейснілася папярэджанне Макара Пятровіча. У якім відзе школьных пісьмовых работ так магла раскрыцца актыўнасць вучня, як яна раскрылася ў дадзеным выпадку? Ні ў адным. Вось чаму я так высока стаўлю вучнёўскія сачыненні, дзе вучань да канца самараскрываецца і, калі трэба, выкрывае.

Даўно бытуе ў нашай школе сачыненне па карцінках. І настаўнік, які піша з вучнямі такія сачыненні, быццам перадавы. Я, можна сказаць, не пісаў такіх сачыненняў. Спрабаваў пісаць, але вялікай карысці не бачыў у іх.

Разумею, што жывапіс, як і ўсякі від мастацтва, актыўны і дзейсны. Ды гэта для людзей, якія ў нейкай меры падрыхтаваны для ўспрымання і разумення яго. Не кожны дарослы напіша артыкул (тое самае, што для вучня сачыненне) пра твор жывапісу з сапраўдным пранікненнем у гэты твор. А вучань? Ды і падносім мы дзецям карціну не як твор жывапісу і не аналізуем яе з дзецьмі як твор жывапісу, а скарыстоўваем адзін толькі яе бок (вельмі утылітарны, як фатаграфію) — што на ёй відаць.

Прывяду адзін прыклад.

Васьмігадовая сельская школа. Да яе прылягае, як і ва ўсіх сельскіх школах, вялікі зямельны ўчастак. Вядома, на гэтым прышкольным участку, як і ва ўсіх школах, вучні ставяць доследы па раслінаводству, сеюць — убіраюць, пачынаюць і завяршаюць свой школьны сельскагаспадарчы год.

Мы, некалькі моваведаў нашага куставога метадычнага аб'яднання, сядзім на ўроку ў выкладчыка мовы гэтай школы. Мужчына немалады ўжо, памяркоўны, вялікага педагагічнага стажу.

Урок пачаўся гутаркай пра карціну «Наш школьны агарод», якая вісела ўжо на класнай дошцы.

— Што мы, дзеці, бачым на гэтай карціне?

— Школьны агарод.

I гэтак далей.

Та-а-к... Сачыненні па карцінках у метадычнай літаратуры ёсць. Сярод моваведаў яны на высокім рахунку. Я — белая варона.

Бясспрэчна, калі вучні не бачылі жывога мядзведзя і перад імі павесіць карціну, на якой намаляваны ён, карціна патрэбна. З вялікай карысцю для сябе яны будуць глядзець на яе і пісаць сачыненне «Мядзведзь».

Ну, а ў дадзеным канкрэтным выпадку, калі ёсць свой школьны агарод і вучні добра ведаюць працу на ім, удыхалі пахі зямлі і раслiннасці гэтага агарода на працягу вясны, лета і восені, ці варта было падмяняць арыгінал копіяй? Уласны вопыт, жыццё — першакрыніца творчасці. І калі вучнёўскія сачыненні мы называем работамі творчымі, дык давайце адлюстроўваць у іх светаадчуванне саміх вучняў.

Пасля разбору ўрока я спыняюся на хвілінку ўжо на калідоры з выкладчыкам мовы, аўтарам урока. Ён падабаецца мне чымсьці. Я прывык у знешніх рысах чалавека бачыць патрэбныя мне рысы характару.

Хай я часамі памыляюся, але не хаваю сваіх звычак. Мне хочацца загаварыць з такім чалавекам, і не дзе-небудзь, а вось так, з вока на вока, упрыцірачку.

Зусім русыя, як у дзіцяці, валасы, на шыі і на скронях не надта паслухмяныя. Вочы трошкі як бы навыкаце, не чыста сінія, а быццам ледзьледзь пакупаныя ў блакіце. Добра відаць былі бурыя жылкі на скуры-навочніцы, пад ёй мякка было вачам, калі яны хадзілі туды-сюды. Твар поўны, але не такі, каб лопалася на ім скура ад укормленасці. Ні касцюм, ні гальштук, ні каўнер сарочкі не крычалі на чалавеку, глядзеліся так, быццам чалавек нарадзіўся ў сваёй вопратцы.

— Адам Ціханавіч, урок ваш разабралі, мы разыходзімся, і ці давядзецца калі быць зноў на вашым уроку. Мяне цікавіць ваш асабіста стан. Вы адчулі якое-небудзь задавальненне? Для сябе што-небудзь адкрылі сваім урокам ці не адкрылі?

Булойчык усміхнуўся, і я ўбачыў не надта

ўжо белыя яго зубы і як вочы павузелі і блакіт у іх згусціўся.

— Што я мог адкрыць? Нічога я не адкрыў, Якім Яўгенавіч. Даў звычайны ўрок. Калі б чужых не было, можа б, крыху лепш атрымалася. Тут вось у мяне такая-сякая метадычная літаратура, чытаў, калі рыхтаваўся.

Ён глянуў у левы бок сабе пад паху, дзе быў стосік нейкіх кніжак, кніжачак і часопісаў.

— Ну, а пра што пісаць сачыненне вам не ўсё роўна? Калі б вы, скажам, пра свой школьны агарод напісалі, на якім дзеці працавалі, не пра чужую працу на ім. Вы, прынамсі, любіце капіраваць карціны?

— Не ўсё ясі, што смачна. І не ўсё робіш, што падабаецца. Пра свой агарод... Чорт яго ведае, як было тут уступную гутарку пабудаваць. Людзі чужыя сядзяць. Кожнае тваё слова ловяць. І неакрэслена вельмі. Што выхапіць? А тут усё навідавоку.

— У рамцы? — пажартаваў я.

— Во, у рамцы. Мяжа. Відна: гэта тваё, а там — чужое.

— Адам Ціханавіч. Кажуць, верхаводка не паводка.

— Я разумею вас, але ж не хочацца быць нямілым. Былі ў Іны Іванаўны Карыцы на ўроках? У яе ўвесь эфект на ўдарных інструментах. Шум, гром — паказуха. Хваляць. Вось вам і сутнасць.

— Мы самі вінаваты. Тушыць трэба такіх.

— А калі яе,— Булойчык глянуў угору,— адтуль падымаюць? Убачаць незвычайнае і думаюць — сутнасць.

Канечне, шум падняць лёгка, асаблівых намаганняў прыкладаць дзеля гэтага не трэба, ён, як кажуць, на паверхні. Сутнасць схавана глыбока, да яе дабрацца цяжэй. Клопатаў больш.

А само педагагічнае крэда? Крэда філолага? Павінны яны нешта значыць для чалавека? Павінны!

За шматгадовыя мае пошукі сутнасці вучнёўскіх сачыненняў — мне ўзнагарода. Я расчулены. Я крануў дзіцячыя душы. Мне шкада іх, аўта-

раў сачыненняў «Бывай, школа», выпускнікоў-дзесяцікласнікаў. Усё, што яны гаварылі пра школу, развітваючыся з ёю, чыстае, як блакіт неба, і высакароднае.»

Я сказаў — дзеці. Яны ўжо не дзеці. У іх ужо такі шырокі і, мабыць, усеабдымны погляд на жыццё, што здзіўляешся.

Кожнае сачыненне — маленькі самастойны твор. Ніхто ні ў кога не спісваў, не падглядваў у суседа. Сваё выкладанне думак, свая манера будаваць сказы. Сапраўды, шматгалосая свежая сімфонія.

І нешта ў ёй ад рэквіема. І мне робіцца трошкі тужліва. Што ж, усякае развітанне тоіць у сабе слязу, школьныя гады не паўтараюцца, і тых, каго я вучыў, не буду вучыць ніколі. Я таксама чалавек, і мне шкада юнакоў, якія пакідаюць школу.

Але ж сачыненне і мяне і іх кранула. Сачыненне. Дзякуй такім пісьмовым работам, якія раскрываюць у вучня душу, дадуць яму магчымасць выказаць свае пачуцці і думкі. Пісаць пра тое, што бліжэй ляжыць да сэрца, лягчэй. Толькі шлях да вучнёўскага сэрца не з лёгкіх, доўгі. Цяжка зрушыць вучня з пазіцыі «як у падручніку».

Рабамі падручніка застаюцца ўсё жыццё і некаторыя выкладчыкі мовы. Іх вучні нешта губляюць з дзіцінства. Не ў веданні мовы, а ў светапоглядзе. Шкада.

## 11

Я сказаў: мне давялося працаваць у школе, дзе не было паэтаў вучняў, якія б пісалі вершы. Удакладняю: траплялiся. Праўда, не такія, якія распазнаюцца адразу і нешта абяцаюць, але былі.

Адзін трымаў са мной перапіску нават пасля сканчэння школы. Прысылаў тое-сёе з напісанага. Я адносіўся да яго вельмі прыязна і ўважліва, цярпліва і з надзеяй чакаючы, калі ўрэшце штонебудзь вартае праклюнецца.

Сказаць, што ў яго нічога не было, акрамя жадання пісаць, нельга. Я не надта згаджаюся з людзьмі, якія сякуць: графаман. Зняважыць чалавека лягчэй, чым разабрацца ў ім самім і ў яго пісьменніцтве. А раптам праб'ецца і хлыне ўгору гейзер чалавечага пачуцця? Без патрэбы душы ні адзін чалавек, тым больш малады, вучань, не сядзе пісаць твор толькі дзеля таго, каб пра яго сказалі знаёмыя, што ён пісьменнік. Іншая справа — здольнасці. У аднаго яны большыя, у другога — меншыя. А часамі, з гадамі, яны мяняюцца. У аднаго іх крывая пачынае зніжацца, у яго ж антыпода — крута пойдзе ўгору. Вось так. Бывае, і тут нічога не папішаш.

Я цярпеў свайго Міколу. Чакаў. І чакаць не перастаў.

Усё ж такі было ў яго нешта. Сярод сырых, недаспелых і не даведзеных да належнай кандыцыі строф траплялiся строфы зусім-зусім даскаалыя, з добрым паэтычным зернем. З вялікага верша часамі дзве, а то і тры страфы складалі закончаны вершык, які ўжо можна было выстаўляць на людзі. Раённая газета часам змяшчала гэтыя вершыкі.

Рад быў аўтар? Як сказаць? І рад і не рад. Пісаць стаў больш, але, як мне здавалася, пачаў губляць упэўненасць.

Ён кінуўся ў прозу. Паказаў мне некалькі сваіх апавяданняў. Яблыневы цвет яшчэ не яблыкі. І невядома, ці будуць з яго яблыкі. Але ж цвет папярэднічае яблыкам? Цвет — надзея, хоць, вядома, не кожная кветка дасць плод.

Мікола пісаў пра вайну. Вось яна скончылася. Здраднік вярнуўся ў родныя мясціны. Паглядзеў з лесу на знаёмае роднае поле, на вёску, дзе нарадзіўся і рос, і не вытрымаў — застрэліўся.

Бачыў аўтар вайну? Ведае людзей, якія ваявалі ці якія здраджвалі? Дзе там! Кніжнасць, агульшчына, абстракцыя. Літаратура перш за ўсё — непасрэднасць.

Я ані не крывіў душой перад сваім вучнем. Я пісаў яму, што думаў і што зараз думаю. Быць табе пісьменнікам ці не быць — ведаеш больш за

ўсіх ты сам. Ёсць неадольная патрэба пісаць? Пішы. Назірай за жыццём, радуйся, абурайся, авалодвай культурай мовы, шліфуй майстэрства. Адчуваеш, што ёсць сіла, каб варочаць каменні, варочай. Праца пакажа, на што ты варты. Не ўсе пісьменнікі маюць аднолькавы рост. Урэшце добры газетчык не менш патрэбен, чым пісьменнік. А добры выкладчык мовы? Філалогія — як акіян, цераз які ляжаць маршруты ва ўсе канцы свету.

Кажуць, талент пазнаецца адразу і адразу шырока адкрывае дзверы ў сваю галіну дзейнасці. Як акрэсліць слова «талент»? Якія ў яго межы? У наш час часта можна пачуць: «Таленавіты футбаліст».

Футбалісты бываюць таленавітыя і бяздарныя (не таленавітыя)? А тады як быць з шафёрамі, трактарыстамі, даяркамі, вартаўнікамі?

Мне могуць запярэчыць: «Гэта не спорт і не мастацтва». Значыць, таленты бываюць толькі ў спорце і мастацтве?

Мікола мой, не хвалюйся. Я ведаю чалавека, які ў 25 год пісаў занадта слабыя вершы. Паступіў вучыцца на завочнае аддзяленне універсітэта, скончыў яго, умацаваўся і стаў паэтам, выдаўшы ўжо дзве кніжкі. І ведаю людзей, якія пачыналі рана і бурна, захапляюча, а потым вельмі рана станавіліся мяккімі і пустымі, як печаны яблык. Калі цябе кранула і захапіла цудоўная музыка слова, не развітвайся з ёй. Не важна, кім ты будзеш — пісьменнікам, журналістам, настаўнікам, маракам ці аграномам,— яна будзе ўсё жыццё самай лепшай тваёй спадарожніцай, прыносячы адно: асалоду і натхненне. Не трэба ніякага сораму. Слова «графаман» мы паспрабуем выцесніць з сучаснай лексікі. Ды і, дарэчы, ужываюць яго толькі тыя, хто прагне асабістага ўзвышэння, эгаістычна топчучы ўсё перад сабой без разбору.

Прайшоў перада мной у школе і другі малады «пісьменнік-празаік». Калі дакладней сказаць, дык яна, вучаніца. Яна была іншага характару, чым Мікола. Ростам невысокая, паўнатварая, чарнавалосая, як з гліны зляпленая — так усе

часткі цела былі падагнаныя ў яе. Нязначная жменька рабаціння паўз нос і на шчоках не кідалася ў вочы таму, хто глядзеў на дзяўчыну. Не, яна была прыстойная і нават трошкі займалася сваёй знешнасцю. Усе школьныя навукі рэзала на «пяць». Памяць вар'яцкая!

На яе валілі грамадскія нагрузкі, самадзейнасць, а ёй усё роўна было лёгка. Сказаць на сходзе прамову, зрабіць вучням які-небудзь даклад, арганізаваць віктарыну, узначаліць нядзельнік па збіранню металалому... Ва ўсім, ва ўсім яна была нястомная, і за ёю ішлі меншыя і большыя.

Пісьмовыя работы яна выконвала не толькі пісьменна, але на здзіўленне чыста і прыгожа. А почырк — літара ў літару, як ва ўзорных прописах.

Памятаю, арганізаваў я ў школе селькораўскі гурток. Запрасіў у яго ўсіх жадаючых з усіх класаў. Як і ва ўсякіх падобных мерапрыемствах, спачатку набралася шмат вучняў — класны пакой быў цесны. Потым паменшала, паколькі цукерак не давалі ўдзельнікам, а выконваць заданні трэба было.

Пра што пісаць? Аднаго школьнага жыцця мала. Узялі свой калгас і суседнія калгасы, з якіх хадзілі вучні ў нашу школу. Дамовіліся пісаць толькі па першакрыніцах. Гэта азначала пагаварыць з тым, пра каго пішаш, пабачыць работу, пра якую мяркуеш напісаць. «Карэспандэнты» нашы пачалі бываць у «камандзіроўках» на жывёлагадоўчых фермах, у механічных майстэрнях, у паасобных людзей, у полі.

Раіса хутка пачала вылучацца паміж гурткоўцаў. Яе журналісцкая прадукцыя добра прыжылася не толькі на старонках раённай газеты, а часамі гукала з старонак рэспубліканскіх дзіцячых і юнацкіх выданняў. Ёй удаваўся ўсякі газетны жанр: заметка, рэпартаж, замалёўка, нават фельетон і нарыс. Жывая сувязь газеты з жыццём яе захапіла.

З дзевятага класа пачала спрабаваць сябе ў жанры мастацкіх твораў, у прыватнасці апавя-

дання. Добрае адчуванне прыроды, валоданне гутарковай мовай. Фон, на якім адбываюцца падзеі. Дакладныя рысы чалавека. Прыемна бачыць у вучні такі рост.

Неўзабаве раённая газета ахвотна давала месца на сваіх літаратурных старонках яе апавяданням.

І што мяне здзіўляла ў дзяўчыне — упэўненасць у тым, што яна рабіла, ніякіх ваганняў ці сумненняў.

На работу ў раённую газету пасля школы яе ўзялі з задавальненнем. Карэспандэнцыі яе вызначаліся актуальнасцю і свежасцю. Іх чытаць было прыемна. Яны ўяўлялі сабой не сухую інфармацыю, напісаную па ўстаноўленаму газетнаму трафарэту, а які-небудзь абразок з нашага сучаснага жыцця.

Завочна скончыла журфак універсітэта. Чытаў я яе нарысы, карэспандэнцыі і апавяданні ў рэспубліканскіх газетах.

Ці напісала раман? Пакуль што не. Пачакаем.

Мікола і Раіса Лапік, паэт і празаік. Мікола быў больш непасрэдны, чулы і нясмелы, нерашучы. Паэзія і проза судакранаюцца, ясна, а тут, у жывых людзях, яны як бы разлучыліся і пайшлі сваімі дарогамі. Нічога не зробіш, два чалавекі, два лёсы.

Не хапае крытыка? Няпраўда, ёсць і крытык. Нават нешта большае, чым звычайны літаратурны крытык. Доктар філалагічных навук. Даследчык літаратуры.

Вучыўся ён у нашай школе адразу неяк пасля вайны. Шмат было сярод вучняў перараосткаў, у тым ліку і ён быў пераростак. Знешне — звычайны, шэранькі, з глыбокімі ні то шэрымі, ні то чорнымі вачаняткамі, вельмі ўважлівымі, пранізлівымі. Губы тонкія, трошкі нібы сціснутыя. Вучыўся з ахвотай, старанна, быў рады вучобе, нібы галодны хлебу. Адзін клас нават мінуў. Трэба было сядзець у шостым, а ён сеў у сёмы. Нам было цікава, ці атрымаецца. Атрымалася.

Нарэшце школа скончана. Не на «выдатна», але і не блага. Атэстат, калі глянуць на яго шэ-

рае поле з адзнакамі, моцны. З ім можна пускацца ў жыццё.

І юнак пайшоў не куды-небудзь, а вот іменна ў жыццё, не ў вышэйшую навучальную ўстанову, куды абітурыентаў толькі дай. Лясная вёсачка, адкуль быў хлапец, не вызначалася заможнасцю. За вайну гаспадарка заняпала, ні кароў, ні коней, хлеб — шчасце, а пра грошы людзі і не марылі. Пайсці вучыцца на стацыянар — можаш не выцягнуць, не хопіць на жыццё беднай стыпендыі. З дому помачы не будзе, і не чакай. Бульбу з сабой возьмеш, гуркі? Самы лепшы і зручны варыянт — працаваць, а вучыцца завочна.

Настаўнічаў і стаў студэнтам філалагічнага факультэта.

У гэты час і пацягнула юнака да газеты, першай ступенькі шырокай размовы з вялікай аўдыторыяй яе чытачоў. Карэспандэнцыі пра жыццё і працу школ, паасобных настаўнікаў. Ну і, натуральна, у «Настаўніцкай газеце». Разгорнутыя, з абагульненнем і роздумам, не якія-небудзь маленькія заметкі. Дыяпазон шырокі, іначай бы іх не змяшчалі, калі б яны нечым нагадвалі ці паўтаралі папярэднія.

Энергія ў чалавека была, прарывалася на паверхню.

Але колькі ж можна пісаць пра адно і тое ж месца, пра адных і тых жа людзей.

Трэба было брацца за мастацкі твор.

Аднак першым мастацкім творам Дзябліка ў рэдакцыі газеты, дзе ён з поспехам друкаваў свае допісы, у прызнанні адмовілі. І ён знік са старонак названай газеты назаўсёды.

Пакрыўдзіўся? Адчуў сваю слабасць? Хто яго ведае. Арэх мастацкага слова моцны, не кожнаму ўдаецца раскусіць яго.

Але ж адчуць можа кожны.

І вось аспірантура, праца ў Акадэміі ў Інстытуце літаратуры, кандыдацкая дысертацыя, доктарская... Канечне, праца вялікая, але адной працы і настойлівасці не хапіла б, калі б Дзяблік не адчуў смак мастацкага слова.

Іншы скажа, што школа тут быццам і ні пры

чым. Філолаг у Дзябліку прачнуўся і выказаўся вунь дзе, на якой адлегласці ад школы. Перакананы ў тым, што не маглі нічога не пакінуць у яго душы нашы шумныя школьныя вечары паэзіі, канферэнцыі і дыскусіі па творах мастацкай літаратуры, насценная літаратурная газета, гурток мастацкага чытання, індывідуальныя вучнёўскія дзённікі аб прачытаных кнігах. А сачыненні на такія тэмы, як «Мой любімы герой», «Мой любімы пісьменнік», «Што мне дае мастацкая літаратура» і іншыя, якія не скоўваюць вучня, а абапіраюцца выключна на яго літаратурныя сімфоніі, густы, веды, здабытыя шляхам пазакласнага чытання?

Прабач мне, мой былы вучань таварыш Дзяблік, што я крануў цябе, змяніўшы на ўсякі выпадак прозвішча. Чаго не бывае! А раптам табе што-небудзь не спадабаецца ў напісаным? Я маю вопыт, калі проста ў хату да мяне прыходзілі сярдзітымі людзі і стукалі кулаком па стале. «Навошта напісаў пра мяне?» А пісаў я не пра яго. Я стварыў абагулены мастацкі вобраз. Насы ў людзей могуць быць падобныя. І рысы характару ў нечым могуць быць падобныя. І чалавек у літаратурным вобразе можа пазнаць нейкую сваю мярзотнасць. Вось тады і ўзгараецца ў ім полымя нянавісці да аўтара, тым больш калі аўтар знаёмы і ходзіць з ім кожны дзень па адной дарозе. Не выпадкова Гогаль уцякаў ад прататыпаў сваіх герояў у Італію. Сябар Чэхава мастак Левітан назаўсёды парваў дружбу з пісьменнікам, калі пазнаў у адным з яго апавяданняў сябе. Пісьменнік заўсёды рызыкуе, нават калі піша, здавалася б, зусім станоўчае. А пра цябе я напісаў як педагог, раз ты трапіўся на маім педагагічным шляху, каб глыбей зразумець крышталізацыю вучня ў чалавека і якая роля ў гэтым мастацкай літаратуры і выкладчыка-філолага.

Тры вучні: Мікола, Раіса Лапік і Дзяблік. Розныя, а памятую я іх аднолькава і люблю аднолькава. І заўсёды буду трымаць іх у полі свайго зроку і перажываць за іх лёс, якім бы ён ні склаўся ў іх, не патрабуючы за сваю любоў ні кроплі кампенсацыі.

## 12

Авяр'ян Данілавіч Букач. Не аднаго дырэктара ці якога-небудзь іншага адміністратара бачыў я на сваім вяку, а вось такога ўпершыню. Здзівіў ён мяне, збіў з ног, здурніў галаву маю. Як можа чалавек пераўвасабляцца, мяняць голас, падрабляць паставу, здавацца вышэйшым, чым ён ёсць на самай справе! Трэба адкрываць грамадству такіх людзей, каб асцерагацца іх, і я адкрываю Букача, каб ніхто і ніколі не ставіў такіх дырэктарамі школ.

Лёгка сказаць: не ставіў. А вось узялі і паставілі, таму што ведалі яго зусім іншым, чым ён зрабіўся, палажыўшы ў кішэню школьную пячатку і сеўшы ў дырэктарскае крэсла. Укусі цяпер сябе за локаць.

Не папыталі ні ў кога? Пыталі. І ў мяне пыталі. Я сядзеў у райкоме партыі і даваў яму прыкладна такую характарыстыку:

— Малады, жывы, энергічны. Вучыцца завочна. Добра вучыцца. Вельмі карэктны, справядлівы, цікаўны.

Усё было ў хлопца станоўчае. Да школы ён быў загадчыкам клуба, на камсамольскай рабоце ў саўгасе. Я памагаў яму як завочніку выконваць пісьмовыя работы па мове, па педагогіцы, па педпрактыцы і быў перакананы, што выйдзе з яго неблагі настаўнік, жартам дакляраваў у будучым пост дырэктара. У мяне з ім як бы завязалася моцная чалавечая дружба, калі розніца ў гадах (я стары, ён малады) перастае што-небудзь значыць. У маладосці я сам любіў дружбу са старымі людзьмі, адчуваючы і разумеючы яе карысць, у пажылых жа гадах не адпіхаў ад сябе маладых, ведаючы, як неабходны ім мой жыццёвы вопыт.

Пры былым дырэктару завучы сядзелі ў кабінеце апошняга. Бывае, трэба параіцца, памеркаваць. Адна галава разумная, а тры — разумней. Ва ўсякай рабоце калегіяльнасць не перашкаджае.

Прыходжу аднойчы ўранні на работу, завучы

ладзяць у настаўніцкай свае сталы. Выселіў іх дырэктар з свайго кабінета.

— Што, Марыя Тарасаўна,— гавару жартам адной, галоўнаму завучу,— уладу не дзеляць?

Яна, заўсёды спакойная, яснавокая, з добрай чалавечай усмешкай на прадаўгаватым твары, адказвае:

— Хай бярэ. Навошта мне тая ўлада? Баба з воза — каню лягчэй. З настаўнікамі нам тут будзе весялей. Праўда, Кацярына Міхееўна? — звяртаецца да другога завуча, завуча па пазакласнай рабоце.

Кацярына Міхееўна, стоячы за сваім сталом, ухмыльнулася белазубай жаночай ухмылкай і нічога не адказала, нешта трымаючы ў галаве сваё, вядомае толькі ёй адной. «Асцерагаецца»,— падумаў я.

І я не памыліўся. Праз год Марыя Тарасаўна адмовілася ад сваёй пасады. На яе месца за стол завуча сеў мужчына, арганізатарскія здольнасці якога нічым не вызначаліся сярод настаўнікаў. А яшчэ праз год на месцы завуча-мужчыны сядзела Кацярына Міхееўна.

Кацярына Міхееўна задаволена была сваёй пасадай і сваім лёсам у жыцці. Яна, бадай, адна раскусіла новага дырэктара. Калі хто пытаў пра яго, прадбачліва рабіла на прыемным маладым твары белазубую ўсмешку і моўчкі займалася якой-небудзь справай.

Дырэктару гэта падабалася. Зрэшты, і да мяне асабіста ён адносіўся няблага. Здаралася, ідзе паўз мой двор, а я раблю ў ім што-небудзь. Ну, скажам, плот папраўляю, дровы калю, ручку ў тапор ці рыдлёўку габёлкам выстругваю. Зойдзе. Абавязкова зойдзе.

Паглядзіць на маю працу ўважліва, чалавечна і скажа:

— Самі ўсё робіце?

— Сам.

Крутне галавой і дадасць:

— А я ведаю такіх, якія самі нічога не робяць.

— І я ведаю такіх, якія самі нічога не робяць.

А фізічная ж праца асвяжае чалавека, як фортачка ў акне асвяжае паветра ў пакоі. Вядома, калі яе адкрыць. Вы трымаеце ў руках пэўны інструмент, адчуваеце яго вагу, моц і магчымасці. Робіце пэўныя рытмічныя працоўныя рухі, бачыце вынік сваёй працы. Чалавек, які ніколі фізічна не працуе, шмат губляе. Такіх людзей я проста не разумею.

Я гляджу яму ў вочы, і ён разумее мяне.

— І я не працую. Гаспадаркі няма ў мяне. Нежанаты.

Знешняя акуратнасць, падагнанасць і падбор вопраткі імпанавалі яму. Здавалася, ён сучасны і шчыры.

Я прапагандую фізічную працу. Плявацы ён хацеў на маю фізічную працу, калі яна нікуды мяне, акрамя настаўніцкай работы, не падымае. Ён не працаваў, а абышоў мяне, дурнога старога настаўніка з дурным сваім старым кодэксам думак у галаве, і вось зараз дырэктар.

## 13

— Ай, пакіньце,— махнуў рукой Кузьма Рыгоравіч.— Трэба вам гэты Субач, ці Букач, як вы на яго кажаце. Не хачу я пра такіх людзей ні чуць, ні чытаць, ні расказваць. Звычайны кар'ерыст. Уй, іх у нас яшчэ дай бог колькі.

Кузьма Рыгоравіч насцярожыў слых і пачаў глядзець на рэчку ўправа.

— Што? — заўважыў я яго насцярожанасць.

— Ды нічога. Буксір ідзе.

Я сабе пачаў глядзець у той бок, куды глядзеў Кузьма Рыгоравіч. Неўзабаве на воднай гладзі, лопаючы маторам, паказаўся невялічкі, як жук на малюнку, буксірчык, цягнучы за сабой вялізную баржу.

— Лодку нашу можа падмыць,— і Кузьма Рыгоравіч падняўся на ногі.

Стырнавы, убачыўшы, мусіць, нас і нашу лодку, свіснуў тройчы сваім гудком.

— Канечне, падмые,— заключыў Кузьма Ры-

горавіч і хутка, як малады, не сышоў, а збег з берага да лодкі.

Я таксама сышоў да яго. Мы ўчапіліся за насавыя барты нашай пасудзіны і стаялі так, чакаючы, пакуль пройдзе паўз нас буксір з баржай.

Буксір прайшоў, а потым моцная водная хваля акаціла нас да самых калень. Лодка загайдалася, але мы ўтрымалі яе, пакуль схлынула вада.

— Магло б знесці, калі б не патрымалі,— гаварыў Кузьма Рыгоравіч.

На беразе мы засталіся ў трусах, сушачы свае штаны і абутак.

— Ведаеце арху? — гаварыў Кузьма Рыгоравіч, аглядаючы свае жылістыя валасатыя, з доўгімі пальцамі ногі.— Яе завуць веялкай, але ў нас называлі архай. Жыта, гаварылі, будзем архаваць.

— І ў нас яе завуць архай. Сам архаваў на ёй.

— Памятаеце, як там што куды? Добрае зерне — па шырокім латаку ўперад ідзе. Мякіна выдзімаецца ўзад. Пад сіты цярушыцца зяло, гугаль які-небудзь. У вуха ідзе зерне-заморкі, адным словам пазаддзе. А людзей жа не адсартуеш. Няма на іх такой архі. Які нарадзіўся, такі і жыве.

— Так, жыве. У душу не залезеш.

— А-а, і залазіць не трэба. Сама раскрыецца.

— Дык вось шкада, што не адразу. Пакуль раскрыецца, дык другі так табе наверхаводзіць,— брыдка на душы зробіцца.

— Што ж, выдаткі бываюць. І ў прыродзе, і сярод людзей. Я вось з году ў год назіраю ў сваім садзе такую трагедыю. Крадзе сарока з шпакоўняў маладых шпачанят, і хоць гвалт крычы.— Кузьма Рыгоравіч зрабіў рукамі жэст недаўмення.— І тут жа ў садзе апусціцца і клюе яго. Старыя шпакі крычаць, хвалююцца. А яна ўлучыць мінуту, калі яны паляцяць па корм, нік дзюбай у дзірку шпакоўні (маладыя думаюць, што маці карміць іх будзе, і падымаюцца да дзіркі), хапае аднаго проста за яго дзюбку і павалакла далоў. Я... не мог...

Кузьма Рыгоравіч сашчапіў рукі на каленях

і пачаў глядзець за рэчку, дзе за шырокім лугам відаць была патопленая ў садах і прысадах вёска.

Я счакаў колькі часу і кажу яму:

— А з ружжа не спрабавалі?

Кузьма Рыгоравіч хмыкнуў, ледзь улоўна ўздрыгнулі яго губы.

— І страляў, браў у суседа стрэльбу, і прынадай труціў... Адна здохне — другая прыляціць. Усіх сарок не знішчыш. У прыродзе так усё пераплецена — нічога не паправіш. Ва ўсякім разе, цяжка паправіць.

Я згадзіўся з Кузьмой Рыгоравічам, што экалогія — чалавек і прырода — гэта яшчэ не ўсё. Аднак сказаў:

— Чаму, тое-сёе папраўляем.

Ён усміхнуўся, паказаўшы мне зусім-зусім яшчэ цэлыя пярэднія свае зубы.

— Ваду з балота спусцім? Рэчку перагародзім? Прыроду паправіць цяжка. Немагчыма!

— Добра. Ну, а ў грамадстве мы ж павінны быць гаспадарамі?

— Самаачышчаемся. Праўда? І будзем самаачышчацца. Вы ж сказалі, што бягучая вада здольна да самаачышчэння? Іншы ўбача якога-небудзь Букача, ці, як вы сказалі, Сукача, і тады крык на ўсю ваколіцу, хоць вушы затыкай: «Ратуйце, гінем!» Няпраўда! Не гінем і не загінем. Не гінем і не загінем. Не трэба параджаць песімізм, бачачы ў нашым асяроддзі такія-сякія недахопы. Вось што я хачу сказаць.

Кузьма Рыгоравіч устаў на ногі, сціснуў кулакі, павёў туды-сюды рукамі, спрабуючы мышцы, і неяк спакусліва глянуў на мяне, тады на рэчку.

— Можа, пакупаемся? Цёпла! — смыкнуў плячуком і павёў вокам у бок сонца.

## 14

Пасля купання наша размова вярнула нас у далёкае і не вельмі далёкае наша мінулае.

— Дык Ніна Сяргееўна, кажаце, біла вучняў?

— Уй, біла. Так не любіла дзяцей! Не ведаю, як з такой душой можна быць настаўнікам.

— Жорсткая яна была. Чуў я. Ведаў я яе. І Лашука вы не любілі?

— Баяліся.

— Та-а-к: Разумны ён быў чалавек. Справядлівы. Ён кінуў Ніну Сяргееўну. Таму яна, можа, і была такая злая.

— Яны жанатыя былі?

— Не, не жанатыя. Жанатыя людзі лягчэй пераносяць развод, чым закаханыя разлуку.

Мне на момант шкада зрабілася Ніну Сяргееўну. Нешчаслівая яна. На нас спаганяла сваю злосць, а вінаваты быў Лашук. Вось цяпер мне зусім ясна зрабілася, што ён быў бяздушны. Нічога ў ім не было чалавечага. І на нас, вучняў, ён не глядзеў.

Прыгожая яна была. Проста прымадонна. Зламаў ён ёй жыццё.

— А вы яго хваліце,— глянуў я патрабавальна ў самыя вочы Кузьму Рыгоравічу.

— Не, я не хвалю. Што, я саладжу вам яго, ці што? Я кажу, што ён быў адукаваны, не дробязны, шчыры, у Маскве кандыдатам педагагічных навук быў стаў, узначальваў добрую школу. Можа, ён бачыў і глядзеў далей, чым мы, звычайныя настаўнікі, таму не мог цалкам аддацца дзецям, спусціцца да іх нізенька-нізенька, як мы, звычайныя настаўнікі?

Што мне было: не шкадаваць Ніну Сяргееўну? І Лашуку дараваць усё? Яго адчужанасць і няўвагу да вучняў? І тое, што ён ашукаў, лічыце, загубіў, жанчыну? Я не хачу бачыць перад сабой чалавека, каб у яго было дзве душы.

— Кузьма Рыгоравіч! Тут нашы дарожкі з вамі разыходзяцца.

Кузьма Рыгоравіч паспрабаваў аджартавацца.

— Добра, тады я паеду дадому на сваёй лодцы, а вы можаце тэпаць пешшу, паважаны пенсіянер.

Ён нават устаў з зямлі і пачаў глядзець, ці высахлі ўжо яго штаны і чаравікі.

— Сырыя,— сказаў пра чаравікі. Надзеў штаны і зноў сеў насупраць мяне.— Ведаеце, інтымныя адносіны людзей існуюць як бы падсвя-

дома. Часамі і розумам дайсці нельга — чаму? Узяць таго самага Лашука. Чалавек як чалавек. І яна была не з тых, ад якіх мужчыны адварочваюцца. І дзіця ў іх павінна было ўжо быць.

У мяне мільганула ў галаве: «Гад. Гад! І дзіця паспеў загубіць».

— Ну, і што вы думаеце? Кінуў. Каб другую ўзяў — не. Нежанатым так і памёр. Адзін як палец. Без радні. А яна са злосці выйшла за нейкага. І дзяцей у яе потым ужо не было.

— Не чалавек ён,— стаяў я на сваім,— жывёліна. У чалавека павінна быць сэрца. А вы кажаце, што ён быў разумны. Няма падсвядомасці. Ёсць здрада і злачынства. Усякі свой крок чалавек павінен кантраляваць. Гэта брыдка!

Каго я абараняў? Ніну Сяргееўну ці прынцып?

І прынцып, і ў нейкай меры, побач з прынцыпам, Ніну Сяргееўну. Ні так, ні гэтак нельга чалавека крыўдзіць. Яе пакрыўдзілі на ўсё жыццё. Шкадую пакрыўджаных, хай нават яны людзі ў чымсьці і аднабокія.

Кузьма Рыгоравіч зноў устаў і пачаў мацаць свае чаравікі. Дастаў з сука дубка, каля якога мы былі, шкарпэткі, апусціўся на траву і пачаў абувацца.

— А пра Іну Іванаўну Карыцу, хоць я яе асабіста і не ведаю, чуў і магу закругліць вам сюжэт пра яе,— гаварыў Кузьма Рыгоравіч, зашнуроўваючы юхтовыя, з высокімі халяўкамі чаравікі.— Родны дзядзька яе ў педінстытуце загадчык кафедры. Сын Залужнага займаўся на факультэце пачатковых класаў. Прафесар пакінуў яго пры кафедры з разлікам уладкаваць з цягам часу ў аспірантуру, ну а Залужны тут, у знак удзячнасці, увесь час падымаў яго пляменніцу. Не ведаю, я так чуў ад людзей, якім прывык верыць. Так што інтуіцыя ваша, бадай, не беспадстаўная.

Мая інтуіцыя. А ці адна тут інтуіцыя? А вочы? Вушы? А мой розум? А людзі — сведкі, з якімі я бываў у яе на ўроках? Хоць і інтуіцыя мая, бадай, рэдка калі мяне падводзіла.

Ды і што такое ўрэшце інтуіцыя? Гэта на го-

лае пачуццё і здагадкі. Не. Гэта, калі хочаце, цэлы комплекс ведаў і асабістай практыкі.

— Кіньце,— заўважыў Кузьма Рыгоравіч, што я задумаўся.— Апранайцеся. Пойдзем пашвэндаемся па лесе. Самае галоўнае ў жыцці чалавека, па-мойму,— адносіны да прыроды. Любіш яе — жывеш, не любіш — нічога не бачыш і не ведаеш. Прырода заўсёды вяртае чалавека да вытокаў жыцця, да першароднага і непадробнага. Я сам не люблю розных падробак, штучных падгонак. Чалавек у сваёй натуры павінен быць моцны, а не ў падробках.

Я надзеў штаны, абуўся і ўстаў.

Крокаў праз колькі Кузьма Рыгоравіч спыніўся каля арэхавага куста, выламаў з яго сушніцу, абламаў нагой лішнія канцы ў ёй, і ў яго атрымаўся лёгкі і добры кіёк.

Мы ішлі паціху, амаль не размаўляючы паміж сабой. Дзе адзін за адным, а дзе і разыходзячыся.

Лес быў дзіўны. Мне не часта даводзілася бачыць такое суседства разнастайных парод: дуб, сасна, елка, бяроза, альха; часам клён і нават граб; траплялася ліпа. Рабіна цвіла прыгожа, вялікімі белымі кружэлкамі-гронкамі. На прагалінах, у ямках і ўпадзінах гуртаваўся маліннік. І ён цвіў ужо, абяцаючы багаты ўраджай чырвоных салодкіх ягад, калі меркаваць па цвету.

Ступаць у лесе прыемна, мякка, бо мяккая ўся дробная расліннасць у ім, што ўтварае сабой багатае паглебавае лясное покрыва.

На адной з прагалін крокаў за некалькі да каржакаватага дуба Кузьма Рыгоравіч спыніўся, штосьці выглядаючы ў ягадніку перад дубком. Тады глянуў угору, на дубок, досыць пышна прыбраны маладым лісцем. Я сабе спыніўся. Спачатку ззаду, тады побач са сваім спадарожнікам. Недзе ў дубку ціўкалі, відаць, зусім яшчэ маладыя, птушаняты.

— Вунь,— паказаў Кузьма Рыгоравіч дупло паміж сукамі.

— Бачу,— адказаў я сябру.

— Шпакі. Лясныя,— тлумачыў ён.

Я і сам ведаў, што шпакі гняздзяцца не толькі ў вёсках у шпакоўнях, але і ў лесе ў дуплах.

Кузьма Рыгоравіч паказаў пальцам уніз, пад дубок, нічога мне не гаворачы.

Тым часам шпак, са здабычай у дзюбцы, пералятаў з дрэва на дрэва, чакаючы, пакуль мы пойдзем і ён будзе мець магчымасць аддаць дзецям тое, што прынёс.

Я ўгледзеўся ў тое месца, куды паказваў Кузьма Рыгоравіч.

— Гадзюка,— з нейкай перасцярогай у голасе вымавіў я.

— Ды яна нежывая. Не бачыце, як яна ляжыць?

Мы падышлі да яе. У негустым ягадніку, амаль пад самым дубком, ляжала шэрая гадзюка.

Кузьма Рыгоравіч пакратаў яе туды-сюды сваім сухім арэхавым кійком. Паўзун быў вялы, як кішка.

— Бачыш, хвост падзяўбаны і галава расклявана.

Я не ўсё яшчэ разумеў, што гаварыў Кузьма Рыгоравіч.

— Бусел? — запытальна глядзеў я на яго.

— Што вы! Бусел у такім лесе не бывае. Варона. Звычайная варона, якую не лічаць за птушку. Ці гадзюка нейкім чынам шпачанят пачула і паўзла, каб паласавацца імі, ці проста трапіла на вока сівабокай у гэтым месцы. Дзяўбе спачатку ў хвост, пакуль, круцячыся, гадзюка зняможа, а тады ў галаву, і паядынак на гэтым канчаецца.

— Не люблю гадзюк. Брыдкае стварэнне.

— Усе не любяць, таму што баяцца. Кусаецца нядобра. Не, тут мы яе не пакінем.

Кузьма Рыгоравіч узяў змяю, як каўбасу, на канец кійка і пайшоў гэтак па лесе, шукаючы месца, дзе яе можна схаваць.

— Адвярні ўбок гэты камень,— сказаў ён мне, спыніўшыся каля з'імшэлага плашчака.

Я адвярнуў.

— Цяпер навярні.

Каля камня, пад якім была нежывая змяя, ён

уваткнуў у зямлю, трошкі наўскасяк, свой кіёк, сказаўшы:

— Так вось адзначаюць у нас месца, дзе пахавана забітая гадзюка.

Цяпер Кузьма Рыгоравіч ішоў па лесе без кійка, і рукі ў яго, здавалася мне, былі як бы лішнія, яны, доўгія, непрыгожа матляліся. Усё часцей і часцей ён пачаў паглядаць угору, на верхавіны дрэў.

Каля адной даволі немаладой сасны спыніўся, глянуў у яе крону і сказаў мне, усміхнуўшыся:

— Вунь яе гняздо.

З сасны нырнула ў вецце доўгіх дрэў сівалезая і нехлямяжая варона.

Ужо калі, добра нахадзіўшыся па лесе, ішлі мы да месца сваёй стаянкі, да лодкі, Кузьма Рыгоравіч запытаў у мяне:

— Дык вы так і не ўведалі, куды ўрэшце падзеўся ваш першы настаўнік Барыс Барысавіч Зелянкевіч?

— Не, Кузьма Рыгоравіч. Так і не ўведаў. А ўрэзаўся ён мне ў памяць. Як жывога, бачу яго перад сабой.

Кузьма Рыгоравіч колькі часу ішоў моўчкі, пазіраючы сабе пад ногі і нешта думаючы, тады сказаў мне:

— У Дзёрнаўскім раёне, на рацэ Бруй, стаіць яго бронзавы бюст як Героя Савецкага Саюза. На радзіме яго. Разумееце?

— Такія і павінны празвінець бронзай. А як жа інакш! — гавару ўрэшце Кузьму Рыгоравічу.

— А цяпер наконт пенсіянерства. Не згодзен з вамі, што выхад настаўніка на пенсію не трагедыя. Трагедыя! Ды і якая! Але ніхто яе не паставіць. Настаўніцкая работа была маёй сіняй птушкай. Я трымаў яе ў руках, бачыў сваімі вачыма пераліві кожнага яе пёрка. А цяпер няма ў мяне ў руках гэтай птушкі. Няма! Кажу: няма! Вы разумееце слова «няма»?

Кузьма Рыгоравіч сцішыў хаду, спыніўся. Абвёўшы вачыма вакол сябе верхавіны дрэў, уважліва і сур'ёзна глянуў на мяне, і я ўбачыў, як губы яго ўздрыгнулі.

# КАМАНДЗІР ЭСКАДРОНА

Равеснікі звалі яго проста Васіль. Трошкі маладзейшыя — дзядзька Васіль. А яшчэ маладзейшыя — дзед Васіль.

Калі ж каму было незразумела, які менавіта Васіль, бо ў вёсцы іх некалькі, удакладнялі: дзед Смаляр.

Прозвішча яго такое было.

Але дзед — для яго занадта. Калі ўжо чалавек зусім нядужы, ледзь поўзае, абапіраючыся на якую-небудзь гламаздзіну, тады — дзед. А таму будзем называць яго дзядзькам. Нягледзячы на свае гады, ён — куды хочаш. Дужы. Ходзіць лёгка, як малады.

Улетку абувае кеды, калошыны штаноў абмотвае якой-небудзь аборынай, каб не матляліся, і — хоць у Кіеў, як ён любіў гаварыць.

Чаму ў Кіеў? Таму што ў гады яго маленства набожныя людзі хадзілі туды пешшу на нейкае маленне.

Кепак цярпець не мог і насіў шапкі толькі з аколышам. Вайсковыя, леснікоўскія, з цвёрдым казырком цывільныя — абы з аколышам.

З вясны і да позняй восені дзядзька Васіль у полі, на калгаснай працы. Кіраваць ён умеў і тапаром, і рыдлёўкай, і канём, і жалезнымі віламі, і касой. Адно — не машынамі. Яго пакаленне людзей — саматужнае. Нарадзіліся і выраслі яны раней, чым наступіў век механізацыі, і ў машынах разбіраліся не надта. І ў душы хочаш — не хочаш, а зайздросцілі маладым, якія садзіліся за руль трактара, аўтамашыны, камбайна...

«Хай маладыя»,— казаў дзядзька Васіль, быццам старым непрыстойна было чапацца з машынамі, як непрыстойна заляцацца да маладых дзяўчат.

Аднак як пачынаўся на заліўным лузе каля ракі Бярозы сенакос, дзядзька Васіль цвіў, як бы

вяртаючыся гадоў на пяцьдзесят назад, у сваю маладосць, калі сіла была дай бог, і спрыт, і майстэрства ў працы, а галоўнае, незвычайная асалода ад яе.

Усеўшыся на якое-небудзь бервяно, пакінутае на лузе ўвесну паводкай, ён з асалодай забіваў у яго бабку і кляпаў касу, адцягваючы жала роўненька, як струну. І кляпаў тым, хто не ўмеў сам добра кляпаць,— быў задаволены, што яго просяць, і паказваў няўмеку, як трэба кляпаць, і правяраў пасадку яго касы, крутая яна ці занадта простая.

З жартамі «падмазваў пяты» маладым, з ухмылкай далёка ззаду пакідаў сталых, выкладаючы траву ў пакосе камель у камель, травіна ў травіну, нібы яна так лежачы і вырасла. Дзённая норма ў трыццаць пяць сотак для яго нічога не значыла, ён падахвочваў касцоў даваць да вечара яшчэ гэтулькі.

Ну, а таптаць стагі сухога сена лепш за яго ніхто не ўмеў у калгасе. Век стог не зацячэ і набок не звернецца.

Сам і месца падбярэ, дзе кідаць стог, сам адонак адчыкрыжыць па ўсіх правілах, сцежар паставіць.

Падаюць сена на стог утрох, а ён адзін топча. Лоб узмакрэе, але нічога, спраўляецца. Толькі будзе тлумачыць зверху:

— Вы мне к сцежару, к сцежару. Стог трэба трамбаваць каля сцежара. Бакі з часам самі аблягуць, а тады будзе сцякаць вада, як н елкі, у якой суччa вісіць уніз. Таму елка і не прамакае і хаваюцца людзі ў дождж пад яе. Ёсць елкі суччам угору. Пад гэтую ніколі не хавайся. Прамокнеш.

Яму часта казалі:

— Дзядзька Васіль, аднаму цяжка на стозе. Хай во Змітрок ці хто з вамі лезе.

— Не, не, не. Ні Змітрок, ні Пятрок — ніхто мне не трэба. Толькі блытацца будзе пад нагамі, як гэтае самае ў пельцы. Яшчэ бяда здарыцца — на вілы наскочыць. А так я ўсё бачу, у мяне нікога пад рукамі, і я нікому не замінаю — і, задраўшы сваю каротка падстрыжаную, рудавата-

русую бараду, аббягаў адонак, глядзеў угору на гладкі высокі сцежар і заключаў: — Падавайце. Толькі хутчэй. А то дождж можа быць,— і абводзіў прыжмураным вокам чыстае блакітнае неба, з якога дождж і праз год не можа пайсці.

Стог рос, падымаючы дзядзьку Васіля ўсё вышэй і вышэй. Усім ужо была відаць яго рудая са стаячым аколышам шапка, таксама рудая, на плячах збялелая ад сонца салдацкая гімнасцёрка, якую ён ніколі не ўбіраў у штаны, а насіў навыпуск. Граблямі ён на ляту падхопліваў з вілак сена, якое яму знізу падавалі, і клаў туды, дзе яно павінна было легчы, і тады, паставіўшы граблі бруском уніз, таптаў, таптаў яго, часамі нават пагушкваючыся на сухой травяной падушцы.

Калі падавальшчыкі, паскідаўшы шапкі і выціраючы рукавамі сарочак змакрэлыя лбы, абвяшчалі перакур, дзядзька Васіль гаварыў ім уніз, абапіраючыся на граблі:

— Сілас добра. Сянаж добра. А без сена — не. Як чалавеку, скажам, капуста трэба і бурак трэба, а без хлеба, што ні еш, не харч.

— Можа, вам вяроўку, дзядзька Васіль, падаць, злезеце?

— Чаго я палезу?

— Адпачнеце на цвёрдай зямлі. Душна на гарачым сене.

— Тут ветрык. О-о,— ён адцягваў на грудзях гімнасцёрку, калаціў ёй, паказваючы, як яго праймае ветрыкам.

Няпраўда, дзядзька Васіль не любіў вялікіх перапынкаў у рабоце.

— Глядзі як абмялела,— паказаў ён на раку.

— Чаму гэта, дзядзька Васіль? — пыталі ў яго знізу. Дзядзька Васіль адказваў так, як яму дыктавала яго разуменне жыцця і прыроды.

— Клеймат. Мяняецца клеймат, кажу. Адно, што лясы высеклі. А другое — зямля падымаецца. У Доўгім нашым балоце што было? Коні, каровы тапіліся. А цяпер улетку? Бокам каціся.

— Чаго падымаецца?

— Чаго падымаецца? Нешта не ўпанаравіла ёй ляжаць нізка. Даўней на полі лажкі і лажкі:

вымакала збожжа на нізкіх месцах, не сеялі. Цяпер ніякіх лажкоў. Аруць і сеюць, як вока бачыць. Вунь там, вунь,— дзядзька Васіль паказваў пальцам на сенажаць паўз рэчку,— была струга — з возам не пераехаць. А цяпер? Як і не было нічога.

Нехта з маладзейшых уставіў:

— Я чытаў, што ў Сярэдняй Азіі так: вясной цячэ рэчка, а ўлетку высыхае.

Сена сцягвалі да стога коньмі.

— Дождж будзе. Чаго расселіся? — сказаў да падавальшчыкаў возчык.

— Ага, хлопцы, нешта мурзаецца з таго боку,— глянуў дзядзька Васіль на ўсход.

Падавальшчыкі падняліся на ногі, пабраўшы жалезныя вілкі на доўгіх шастах.

— Маніце, дзядзька Васіль, няма нічога на небе,— сказаў адзін з іх, аглядаючы чыстае блакітнае неба.

На шырокім роўным лузе было прыгожа. Дзе ўжо стаялі крыху зрыжэлыя стагі, а дзе яшчэ сакавіта зелянела трава, і яе касілі, нягледзячы на спякоту. Грабцы грэблі сухое сена, возчыкі валакушамі сцягвалі яго да стагоў, якія людзі кідалі, як і тут зараз, дзе стаяў дзядзька Васіль.

Направа за ракой была відаць вёска, налева, далей уніз, рашэціўся жалезны мост, які злучаў шашу з усходу на захад у адно палатно дарогі. Па ім узад-уперад снавалі машыны.

За мостам, на той бок ракі, вышэй сініх сасновых бароў, паднімаўся горад. У ім відаць былі будынкі белыя, жоўтыя, серабрыстыя, высокія і нізкія, і было глядзець вельмі хораша.

Рака спакойна плыла ў сваіх то падмытых, то зарослых берагах, на ёй не відаць было ні плытоў, ні буксіраў, ні ўсплёскаў рыбы. Не верылася, што такая ціхая, рахманая, яна была ў свой час злой мачыхай для няпрошаных чужынцаў.

Стог рос. Пляцоўка на ім дзядзькі Васіля рабілася ўсё вузейшай і вузейшай, пакуль не ператварылася ў пятак. Цяпер дзядзька Васіль хадзіў толькі вакол сцежара, не аддаляючыся ад яго ні на крок.

— Хопіць? — пыталі знізу.

— О не. Давайце, давайце.— Ён глянуў угору на сцежар.

Здавалася, верх ужо востры, як ракета. А дзядзька Васіль цягнуў і цягнуў яго ўгору, робячы яшчэ даўжэйшым і вастрэйшым.

І калі ўжо канчаўся сцежар і не было, здавалася, на чым чалавеку стаяць, ён сказаў:

— Хопіць.

Сказана было не звычайным голасам, а як бы прыцішаным, трохі засакрэчаным. Зроблена вялікая і тонкая работа. Стог не кожны стопча, каб яму не задраў чуб вецер, сухой праляжала да самых маразоў кожная сяніна ў ім.

Дзядзька Васіль уважліва аглядае ўсе яго бакі зверху. І ўрэшце пасылае ўніз каманду:

— Віткі!

Яму на доўгіх вілах падаюць віткі, бярозавыя. Кожная закручана ў вяршку хамутком. Калі віткі надзеты на сцежар і камлі іх раўнамерна распраўлены па ўсіх баках стога, угору да яго ляціць матком вяроўка. Дзядзька Васіль распраўляе яе, начэплівае на сцежар і асцярожна, як альпініст, злазіць на зямлю.

Тады, адышоўся ад стога, глядзіць на яго збоку і кажа падавальшчыкам:

— Добра падскублі. Можам і закурыць.

Не курыў, пакуль не скідалі стог. З агнём на сене нельга.

Папера і запалкі былі ў нагрудных кішэньках гімнасцёркі, кісет з махоркай — у штанах. Сядзеў, курыў, гаварыў і ўсё вадзіў вачыма па стозе. Як і ўсе стагі, што ён таптаў, ёмкі, пукаты. Сена хапае, чаму не стаптаць такую ляльку? Вот калі сена мала, тады стапчы. Не стопчаш. Шылаваты выйдзе. Бывала, як аднаасобна жылі, у Кіслаўцы, на сваёй дзяжачцы: не стагі, а мышыныя хвосцікі кідалі. Во жыццё пакутлівае было! Зараз смешна. А яшчэ некаторыя ў калгас не хацелі ісці. Упарціліся. «Маё!» — крычалі. А крычаць, выходзіць, і не было за што.

Неўзабаве і брыгадзір едзе на матацыкле.

— Як ведаў, што мы сягоння пастараемся,—

сказаў яму дзядзька Васіль, калі той заглушыў матор.

— А і ведаў,— адказаў брыгадзір, малады, у сарочцы без рукавоў, без шапкі, у тэпцях на босыя ногі, аграном, які толькі летась адслужыў армію.

— Мерай, браток, мерай, раз ведаў,— гаварыў яму, заплёўваючы недакурак, дзядзька Васіль.— А сонца яшчэ вунь дзе, качаргой не дастанеш, каб за лес яго спіхнуць ды дамоў хутчэй пайсці.

Убачыўшы брыгадзіра, да стога пачалі сыходзіцца сушыльшчыкі сена і падвозчыкі. Два кані, вараны і буланы, скублі траву на лузе воддаль.

Спачатку вызначылі для цікавасці вагу сена ў стозе на вока. Называлі некалькі лічбаў. Праўда, не з вялікім разыходжаннем. Потым змералі брыгадзіравай лентай кружнасць стога па пуку. Вышыню брыгадзір вызначыў вугольнікам, які ён прывёз з сабой у люльцы матацыкла.

Дзіўна: якую сілу мае людское вока! Амаль як дакладная матэматыка.

— Дзядзьку Васілю запішам?..— брыгадзір глядзеў на падавальшчыкаў, шукаючы іх згоды, каб дзядзьку Васілю запісаць больш, чым ім.

— Не, не,— закруціў галавой на сухой загарэлай шыі дзядзька Васіль, адпіраючыся ад сказанага далонню ўзнятай рукі.— Роўна ўсе рабілі, дарма, што я адзін на стозе быў. Падавалі добра, пад рукі. Іншы падавальшчык шыбне табе на стог, а ты кацi тое сена, куды табе трэба. У мяне сям'і няма, удваіх з бабай засталіся, хопіць мне, хопіць. Калі гаварыць пра грошы, дык мне хапіла б і пенсіі. Яна трохі, і я трохі — удваіх палучаем. Казну нам складаць? Я іду на работу, што трэба. Трэба — я і іду. А так бы чорт яго пайшоў. Што мне тыя грошы!

Перапісаўшы ў тоўсты агульны сшытак усіх, хто працаваў тут на сене, брыгадзір сказаў:

— А цяпер можна і пакупацца,— і сам першы пайшоў да ракі, на хаду расплікаючы гузікі.

Жанчыны з граблямі ў руках накіраваліся дамоў, у вёску. Мужчыны ж купаліся.

Ад берага трэба было прайсці па пясчанаму

дне ладны кавалак, каб вада паднялася на пашкі.

Брыгадзір, самы малады з усіх тут, пераплыў стрыжань ракі і стаяў нагамі на дне на ладнай адлегласці да таго берага.

— Я. ж кажу, абмялела Бяроза,— паўтарыў сваю думку дзядзька Васіль.— Даўней было — плыві ад берага да берага, калі хочаш перабрацца на той бок. А гэта нагой можа пераступіць.

Вылезшы пасля купання на бераг, мужчыны доўга не апраналіся, абсыхалі, хвалячы цёплую ваду, добрую пагоду, дзень, які, можна сказаць, ужо праходзіў.

— Глядзіш, Іванка? — заўважыў дзядзька Васіль, што брыгадзір прыглядаецца да сцягнутага рубцом яго бока.— Глядзі, братка, глядзі. Добрую памяць пакінуў мне бяляк. Гад, у пуза калоў. Трошкі збочыў. Не, ён не збочыў. Я паспеў управа так трошкі хвіцануцца. Ды дужа не хвіцанешся, на кані быў. А так бы кішкі вон, даўно б зямлю парыў.

— Вы ў кавалерыі былі?

— О-о-о, ды ў якой! У самога Гая. Гэта мне ўжо на польскім фронце.

— Які ён быў?

— Хто? Гай?

— Ну.

— Смяляк, брат, быў. Ой, смяляк. Сказаць нельга, які адчайны.

— Казалі, вы камандзірам эскадрона былі. Праўда?

— Ну, як табе сказаць? Быў. У ваенным бялеце запісана. Мог бы зманіць, каб не бялет. Забілі ў адным баю нашага эскадроннага. Гай выклікае мяне. «Назначаем цябе, таварыш Смаляр». ...У мяне і вушы абвялі. Я кажу: «Грамата ў мяне, таварыш камандуючы, можна сказаць нізкая».— «Давучвацца пасля вайны будзем. Біць паноў трэба цяпер, няма калі глядзець на грамату. Трэба. Разумееш? Вядзі эскадрон»... Я прыбягаю к сваім хлопцам. Яны пытаюць: «Што?» А я як крыкну: «Па конях!»

Дзядзька Васіль сапраўды так крыкнуў, нібы даваў каманду ўсяму эскадрону. Між іншым, го-

лас у яго быў звонкі, як у маладога.

Потым устаў на ногі, агледзеў вакол сябе луг і, падумаўшы, дадаў:

— Даўно гэта, хлопцы, было. Грамадзянская вайна. Вайна, можна сказаць, з царом і падцаркамі. Але каб мы тады не разбілі іх...— і пачаў апранацца, нічога больш не сказаўшы.

Дамоў дзядзька Васіль ехаў з брыгадзірам на матацыкле, у люльцы.

Сонца вялікім чырвоным кругам вісела над лесам. І такое ж сонца, над тым берагам, было ў прыгожай рацэ Бярозе.

# АДНАКЛАСНІКІ

Сустрэча была чыста выпадковай. У плашчы, з партфелем, напханым рукапіснай і друкаванай рознасцю, Патупчык ішоў па вуліцы. Насустрач яму, як на шпацыры (без шапкі, рукі назад, з белай манішкай) — Карэнька.

— Васіль? — сказаў Патупчык Карэньку.

І глянуў яму, знізу ўгару, так як быў ніжэйшы за яго, у вочы.

Вочы ў Карэнькі былі карыя, [redacted] агеньчыкам хітрынкі, нават з дзіцячай гарэзлівасцю.

— Адкуль — куды? — запытаў у Патупчыка Карэнька, ціснучы ў сваёй руцэ руку сябра.

Сябра? Калі лічыць, што ўсе аднакласнікі — сябры, тады — сябра. Разам дзесяць гадоў правучыліся ў адной школе, у адным класе. Сябра на ўсё жыццё, да скону.

— Куды — ясна: дамоў. А адкуль — на семінары быў. Тры дні запісваў,— і Патупчык паважкаў у руцэ свой цяжкі партфель, нібы там былі адны канспекты.

Карэнька глянуў на партфель, тады на плашч.

— Вось што. Здавай гэта ўсё ў гардэроб. Пайшлі паабедаем.

Патупчык пачаў глядзець па баках — дзе?

— Во рэстаран,— паказаў рукой Карэнька на высокія дзверы, над якімі была шыльда.

Рэстаран быў амаль пусты. Сядзела там-сям па чалавеку.

— Зараз будзе поўна. Я мінут на пятнаццаць раней іду. У гадзіну пачынаецца абед,— гаварыў Карэнька.

Белыя манжэты сарочкі, якіясь блакітна-паленыя запанкі ў іх, электронны, без стрэлак, гадзіннік на руцэ, ды і рукі самі, якія, відаць, даўно ўжо не дакраналіся да зямлі і да ўсяго таго, што так ці інакш звязана з ёй, ляжалі на стале... «Так, ён упісваецца... упісваецца ў рэстаранны

звон і бляск, у яго крыклівую чысціню»,— падумаў Патупчык пра свайго школьнага сябра.

І тым не менш Патупчык адчуў няёмкасць за сябе перад сябрам і перад самой установай — рэстаранам, які быў разлічаны на культуру чалавека ва ўсіх яе дэталях, уключаючы нават настрой.

Што раптам сапсавала Патупчыку настрой? Не трэба было заходзіць сюды? Атрымалася так, што зайшоў. Як кажуць, аўтаматычна, без удзелу свядомасці. Не трэба было сустракацца з Карэнькам? А чаму! Ён яму вораг, ці што? Разам вучыліся і ніколі не мелі паміж сабой якой-небудзь непрыязні ці канкурэнцыі.

Карэнька ўзяў у рукі абедзеннае меню і пачаў чытаць яго ўголас, так, каб чуў і Патупчык.

— Што будзем браць?

— Прызнацца, я сягоння яшчэ і не нашчыўся,— адказаў Патупчык.

— Тады можаш сто грам заказаць. На галодны жывот яно добра,— пажартаваў Карэнька.

— Сто грам? — глянуў Патупчык у твар сябра.— Можаш і па сто грам. Тут не сталовая. Рэстаран. Дадуць.

— Я не,— адказаў Карэнька і пакруціў галавой, тлумачачы: — На службе.

— Сто можна. Сп'янееш? — нібы схіляў яго на свой бок Патупчык.

— Не,— зноў крутнуў туды-сюды галавой Карэнька.— У рот не бяру.

— Як? Зусім не п'еш? Не падобна, каб па здароўю.

Карэнька ўсміхнуўся і адваліўся на спінку крэсла.

Патапчук у гэты час заўважыў, што ў роце ў яго, у верхнім радзе зубоў, чуць збоку, была залатая каронка.

— На здароўе, дзякуй богу, калі гаварыць праўду, не крыўдую. І выпіць магу, калі трэба. А так, каб мяне цягнула да гарэлкі... Не меў такога шчасця. Вярней, няшчасця. Каб мой падначалены ды чуў ад мяне пах гарэлкі? Ды яшчэ ў рабочы час?

Патупчык разумеў, што падначаленых у Ка-

рэнькі было шмат. Галава проста. Шышка! І саўгас, у якім працаваў Патупчык, таксама ўваходзіў у гэты трэст, і сам Патупчык, калі сыходзіць з прынцыпу субардынацыі, быў яго падначаленым.

— Я нікому не скажу,— пусціўся на жарт Патупчык.— Я не аграном, ты — не мой начальнік. Мы проста былыя вучні, Васіль і Іван. Сустрэліся і выпілі па чарцы.

Карэнька зноў усміхнуўся.

— Калі табе сказаць, Іван, усякая рэч, нават нежывая, павінна мець перспектыву. Нежывая — геаметрычную, жывая біялагічную, сацыяльную. Справа не ў нас з табой. Ты не падначалены мой. У цябе ёсць дырэктар. Сасноўскі.

— Так. Сасноўскі.

— Ён твой начальнік. Лёс твой у яго руках. Адсюль не вынікае, што я як начальнік трэста не магу мець ніякага ўплыву на тваю кар'еру. Магу. І маю ўплыў. Думаеш, калі цябе рыхтавалі да ордэна Леніна, я ўбаку быў? Канечне, і нада мной ёсць.

Карэнька зрабіў пальцам ледзь прыкметны ківок угору.

Падышла афіцыянтка.

— Ты што: усур'ёз прыняў мой жарт? Я сам не вялікі ахвотнік да гарэлкі. Па мне, хай бы яе зусім не было. Праўда, бывае выпадак, калі яна выступае як паказальнік павагі да кагосьці. Тады з песні слова не выкінеш.

Адкаркаваўшы бутэльку піва, афіцыянтка не замарудзіла прынесці ў маленькім графінчыку сто грам каньяку. І піва, і каньяк заказаў акрамя абеду Патупчык. А што там! На семінары некалі было і паабедаць. Схопіш што-небудзь у буфеце, праглынеш, нават добра не перажаваўшы, і зноў у залу, на сваё месца, слухаць і запісваць лекцыі. Ну, а калі ўжо зайшоў у рэстаран, то і абед хай будзе як абед, са звонам.

Патупчык не чакаў, калі прынясуць абед. Наліў чарачку і выпіў, сказаўшы сябру «Будзем здаровы». Калі паставілі на стол боршч, другую наліў і выпіў.

Боршч быў смачны. І Патупчык сказаў сябру:

— Чым мне падабаецца рэстаран, дык тым, што гатуюць добра. Хоць, праўда, і дзяруць.

— Няпраўда: у абед не дзяруць. Дзяруць яны ўвечары, калі іграе аркестр і прыходзяць розныя, каб павыкручвацца пад музыку.

У залу навалілі людзі і хутка пачалі займаць сталы.

— Во бач. І мае работнічкі тут ёсць,— амаль шэптам сказаў сябру Карэнька.

Патупчык не стаў углядацца ў новых людзей, шукаючы вачыма, хто з іх Карэнькавы супрацоўнікі. Непрыстойна. Ды і навошта?

За стол папрасіліся дзве дзяўчыны.

— Калі ласка,— сказаў Карэнька, ветліва кіўнуўшы ім галавой.

Прынеслі на другое шніцэль з бульбяным пюрэ і пахучай падліўкай.

Карэнька ў правую руку ўзяў нож, а ў левую відэлец. Адрэжа кавалачак шніцэля нажом, а левай рукой на відэльцы панясе ў рот. Што ж, калі рэстаранны этыкет.

Патупчык гэта разумеў і сабе пачаў есці так, як еў сябра. І толькі дзеля сябра. Патупчык любіў есці, калі дазвалялі абставіны, прасцей: парэзаць адразу мясное, у правую руку — відэлец, у левую — хлеб і еш.

Патупчык управіўся са шніцэлем раней, чым сябра, і разліў піва ў два фужэры. Счакаўшы, калі скончыў есці апошні, узяў свой фужэр з півам і запрасіў сябра зрабіць тое самае.

Карэнька адмовіўся ад піва, узяўшы, замест яго, шклянку з кампотам.

Чакаючы, калі цяпер ужо занятая па горла афіцыянтка прыйдзе іх разлічыць за абед, сябры зноў пачалі паміж сабой гаворку.

— Кар'ера, кажуць. Канечне, хто на пасадзе, на службе, для таго ёсць кар'ера. А хто проста на рабоце, не на службе? Якая для яго можа быць кар'ера? Вазіць на полі гной, тарфакрошку. Вапнаваць глебу. Сеяць. Убіраць, малаціць — калаціць. Калібраваць насенне, зноў сеяць. Якая ў агранома-палявода можа быць кар'ера?

Карэнька зразумеў, што Патупчык гаворыць пра сябе.

— А гэта,— Карэнька расшпіліў гузікі пінжака,— гледзячы з якога боку бачыць кар'еру. Яйцо не можа заставацца яйцом. Іначай яно затухнецца. З яго павінна вывесціся птушаня, кураня, гусяня — словам, жывая істота. У яе — свой шлях развіцця. Калі аграном працуе добра і калі яго хваляць, даюць узнагароды, выбіраюць у сельсавет, у райсавет, урэшце, у Вярхоўны Савет — чым яму перашкаджае такая кар'ера? І калі нават падымаюць на пасаду дырэктара саўгаса, старшыні калгаса, забіраюць ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі, у які-небудзь трэст — блага? Ад такой кар'еры, думаю, ні адзін радавы аграном не адмовіцца. Ты б адмовіўся?

«Выдаў. Выдаў чужым незнаёмым дзяўчатам, што я радавы аграном. Ці ён ненарокам, ці наўмысля, каб паказаць пабочным людзям, што ён у нечым вышэйшы за мяне?» — падумаў Патупчык.

І глянуў на рукаў свайго цёмнага, амаль чорнага пінжака. І на манжэці сарочкі, якая вытыркалася з-пад гэтага рукава, таксама цёмную. На гэтай жа руцэ, з-пад гэтай жа манжэты відаць быў гадзіннік: шкло ў драпінах, пазалота на абадку пасціралася і з-пад яе выступаў звычайны бела-блакітны метал.

Карэнька тым часам працягваў гаварыць:

— У нас ёсць вакантнае месца агранома-палявода. Канечне, мы каго будзем браць? Чалавека з добрай рэпутацыяй. Практыка высокай кваліфікацыі. Кватэру дадзім. Гарадскую, з усімі выгодамі. Чым дрэнна? Хто адмовіцца ад такой кар'еры?

«Хваліцца. Узвышае сябе перад гэтымі смаркатымі чужымі дзяўчатамі. Ну і тып. Ну і тып!» — думаў тым часам Патупчык.

— Добра,— больш рашуча настроіў сябе.— Калі на тое пайшло, дык скажы, чаму існуе слова кар'ерыст і чаму яго ўсе так не любяць? Чаму?

Карэнька на мінутку як бы разгубіўся, глянуўшы вінавата на адну дзяўчыну, тады на дру-

гую, нібы просячы ў іх за неваштa прабачэння. Па твары яго, бялява-ружовым, добра выгаленым, пабеглі адзін за адным ледзь прыкметныя цені. Яны яму знаёмыя, гэтыя дзяўчаты? А ўласна гаворачы, што адбылося? Патупчык нічога такога непрыстойнага не сказаў. Што ёсць слова кар'ерыст і ёсць кар'ерысты? Дык ёсць, ну.

Патупчык тым часам працягваў:

— Я ведаю аднаго такога, якога вылучылі і паднялі. Высока паднялі, за межы раённага маштабу. Спірт у яго каністрамі. Вязуць, значыць, яму. Бацька яго ў саўгасе. Сена бацьку ў двор вязуць. Разхурэў гэты бацька, распіўся. Ходзіць у вёсцы як бог, выхваляючыся сваім сынам. Добры сын, разумны. Як ім не выхваляцца? Дык хто гэты падняты? Не кар'ерыст?

Карэнька зашпіліў гузікі пінжака, смыкнуў памаленьку левым плечуком і глянуў акуратна на свой гадзіннік без стрэлак.

Патупчык глянуў на свой гадзіннік.

— Рана яшчэ,— чамусьці сказаў.

— Я ведаю,— адказаў Карэнька і ўздыхнуў, нібы дазнаўся аб нечым непрыстойным.— Безумоўна, featureрознае бывае. І калі чалавека падымаюць на пасаду левай рукой, або, як некаторыя кажуць, лапай. І калі чалавек раздвойваецца, адна палавіна — для грамадства, другая — для сябе. Такіх інакш не назавеш, як кар'ерыстамі. Але я маю на ўвазе кар'еру ў добрым сэнсе слова. Кар'ера па заслугах, па сваёй рабоце, па, так сказаць, я б сказаў, прыроджаных якасцях.

— Арганізатарскі талент?

— Ну, калі не талент, ва ўсякім разе, шчырасць.

— Да чаго? — нешта нядобрае меў на ўвазе Патупчык.

— Да чаго? — быццам не разумеў Карэнька.— Шчыры чалавек ва ўсім шчыры. І ў рабоце, і з людзьмі. А, між іншым, усё гэта філасофія, агульнавядомыя пастулаты. За іх зачапіся, канца не знойдзеш. Давай будзем канкрэтнымі.

Падышла афіцыянтка. Пакуль яна брала заказ у дзяўчат, Патупчык дастаў з кішэні дзесятку і

палажыў на стол перад сабой, сказаўшы афіцыянтцы:

— За двух.

Карэнька хацеў быў нешта сказаць сябру, але, глянуўшы на дзяўчат, прамаўчаў.

У фае Патупчык атрымліваў свой плашч, кепку і партфель у гардэробшчыка, а Карэнька набіраў патрэбны яму нумар тэлефона і гаварыў па ім з некім.

Калі Патупчык, у плашчы, у кепцы і з цяжкім партфелем у левай руцэ, падышоў да тэлефона-аўтамата, Карэнька вешаў ужо на апарат трубку.

— Пайшлі на двор. Зараз машына будзе,— сказаў ён і адчыніў высокія цяжкія дзверы на вуліцу.— Будзем канкрэтнымі. Хопіць мадзець табе ў вёсцы. Я забіраю цябе ў свой трэст. Сказаў, на якую пасаду. Што ў цябе там? Тупік. Я ўжо канчаю дысертацыю. Хутка буду кандыдатам навук. Тут мора тэм, матэрыялаў. Такія магчымасці! Я табе кажу, як па той лесвіцы: хоць да неба лезь. Толькі не лянуйся і гарэлку не пі. Не буду на кіруючай рабоце, пайду ў доследную навуковую ўстанову. Вёсцы канец. Яна ўжо сваё аджыла. Раней вёска мела свой клімат і свае гены. Ты яшчэ не дзед і ў чарапок не плюеш. Дагоніш сваё. Вёска без нас цяпер — нічога. Тэхніка, кадры, навуковыя рэкамендацыі —усё наша.

Не паспеў Патупчык як след усвядоміць і зразумець тое, што гаварыў Карэнька, як скрыпнула, спыніўшыся каля самага тратуара легкавая машына.

— Мая машына,— растлумачыў Карэнька.— Паедзеш на ёй дамоў.

— Як дамоў? Куды? — падняўшы ў здзіўленні плечукі, глядзеў Патупчык на Карэньку.

— Мой шафёр на маёй службовай машыне завязе цябе ў самую тваю вёску. І ўсё. Ну як? Блага табе?

— Дзе блага! Не блага. Але я нешта, брат, не прывык да такога камфорту. Столькі мне ўвагі!

— Ніякага камфорту. Які тут камфорт? Звы-

чайная патрэба. Трэба ж табе дамоў заехаць? Трэба. Якая гадзіна, паўтары, і дома.

— Аўтобусам магу заехаць. Магу выехаць на шашу і на папутную сесці. Машын хапае. Ды, прызнацца, і ў магазін трэба было.

— Купіць што?

— Жонка казала, каб каўбасы прывёз дзецям.

— Вялікія яны ў цябе?

— Сем і дзевяць. Меншы сёлета ў першы клас пайшоў.

— Ну і ў мяне такія ж. Толькі ў мяне дзяўчаты. А ў цябе сыны?

— Сыны. Ёмкія хлопцы.

— Каўбасу, гаворыш, любяць?

— Любяць.

— А ў вас не прадаюць яе?

— Захацеў.

— Бачыш. Трэба ў горад перабірацца.

Карэнька, узяўшы Патупчыка пад падпашку, падвёў да машыны і пасадзіў побач з шафёрам, сказаўшы шафёру, на якую шашу выязджаць горада.

Машына кранулася без натугі і пакацілася, як паплыла, па асфальтаваных вуліцах.

На выездзе горада быў гастраном. Патупчык папрасіў шафёра спыніцца каля яго.

А вылезшы з машыны, убачыў свой бензавоз. ЖУ 73-36. Ён. Дзе ж шафёр?

Толькі глянуў у бок магазіна, як убачыў шафёра. Ён нёс улонні перад сабой такія-сякія пакупкі.

— Сяргей! Як я рад, што цябе ўбачыў. Ты адзін? Нікога ў кабіне няма?

— Няма нікога. Адзін.

— Значыць, едзем дамоў?

— Едзем.

— Я толькі забягу ў магазін каўбасы вазьму. Праўда, і таму шафёру скажу, што не паеду з ім.

— А што за шафёр?

— Тут адзін.— Патупчык не сказаў, які шафёр і чыя машына.

Сеўшы ў кабіну бензавоза побач са сваім шафёрам, Патупчык адчуў сябе зусім іначай, чым

адчуваў у легкавой машыне з незнаёмым чалавекам і пры нядаўняй сустрэчы з былым сваім аднакласнікам Карэнькам.

Пакінуўшы горад, бензавоз спакойна каціўся па асфальтаванай дарозе.

Плылі памаленьку насустрач бярозавыя прысады з добрым дамескам жаўцізны ў лісцях, дарожныя пераходы і пераезды з указальнымі знакамі каля іх, слупы, вузенькія прыдарожныя палеткі, часцей за ўсё засаджаныя бульбай, якую ў шмат якіх месцах ужо капалі. Палі за прысадамі таксама не стаялі. Яны адплывалі ўбок і назад, з торпамі саломы з маладой азімінай, проста з чорнай раллёй і трактарамі, якія аралі. Адносіла памаленьку ўбок і чароды статка, што пасвіліся воддаль ад шашы на нізінах альбо на канюшынішчах. Вёскі са сваімі вуліцамі і хатамі як бы пакручваліся, калі глядзець на іх з бакавога шкла машыны, і працягвалі пакручвацца памаленьку да таго часу, пакуль не знікалі недзе ззаду.

Сонца свяціла па-летняму, ціха і ласкава. Вялікае, прытомленае.

«У горадзе сонца відаць толькі на вуліцах і на тратуарах. На яго там надта ніхто не глядзіць,— падумаў Патупчык.— Так, я кашу сена, каб пракарміць карову і мець малако. Ну і што? Касіць цяжка? Наадварот, рукам прыемна, усё цела рада, калі бярэш касу і пачынаеш жвікаць ёй па роснай траве. Я з ахвотай саджу бульбу на агародзе. Сам ару, сам скароджу і сам абганяю. Босы! Талстоўства? Ды не! Чалавеку трэба дакранацца да зямлі. Да вады. Да травы. Нават да балотнай гразі. Трэба чалавеку. Такім стварыла яго прырода. У вёсцы не прадаюць каўбасы? Мы кормім і кормім свіней, ядзім свініну. Не сурагат жа гэта? Не? Затое прырода тут, як мора. Усё тваё, і ўсё перад табой. Едзеш за трактарам на агрэгаце з сеялкамі. Зерне ў бункеры пагойдваецца і апускаецца ніжэй і ніжэй. Сашнікі хаваюць яго ў мяккую вільготную глебу. Глеба пахне прыемна, пах яе не зблытаеш ні з якім другім пахам. Сядзеш на камбайн, калі ўбіраюць збожжа. Адчуваеш яго дыханне, тухканне яго сэрца. Пачынаеш

верыць, што гэта разумная жывая істота. Зразаць перад сабой такую паласу густой пастаці, падаваць зрэзанае ў цапы, малаціць, аддзяляць зерне ад саломы і мякіны... Не, гэта мудра. Мудра! Няпраўда, што гной смярдзіць, калі яго возяць і заворваюць. У полі ён не смярдзіць. Ва ўпраўленне, на самую высокую пасаду не хачу. Глядзець праз акно на свет? Большасць людзей не кандыдаты навук. А ванна, санвузел, увесь кватэрны камфорт — дзяцінства па меншай меры, калі не беспаможнасць. Ордэн мне далі за тое, што я раблю. Я і буду рабіць тое, што раблю. Уцякаць ад самога сябе? Таленту да акцёрства ў мяне ніякага.

Цікава, зразумеў ён ці не зразумеў, што я гаварыў іменна пра яго, а не пра іншага кар'ерыста, якому каністрамі возяць на кватэру спірт, а бацьку ў вёсцы салому і сена?

Зразумеў, канечне. Толькі выгляду не падаў.

Не, мог не зразумець. Кар'ерыст перад ім быў не канкрэтны, а наогул, плакатны. Я часта бываю дома, у той вёсцы, дзе жыве яго бацька. Бачыў яго, не адзін раз гаварыў з ім. Расказвалі мне пра яго. Саўгаснае вясковае начальства дагаджае яму, баіцца, хаця б чым не пакрыўдзіць.

Ці яго прапанова ўзяць мяне ў трэст была ад душы, ці проста ход канём? Узвысіць сябе ў маіх вачах, паказаць сваю сілу? Змякчыць, адвесці ад сябе маё абурэнне? Бестыя, ён добра ведае, што сябры-школьнікі, аднакласнікі заўсёды бескампрамісныя ў сваіх узаемаадносінах».

Вярнуўшыся дадому, Патупчык, праўда, нікому не гаворачы, у тым ліку і жонцы, некалькі дзён услухоўваўся ў тэлефонныя размовы. А раптам Карэнька, з трэста?

Не, не званіў. Ён не мог званіць. А калі б і пазваніў, фінал быў бы той самы. Школьнае сяброўства бескампраміснае.

«Вёсцы канец,— успомніў Патупчык яго словы.— Не канец, як не канец хлебу, зямлі. Узыходу сонца, дажджам, ветрам. Жыццю на зямлі. Ён і ў школе ўмеў выкручвацца. Я — не. Калі што якое, адразу падстаўляю свае плечы. Словам, да

ігры на сцэне не здатны я. Ён — можа. Здатны да сцэнічнага пераўвасаблення. Будзе ездзіць у выхадныя дні на казённай машыне за сотні кіламетраў на рыбу, у грыбы, у ягады, у арэхі, купацца і загараць і будзе прывозіць у каністрах бацьку спірт...»

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

**Ермаловіч Я.**

Е 72 Сіняя птушка: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 208 с., іл.

У пер.: 95 к.

Героі гэтай кнігі — працаўнікі сённяшняй вёскі, удзельнікі апошняй вайны, сельская інтэлігенцыя. У аповесці «Малады старшыня» адлюстраваны паўсядзённы творча-працоўны пошук маладога агранома, якога аднавяскоўцы выбралі сваім кіраўніком.

Пра нялёгкую працу сельскіх (і не толькі сельскіх) настаўнікаў расказваецца ў «Сіняй птушцы».

Апавяданні — на розныя тэмы.

Е $\frac{70303-117}{М 302(05)-80}$ 8—80 Бел 2

ББК 84 Бел 7

Якуб Сидорович Ермолович

СИНЯЯ ПТИЦА

Повести и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Я. І. Курто. Мастак П. В. Калінін. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічныя рэдактары С. А. Абрамчук, М. Ц. Папкова. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 617

Здадзена ў набор 13.12.79. Падп. да друку 07.05.80. АТ 05091. Фармат 84×100$^1/_{32}$. Папера друк. № 3. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,14. Ул.-выд. арк. 10,01. Тыраж 20 000 экз. Зак. 2850. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.